

# ДУМКІ НА СВЯТА

*1990-ты — Скарынаўскі год. У маі Беларусь адзначала Свята славянскага пісьменства; у верасні — 500-я ўгодкі Францішка Скарыны. Былі то ў пэўным сэнсе агледзіны нашае культуры, беларускага (перманентнага) Адраджэння. Якое ўражанне з гэтых агледзінаў вынеслі госці і гаспадары? Яно — у адказах на пытанні «Скарыніча».*

*I. На Свяце славянскага пісьменства (май):*

*1) Чым уразіла Свята?*

*2) Чым засмуціла?*

*3) Што пажадалі б народу Скарыны-Купалы?*

*II. На Скарынавым юбілеі (верасень):*

*1) Чым для беларусаў, усіх славянаў прыкметныя 500-я ўгодкі Скарыны?*

*2) Бліжэйшыя і далейшыя праблемы Скарыніяны, вартыя ўвагі?*

*Матэрыял падаем у храналагічнай паслядоўнасці — I, II.*

## I

Сакрат Яновіч, беларускі пісьменнік (Беласточчына, вёска Крынкі):

1. Што найбольш уразіла, уцешыла? Здзіўлены, што свята адбылося. Здавалася мне, што не дадумаюцца захацець. Аднак захацелі. І факт, што свята адбылося, а мы яго перажылі,— гэта ўжо падзея ў беларускім самапачуцці.

2. Што засмуціла? Засмуціла адчуванне нявыкарыстанага шанцу. Можна ж было, паклаўшы гэтулькі сродкаў, сцягнуўшы тлумы людзей, надаць імпрэзе агульнаеўрапейскі вымер. А так — узялі ўдзел толькі славянскія «языцы», дый то не ўсе. На мой погляд, Рэспубліцы Беларусь

варта апанаваць еўрапейскія маштабы. Францішак Скарына калі яшчэ паказаў нам на сусветныя далягляды. Але, па-шчырасці кажучы, дасюль помсціць нам наша беларуская сціпласць, наша няўдольнасць. Пара выбаўляцца з гэтых «кляйнотаў».

3. Чаго хацелася б пажадаць беларускаму народу мне, беларусу з Беласточчыны? Пашпарты ў нас розныя, а Беларусь адна. Хай жа, урэшце, пачне аднаўляцца наша нацыянальнае адзінства, а з ім — наша веліч. Так, веліч — бо яна была ў нас і ёсць.

Юрый Мядзведзеў, пісьменнік, адказны сакратар часопіса «Москва», намеснік старшыні Савецкага фонду славянскай пісьменнасці і культуры:

1. Молебен, поистине всенародный, в Кафедральном Соборе в память первоучителей славянских Кирилла и Мефодия. Шествие, опять же народное, от Соборной площади, центральным проспектом Минска до площади Победы. Белорусский глубокий распев, открытые, добрые лица людей. И... небо — удивительно высокое, голубое, особенно в Вязынке, над Купаловой седибой? Сядзіба... Тоже ведь — всего лишь одно слово, но сколько в нем несказанной теплоты, уюта, дивной музыкальности. Переведите это слово на русский — усадьба ли, поместье ли — потерян смысл, начисто убита поэзия. А сколько таких уникальных поэтических слов, образов в белорусском языке. И поражает неверие некоторых в жизненные потенции этого древнего славянского речения.

2. Гостю, из Москвы тем более,— гоже ли о своих смущениях?

3. Пожелал бы народу Беларуси вернуть на свою родину все древности и ценности культуры, увезенные в ближние и дальние места планеты, равно и то, что замалчивалось годами, столетиями. Учредить в республике издательство «Святая книга»,— страна Скорины достойна этого. Как достойна и главная национальная библиотека Белоруссии носить имя сего великого славянского книгочея-просветителя — Франциска Скорины.

Уладзімір Конан, філосаф, літаратурны крытык (Мінск):

1. Найбольш уразілі сустрэчы са славянамі розных краін. Сімпозіум пад старшынствам мітрапаліта Філарэта ва ўпраўленні Беларускай епархіі, дзе абмяркоўваліся

праблемы славянскіх культур у суаднясенні з хрысціянскай традыцыяй. Моцнае ўражанне пакінула выступленне ў оперным тэатры фальклорнага танцавальнага ансамбля з Славеніі, спроба артыстаў адрадзіць аўтэнтычныя формы нацыянальнай культуры ў далёкім мінулым.

2. Засмуціў невысокі тэарэтычны ўзровень навуковай канферэнцыі, адсутнасць на ёй беларускай нацыянальнай дамінанты, задужа эклектыкі. Урэшце, эклектычнасць дамінавала і ў мастацкай частцы (згаданы канцэрт пры адкрыцці свята), амаль што цалкам засланіўшы народнанацыянальнае аблічча беларускага сцэнічнага мастацтва.

3. Досыць афіцыяльшчыны. Хай, урэшце, народны рух бярэ такія святы ў свае рукі. А дзяржава як мудры і шчодры мецэнат культуры няхай памагае.

Томас Бэрд, прафесар славістыкі (Нью-Йорк):

1. Прашу прабачэння, бо я ўмею па-беларуску разумець, пісаць, але трудна яшчэ дакладна гаварыць. Можна, адкажу на пытанні па-руску?

Поражает духовность белорусской культуры, заданная ей творениями Ефросинии Полоцкой, Кирилла Туровского, Скорины, Гусовского. Это проявилось во всех аспектах Свята славянскага пісьменства на вашей земле — слушал ли я литургию в соборе, музыку и песни в театре или беседовал с писателями, учеными. Могу сказать, что в моем представлении четче обозначилось понятие белорусской духовности и в этом отношении более ясным становится понимание вклада белорусского народа в мировую культуру.

2. Что смутило, огорчило? Конечно, я не должен называть имен. Но, кажется, Короткевич сочувствовал белорусам за плохое начальство. Я не считаю его плохим. Но в этом пункте истории, мне кажется, народ лучше, глубже схватывает суть момента, чем его лидеры. Когда лидеры — и светские и церковные — даже в этот празднично-торжественный момент говорят не на языке своего народа, от имени которого выступают,— такое понять трудно и вряд ли возможно. В моем понимании это не свидетельствует об уважении к народу, во-первых, и не демонстрирует понимания тем же начальством хода истории, во-вторых.

3. Что пожелать? Чтобы власти, правительство вняли истине, требованиям истории и поддержали всеми средствами, условиями возрождение культуры, исторической науки Белоруссии. У вас богатые традиции, столько невостребованного богатства духовного! Пусть все это слу-

жит людям, пусть народ обретет свою идентичность. Наверное, тогда лучше будут знать Беларусь на Западе, где пока это знание — сужу по личному опыту — почти нулевое. Значит, пускай Свята культуры станет стимулом и залогом возвышения культуры.

Базыль Бялаказовіч, прафесар славістыкі (Варшава):

1. Вельмі добра, што на канферэнцыі прагучалі даклады на беларускай мове, закраналіся тэмы, якія ў застойныя часы нельга было нават называць. Для прыкладу, рэлігійная тэматыка, асобныя нацыянальныя традыцыі, у недалёкім мінулым замоўчаныя альбо скажоныя. Але самае ўцешлівае, што мне кінулася ў вочы: моладзь горнецца да нацыянальнае культуры. Слухаў я ў аўтобусе, вяртаючыся з Вязынкі, двух хлапцоў-гітарыстаў. Сапраўдныя барды беларускія! Усю дарогу да Мінска — толькі беларускія песні, якіх я ніколі не чуў. Ды што за песні — патрыятычныя, набатныя, так сказаў бы. Не паверыце, праслязіўся, слухаючы. Дзе б яшчэ пачуў такое, калі б не гэтае Свята славянскага пісьменства. А спявалі хлопцы пра вайну, беларускіх партызанаў, пра адраджэнне, БНФ, дасталося ў іхніх куплетах цяперашнім начальнікам за іхнюю абыякавасць і варожасць да адраджэнчых памкненняў народа, да мовы беларускай. Але, ведаеце, усё, што спявалася, не парушала, як на маё ўспрыманне, жанравыя ці этычныя межы. Галоўны ж матыў тых спеваў — беларускі народ больш ніхто і ніколі не паставіць на калені. Так, народ падымаецца з каленяў — мабыць, з гэтага маё самае моцнае ўражанне. Ці вось вам яшчэ прыклад, ад адваротнага. У той жа Вязынцы на свяце юнакі разлажылі прама на траве, каля сцежкі, дзе народ ідзе, друкі нефармальныя: «Свабоду», «Навіны». Людзі затрымоўваюцца, гартаюць, купляюць — хто з усмешкаю, хто насцярожана, але клімат наогул лагодны, прыязны нават. Тут міліцыянер раптам і неяк пагрозліва: «Что еще за фокусы? Кто разрешил!» Я гэта вазьмі дый заўваж далікатна: што тут, маўляў, крамольнага, у Маскве падобныя друкі ў самым цэнтры, насупраць Массавета прадаюць і ніхто не забараняе, не ганяе. «А нам Москва не указ!» — злосна буркнуў служывы і падаўся сабе далей. Сказаў бы я каму ў Варшаве, як разварушыўся гонар у беларусаў, што нават міліцыянер стаецца рашучым «незалежнікам» — хто паверыў бы?

2. Цяпер — пра засмучэнне. Перабудова, адраджэнне —

усё гэта. Але, як на маё ўспрыманне, беларускасці ў Мінску яшчэ замала. Нават з знешняга боку глянуўшы: надпісы скрозь пераважаюць рускія, у метро аб'явы на шыльдах толькі па-руску. Як русіст, я мог бы гэтаму толькі радавацца, але руская мова не павінна засланяць уласную мову народа. Чаму ж слову беларускаму не гучаць у трамваі, тралейбусе, урэшце, на вуліцах Мінска — натуральна, штодня, а не толькі падчас свята з вуснаў фальклорных ансамбляў? Думаю, і рускія, і палякі толькі б радаваліся з росквіту мовы Скарыны, Купалы, Коласа.

3. Пажаданне адно: каб Беларусь стала Беларусьсю!

Адам Мальдзіс, пісьменнік, літаратуразнавец (Мінск):

1. Што ўразіла? Адсутнасць беларускага пафасу, беларускай свядомасці.

2. Засмуціла тое ж, што і ўразіла.

3. *(На ўдакладняльнае пытанне — можа, гэта гумар?)* На жаль! Магільны, але гумар.

4. Што пажадаць? Каб народ стаў народам.

Васка Дзіекаў, пісьменнік (Сафія):

1. Сегодня славянские народы, культуры переживают новое Возрождение. Праздник Кирилла и Мефодия на белорусской земле — тому еще одно яркое подтверждение.

2. Наверное, были во время Свята накладки, упущения, но гости обычно их «не замечают». Хотя, думаю, белорусская культура в эти дни представила далеко не всё из своих лучших сокровищ. Чувствовалась все же какая-то фрагментарность, за кадром осталась главная, стержневая идея, которая животворит эту культуру.

3. Янка Купала когда-то воззвал белорусов занять «свой пасад між славянамі». Да будет так!

Вячаслаў Рагойша, літаратуразнавец, перакладчык (Мінск):

1. Нарэшце гэтае Свята прыйшло і на беларускую зямлю. Нарэшце мы вярнуліся да прыняцця рэлігіі. Літургія, шэсце да плошчы Перамогі, слова мітрапаліта... Яднанне дзеля культуры і царквы, і партыі, і фармальных, і нефармальных сілаў. Можна, аказваецца, знайсці супольную мову. І так яно павінна быць. Ідэалогій можна мець некалькі, але ж культура ў народа адна, і яна ўсіх нас павінна яднаць — дзе б яна, на якіх кантынентах ні стваралася. Маглі, пэўна, і з Англіі ці Амерыкі беларусы пры-

ехаць — вядома, што маюць да паказу нешта такое, чаго мы тут, у Беларусі, не маем. Хаця б — Данчыкава песня...

2. Свята атрымалася дастаткова міжнародным, ды, на жаль, недастаткова нацыянальным. Недаставала яму беларускасці. Хоць бы на канферэнцыі — рускай ідэі быў прысвечаны спецыяльны даклад на пленарным паседжанні. А што беларусы, не маюць сваёй ідэі, што пра яе нават не ўспомнілі? Праблемы нашага адраджэння — чым не ідэя? Я не памяншваю значэнне рускай ідэі, але ж нельга і сваёй нацыянальнай святыняй грэбаваць. У Вязынцы — пры такой урачыстасці, такім надзіва светлым, сонечным дзяньку нядзельным магло сабрацца і 50 і 100 тысяч, а было — мо тысяч каля дзесяці. Народ не паднялі.

3. Жаданне? Яно даўно выказана вешчуном нашым і скрозь надзённае: на пасад між народамі. Пара такі ўсвядоміць сваё прызначэнне на сваёй зямлі і ў свеце. Мы дужа спазніліся ў адраджэнні на фоне братоў-славянаў. Але далей ні адставаць, ні прыставаць нам ніяк няможна.

Антон Сабалеўскі, інжынер-будаўнік, сябра Рады Таварыства Беларускае Культуры імя Францішка Скарыны (Масква):

1. Не забудуцца сустрэчы і новыя знаёмствы з беларускімі літаратарамі, гутаркі з Адамам Мальдзісам, Вячаславам Рагойшам, Таццянай Кабржыцкай, Сакратам Яновічам. Урачыстасць закладзінаў помніка Кірылу Тураўскаму на замчышчы старажытнага Турава, сустрэчы з тураўчанамі. Наведанне Вязынкі, хаты Апостала беларускага — Янкі Купалы.

2. Засмуціў фармалізм кіраўніцтва пры «проведении очередного мероприятия», хаця і культурнага. Скрозь рускамоўе ў Беларусі, нават сярод працаўнікоў культуры, і амаль ніякіх зрухаў у бок беларусізацыі. Кіраўнікі рэспублікі дый некаторыя навукоўцы ніяк не выбавяцца ад комплексу «малодшага брата». На жаль, некаторыя з гасцей з боку «старэйшага брата» часам выступалі паментарску. Голас беларускі практычна чуцён быў толькі ў Доме літаратара. Цяжка зразумець, чаму не запрасілі на Свята беларусаў са Злучаных Штатаў Амерыкі, іншых краінаў Захаду, хаця былі прадстаўнікі рускага (Парыж), украінскага (Нью-Йорк) замежжа.

3. Народ Купалы і Скарыны такі варты нацыянальна свядомых кіраўнікоў — няхай бы, урэшце, такіх ён і выбраў сабе. І тым засведчыў сваю чалавечую годнасць.

## II

Лявон Баршчэўскі, філолаг, народны дэпутат Беларусі (Полацк):

1. Цяперашнія ўгодкі Скарыны прыкметныя тым, што ў рэспубліцы ўваходзіць у дзеянне «Закон аб мовах» і даўні страх беларуса перад сваёй роднай мовай паволі пачынае адступаць. Смялейшыя людзі пачынаюць цягнуцца да свайго. І, хоць гэта адбываецца вельмі марудна, хоць перспектыва Адраджэння яшчэ далёка не гарантаваная, ёсць адчуванне, што ў скарынаўскіх святах стала крыху менш пампезнасці і знешняга эфекту і крыху больш усведамлення сваёй беларускасці большай колькасцю людзей.

2. Галоўны накірунак — арганізацыя шырокага вывучэння Скарынавай спадчыны ў Еўропе і ў свеце, а таксама сур'ёзнай працы ў архівах Італіі, Даніі, Румыніі, Польшчы, Германіі, іншых еўрапейскіх краін, каб у біяграфіі Скарыны было менш «белых плямаў».

Важна шырэй увесці вывучэнне творчасці Скарыны ў школах, сярэдніх спецыяльных установах (асабліва гуманітарнага накірунку), ВНУ.

Карл Гутшміт, філолаг, прафесар (універсітэт імя В. Гумбальдта, Берлін):

1. 500-я ўгодкі Ф. Скарыны — гэта перш за ўсё свята беларускага народа, але яны прыкметныя не толькі для беларусаў і славян. Дзейнасць і подзвіг Скарыны ўпісваюцца ў агульнаеўрапейскую культурную гісторыю. Ён першым намагаўся пераадолець культурную раздзеленасць нашага кантынента, спалучаючы кніжную культуру праваслаўных славян і Захаду, робячы смелыя крокі ў напрамку дэмакратызацыі літаратурнай мовы, карыстаючыся мудрасцю як хрысціянскага Усходу, так і хрысціянскага Захаду.

2. Некаторыя праблемы далейшага даследавання спадчыны Скарыны:

— адшукванне крыніц яго прадмоў і пасляслоўяў;

— больш глыбокае вывучэнне яго мовы ў агульнаславянскім кантэксце.

Уладзімір Дамашэвіч, пісьменнік (Мінск):

Ніколі не лічыў сябе знаўцам сярэднявечча, тым болей што ў рабоце сваёй быў заняты ўвесь час толькі сучаснасцю.

Творчасць Скарыны і працы пра яго навуковую, выдавецкую і перакладчыцкую дзейнасць не так часта траплялі мне на вочы, асабліва калі быў студэнтам, маладым рэдактарам. Скарына быў як бы ў цені, яго голас гучаў прыглушана. Гэта, відаць, стасуецца не толькі да мяне, а да большасці нас, беларусаў. Рабіць куміра са Скарыны нам не дазвалялася. Хопіць, што быў ім «бацька» Сталін, а пасля і іншыя...

Францішак Скарына вымалёўваўся пакрысе, спакваля, але штораз больш выразна — нібы нехта сціраў пыл стагоддзяў з карціны, і рысы чалавека рабіліся ўсё больш рэальныя, жывыя, а не такія цьмяныя, расплывістыя, як былі раней. Скарына нібы ажываў, рабіўся сваім, блізкім і зразумелым. Больш таго — патрэбным, сваім па крыві і духу.

Вось гэты вялікі юбілей, які мы спраўляем сёлета,— пяцьсотгоддзе з дня нараджэння Скарыны — пакіне ў жыцці кожнага беларуса глыбокі след. Ён дасць нам магчымасць зірнуць на сябе як бы з вышыні часу, убачыць сябе побач з іншымі народамі,— і пераканацца, што наша гісторыя не горшая за іншыя, што яна такая ж багатая падзеямі і імёнамі, як і ў іншых народаў, што ў нас былі свае геніі, якія пакінулі след не толькі ў гісторыі і культуры свайго краю, а сталі як бы здабыткам усяго чалавецтва, бо заслугі іх выходзяць далёка за нацыянальныя рамкі.

Скарына сваім лёсам і грамадзянскім подзвігам лішні раз даказаў, што, каб дасягнуць вяршынь навукі, культуры, мала скарыстаць здабыткі свае роднае глебы, роднага краю, што для гэтага трэба ўзбагаціцца вопытам суседзяў і іншых народаў, абмяняцца з імі сваім і памножыць такім чынам уласны вопыт і веды. Ізаляваўшыся, адгарадзіўшыся ад свету кітайскаю сцяною, нельга развівацца нармальна, нельга ісці ў нагу з прагрэсам, бо ізаляцыя вядзе да адсталасці, як гэта мы бачылі і бачым на чужым і на сваім прыкладзе.

Цяпер нам ужо добра відаць, як Скарына апярэдзіў свой час, як ярка ён вылучаўся сярод сваіх сучаснікаў, за што адны яго любілі і паважалі, другія ставіліся з недаверам і нават ненавідзелі, нават чынілі яму ўсялякія перашкоды. Відаць, зусім невыпадкова за Скарынам следам ішлі пажары, і загадкавая смерць яго сына ў адным з іх — ці не вынік усяго гэтага недаверу і нянавісці?

Тут мала гаварыць пра звычайную чалавечую зай-

здрасць, тут нешта большае. Заўсёды было і будзе, што да чалавека ставяцца непрыязна, калі ён апярэджвае суседзяў, шырэй — сваіх сучаснікаў. Як гэта ён асмеліўся? Хіба ж мы горшыя? Ім і ў галаву не прыходзіць, што сваё вынаходства ці адкрыццё ён робіць не так для сябе, як для іх, «паспалітых». А калі і робіць, то гэта яму даецца няпроста, нялёгка, з вялікім нечалавечым намаганнем, якога звычайна збоку не бачаць ці проста не хочуць бачыць. У тым увесь і сакрэт поспехаў, што гэты чалавек не проста схапіў зорку з неба, а яна дасталася яму неверагоднаю працай, нечалавечым намаганнем сіл і волі, на якія здольны не кожны, а толькі адзінкі. Калі б усе людзі на Зямлі былі геніямі, было б нешта неверагоднае: або мы хадзілі б у золаце, або паўміралі б без хлеба, бо не было б каму рабіць звычайныя будзённыя справы.

А калі падумаць, то што рабіў Скарына? Звычайную будзённую справу: друкаваў кнігі. Цяпер гэта так звычайна і будзённа! А тады, пяцьсот гадоў назад? Не, тады гэта было нешта новае, нечуванае, неверагоднае — боскае ці д'ябальскае, кожны мераў на свой аршын. І зыходзячы з такое меркі і адносіўся да Скарыны — хто з прыязнасцю і захапленнем, а хто з адкрытай ці прыхаванай злосцю. Адны яму спрыялі, іншыя не жадалі яму дабра і чынілі перашкоды. І вельмі шкада, што ён у свой час не знаходзіў добрага разумення з тымі людзьмі ў Княстве і ў Кароне, ад якіх залежала вельмі шмат у яго жыцці, напрыклад, з ваяводам Гаштаўтам, каралём Жыгімонтам І. Чаго хацелі ад Скарыны гэтыя саноўныя людзі, вяршыцелі лёсаў мільёнаў?

Відаць, каб Скарына служыў ім, прыслужваў, рабіў тое, што ім хацелася, каб яго цень не падаў на іх знакамітыя па тым часе постаці. Відаць, былі і нейкія палітычныя меркаванні, бо мы ведаем, што Скарына быў надта незалежны, а такіх людзей звычайна не любяць — і некалі, і цяпер. Скарына вёў сваю лінію, ён не хацеў станавіцца прадметам палітычнага інтрыганства, і за гэта яго мог не любіць той жа ваявода віленскі Гаштаўт, холадна адносіўся сам кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт І. Мо нават за тое, што свае першадрукі Скарына ахвяраваў перш за ўсё свайму «рускаму», гэта значыць беларускаму люду, дбаў пра ўсё паспольства, а не толькі пра нейкіх там асобаў высокага рангу? Скарына верна служыў сваёй высокай справе, ідэі, а не нейкім там канкрэтным саноўным асобам.

Па-другое, новае, значнае, невядомае ніколі не прымаецца з адкрытаю душой, новае вельмі часта сустракаецца прадузята, з недаверам. Можна сказаць, што сам Скарына быў вінаваты ў тым, што яго так сустракалі, бо ён замахнуўся на такія рэчы, што ў гэтым яго замаху некаторыя ўбачылі крамолу, асабліва вярхі. У той час ужо прыкметна ішло размежаванне сімпатый: заходніх, прапольскіх, і ўсходніх, «рускіх», гэта значыць беларускіх. Тыя, хто быў у той час ля «карміла ўлады», пачыналі браць бок мацнейшай Кароны, у той час як Скарына душой і целам хінуўся да сваёй Полаччыны, Вялікага княства Літоўскага, да свайго роднага беларускага краю. Бо ўсе яго кнігі выдаваліся менавіта толькі на старабеларускай мове, і толькі адну кнігу — «Малую падарожную кніжку» — ён выдаў на стараславянскай, як бы ідучы насустрач тым сілам, якія бралі бок усходняга ўплыву, тагачаснай Масковіі. І па ўсім відаць, што Скарына саступіў сваім перакананням выдаваць свае кніжкі толькі на «рускай», гэта значыць беларускай мове толькі таму, што ён вымушаны быў саступіць меркантыльным настроям сваіх кампаньёнаў, якія кіраваліся хутчэй за ўсё прыбыткам, зацікаўлены былі збыць кніжны «тавар» з выгадаю для сябе, а ідэі Скарыны іх цікавілі менш за ўсё.

Скарына міжволі заставаўся між двух агнёў — між Усходам і Захадам, хоць і хацеў быць сам сабою, хацеў быць беларусцам, але ўжо ўсё ішло да таго, што гэтыя дзве вялікія сілы — Усход і Захад — не хацелі цярпець між сабою непажаданага буфера — Вялікае княства Літоўскае — і ўсімі сіламі стараліся ад яго пазбавіцца, бо яно стаяла на іх дарозе. У сілу абставін яно павінна было далучыцца да аднаго з мацнейшых бакоў, і яно далучылася да Польшчы, стаўшы напачатку раўнапраўным яе саюзнікам, а пасля паступова страціла свае суверэнныя правы, ператвараючыся ў залежную дзяржаву, якая, страціўшы найперш сваю дзяржаўную мову, паступова ператваралася ў калонію Кароны, гэта значыць уласна Польшчы.

Францішак Скарына гэта бачыў ужо тады, яшчэ на пачатку заняпаду роднае мовы, і таму ён пратэставаў перш за ўсё сваімі друкамі на роднай беларускай мове. Аднак працэс быў няўмольны, беларуская мова паступова стала занепадаць, страціўшы сваю дзяржаўнасць.

І Скарына сёння вымалёўваецца для нас як саюзнік, які разам з намі змагаецца за права беларускай мовы на дзяржаўнасць.

Безумоўна, разуменне дзяржаўнасці мовы ў тыя часы і цяпер трохі змянілася, але сутнасць засталася тая ж самая. Калі народ аднародны, населены пераважна людзьмі адной нацыі, то пытанне спрашчаецца: яго мова без усякага сумнення становіцца дзяржаўнай. У Рэчы Паспалітай, дзе аб'ядналіся дзве дзяржавы, напачатку былі раўнапраўнымі дзве мовы, нават адзін час беларуская мова была моваю каралеўскага двара (асабліва пры Ягайле), а потым паступова яна выцяснялася, ажно дайшло да поўнай забароны — нават у межах Вялікага княства Літоўскага. А калі занепадае мова народа, значыць, занепадае і ўлада гэтага народа — гэта азначае, што з ім як з народам перасталі лічыцца, значыць, улада ўжо належыць нейкаму іншаму народу, а менавіта таму, на чыёй мове гаворыць і піша дзяржаўны апарат.

Праўда, можа быць і так, што дзяржаўны апарат перастае карыстацца мовай таго народа, якім кіруе, але гэта ўжо іншая рэч: у такім разе ўрад перастае быць выразнікам волі свайго народа і кіруецца ўжо нечым іншым, а фактычна выконвае волю таго ўрада і народа, на мове якога гаворыць і піша.

Калі гаварыць коратка, то чыя мова — таго і ўлада. Пра такое мы можам сказаць толькі сёння, учора так гаварыць было небяспечна для жыцця, асабліва ў Беларусі і на Украіне.

Скарына перш за ўсё вучыць любіць сваю Бацькаўшчыну, тое месца, дзе чалавек нарадзіўся і вырас, вучыць патрыятызму. Вучыць яшчэ аддаваць свае сілы і веды на карысць Бацькаўшчыны і яе «паспалітага» люду, каб прагрэс быў няспынны, каб ішло развіццё ад меншага да большага, ад благога да добрага. Ён яшчэ раз на сваім прыкладзе даказвае, якім можа быць чалавек і чаго ён можа дасягнуць, калі прыкладзе свае сілы і намаганні ў пэўным, зададзеным і правільна выбраным напрамку, калі ён ідзе да мэты, упэўнены ў сваёй праўдзе — што ён робіць людзям дабро. У нейкай меры менавіта цяпер Скарына ўспрымаецца намі як сучаснік. Хацелася б, каб яго творчасць, яго гуманістычныя ідэі і яго мудрасць сталі блізкімі не толькі невялікай колькасці інтэлігенцыі, але і ўсяму беларускаму народу. Для гэтага, апрача яго перакладу «Бібліі», варта было б выдаць вялікім тыражом папулярны зборнік твораў Скарыны, даўшы да яго шырокі каментарый, растлумачыўшы незразумелыя сёння словы, або выдаць гэтыя творы на дзвюх мовах — тагачаснай «рускай» (старабеларускай)

і сённяшняй беларускай літаратурнай мове, каб кожны, хто ўмее чытаць, мог дакрануцца да спадчыны вялікага сына беларускага народа.

Гэта быў бы найлепшы помнік для яго імя.

Вось і ўсё, што хацелася сказаць у адказ на запытанне Вашай анкеты. Мо не ўсе моманты я закрануў, тады даруйце.

Джэймс Дынглі, філолаг, дацэнт (Лонданскі універсітэт, Вялікабрытанія):

1. Прыкметныя тым, што існаваў такі выдатны беларус, які валодаў вялікай культурай і замежнымі мовамі. Самае галоўнае, што беларусам даў Біблію.

2. Праблемы для далейшых навуковых росшукаў:

— Скарына і заканадаўчая культура ў Еўропе XVI стагоддзя;

— крыніцы скарынінскага шрыфту;

— Скарына ў кантэксце еўрапейскай культуры Адраджэння.

Алесь Жлутко, філолаг (Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, Мінск):

1. Уздымам нацыянальнай свядомасці і пэўным паваротам беларусаў да сваіх каранёў. Увага славянаў яшчэ раз скіравалася на аднаго з найвялікшых настаўнікаў славянства.

2. *Праблемы бліжэйшыя:*

1) Факсімільнае выданьне ўсіх перакладаў першадрукара;

2) Неадкладнае стварэньне асобнага і незалежнага навуковага калектыву па вывучэньні ягонай біяграфіі і дзейнасьці.

*Праблемы далейшыя:*

1) Філасофскае тэалагачнае асэнсаваньне выданьняў і сьветагляду Скарыны.

2) Тэксталагічны аналіз Скарынавых друкаў і падрыхтоўка камэнтара да іх.

3) Выхаваньне новага пакаленьня скарынаўцаў і перадоленьне догмаў і стэрэатыпаў у поглядах на Скарыну.

Ніна Загорская, працаўнік культуры, паэт (Міністэрства культуры Беларусі):

1. Год 1990-ты

Восень 1990-га

Верасень 1990-га

Спалахнула Сонца
Скарыны —
усхапілася кронамі дрэў,
усхапілася кронамі Душ,
усхапілася полем
і Вераю
Адраджэння!

альбо (прозай):

Скарына зноў вярнуўся да людзей. І заняўся небасхіл Духоўнасці — Беларусаў, славян, усяго цывілізаванага свету — Святлом Адраджэння!

2. Барані Бог, каб ветравеі Часу на стыку двух тысячагоддзяў загасілі паходню Скарыны, якую мы ўзялі ўжо ў рукі і з якою нам, нашым дзецям, унукам, адраджаць нашу Культуру! Мову! Нацыю!

Сабраць і абнародаваць першакрыніцы пісьменства, каб прылучыць да іх усіх, хто прагне Праўды і Святла. І на гэтым грунце выгадаваць хоць бы сотню-другую сапраўдных скарынічаў!

Цэнтр імя Скарыны, які на падставе Мальдзісавых распрацовак стваралі (структуру) Чамярыцкі, Сурмач, Загорская ў ноч з 29 на 30 студзеня 1989 года ў Тбілісі, у 1103-м нумары гасцініцы «Іверыя» (з 23-х вечара да 5.30 раніцы) — у сааўтарстве з Духам Скарыны... Руставелі... царыцы Тамары... трошкі Грыбаедава і Ніно Чаўчавадзе... бачу як наш Матэнадаран і Інстытут рукапісаў імя Шата Руставелі! Як навуковы інстытут і архіў-музей, чытальную залу, тэатр і кіно, як акіян мудрасці — з найноўшымі тэхнічнымі сродкамі ў помач тым, хто здольны і прагне піць з крыніцы Ведаў, каб Свяціць нашым дзецям... наступнікам... Будучыні! А яшчэ — стварыць — не Музей кнігадрукавання! — хай сабе і ён жыве, але перагледжаны, і карэнным чынам! — а яшчэ стварыць Дзяржаўны музей Скарыны. Хай сабе напачатку ён фарміруецца і ўнутры Скарынаўскага цэнтра, але пасля абавязкова вычленіцца ў асобны і — магутны!

Але ж будзе ўсё так, як рассудзіць Час. Жадаю толькі адчуць хаду сапраўднага, а не папяровага Адраджэння! І ўдзелу ў ім усяго народа!

Альма Лапінскене, філолаг (Інстытут літоўскай мовы і літаратуры АН Літвы, Вільнюс):

1. 500-я ўгодкі Скарыны прыкметныя тым жа, чым пры-

кметны сам Скарына. Вялікай працай беларускі першадрукар адчыніў акно ў светлы сусвет культуры і навукі.

2. Я лічу, што свае, даволі дылетанцкія, думкі магу выказаць толькі пра літоўскую скарыніяну, творцы якой (J. Jurginis, L. Vladimirovas, J. Tumelis *і інш.*) *унеслі* значны ўклад у рашэнне многіх пытанняў. Але праблем, вартых увагі, новага погляду, яшчэ дастаткова. Найважнейшая з іх, здаецца, гэта выяўленне месца і ролі Ф. Скарыны ў гісторыі літоўскага кнігадрукавання, у развіцці асветы і пісьменнасці ў Вялікім княстве Літоўскім. І я спадзяюся, самыя каштоўныя работы літоўскай скарыніяны яшчэ будуць напісаны, таму што настаў час, калі патрэбна і можна запоўніць белыя і асвятліць цёмныя плямы нашай гісторыі і культуры.

Генадзь Лебедзеў, мастацтвазнаўца (Віцебск):

1. Скарынаўскі юбілей 1990 года сам па сабе для беларусаў надзвычай знамянальны і ўшанаваны многімі народамі свету.

Гэта векапомная падзея, як паказальнік еднасці, шчодрасці, добрасардэчнасці і дабрыні беларусаў, вылучаецца асабліва рэльефна ў суадносінах з гістарычнай рэтраспектывай.

Напрыклад, калі наблізіўся 400-гадовы юбілей з часу нараджэння Ф. Скарыны, дык для беларусаў, тады называных паўночна-заходнімі расіянамі, не было ніякай магчымасці яго адзначыць. Толькі рускі вучоны П. У. Уладзіміраў, абараніўшы доктарскую дысертацыю, выдаў у 1888 годзе кнігу пра Ф. Скарыну, нават не рызыкнуўшы, а можа, і не жадаючы прысвяціць яе наспеўшаму тады юбілею славутага палачаніна.

У 1917 годзе, калі надышоў 400-гадовы юбілей з пачатку беларускага кнігадрукавання, заснаванага Ф. Скарынам, яго адзначыць таксама не было магчымасці: у Расіі тады грымнулі ажно дзве рэвалюцыі — было не да святаў. Толькі віленскі «Гоман» ды «Вольная Беларусь» некалькімі артыкуламі адгукнуліся на гэтыя ўгодкі.

Зноў 400-годдзе беларускага друку адзначалася ў «спакойнай» абстаноўцы пасля завяршэння грамадзянскай вайны ў 1925 годзе, калі фактычна былі ўгодкі спынення скарынаўскага друку ў Вільні. І калі на гэтае святкаванне зірнуць адчужана, дык у Савецкай Беларусі яно нагадвала хутчэй трагедыйны фарс. Урад і партыйнае кіраўніцтва рэспублікі наогул не жадалі яго адзначаць і ад-

цягвалі да самага канца 1925 года. Але яны пагадзіліся на тым, што ў хуткім часе характарыстыкі на тых, хто прымаў у святкаваннях чынны і актыўны ўдзел, асабліва ў друку, стануць лакмусавымі паперкамі дзеля таго, каб быць «доказам» дзеля расстрэлу без суда і высылкі ў аддаленыя мясціны на паднявольныя работы. Саўнарком БССР выдзеліў сродкі на юбілейныя мерапрыемствы толькі... у канцы лістапада. План гэтых мерапрыемстваў быў апублікаваны ў «Савецкай Беларусі» 18 снежня. За некалькі апошніх дзён 1925 года і ў самым пачатку 1926 года былі яны праведзены з паказальнай пампезнасцю і абавязковым адзначэннем у друку. Большая ж частка з іх была партыйна-прапагандысцкімі сходамі... А амаль за год да гэтага, вясной 1925 года, святкаванні юбілею віленскага кнігадрукавання, перанесенага туды Скарынам, прайшлі ў Вільні, у многіх гарадах і сёлах Заходняй Беларусі, у Варшаве і ў Празе... Мерапрыемствы ж у Савецкай Беларусі праводзіліся толькі з жаданнем «даплюнуцца» да сваіх замежных братоў. Бо яны супалі ці нават загадзя былі прымеркаваныя да 7-й гадавіны БССР і адзначаліся разам з «рэвалюцыйным» святам. У некаторых мясцінах (Слуцк) адзначалася разам нават тры гадавіны, у тым ліку і першая гадавіна мясцовай газеты... А ўжо праз два гады пачаліся ганенні на ўдзельнікаў Скарынаўскага свята...

І толькі 450-годдзе беларускага кнігадрукавання ў 1967 г. прайшло, здаецца, без эксцэсаў. Яно прыйшлося на гады, калі павучынне застою толькі пачынала аблытваць усе сферы жыцця нашага грамадства. На гэтыя ўгодкі быў запрошаны, як замежнае дзіва, рускі вучоны-эмігрант з Прагі А. В. Фляроўскі, які і зрабіў надвор'е на юбілейнай сесіі АН БССР.

Цяперашні ж юбілей у многіх адносінах асаблівы. Вобраз Скарыны з'яднаў беларусаў, праўда, толькі тых, хто паважае сваю мову, узняў іх занядбалую годнасць. Дый на якую вышыню! Прычым з'яднаў (невядома толькі, ці надоўга?) амаль усе раскіданыя перабудовай у розныя бакі ўнутраныя сілы рэспублікі. З'яднаў іх з многімі замежнымі беларусамі і іншаземцамі-беларусазнаўцамі. Тутэйшыя беларусы адчулі, што яны не адны застаюцца ў свеце перад навалай русіфікацыі і паланізацыі. Цікава, што перад постаццю Скарыны, які сам у многіх выпадках займаў буферную пазіцыю, асабліва ў барацьбе паміж праваслаўнымі, фларэнцінауніятамі, каталікамі, утраквістамі, чэшскабратрамі, лютэранамі і іншымі канфесіямі свайго

часу — гэты юбілей з'яднаў на непрацяглы час партыйных босаў і функцыянераў Беларусі з актывістамі Беларускага народнага фронту, афіцыйных прадстаўнікоў беларускага ўрада і кіраўніцтва Акадэміі навук БССР з святарамі дзвюх розных канфесій і з кіраўніцтвам Беларускага экзархату, ганарлівых акадэмікаў і скарынаедаў з «малымі» і нічога не вартымі скарыназнаўцамі. Францыск Лукіянавіч зноў выканаў сваю ціхую, дабратворную, хоць і нікім не абвешчаную, буферную ролю. Аказваецца, мір у грамадстве, нават пры адсутнасці класавай роўнасці і неаднолькавасці творчай, грамадскай і грамадзянскай занятасці, — магчымы. Дастаткова, каб ты разумеў сябе і цябе разумелі таксама. Для ўсіх дастаткова аднае чалавечае годнасці. Усё астатняе — прыкладаецца... І нават тое, што актывісты БНФ адразу пасля заканчэння свята перад помнікам Ф. Скарыну правялі там жа мітынг, хутчэй сведчыць аб еднасці беларусаў перад тварам Скарыны, чымся аб іх раз'яднанні.

Аднак былі моманты, якія мяне засмучалі ў час гэтага святкавання. На шматлюдных ганаровых прыёмах у Мінску і ў Полацку, на якіх выступалі экзарх Беларусі Філарэт і уніяцкі святар Ян Матусевіч, ні разу чаркі не былі падняты за бессмяротнасць самога Скарыны, за яго жывую і ў наш час душу. Хоць, па вераваннях хрысціян, душа чалавека працягвае быццё і пасля яго смерці. А душа Скарыны сапраўды жыве, хоць і адгукаецца нам толькі тым, што ёю ж зроблена на зямлі некалькі стагоддзяў назад. Але гэта — галоўнае. Яна жыве, і жыве яго справа. Трэба было ўзняць чаркі за яго бессмяротнасць, за яго жывую душу! Я, з-за хворай нагі, не мог выступіць і запрасіць усіх выпіць за самога Скарыну. А пілі ж за ўсё, што толькі прыходзіла на розум. Толькі — не за яго... А гэта — вельмі дрэнна!

2. З дакладаў, зробленых на юбілейнай сесіі АН БССР, мяне не зацікавіў ніводзін. І вось чаму. Усе дакладчыкі, не зважаючы адзін на аднаго, ні на тое, што ўжо існуе асобная і даволі дакладная, з акрэсленымі патрабаваннямі навука — скарыназнаўства, гаварылі кожны паасобку, як быццам у пустэчы, у асноўным пра тое ж, што ўжо даўно стала ўчарашнім днём скарыназнаўства. Гэты «дзень» быў такі: Скарына выстаўляўся кожным скарыназнаўцам і кожным скарыністам — папулярызатарам у сваім уласным свеце. Увогуле аказвалася, што Скарына — шматтварая і нават шматгаловая і шматрукая пачвара накшталт ін-

дыйскіх багоў. «Майстар на ўсе рукі» — так некалі адзін з вучоных крытычна ацаніў менавіта такую ролю Скарыны. Цяпер зноў можна дадаць: ён аказваецца разнаверцам з найшырэйшым дыяпазонам веравызнаўчых аспектаў. То ён — праваслаўны, то каталік, то рэфарматар... Але ўсё гэта ўжо абмяркоўвалася ў мінулым стагоддзі, а цяпер зноў паўтарылася на юбілейнай сесіі.

Усе гаварылі з гонарам і павагай: ён — першадрукар. А ён быў друкаром — работнікам друкарскага прэса толькі ў Вільні і толькі пры вялікай неабходнасці і нават, можа, прымусова для некалькіх выданняў з некалькіх дзесяткаў малых кніжак. Які ж ён друкар, калі ён проста вымушаны быў друкаваць («выбіваць», «цiснуць») пры адсутнасці сапраўднага спецыяліста. Ён — першавыдавец! І нам трэба прызвычаіцца да гэтага ганаровага звання Скарыны. Гаварылася ізноў жа і пра тое, што ён быў выдатным мастаком-афарміцелем сваіх кніг. А ён ніколі не вучыўся на мастака і ім ніколі не быў. Ён даверыў гэтую справу сапраўды выдатным нямецкім майстрам вальгемутаўска-дзюрэраўскай школы гравіравання і сваім наборшчыкам пры друкаванні. Апошнія мелі неблагі густ, а майстры мелі неблагі талент. Вось і ўсё! Але пра гэта гаварылася вельмі невыразна, намёкамі, нібы баючыся парушыць застарэлую версію.

Увогуле, над праблемамі скарыназнаўства менавіта цяпер, пасля шумнага юбілею, трэба працаваць з асаблівай настойлівасцю і з найвялікшай дакладнасцю. Бо нагаворанага ўжо столькі, колькі б хапіла на цэлую брыгаду скарынятаў. А Скарыны, па сутнасці, няма! Калі ж каго-небудзь засмучае ростань з «шматгаловасцю і шматрукасцю» Скарыны, дык катэгарычна завяраю ўсіх скарыністаў і скарыназнаўцаў, акрамя, зразумела, скарынаедаў, што паглыбленае вывучэнне яго біяграфіі і яго творчасці дае самыя нечаканыя і неспадзяваныя вынікі. Ён паўстае Чалавекам, але такім прыгожым і цікавым, такім шматзанятым і мудрым, такім шматздзяйсняльным і ўпартым, што ад карпатлівай працы над яго творчымі здзяйсненнямі адарвацца нельга. І гэта — значна цікавей, чым «размазваць» застарэлыя догмы, амаль ніводная з якіх як след не абгрунтавана.

Скарыназнаўства зараз расхістана ў бакі, і не толькі з-за самога працэсу вывучэння. Некаму, відаць, яшчэ выгадна, каб у канцы кожнай з «навуковых» пасылак былі невылазныя тупікі. Так лягчэй карміцца на «скарына-

знаўчых» працах. Аднак тупікі трэба ліквідаваць, але не ідучы тым самым пратораным шляхам, а толькі — у абыход яго.

Чакаю, хаця б праз дзесяцігоддзе, новай навуковай сесіі ці канферэнцыі, якая б не была прывязана да шматмоўнага юбілею. І каб на ёй кожнае палажэнне, высунутае даследчыкам, абавязкова шырока абмяркоўвалася спецыялістамі ўсіх рангаў. Тое, што будзе абвергнута пры гэтых абмеркаваннях, каб не траплял у друк. Хопіць дурыць народ. Трэба рабіць з міфічнага Скарыны сапраўднага Скарыну. А ён абавязкова цікавейшы, чым міфічны.

Вітаю стварэнне Скарынаўскага цэнтра пры АН БССР. Спадзяюся на некаторыя яго прынцыпова важныя адкрыцці.

Тадэвуш Левашкевіч (Інстытут славяназнаўства, Познань):

1. Святкаванні 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны сталіся вельмі важнай культурнай падзеяй. Я лічу, што дагэтуль велізарнае значэнне Скарыны ў гісторыі беларускага народа ўсведамляла амаль выключна гуманітарная інтэлігенцыя. Хоць пра Скарыну падавалі звесткі школьныя падручнікі, большасць прадстаўнікоў беларускага народа напэўна не мела належнага ўяўлення пра яго ролю ў нацыянальнай культуры. Дзякуючы шматлікім культурным мерапрыемствам, звязаным з 500-годдзем Скарыны, публікацыям у друку, кніжным выданням, тэле- і радыёпраграмам, выставам і г. д. пра выдатныя дасягненні Скарыны сёння на Беларусі ведаюць амаль усе. Беларускае грамадства лепей усведаміла сабе ролю традыцыі ў жыцці народа, паглыбіла знаёмства з еўрапейскай культурай XVI ст., даведалася, што Біблія — тэкст рэлігійнага характару — адыграла важную ролю ў свецкай культуры народа, між іншым у гісторыі беларускае мовы. Калі ўжо зайшла пра гэта гаворка, дык трэба з прыкрасцю адзначыць, што журналісты і дзеячы культуры пашырылі ў беларускім грамадстве перакананне, што Біблія Скарыны падае прыклад беларускай (старабеларускай) мовы. Тым часам з даследаванняў мовазнаўцаў (галоўным чынам беларускіх) вынікае, што мова Бібліі Скарыны — царкоўнаславянская з беларускімі элементамі, або, прасцей кажучы, царкоўнабеларуская мова. Гэты факт вельмі важны з пункту гледжання гісторыі беларускай мовы, бо ён паказвае рэфарматарскую ролю Скарыны ў гісторыі мовы. Дык і не быў па-

трэбны «звышпалымяны патрыятызм», які кепска служыць кожнай важнай справе.

Здаецца, што з іншых славянскіх народаў найбольш пра Скарыну даведаліся рускія і ўкраінцы. Маю тут на ўвазе не толькі прадстаўнікоў гуманітарных навук, але і аматараў культуры ўвогуле.

На маю думку, юбілейны год не быў належна выкарыстаны ў славянскіх краінах для азнаямлення з постаццю Скарыны — выдатнага беларускага гуманіста. І таму Скарына ўсё яшчэ не прысутнічае ў свядомасці гуманітарнай інтэлігенцыі заходне- і паўднёваславянскіх народаў (апроч філолагаў і гісторыкаў), хоць і заслугоўвае гэтага. Лічу, што Міжнародная Асацыяцыя Беларусістаў мусіць заклікаць славістаў да папулярызацыі ў свеце (асабліва ж у свеце славянскім) спадчыны Ф. Скарыны.

2. У скарыназнаўчых даследаваннях асабліва важная навуковая праблема — мова яго перакладу Бібліі. Патрэбныя далейшыя навуковыя пошукі, якія б удакладнілі нашыя веды пра характар гэтае мовы. Лічу, што да прагрэсу ў даследаваннях мовы Скарыны прычынілася б анталогія апублікаваных дагэтуль артыкулаў і выказванняў пра мову Скарыны. Такое выданне дазволіла б славістам з розных краін пазнаёміцца з датыхчасовымі вынікамі даследаванняў мовы Скарыны (публікацыі гэтыя наогул цяжка даступныя), а таксама заахвоцілі б іх да новых пошукаў.

Арсень Ліс, фальклярыст, пісьменнік (Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, Мінск):

1. Прыкметны пачаткам новай хвалі адраджэння, яшчэ невысокай, але ўсё ж такой, што кожны гаворыць аб пачатку новага ўзыходжання. Тым больш важнага, што яно бярэ разбег ад крайняй мяжы стану беларусаў як нацыі, ад найглыбейшага заняпаду. Важнейшы фактар на карысць лепшай будучыні — з'яўленне свабоднага, незалежнага ад цэнзурных ціскоў друку.

2. Трэба фундаментальная манаграфія і поруч з ёй напісаная даступна на аркушаў 10—12, не болей — для ўсіх. Варта перавыдаць зборнік «Чатырохсотлеццe беларускага друку», выдадзены ў 20-я гады, фотаспосабам можна. Такія выданні этапныя. Іх трэба пачытаць кожнаму пакаленню.

Няблага б было, каб Конан, на пару з кім іншым, напісаў яшчэ адну кнігу ў серыю «ЖЗЛ». Якая б уяўляла

сабой ці, дакладней, займала б жанравае месца дзесь паміж акадэмічнай манаграфіяй і эсэістычным творам Лойкі. Трэба, каб нас ведалі праз Скарыну шырэй у свеце. Гэта ж ён першы ўводзіў нас у еўрапейскі культурны кантэкст. Няхай і сягоння паслужыць у гэтым сэнсе.

Павел Лойка, гісторык (Інстытут гісторыі АН БССР, Мінск):

Мне здаецца, тым, што ўпершыню Францішак, як сімвал беларускасці пастукаў у кожную хату (дзякуй Скарынінскаму ўроку 1 верасня). Пастукаў, але ўсё ж да ўсіх не завітаў. Каб тое здарылася, трэба яшчэ не адзін год рабіць беларусаў беларусамі. Калі ж надыдзе час гэты светлы, тады выплеснецца свята Скарынава, свята народнае на вуліцы, плошчы. І выплеснецца свядома, а не па распараджэннях розных... камаў. Але сёння, дзякуй Богу, мы можам сказаць: «У добры шлях!» І на шляху гэтым неабходна выхоўваць у беларусаў годнасць за сваю гісторыю, мову. Тое будзе магчыма пры ўдумлівым, штодзённым вывучэнні спадчыны, што пакінулі нам вялікія нашыя продкі. На ўрачыстасцях многія прамоўцы неяк даводзілі, што Скарына ўзняўся над сваёй эпохай. Гэта так і не так. Бо ўсё ж Скарына быў найпякнейшым дзіцем менавіта свайго часу. Можа, мы проста недастаткова асэнсавалі той час у гісторыі Беларусі і дарма скінулі на сметнік зусім не прымітыўныя развагі аб «залатым веку» беларусаў (проста, калі беларусы, дык які ж можа быць «залаты век»? Вось гэта прымітыў!). Таму эпоху тую неабходна вывучаць і вывучаць. Сёння ж у наяўнасці 12 гісторыкаў-медыевістаў у Акадэміі плюс 5—6 па ўсёй рэспубліцы. Дый тыя крыху больш дзвюх дзесяткаў адзінак, што плануюць Скарынаўскі цэнтр — кропля. Для падняцця ўзроўню ведаў пра Скарыну і гісторыю яго народа патрабуецца, здаецца, па меншай меры Інстытут беларусазнаўства, абавязковае ўтварэнне Археаграфічнай камісіі, дзе б канцэнтраваўся залаты фонд дакументальных сведчанняў аб беларускай мінуўшчыне. Пэўна, гэта на першай пары і стала б тым падмуркам, на якім з цягам часу ўзвысілася дабротная будыніна.

Ірына Малашонак, хімік (Беларускі тэхналагічны інстытут імя С. М. Кірава, Мінск):

Супадзенне 500-х угодкаў Скарыны з новым Адраджэннем беларускім невыпадковае, мабыць. У былых гра-

мадскіх абставінах святкаванне насіла б значна большы налёт штучнасці. Хаця і зараз нельга сказаць аб усенародным святкаванні — вельмі ж заняпаў, змарнеў нацыянальна люд беларускі.

Чаго б хацелася спадзявацца ў бліжэйшай і далейшай перспектыве? Больш адчувальнага, відавочнага абуджэння самасвядомасці, нацыянальнае годнасці народа. Гэта патрабуе дужа намаганняў над пашырэннем Скарынавых ідэй, скрозь актуальных: для філолагаў, тэхнолагаў, кожнага беларуса.

Мікола Нікалаеў, гісторык (Дзяржаўная публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, Ленінград):

1. На беларускіх землях хрысціянства з X стагоддзя. Хрышчэнне — важная справа. Гэта — як пасведчанне аб нараджэнні. Пачатак навукі.

А праз Скарыну, каля 500 гадоў таму, упершыню тыражаваны для нашага паспалітага люду ўвесь тэкст Бібліі: Стары і Новы запаветы. Гэта для Беларусі як бы атрыманне атэстату сталасці альбо пашпарту з прапіскай сярод дзяржаваў хрысціянскага свету.

У іншых славянаў — падобныя працэсы. І дзякуй кнігапісцу Мацвею Дзесятаму Іванавічу, доктару Францішку Скарыну — яны падалі тэксты Бібліі сур'ёзна, шчыра і намастацку; іхняе работы кодэксы — добры еўрапейскі ўзровень, як што да рукапісу, так і да кнігадруку. Не горш як у людзей, а недзе і лепш.

2. Для Скарыніяны найважнейшымі лічу вывучэнне сучаснай Францішку культуры Вялікага княства Літоўскага, бо і цяпер постаць Скарыны — як той кол пасярод гладкага току, паслядоўнікі-друкары і тыя храналагічна аддаленыя.

А было ж толькі ў Вільні са тры скрыпторыі! Ды па гарадах і манастырах Беларусі колькі... Абапіраючыся на іх рэпертуар, можна і цяпер літаратуру беларускую ўзбагачаць — Максім Багдановіч добра адчуваў — памятаеце «Апокрыф ад Максіма Кніжніка...» і «Апавяданне аб іконніку і залатару...», асабліва апошняе. Падобныя матывы ёсць і ў рускай літаратуры — Рэмізаў, украінскай — Франко дый шмат дзе яшчэ.

Дзе якія ёсцека беларускага паходжання кнігі — такі каталог-паказальнік зараз неабходны як паветра. Складаць яго — справа вельмі складаная, бо трэба лётаць ад Цюмені

да Лондана, ад Львова да Архангельска, ад Познані да Новасібірска. Праз Маскву, Піцер, Вільню і Кіеў. Ды яшчэ ўмець шукаць патрэбнае. Але трэба.

І яшчэ паглядзець на Скарыну як на еўрапейца (не фармальнага — вучыўся ў Падуі, друкаваў у Празе). Калі фармальна ды фармалізавана, дык ён — эмігрант. Нават, можна сказаць, агент — выканаў заданне і ўцёк у батанічны сад на пенсію. Але як славянін — еўрапеец Скарына цалкам натуральны. Даследаванне агульнаеўрапейскіх варункаў і ментальнасці беларускай у сувязі з імі патрабуе выключна добрай падрыхтоўкі і ахвоты. Добра было б зрабіць.

Гай Пікарда, музыказнаўца, гісторык (Лондан):

1. З усіх славянскіх нацый беларусам найбольш неабходна цяпер нагадаць пра іх нацыянальны сімвал, Францішка Скарыну. Разам з тым, што гэты вялікі вучоны, змагаючы горкія нягоды праз усё сваё жыццё, увасабляе перад светам мудрасць, талерантнасць і адданасць свайго народа, ён нагадвае ім (беларусам) пра старажытнасць іх культуры і пра суіснаванне ў ёй Усходняе і Заходняе традыцый — Паход Ігараў і Трышчан, візантыйска-гатычная архітэктура і іканаграфія, ірмасы і кантычкі, грамадзянка і лацінка. Пасля сямідзесяці гадоў нацыянальнае недаразвітасці, беларусы вяртаюцца са Скарынам да сваёй аўтэнтычнасці не толькі ў вачах свету, але і для саміх сябе. І ў гэтай аўтэнтычнасці — унікальная сярод славянаў культура, у якую багата ўклалі і з якое багата ўзялі ў кожнай галіне балгары, сербы, чэхі, палякі і рускія — культура з неабмежаванаю здольнасцю да развіцця па шляху, пазначаным самім Скарынам, да спазнання навакольнага свету і да пачцівае павагі да жыцця ва ўсіх яго праявах.

2. Нягледзячы на ўздым у апошнія часы цікавасці да дзейнасці Скарыны і да яго эпохі, жыццё вялікага вучонага Адраджэння пазначана шматлікімі белымі плямамі:

а) У якім еўрапейскім універсітэце ён атрымаў медычную кваліфікацыю? Пошукі далёка не скончаныя — Балонья, Парыж, Монпэлье або Салерна?..

б) Якая была роля Скарыны як дыпламата і сакратара Яна, караля Дацкага? Ці меў ён дачыненне да вялікіх планаў папы Юліуса II, вялікага князя літоўскага Жыгімонта, караля дацкага Яна і іншых еўрапейскіх манархаў у справе аб'яднання хрысціянства?

в) Што было крыніцаю Скарынавых «Акафістаў» і рыфмаванага гімна «Радуйся, пренасветейшая Марие»?

г) Адкуль паходзяць гравюры Францішка Скарыны? Якасць «Іерэміі» або «Каранавання нявесты» выдатная. У адрозненне ад гравюр віленскае Падарожнае кніжкі (1522), узятых з «Liber chronicarum» (1493) Хартмана Шэдэля, гэтыя, як здаецца, нясуць на сабе Скарынаў знак Сонца й Месяца. Дзюрэр наведаў Балонью і Венецыю ў 1506-м... Ці сустракаў ён Скарыну? Як і ці ўвогуле Скарынава мастацтва звязана з фрэскамі Любліна і Кракава?

д) Усе пытанні што да абсягаў і якасці беларускае культуры ў XV, XVI і XVII стст. патрабуюць грунтоўнае пераацэнкі. Што сказаць пра цудоўны Супрасльскі Ірмалой (1598), які звязаны з Скарынам і яго эпохай? На парадку дня неадкладнае пытанне аб поўнай і аб'ектыўнай гісторыі Беларусі і яе культуры.

Алесь Анішчык, літаратар (Вільня):

1. 500-я ўгодкі Францішка Скарыны з'яўляюцца міжнародным актам ушанаваньня выдатнейшых гістарычных падзеяў у культурным жыцьці беларусаў, усіх славян, іншых народаў Эўропы.

Геніяльны патрыёт і вучоны Полаччыны, усяе беларускае зямлі сваім дзеяньнем вызначыў напрамак культурнага і маральнага разьвіцьця пакаленьняў на шматвяковыя шляхі.

Яго праца і друкаванае слова паднялі родную мову на небывалыя вышыні. Гэтае слова стала ня толькі выразіцелем векапомных юрыдычных помнікаў, але і дзяржаўнай моваю беларусаў, украінцаў, жмудзінаў (летувісаў), латгальцаў, татараў. Скарынінскае слова аб'яднала ў магутную палітычную сістэму народы Вялікага княства Літоўскага.

Дзеля гэтага сёньня ўвесь цывілізаваны сьвет заканамерна аддае належную дань вялікаму сыну Беларусі, у часе яго 500-гадовага юбілею. Толькі душу мучыць сумненьне: ці ўвесь беларускі народ адзначае гэты вялікі юбілей, адметныя для ўсяго свету ўгодкі?..

2. Ствараецца Скарынаўскі асяродак (цэнтр — не найлепей, не саўсім па-беларуску) — на яго вялікія надзеі.

Аляксандр Рогаў, гісторык (Інстытут славяназнаўства і балканістыкі АН СССР, Масква):

1. Скорина является несомненно величайшим деятелем белорусской культуры. Им могут гордиться и все славяне. Скорина, его творчество выросли на благодатной почве славянского культурного взаимообщения, и сами труды Скорины это единство упрочили и способствовали его дальнейшему развитию. Скорина — поистине один из лучших плодов спасительного сеяния первоучителей славянских Кирилла и Мефодия. И как было отрадно, что на их языке в память о Скорине была совершена литургия в Полоцке 9 сентября. Она соединила не только людей, но и сами времена.

2. Задачей нашей является издание всех книг, выпущенных великим просветителем, во всем и без изъятия объеме. Это наш первейший долг перед памятью Скорины.

Стоит, мне кажется, и поближе познакомить отечественного читателя с лучшими зарубежными исследованиями о Скорине.

Station Скарына, доктар медыцыны (Манрэаль, Канада):

1. 500-годдзе Францішка Скарыны для беларусаў, усіх славян падкрэслівае значэнне яго прац аб сутнасці людскіх адносін. Яно сведчыць пра глыбокую павагу славянскіх народаў да імя, ідэалаў і прац Скарыны, перадае высокую нацыянальную самапавагу.

Сутнасць юбілейных мерапрыемстваў падкрэслівае намер і жаданне найбольш поўна выкарыстаць спадчыну вялікага вучонага для развіцця нацыянальнай культуры, мовы і адукацыі.

2. Вартая пастаяннай увагі сутнасць Скарыніяны: шырокае распаўсюджванне ідэй еднасці з народам, глыбокае разуменне нацыянальнай культуры, усебаковае выкарыстанне багацця слова і літаратуры для выхавання пакаленняў.

Не забывайма, што Скарына — не толькі першадрукар. Ён вялікі, да канца яшчэ не асэнсаваны вучоны-мысліцель, яркі прадстаўнік Рэнесансу.

Ганна Сурмач, архівіст (Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі, Мінск):

1. Свята Скарыны — гэта сапраўднае абуджэнне беларусаў ад доўгага сну бяспамяцтва. Мне ўяўляецца, што праз 500 год адбыўся другі прыход Скарыны на беларускую зямлю. Ён з намі, каб вывесці нас з цемры

бездухоўнасці і абыякавасці да святла розуму і дабрыні, абудзіць пачуццё нацыянальнай і чалавечай годнасці народа і тым самым выбавіць яго ад зацятага нацыянальна-нігілістычнага марнення.

2. Як працаўнік на ніве захавання гістарычнай спадчыны, лічу, што найперш патрэбна знайсці і сабраць па свеце ўсе рэліквіі, звязаныя з дзейнасцю нашага вялікага асветніка. Бо, як вядома, мы ў Беларусі амаль не маем прыжыццёвых выданняў Скарыны. Спадчына першадрукара — гэта найвялікшае наша нацыянальнае багацце. Надалей неабходна яе вывучаць і данесці да людзей велічнасць і шматграннасць асобы Скарыны, значнасць яго ў гісторыі нашага, усіх славянскіх і не толькі славянскіх народаў. Галоўную ролю ў гэтай справе будзе выконваць навуковы і культурна-асветны цэнтр імя Скарыны, які зараз ствараецца. Хацелася б, каб гэта была не проста чарговая навуковая ўстанова, а сапраўдны нацыянальны асяродак беларусаў, дзе высокая навука ўдала спалучалася б з асветніцкай дзейнасцю на ўзроўні ідэй Скарыны, тым самым нейтралізавалася б масавая культура, што захліствае па большасці народ.

Айцец Міхаіл Уляхін, праваслаўны святар (Полацк):

1. У Сафійскім саборы, каля якога нарадзіўся Скарына, у якім ён вучыўся і працаваў над першакрыніцамі сваіх прац, адбыўся канцэрт духоўнага хора, перад пачаткам якога экзархам Беларусі мітрапалітам Філарэтам было сказана пахвальнае слова аб Георгіі Скарыне. На другі дзень у Полацкім Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры адбылася ўрачыстая святочная літургія з удзелам трох архіерэяў — мітрапаліта Філарэта і епіскапаў Стэфана Пінскага і Дзімітрыя Полацкага. Бо свята Скарыны — урачыстасць Праваслаўя, у якім ён быў выхаваны і для якога працаваў — выданнем Біблії і праваслаўна-богаслужэбных кніг. Адным словам — родны горад яго святкаваў больш духоўна і ўрачыста, чым нават Мінск.

Вітаем выхад у свет факсімільных скарынінскіх выданняў — яго «Біўліі рускай» у 3-х тамах; затым мяркуецца ў 1992 г. выдаць «Малую падарожную кніжку» 1522 года і ў 1995 г.— яго «Апостал» 1525 года. Будзем спадзявацца, што гэта збудзецца.

2. Што ж датычыць бліжэйшых і далейшых праблем Скарыніяны, вартых неадкладнай увагі, то я мяркую наступнае.

Для вывучэння яго спадчыны неабходна:

а) Каб намечанае выданне яго твораў здзейснілася.

б) Каб была апублікавана мая праца «Георгий Скорина и его труды по изданию Библии», з перакладам яе на беларускую мову, а таксама і на рускай мове.

в) Каб спадчына Скарыны, асабліва ў першакрыніцах, вывучалася ў школах і вышэйшых навучальных установах, у тым ліку і па маёй працы, дзе я занава «адкрыў» Скарыну і яго можна ўбачыць у крыху іншым асвятленні, чым агульнапрынята.

г) Вярнуць Скарыне яго родавае імя «Георгій» на ўсіх помніках, мемарыяльных дошках і ў літаратуры, у тым ліку (і ў першую чаргу) у яго родным горадзе Полацку. Я прапаную такі надпіс: «Георгій (Францыск, доктар медыцыны і навук вызваленых) Скарына». Такі надпіс будзе больш дакладна адпавядаць гістарычнай праўдзе.

д) Зноў зрабіць Сафійскі сабор у Полацку катэдральным саборам Полацкіх Праваслаўных архіерэяў, як гэта было і пры Скарыне. Гэта будзе самым лепшым яго ўвекавечаннем. Бо каля яго ён нарадзіўся, у праваслаўным Сафійскім саборы ён быў ахрышчаны і атрымаў там імя Георгій; у брацкай школе пры ім ён вучыўся пад кіраўніцтвам яго настаяцеля, а затым Архіепіскапа Полацкага і Мітрапаліта Кіеўскага Іосіфа III, якога Скарына пакоіў астатнія гады яго жыцця ў Вільні (1531—1534) і які благаслаўляў яго працы. У Сафійскім саборы, у кнігасховішчы яго ён працаваў над першакрыніцамі, якія ён выкарыстаў у сваіх працах. Такім, як пры ім, Сафійскі сабор павінен быць і цяпер.

Вячка Целеш, мастак (Рыга):

Я скажу, што, мусіць, трэба ставіць пытанне больш канкрэтна. Чым прыкметныя 500-я ўгодкі Скарыны для беларусаў? Слова «славян», калі глядзець праўдзе ў вочы, тут не на месцы. Скарына беларус, і не толькі гэта — ён шчыры патрыёт сваёй Беларусі, сваёй роднай мовы, сваёй культуры. Ён добра разумеў, як заўсёды да беларусаў ставіліся розныя славяне — і ўсходнія і заходнія. Ён любіў свой народ і не стаў пярэваратнем, не зашыўся ў скуру ні ў рускую, ні ў польскую, нягледзячы, што меў вышэйшую адукацыю і мог рабіць сабе кар'еру, друкуючы рускія ці польскія кніжкі ці працуючы на лекарскай ніве. Менавіта таму, што ён застаўся да канца беларусам, сынам беларускага народа, яго доўгі час не прызнавалі ні рускія,

ні палякі, ды і цяпер з неахвотай гэта прызнаюць. Тое, што нехта з рускіх ці польскіх вучоных гэта прызнае і нават стараецца адзначыць афіцыйна юбілей гэтага Скарыны, гэта яшчэ не кажа пра тое, што гэта наш агульны асветнік, блізкі ўсім чалавек. Тое, што Ф. Скарына зрабіў тытанічную працу ў кнігадрукаванні, праклаў шлях першым, а па гэтым шляху лягчэй было ісці і рускім і ўкраінцам, і тое, што зробленае Скарынам уплывала на культуру гэтых народаў — гэта ўсім вядома. Аднак гэта не дае падставы для таго, каб Скарыну мы называлі ўсходнеславянскім асветнікам і першадрукаром, як гэта ўвесь час яму прыпісваецца. Гэта наша нацыянальная постаць,і трэба аб гэтым заўсёды цвёрда гаварыць. Не трэба яго прыпісваць розным славянам. Я ніколі не чуў, каб гэтыя славяне дзяліліся з намі сваімі славутымі людзьмі, нават і тады, калі ёсць звесткі, што Грыбаедаў, Дастаеўскі, Бунін, мастакі Хруцкі, Жукоўскі і іншыя з'яўляліся сынамі нашай Беларусі. Усюды іх лічылі і лічаць рускімі, ці польскімі, ці іншымі, аднак не беларускімі ці ўсходнеславянскімі дзеячамі і сынамі. Ніколі ні літоўцы, ні латышы не прыпісваюць сваю спадчыну ці сваіх выдатных людзей яшчэ і да іншага народа. Толькі гэтая дзіўная прывычка ёсць у беларусаў дзяліцца з суседзямі не толькі хлебам і соллю, але і раздаваць сваю спадчыну, сваю гісторыю і культуру. Пастаянная ў іх гэта дурная боязь пакрыўдзіць выпадкова так званага старэйшага брата. Як так сказаць, што мы, беларусы, пачалі раней на паўстагоддзя выдаваць кніжкі на роднай мове, то можа ж пакрыўдзіцца рускі, Масква. То, каб гэтага не атрымалася, няхай Скарына будзе не беларускі першадрукар і асветнік, а ўсходнеславянскі. Менавіта гэта абыякавасць да свайго, гэта дурная шчодрасць у раздаванні сваёй спадчыны, гэта рабская боязь і аглядкі на Маскву і давялі нас да духоўнай беднасці як нацыі ў вачах іншых народаў, да вымірання роднай мовы і знішчэння яе культуры і гісторыі. Канешне, былі ва ўсе часы і будуць адзінкі беларусы-патрыёты, як Францішак Скарына. Менавіта яны былі і будуць яркімі зоркамі на небе, што асвятляюць нам, беларусам, шлях, асвятляюць нашу мілую Беларусь, яе прыгажосць і непаўторнасць, гэта прымушае нас так моцна любіць нашу Бацькаўшчыну. Францішак Скарына для нас, беларусаў, гэта наш гонар і наш сцяг у адраджэнні роднай мовы ў першую чаргу, нашай дзяржаўнасці, нашай культуры, нашай нацыі. Гэта павінен зразумець сёння кожны беларус.



*Генадзь Лебедзеў*

## ПОШУК НЕ СПЫНЯЕЦЦА

**Роздум над «Творамі» і творчасцю Ф. Скарыны**

Скарына — гэта раскрытая кніга. Але кніга не толькі і не столькі — сімвал. Яго асобе і яго дзейнасці ўжо прысвечана больш за тры тысячы кніг і артыкулаў. А колькі яшчэ будзе!

Цяпер, у дні 500-гадовага юбілею з часу нараджэння Ф. Скарыны, выйшаў у свет новы збор яго твораў[1].

Напачатку пагадзіўшыся з прапановай напісаць рэцэнзію на гэты найноўшы збор, аўтар гэтых радкоў урэшце прыйшоў да вываду, што такі чалавек і аўтар, як Ф. Скарына, даўно ўжо заслужыў, каб сучасныя рэцэнзіі на яго творы не пісаліся. Зразумела, можна пісаць каментарыі, тлумачэнні да яго тэкстаў, урэшце — папулярныя агляды яго літаратурнай і навуковай спадчыны і да т. п., але не рэцэнзіі. Рэцэнзій-заўваг на яго творы, супярэчлівых і канфесіянальна-завостраных, было ўжо дастаткова напісана ў XVI—XVII стст. З канца XVIII ст. пачалося вывучэнне яго творчасці, і многія агляды былі фактычна рэцэнзіямі. Дай Бог сучасным скарыназнаўцам засвоіць гэты вялізны пласт ужо напісанага пра Скарыну, каб не паўтараць таго, што зроблена задоўга да іх.

Хібы, якія з'явіліся ў тэкстах Скарыны пры перавыданні іх у «Прадмовах і пасляслоўях» (Мн., 1969), цяпер выпраўлены.

Колькасць Скарынавых твораў, без якіх-кольвечы сумненняў і нават не пакідаючы магчымасці для некаторага яе перагляду і новых адшуканняў, з поўнай упэўненасцю пададзена ва ўступе: «Скарына пакінуў для нашчад-

[1] Скарына Ф. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія/Уступны артыкул, падрыхт. тэкстаў, камент., слоўнік А. Ф. Коршунава, паказальнікі А. Ф. Коршунава, В. А. Чамярыцкага. Рэд. В. А. Чамярыцкі. Мн., 1990.

каў значную і важкую спадчыну, якая ўключае ў сябе 22 прадмовы і 25 сказанняў да выдадзеных ім на працягу 1517—1525 гг. кніг Бібліі, тры вершы, два гімны, пасхалію з «Малой падарожнай кніжкі» 1522 г. і больш за 60 пасляслоўяў да асобных яго выданняў» (с. 7). Аднак ці не залішне катэгарычны гэты пералік?

Звернем увагу на прыблізнае вызначэнне тут колькасці пасляслоўяў, якія амаль ва ўсіх еўрапейскамоўных літаратурах вылучаюцца як калафоны: «больш за...» Відавочна, укладальнікі гэтага збору крыху сумняваліся ў колькасці скарынаўскіх калафонаў. І недарэмна! Бо, па-першае, яшчэ не зусім выключана магчымасць знаходкі невядомых ці вядомых толькі па яго ж заўвагах, але яшчэ не знойдзеных выданняў Скарыны. Што адразу ж павялічыла б колькасць калафонаў. А ў іх заўжды адзначана імя і прозвішча выдаўца («...повелением и працею доктора Франциско Скорины...»), або друкара («...и вытиснены працею доктора Франъциска Скорины...»). Па-другое, калафоны не пісаліся раней, чым друкаванне кнігі наблізілася да завяршэння. Шмат разоў адзначаўся ў іх нават апошні дзень друкавання, які нельга было прадугледзець загадзя. Пры гэтым, напрыклад, у калафоне «Чацвёртай Кнігі Царстваў» пра Скарыну гаворыцца як быццам у трэцяй асобе: «...повелением ...того же учёнаго мужа...» Гэты калафон завершаны грэчаскімі словамі ў славянскай транслітэрацыі: «То фео харитас» («Дзякуй Богу»), і яшчэ дзвюма манаграмамі: «Е. С.» і «Л. М.». Зусім не выключана, што гэты калафон і пры ім манаграмы напісаны і надрукаваны не самім Скарынам, а яго памочнікамі ў друкарскай справе. Ёсць і іншы прыклад таго, калі ў калафоне «Канона жываноснай труне Госпадняй» стаіць нязвыклае для славяна-беларускай пісьменнасці напісанне прозвішча Скарыны — без неабходнага дапасавання слоў: «...доктором Франциском Скорину...» Відавочна,і гэты калафон надрукаваў не сам Скарына. Бо ён наўрад ці мог абразіць самога сябе такой недакладнасцю мовы.

Але справа не толькі ў гэтых трафарэтных калафонах. Бо яны амаль нічога не дадаюць да арыгінальнай спадчыны Скарыны, кім бы яны ні былі складзены.

Справа ў тым, што творчая спадчына гэтая (Скарынымовазнаўца, публіцыста, паэта, мысляра, медыка), відавочна — значна шырэйшая за яго ж надрукаваныя зараз «Творы».

Яшчэ ў 1961 г. выкладчык Маскоўскага універсітэта

С. І. Васілёнак у кнізе «Фольклор и литература Белоруссии эпохи феодализма», якая з'явілася ў час першай «адлігі», задоўга да сучаснай перабудовы грамадства, прывёў вялікія паэтычныя вытрымкі са скарынаўскага перакладу кнігі «Песня песняў». О, які гэта высокапаэтычны твор, асабліва ў перакладзе Скарыны! Тады ж беларускія даследчыкі сустрэлі кнігу Васілёнка ў штыкі. А што ў ёй было заганнага, асабліва ў стаўленні да творчасці Скарыны-паэта? Нічога! Дарэчы, польскі пераклад «Псалтыра Давідавага» Яна Кахаnoўскага лічыцца адным з буйных здабыткаў польскай літаратуры эпохі позняга Адраджэння. Такім жа здабыткам рускай барочнай літаратуры лічыцца «Рыфматворны Псалтыр» Сімяона Полацкага. Чаму ж беларусы так абыякава паставіліся і працягваюць ставіцца да своеасаблівай, у нечым унікальнай паэзіі Францыска Скарыны?

Аказваецца, як катэгарычна сцвярджаюць укладальнікі новага збору яго твораў, ён напісаў толькі тры вершы... Варта было б сказаць, што гэтага малавата для беларускага гуманіста, які дасканала валодаў лацінскай, грэчаскай, яўрэйскай, польскай, чэшскай, магчыма — верхненямецкай і італьянскай, і — безумоўна — старaславянскай і старабеларускай мовамі. Магчыма, ні нашы, ні зарубежныя даследчыкі і архівісты яшчэ не натыкнуліся на яго лацінскія, ці грэчаскія, ці якія-небудзь іншыя паэтычныя творы. Бо апантаны аўтар трох славяна-беларускіх вершаў ці змог бы спыніцца на гэтым?

Ён і сапраўды на гэтым не спыніўся. І напісаў некалькі акафістаў-гімнаў у манеры верлібра, ці, як гаварылі ў Расіі ў XIX ст., у манеры вершаў у прозе. Яны выдатна рытмізаваны і прызначаліся для пазацаркоўнага вымаўлення, напрыклад, пры знаходжанні беларускіх транзітных купцоў за межамі сваёй краіны. Яны вымаўляліся абавязкова стоячы, адкуль і грэчаская назва: акафіст. Два з іх напісаны Скарынам з акравершамі: кожны новы абзац пачынаецца літарай, якая дакладна ўваходзіць у сказ: «Писал доктор Скоринич Францискус».

Пры тым, змясціўшы гэтыя абразкі гімнаграфічнай творчасці Скарыны ў новым зборы яго твораў, укладальнікі ўсё ж выказалі сумненне ў аўтарстве Ф. Скарыны. Яны адзначаюць: «Акафіст Іаану Хрысціцелю», напэўна (толькі напэўна.— *Г. Л.*), належыць пяру беларускага першадрукара» (с. 178). Пра другі ж з гэтых твораў зусім памылкова адзначана: «Францыск Скарына «Акафіст імю

Ісуса Хрыста» называе творам якогасьці Феакціста, у той час як у змешчаным у ім акравершы чытаецца: «Делал доктор Скоринич Францискус» (с. 179).

Тут укладальнікі новага збору твораў Скарыны яўна пераблыталі паняцці: акафіст і канон. Канонаў было напісана задоўга да Скарыны вялікае мноства. Іх візантыйскімі і сірыйскімі аўтарамі былі: Іаан Дамаскін-Мансур, Феактыст Студыйскі, Іосіф Сікеліёт і мн. іншыя. Дарэчы, усіх гэтых, шырока вядомых у тыя часы аўтараў канонаў бездакорна адзначае Ф. Скарына ў «Писаных речах в сей малой подорожной книжце», указваючы, якую частку з іх канонаў («глас») трэба пець у тыя ці іншыя дні тыдня. Але ж каноны былі велізарнымі гімнаграфічна-спеўнымі творамі і выкарыстоўваліся ў царкоўных песнапеннях часткамі. Затое акафісты не мелі да іх непасрэдных адносінаў. Яны былі асобнымі хвалебна-малітоўнымі выказваннямі з заклікамі да Хрыста, Багародзіцы і некаторых святых. Іх было напісана значна менш, чым канонаў. Таму Скарына і прыклаў намаганні і свой паэтычны талент для стварэння новых акафістаў.

У тых жа «Писаных речах» ніводнага аўтара акафістаў, уключаных у «Малую падарожную кніжку» Скарыны, ён не адзначае. Відавочна, сам Скарына склаў і некаторыя іншыя акафісты, хоць высветліць гэта можна пры карпатлівых тэксталагічных супастаўленнях.

Што ж датычыць акафістаў, напісаных і «зробленых» несумненна самім Скарынам, і канонаў, што належаць іншым аўтарам, часткі з якіх спяваліся ў тыя ж дні, калі прамаўляліся акафісты, дык сам Скарына дастаткова выразна адзначыў у «Писаных речах»:

«Акафіст святому Іоанну Предътечи и Крестителю... глаголемый во второк (тут трэба дадаць: творение Ф. Скорины.— *Г. Л.*). Канон Предтечи, глас 2, творение Іосифа». «Акафіст пресладскому именю... Ісуса, глаголемы в суботу и по вся дни (таксама: творение Ф. Скорины.— *Г. Л.)*. Стихеры (кананічныя.— *Г. Л.*) господу Ісусу, певаемы на заутрени на всяк день, глас 6, творение Феоктиста...»

Дарэчы, тут найвыразней выступае розніца паміж двума відамі гімнаграфічных твораў: адны з іх — «глаголемы», другія — «певаемы». Ф. Скарына напісаў «глаголемыя», бо ён пісаў не для царкоўных хораў, а для люду паспалітага, нават для тых, каму «мядзведзь на вуха наступіў».

Што ж датычыць ахопу ў гэтым зборы публіцыстычнай

спадчыны Скарыны, дык самі ўкладальнікі адзначаюць: «Аднак ёсць падставы сцвярджаць, што названая лічба (23 біблейскія выпускі з прадмовамі і сказаннямі) выдадзеных ім у Празе кніг даволі прыблізная, не канчатковая» (с. 9). Яны ж звяртаюць увагу на тое, што Скарына ў сваіх прадмовах адсылае чытачоў да тых кніг Бібліі і да ўласных прадмоў да іх, якія цяпер невядомыя сярод ім жа выдадзеных: «Параліпаменон», «Ездры», «Макавеяў», «Нееміі», «Товіта», «Прароцтвы Ераміі» і некаторых іншых. «Якія,— як адзначаюць укладальнікі збору,— ён падрыхтаваў, а магчыма, і выдаў...» (с. 9). Аднак сцвярджэнне А. Ф. Коршунава, што названыя кнігі ў перакладзе Скарыны і прадмовы да іх наогул не захаваліся, пярэчыць знаходкам у канцы XIX ст. такіх вядомых вучоных, як Я. Ф. Галавацкі, М. П. Пагодзін і інш., якія выявілі крыху пазнейшыя рукапісныя копіі з іх.

Аб даволі поўным рукапісным зводзе біблейскіх кніг, перапісаных «писарчиком Дмитро из Зинкова» ў 1575 г., сучасная даследчыца Т. А. Капрэева зазначала: «Ні ў кога з даследчыкаў прыналежнасць гэтых перакладаў Скарыну не выклікае сумненняў». І яшчэ: «Трэба пашкадаваць, што цікавая прадмова перакладчыка да 4-й кнігі Ездры (Паг. № 85, арк. 34) не была ўлічана ў публікацыі прадмоў і пасляслоўяў да выданняў Скарыны». Шкадаванне ленінградскай даследчыцы так і засталося шкадаваннем пры з'яўленні новага збору твораў Скарыны.

Публікацыя гэтай жа, кароткай, але насычанай па зместу, «Предмолвы на четвертыи книгы Ездрины — учителя» і яе аналіз з шэрагам довадаў у карысць прыналежнасці яе першапачатковага аўтарства Ф. Скарыну быў здзейснены аўтарам гэтых радкоў (Забыты твор Францыска Скарыны // Полымя. 1989. № 4. С. 181—186). Аднак выхад у свет гэтага артыкула з прывядзеннем поўнага тэксту скарынаўскай «Предмолвы...» быў затрыманы па невядомых прычынах да моманту здачы «Твораў» Ф. Скарыны ў набор. Укладальнікі новага збору, зразумела, не маглі нават адрэагаваць. Тым не менш магчымасць змясціць тэкст гэтай жа прадмовы хаця б у дадатку да «Твораў» несумненна была. У тым жа дадатку можна было б змясціць і некаторыя іншыя пост-скарынаўскія прадмовы, у якіх аўтар ужо не ўказваецца, з Пагодзінскай і Ануфрыеўскай частак рукапіснага зводу біблейскіх кніг, якія паасобку захаваліся ў Ленінградзе і Львове. Гэта дало б магчымасць мовазнаўцам і гісторыкам кнігі прасачыць,

наколькі скарынаўскія прадмовы перарабляліся пазнейшымі іх перапісчыкамі.

Тое ж можна было б зрабіць і з пост-скарынаўскімі акафістамі, якія былі даўно перакладзены на славяна-рускую ці славяна-сербскую мовы. Гэта ўзбагаціла б уяўленні аб бытаванні да канца XIX ст. скарынаўскіх твораў у краінах Усходняй і Паўднёвай Еўропы, дазволіла б ацаніць не толькі, напрыклад, паўднёва-славянскі ўплыў на літаратуру Беларусі, але і зваротны ўплыў.

У новым зборы надрукаваны таксама знойдзены параўнаўча нядаўна ва унікальным Капенгагенскім экземпляры «Малой падарожнай кніжкі» тэкст скарынаўскай «Пасхаліі». Ён ужо некалькі разоў быў прааналізаваны даследчыкамі: А. Ф. Коршунавым, Г. Я. Галенчанкам і інш. Але ў іх трактоўках ніколі не адзначалася адна надзвычай цікавая асаблівасць гэтага царкоўна-астранамічнага календара. Звычайна пасхаліі складваліся ў пачатку новага стагоддзя, прычым — пад кіраўніцтвам вышэйшых царкоўных улад. Скарына, парушаючы гэту стабільную традыцыю, склаў сваю «Пасхалію» не гэтулькі для царквы, бо яна мела прыблізна такі ж каляндар, колькі для рамеснікаў і купцоў. Яго каляндар быў надзвычай кампактны і «рухомы». Ён быў заснаваны на так званым Метонавым цыкле, які быў вынайдзены старажытнагрэчаскім астраномам Метонам і ўведзены ва ўжытак у Афінах у 432 годзе да н. э. Цыкл быў складзены з 235 месяцавых, або з 228 сонечных месяцаў (19 год). Несупадзенне ж Метонавага цыклу з «вераснёўскім» годам, прынятым у тыя часы праваслаўнай царквой, прымусіла Скарыну скласці каляндар крыху шырэй — амаль на 21 год (1 + 19 + 1). Ён фактычна ахапіў час з верасня 1522 г., тады як чарговы месяцавы цыкл пачынаўся з «гибели месеца всего» 1 сакавіка 1523 г. І давёў адлік да 1543 г., калі пачынаўся новы Метонаў цыкл. Далейшыя цыклы нязменна паўтараліся, што давала магчымасць карыстацца календаром Скарыны да поўнага зносу паперы. Метонаў цыкл быў дастаткова дакладны: розніца была ў адзін дзень за 312 юліянскіх каляндарных гадоў. Такі час не магла б вытрымаць ні адна даведачная кніга. І таму скарынаўская «Пасхалія» захавалася толькі ў Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене, дзе на яе, праўдападобна, глядзелі не як на даведнік, а як на чужародны рарытэт.

Аднак звесткі пра сонечныя і месяцавыя зацьменні Скарынам былі даведзены толькі да 1531 г. Гэта адпавядала

даволі дакладным «прароцкім» звесткам пра зацьменні ў «Астранамічным календары на 1475—1531 гг.» Ёгана Рэгіямантана (Мюлера) — бадай, найлепшага астранома XV ст. Яго творы ўжо з канца таго ж стагоддзя пачалі вывучаць ва ўсіх універсітэтах і акадэміях Заходняй Еўропы, у тым ліку і ў Кракаве, дзе Скарына ў 1506 г. набыў ступень бакалаўра «свабодных мастацтваў», куды ўваходзіла і астраномія. Знаёмства Скарыны з працамі Рэгіямантана і пералік ім дзён каталіцкіх святаў на адпаведныя дні праваслаўных ужо адзначаўся папярэднімі аўтарамі. Але яны не заўважылі, што скарынаўскі каляндар уяўляў сабой спалучэнне каталіцкай (нямецкай) свежай навуковай думкі з праваслаўнай (грэчаскай і славянскай) астранамічнай тэорыяй. Гэтым календаром маглі карыстацца як праваслаўныя, так і грэка-католікі. Францыск жа Скарына, сам з'яўляючыся намінальным католікам і служачы пры двары каталіцкага віленскага біскупа Яна з князёў літоўскіх, пісаў і друкаваў у той час пераважна для грэка-католікаў, паслядоўнікаў Фларэнційскай уніі. Яе ратыфікацыі ў Вялікім княстве Літоўскім адбываліся некалькі разоў у XV і пачатку XVI ст. Асабліва ўпарта і з дапамогай віленскіх і полацкіх бернардзінцаў праводзіў у жыццё ідэі Фларэнційскай уніі кіеўскі мітрапаліт Іосіф Балгарыновіч (1499—1503 гг.), на што звяртаюць увагу ўсе гісторыкі праваслаўнай царквы. У пачатку XVI ст. нават католікі пайшлі на збліжэнне з праваслаўем: прынялі ў свой «пантэон» такіх праваслаўных святых, як Іаан-патрыярх Александрыйскі (пад імем Яна Ялмужніка), як Сімяон-Стоўпнік, як Ефрасіння з Тэбаіды і інш. Але перыяд талерантнасці і збліжэння хрысціянскіх веравызнанняў у Вялікім княстве Літоўскім скончыўся пасля 1525 г.— з наступленнем Контррэфармацыі. Скарына ледзьве паспеў папрацаваць і выдаць свае кнігі для грэка-католікаў і праваслаўных. Шукаць іншую прычыну спынення ім славяна-беларускага кнігадрукавання — наўрад ці патрэбна. Толькі ў 1530 г. ён паспрабаваў вывезці кнігадрукара з Прускага герцагства, але відавочна — няўдала. Той мог спатрэбіцца для друкавання афіцыйна зацверджанай соймам кнігі: Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 г., які так і застаўся ненадрукаваным.

Калі ж звярнуцца да медыка-прыродазнаўчай творчасці і адпаведнай спадчыны Скарыны, намёкі на якую ёсць у дакументах пра яго жыццё і дзейнасць, дык яна пакуль зусім невядомая. Укладальнікі новага збору твораў бела-

рускага гуманіста пра яе нават і не ўпамінаюць. Бо лічаць, як і многія іншыя скарыназнаўцы, што яна назаўжды згублена. Але калі спытаць, хто, калі і дзе яе шукаў, дык і на гэта адказу таксама не будзе...

І справа тут — не толькі ў «адмахванні» адных і беспадстаўных спадзяваннях другіх, якія хацелі б хоць штонебудзь з гэтага адшукаць.

Большасць з гуманістаў першай паловы XVI ст., пішучы па-латыні, падпісвалася не ўласнымі прозвішчамі, а лацінскімі ж псеўданімамі. Пакуль не будзе адшуканы такі псеўданім Скарыны, яго лацінамоўная спадчына і яго перапіска з іншымі гуманістамі Еўропы, якая несумненна была, застануцца таямніцамі для ўсіх.

Зразумела, наконт гэтага можна выказаць толькі набліжаныя і неабавязковыя меркаванні. Напрыклад, некаторыя дзеячы чэшскай культуры і навукі таго часу, напрыклад Вацлаў Коранда, падпісваліся прозвішчамі ўласнымі, але перавернутымі задам наперад. Чэшскія вучоныя доўга не маглі здагадацца, хто ж такі «Аднарок». Для Скарыны такое мудрагельства стварыла б уяўнае прозвішча: «Анірокс» (Anirox). Калі ж улічыць, што ён мог па-латыні падпісвацца таксама, як значыцца ў акравершах да акафістаў («Скоринич Францискус»), дык пры перавароце атрымалася б крыху недарэчнае з-за замены адсутнай літары «Ч» псеўда-прозвішча: «Цынірокс» (Cynirox). Такім псеўдапрозвішчам магчыма было б для Скарыны падпісвацца, але толькі пад літаратурнымі опусамі і ў перапісцы з сябрамі-гуманістамі. Бо ў ім быў намёк на старажытнаяўрэйскае слова цыніра (кініра) — дзесяціструнны музычны інструмент, хоць яе назва ўжывалася і ў грэчаскай, і ў лацінскай мовах. Такая класічная шматмоўнасць магла б імпанаваць Скарыну. Праўда, ёсць у гэткіх меркаваннях і адваротны бок: Скарына ў сваім перакладзе «Біблії» называў цыніру (кініру) гуслямі і псалтырай... Таксама ў шматлікіх гуманістаў Еўропы была тады і такая звычка: перакладаць уласнае прозвішча па сэнсу на лацінскую мову. Нічога не будзе дзіўнага, калі лацінскамоўныя творы Скарыны адшукаюцца пад прозвішчамі, утворанымі ад слоў: «pellis» (скура, «скора», футра), або «scortum» (скура, скурына), або яшчэ пад якім-небудзь зусім загадкавым.



*Уладзімір Конан*

## ДВА КАМЕНТАРЫІ ДА БІБЛІІ

Юбілейны год Францішка Скарыны (1990) даў нам цэлую бібліятэчку даследаванняў спадчыны асветніка і першадрукара. Папрацавалі ўсе выдавецтвы, найбольш — «Мастацкая літаратура», «Навука і тэхніка». Яны вяртаюць спадчыну асветніка сучаснаму грамадству, уключаюць яе ў культуру. Тут ёсць чым зацікавіцца ўсім, хто не адлучыў сябе ад яе альбо толькі мае намер падключыцца да вытокаў нашай нацыянальнай духоўнасці. Што ж датычыцца даследчыкаў, то іх асабліва зацікавяць тры кніжкі: энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час» (1988), «Францыск Скарына: Зборнік дакументаў і матэрыялаў» (1988) і новае выданне літаратурнай спадчыны асветніка «Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія» (1990).

Як і першае (1969 года), другое выданне падрыхтаваў да друку адзін з нашых старэйшых скарыназнаўцаў Аляксандр Коршунаў. Кніжка пашырае ўяўленні пра Скарыну як паэта, вучонага і тэолага, бо ўключае ягоныя гімнаграфічныя творы, першыя спробы сілабічнай паэзіі, звесткі з астраноміі, грамадзянскі і царкоўны календары.

У бібліяграфічнай адсылцы пазначана, што перад чытачом — навуковае выданне твораў Ф. Скарыны. Як прынята, ёсць у кнізе навуковы рэдактар і нават тры аўтарытэтныя рэцэнзенты з вучонымі ступенямі. Праўда, у анатацыі да кнігі сцвярджаецца нешта крыху іншае: «Падаецца шырокі навукова-папулярны каментарый». Але што разумець пад навуковасцю, а што — пад папулярнасцю? Вось у чым пытанне. Ці не тая гэта «папулярнасць», якая вядома чытачам старэйшых пакаленняў па здзеклівай у адносінах да хрысціянскай рэлігіі «Библии для верующих и неверующих» Е. Яраслаўскага?

Тлумачэнні да першага выдання «Прадмоў і пасляслоўяў» Ф. Скарыны (1969) былі пераважна кнігазнаўчыя. У новым, пашыраным выданні складальнік дапоўніў іх біблейскімі каментарыямі. Якраз тут яго падвяла арыентацыя на ранейшыя, ідэалагізаваныя стэрэатыпы атэістычнай «папулярнасці». Каментатар адзначае, што ім «выкарыстаны розныя энцыклапедычныя даведнікі, навуковыя даследаванні», у тым ліку пяцітомны «Опыт библейского словаря собственных имен» П. Салярскага (1879—1887), «асобныя выпускі дарэвалюцыйнага «Православного палестинского сборника» і інш.». Ці ўваходзяць у гэтае «і інш.» «Еврейская энциклопедия», «Православная энциклопедия» і «Толковая Библия» пад рэдакцыяй А. П. Лапухіна? Гэтыя грунтоўныя выданні тлумачаць біблейскія кнігі не толькі паводле царкоўнай дагматыкі, але і з агульнаасветніцкіх пазіцый.

Ужо пачатак каментарыя сведчыць пра тое, што яго аўтар не вызваліўся ад догмаў спрошчанай атэістычнай ідэалогіі, дагаджаючы якой, часта ахвяруе вядомымі фактамі біблеістыкі. Так, на думку каментатара, Псалтыр — «калектыўны паэтычны зборнік», які прыпісваецца «старажытнаяўрэйскаму цару Давіду» (XI ст. да н. э.), але быў складзены не раней VI ст. да н. э. і адносна позна «ўвайшоў у канон яўрэйскіх «свяшчэнных» кніг храмавага песнапення» (с. 127). А. Коршунаў, вопытны тэкстолаг, ведае, што стварэнне псалмоў і «складанне» іх у каналізаваны зборнік — не адно і тое ж, часам паміж гэтымі падзеямі — сотні гадоў. І хто гэта «прыпісвае» кнігу «Псалтыр» толькі цару Давіду? У «Тлумачальнай Бібліі» чытаем: «Вядомы імёны наступных аўтараў псалмоў: «Майсей, Давід, Саламон, Асаф, Эман, Эфан, ён жа Ідыфум, сыны Карэевы». Сама назва «Псалмы Давідавы» тлумачыцца ў тым сэнсе, што стваральнікі гэтых твораў імкнуліся наследаваць Давіду як таленавітаму паэту, аўтару 73 (па іншай версіі — 87) псалмоў. І чаму гэта слова «свяшчэнныя» каментатар бярэ ў іранічнае двукоссе? Хіба ж ён зусім адмаўляе святасць?

Адмаўленне духоўнай рэальнасці не ёсць адзнака навуковасці. Дарэчы, аўтар каментарыя ўсё яшчэ карыстаецца «атэістычным правапісам». З гэтай нагоды мне прыпамінаецца яшчэ адзін наш скарыназнавец В. К. Зайцаў. У канцы 70-х гадоў ён распавядаў мне, як выключалі яго з адной «кіруючай» арганізацыі. Жадалі «падлавіць» на слове, пыталіся: чаму ў Вашых рукапісах слова «Бог»

напісана з вялікай літары? Вячаслаў Кандратавіч — чалавек дасціпны — адказаў сваім пытаннем: «А чаму я начальніка нарыхтоўчай канторы павінен пісаць з вялікай літары, а Стваральніка Сусвету — з малой?»

Наогул жа з біблейскай «персаналіяй» у каментатара атрымаўся канфуз. Чытачу прапануецца эклектычная мяшанка, дзе вядомыя факты біблеістыкі густа перамешаны з фрагментамі застарэлых атэістычных цытатнікаў. Вось што гаворыцца, напрыклад, пра галоўнага Героя Бібліі: Ісус Хрыстос — «міфічная асоба», «бога-чалавек», які, паводле новазапаветных легенд, прыняў пакутніцкую смерць, каб выкупіць людскія грахі і збавіць усё чалавецтва... Насуперак (?) гэтай евангельскай легендзе існавала іншая (яна пададзена рымскім пісьменнікам II ст. Цэльсам і ў Талмудзе), паводле якой Хрыстос з'яўляўся сынам Марыі і рымскага салдата Пантэры, або Пандзіры, а не Іосіфа (?), і за сваё чараўніцтва забіты камянямі» (с. 129).

Так, хрысціянства ўсё сцярпела, у тым ліку бясконцыя паклёпы, якія паўтараліся два тысячагоддзі, пачынаючы з язычніцкага Рыма. Гэта не іслам, адэпты якога сёння прысуджаюць да смяротнага пакарання за «пісьменніцкія вольнасці» адносна Алаха і яго прарока Мухамеда. «Хто працерпіць да канца, выратаваны будзе». Праз сваё доўгацярпенне хрысціянства выратавала сябе і ўсё чалавецтва. А дзе ворагі яго? Адных ужо няма, іншыя абанкруціліся, нарабіўшы «шуму и ярости» на ўвесь свет.

І дзе гэта, у якой «хрысціянскай легендзе» каментатар прачытаў, быццам бы Ісус Хрыстос — «сын Іосіфа»? Першае, што ведае кожны хрысціянін (калі нават ён больш нічога не ведае), што Хрыстос — сын Божы. Па гэтых трох словах першыя хрысціяне пазнавалі сваіх братоў і сёстраў у язычніцкай дзяржаве.

Вось яшчэ некалькі біблейскіх «каментарыяў» у кніжцы: «Марыя (гаворка ідзе пра Багародзіцу.— *У. К.*) — міфічная асоба... Культ маці-багіні, «заступніцы» чалавецтва склаўся ў хрысціянстве пад уплывам язычніцкіх традыцый» (с. 130). Добра вядома, што ў «язычніцтве» абвінавачвалі хрысціян яшчэ старажытныя кніжнікі і фарысеі. А вось сцверджанне, быццам бы Заступніца чалавецтва ёсць «маці-багіня» — гэта ўжо з рэпертуару «рэлігіязнаўства» нашага каментатара.

Як кажуць, «і гэтак далей». Аўтар каментарыя вельмі лёгка расправіўся з «аўтарскімі правамі» апостала Паўла,

прыпісаўшы яго пасланні «розным асобам і ў розны час» (с. 128). Не «пашэнціла» ў каментарыі іншым раннехрысціянскім пісьменнікам. Можа, таму, што яны не мелі дачынення да аддзела кадраў, куды сённяшнія навукоўцы пасылаюць спісы «друкаванай прадукцыі», падлічанай паводле стандартных выдавецкіх аркушаў. Ці не таму Коршунаў «перадаў» творы Іаана Багаслова «розным аўтарам»? (с. 133) А вось што мы даведаліся з яго каментарыя да выдатнага твора старажытнасці — Кнігі Іова, якая раскрыла трагічны шлях станаўлення чалавечай духоўнасці: «Гэтая рабская пакорлівасць лёсу, звышцярплівасць галоўнага героя найбольш адпавядалі і адпавядаюць ідэалагічным задачам духавенства і царквы, якія імкнуліся і імкнуцца навязаць працоўным масам класавы мір і паслухмянасць» (с. 132).

Ад такога «рэлігіязнаўства» сёння, здаецца, ужо адмовіліся апошнія нашыя атэістычныя агітатары. Вось яшчэ некалькі ўзораў. Яны яшчэ раз засведчылі, што часам нашыя «навуковыя выданні» безнадзейна адстаюць не толькі ад працэсаў духоўнага адраджэння грамадства, але і ад афіцыйнай палітыкі. Паводле каментатара, крыніцай хрысціянства «паслужылі шматлікія міфы ўсходніх язычаскіх рэлігій», а тэксты кананічных евангелляў напоўнены «недарэчнасцямі і выдумкамі», іх аўтары быццам бы «праявілі дрэннае веданне (што за канцылярскі, «пратакольны» стыль»? — *У. К.*) гісторыі і геаграфіі Палесціны» (с. 133). Малюнкі і сюжэты «Апакаліпсіса», палохае нас А. Коршунаў, «служылі і служаць адным з ідэалагічных сродкаў уздзеяння на псіхалогію веруючых у руках рэакцыйных сіл грамадства, царквы і сектантаў» (с. 161).

Каментатар хоча пераканаць чытача, быццам бы апосталы Пётр, Павел, Іаан, евангелісты, амаль усе героі Старога Запавету — «легендарныя» (у сэнсе легенды, а не рэальнасці) альбо «міфічныя асобы». Праўда, ёсць выключэнні. «Понцій Пілат,— кажа ён,— асоба гістарычная». А яшчэ дабаўляе, што апостал Іуда, якога называлі Фадзеем або Левіем, «у адрозненне ад Іуды Іскарыёцкага быў прапаведнікам спачатку ў Палесціне, потым прапаведаваў у Аравіі, Сірыі і Месапатаміі, нарэшце, у Персіі і Арменіі» (с. 184—185).

Аднаму апосталу ўсё ж такі пашанцавала! Каментатар не палічыў яго ні «міфам», ні «легендай», паведаміў нам пра яго адрозненне ад Іуды Іскарыёта. Гэта ўжо, як кажуць, «добры пачатак».

У заключэнне гэтых крытычных заўваг хочацца сказаць вось што. Мы жывём у эпоху дынамічную, калі адбываецца пераацэнка шмат якіх ідэалагічных каштоўнасцей. Міфы і «рэальнасць» сёння нярэдка мяняюцца месцамі. Мяне, напрыклад, не пераканаў каментарый да «Твораў» Ф. Скарыны. Біблія і біблейскія героі для мяне напоўнены непараўнальна больш высокай рэальнасцю, чым некаторыя казённыя сапраўды міфалагічныя сучасныя ўстановы, асацыяцыі, інстытуты, таварыствы — імя іх, як казалі ў біблейскія часы, легіён! Сваю «рэальнасць» яны пацвярджаюць хіба што роспісамі ў ведамасцях на зарплату і паездкамі сваіх кіраўнікоў за мяжу. Каб знайшоўся сёння смелы адміністратар ды ліквідаваў гэтыя прывіды, то, я ўпэўнены, ніхто не заўважыў бы іх знікнення. Хіба толькі фінансісты: яны зафіксавалі б паніжэнне нашага бюджэтнага дэфіцыту.

Такім чынам, перад намі — два розныя каментарыі да Бібліі. Адны належаць Францішку Скарыну, другія — складальніку кніжкі яго твораў. Як сёння кажуць — альтэрнатыва і плюралізм думак. Дасведчаны чытач сам разбярэцца, хто з іх лепшы біблеіст.



*Евгений Немировский*

# БИБЛИОГРАФИЧЕСКИЙ СПРАВОЧНИК О ФРАНЦИСКЕ СКОРИНЕ

Среди многочисленной литературы, вызванной к жизни 500-летием великого белорусского просветителя Франциска Скорины, не прошел незамеченным и библиографический справочник «Пять столетий Скоринианы», подготовленный Витовтом Тумашем и выпущенный в свет в 1989 г. Белорусским институтом науки и искусства в Нью-Йорке[1]. Речь по сути дела идет о новом, значительно дополненном издании «Библиографии Скоринианы», опубликованной тем же автором в 1970 г.[2].

Личность ученого или писателя с неизбежностью присутствует в его трудах. Говоря о произведениях человеческой мысли, мы не можем оставлять без внимания мысли и поступки их авторов. С библиографическими работами дело, казалось бы, обстоит проще; от их составителей требуется лишь беспристрастная регистрация того, что было сделано в этой области раньше. На деле же, однако, и такие работы несут отпечаток политических и идеологических устремлений составителей.

После войны Витовт Тумаш оказался в эмиграции. Послевоенная белорусская эмиграция группировалась вокруг нескольких органов печати. Еще в годы войны в Берлине издавался официальный «подрежимный» орган — еженедельник «Раніца». Впоследствии возникают такие газеты и журналы, как «Шыпшына» (Регенсбург), «Бацькаўшчына» (Мюнхен), «Веда» (Нью-Йорк), «Божым шляхам» (Париж, а затем Лондон), «Беларуская царква» (Чикаго), «Голас царквы» (Нью-Йорк), «Зніч» (Рим), профессиональные «Мэдычная думка» (Ватенштет), «Абежнік Аб'яднаньня беларускіх лекароў на чужыне» (Нью-Йорк)... История зарубежной белорусской прессы еще ждет своего историка. Все перечисленные

выше издания в той или иной степени отдавали дань интересующей нас теме. По преимуществу это были популярные статьи и заметки о Франциске Скорине, о жизни и деятельности белорусского просветителя. Почти всегда в них современные счеты и обиды вторгались в рассказы о давно минувших днях. Впрочем, историческая наука во все времена не чуждалась злободневности.

Для скориноведения несомненный интерес представляют публикации трех зарубежных журналов — начавшего выходить в 1954 г. в Нью-Йорке литературно-художественного журнала «Конадні», лондонского «The Journal of Byelorussian Studies», издаваемого с 1965 г., и «Запісаў» Белорусского института науки и искусства. Последний сборник начал издаваться в 1952 г. в Нью-Йорке, где до 1954 г. вышли 6 томов. В 1962—1970 гг. он выпускался в Мюнхене, а с 1974 г.— снова в Нью-Йорке. Последний известный нам вышедший том — под № 18 — появился в 1988 г.

Именно в этих продолжающихся изданиях (журналами их назвать трудно в силу нерегулярности выхода в свет) и были преданы гласности основные скориноведческие публикации Витовта Тумаша.

Говоря ниже о работах Витовта Тумаша, мы не будем обращать внимания на их полемические издержки, а постараемся подчеркнуть то новое, что они внесли в скориноведение. Публикации эти заслуживают похвалы за новый фактический материал, который они вводили в научный оборот. В сталинские, да и в более поздние времена зарубежные книго- и архивохранилища были практически недоступны для советских исследователей. В. Тумашу попасть в них было проще, и он с пользой для скориноведения использовал это преимущество. Богатство фактического материала, однако, сочетается в его статьях с дилетантизмом непрофессионала, особенно же когда речь идет о выводах и гипотезах.

Еще в 1950 г. В. Тумаш ввел в научный оборот сведения о портрете Ф. Скорины в парадном зале Падуанского университета[3]. В советской печати сведения о нем появились в 1966 г.

Первая серьезная скориноведческая публикация В. Тумаша появилась в 1953 г. Называлась она «Король Альбрехт и Скорина»[4]. Речь шла о документах, рассказывающих о пребывании белорусского просветителя в Кёнигсберге; они были опубликованы А. И. Миловидовым еще в

1918 г.[5]. Миловидов сделал достоянием научной общественности лишь латинский текст оригинала, причем с ошибками. В. Тумаш впервые предложил вниманию исследователей белорусский перевод кёнигсбергских актов (сам перевод выполнил П. Татарынович).

В 1963 г. была опубликована статья «Доктор Скорина в Москве», напечатанная и отдельным оттиском[6]. В основу гипотезы о пребывании белорусского просветителя в столице Русского государства был положен документ 1553 г., опубликованный еще в 1862 г. Да и сама гипотеза в более осторожной форме ранее высказывалась А. В. Флоровским. С точкой зрения В. Тумаша, выступавшего под псевдонимом «Сымон Брага», советский читатель смог познакомиться по небольшой статье-рецензии А. В. Флоровского, появившейся в 1969 г. на страницах «Трудов Отдела древнерусской литературы»[7]. Это был первый и на долгие годы единственный случай упоминания имени С. Браги в советской печати.

В том же 1963 году в журнале «Конадні» появилась статья В. Тумаша о портретах Франциска Скорины[8]. Шла речь о падуанском портрете, но, что самое главное, был введен в научный оборот неизвестный вариант гравированного портрета из экземпляра «Книги Царств», находящегося в библиотеке Британского музея.

Полезной сводкой ранее известных материалов стали статьи о географической локализации жизненного пути Франциска Скорины и об имени белорусского просветителя, опубликованные в 1964—1966 гг.[9].

В 1970 г., с опозданием на три года, в Мюнхене был издан сборник «Scoriniana 1517—1967» — специальный том «Запісаў», посвященный 450-летию основания пражской типографии Франциска Скорины. Содержание тома представляет несомненный интерес, если, конечно, игнорировать политические издержки, которых и здесь хватало. В. Тумаш под псевдонимами и под своим собственным именем опубликовал здесь статьи «Доктор Франциск Скорина (1485?—1540)», «Скорина в Падуе», «Книги Скорины в Италии в первой половине XVI в.», «Скориновские краковские привилейные грамоты 1532 г.» (вместе с П. Татарыновичем), историографический очерк скориноведческой литературы и первый вариант библиографии Скоринианы, о котором уже шла речь выше[10]. Здесь же помещен написанный тем же В. Тумашем некролог Антона Васильевича Флоровского, исключительно много сде-

лавшего для изучения жизни и деятельности Франциска Скорины. По своему интересны — как своеобразный документ эпохи — подписанные инициалами «С. Б.» (Симон Брага) хроникальные заметки о праздновании юбилея белорусского книгопечатания в СССР (не лишенные политической предвзятости) и за рубежом.

Из более поздних скориноведческих публикаций В. Тумаша отметим его статьи о конфискации во Вроцлаве книг Скорины, о бытовании изданий белорусского просветителя в Западной Европе, о скорининских акростихах, о гравюрах «Малой подорожной книжки»[11]. В 1978 г. В. Тумаш впервые установил, что прототипом цельностраничной гравюры из «Книги Бытия» 1519 г. является один из листов прославленного «Апокалипсиса» Альбрехта Дюрера.

Так обстоят дела со вкладом Витовта Тумаша в Скориниану, вкладом, надо сказать, немаловажным. В советской литературе имя это совсем неизвестно, как, впрочем, и имена других зарубежных скориноведов, таких как Янка Садовский, автор больших диссертаций о Ф. Скорине, защищенных в 1964 г. в Римском и в 1967 г. в Лондонском университетах[12], или Александр Надсон, который впервые ввел в научный оборот знаменитый копенгагенский экземпляр «Малой подорожной книжки»[13]. Советских ученых, однако, винить в незнании зарубежной литературы вопроса нельзя. Незнание не вина, но беда их. Как «Запісы», так и «The Journal of Byelorussian Studies» попадали в специальное хранение единственной в Советском Союзе библиотеки и выдавались оттуда далеко не всем исследователям.

Положение изменилось лишь в самое последнее время. Свободно распространялся у нас 18-й том «Запісаў» со статьями В. Тумаша «Доктор Ф. Скорина и король Фердинанд», «Люблянская Скориниана», «Календарь Скорины и календарная система Белоруссии его времени» и с публикацией переписки А. В. Флоровского и В. Тумаша[14]. Том этот рецензировался в советской печати[15]. В. Тумаш ввел в этом томе в научный оборот экземпляр «Малой подорожной книжки» из Университетской библиотеки Любляны, о составе и комплектности которого мы не имели никакого представления.

На протяжении всей своей послевоенной деятельности Витовт Тумаш причудливо сочетал серьезные научные изыскания с политической тенденциозностью.

Забывать об этом не следует, как не следует и перечеркивать все написанное этим человеком. Оъективность и беспристрастность — высший закон науки. И если мы не всегда следовали этому закону, пусть простят нас наши потомки.

Теперь мы можем перейти к более подробному анализу библиографического справочника «Пять столетий Скорининаны». Открывается он короткими предисловиями на белорусском и английском языках. Английский текст, по сути дела, представляет собой развернутую аннотацию следующей за ним вступительной статьи «Франьцішак, Скарынін сын, з Полацка». Вступительная статья начинается кратким очерком жизни и деятельности белорусского просветителя, занимающим четыре страницы. В свете ведущихся у нас споров о годе рождения и годе кончины Скорины отметим, что В. Тумаш обозначает даты жизни просветителя так: (1485?—1540).

Имя Скорины автор справочника употребляет в форме «Франціішак». В последнее время так делают и некоторые белорусские авторы у нас в стране. В связи с этим скажем, что сам Скорина обычно называл себя Франциском.

Говоря об очерке жизни и деятельности Скорины, мы должны сделать несколько замечаний. Некоторые гипотезы, очевидность которых далеко еще не доказана (как, например, утверждения о поездке просветителя в Москву или о конфискации его изданий во Вроцлаве), поданы в излишне категорической форме. В библиографических примечаниях к вступительной статье даны отсылки не на первоисточники, а преимущественно на статьи самого В. Тумаша. Так, например, говоря об акростихах в двух акафистах «Малой подорожной книжки» автор ссылается на свою статью, а не на публикацию А. А. Турилова, который эти акростихи открыл. Любопытно при этом, что в основном тексте справочника описаны лишь тезисы выступления А. А. Турилова на конференции, а сама публикация в сборнике «Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности» (Л., 1981) не приведена.

В следующем разделе вступительной статьи — «друкарскае майстэрства Скарынавых выданьняў» идет речь о художественном оформлении книг просветителя, а также о влиянии его орнаментики и шрифтов на последующую типографскую традицию. Излишне категорическим нам кажется утверждение о том, что с полиграфической

точки зрения издания Скорины не имели себе равных среди изданий кирилловского шрифта вплоть до середины XVIII в. Если судить объективно, полиграфический уровень изданий черногорца Макария или венецианских изданий Божидара и Виченцо Вуковича — несравнимо выше.

Говоря о гравированном портрете Франциска Скорины, В. Тумаш справедливо отмечает, что он помещен в двух пражских изданиях — в «Книге Исуса Сирахова» и в «Книгах Царств». Однако на с. 253 справочника автор почему-то утверждает, что этот портрет, «отпечатанный с трех заново выгравированных ксилографий, помещен в **пяти** (подчеркнуто нами.— *Е. Н.*) библейских книгах», а именно «в конце Книги Сирахова и Книги Царств и перед книгами Юдифь, Бытия и Плач Иеремии».

Далее во вступительной статье идет речь о литературном наследии Франциска Скорины и попутно затрагивается вопрос о его вероисповедании. Вопрос этот В. Тумаш однозначно не решает, утверждая лишь, что просветитель не был протестантом, а также «вольнодумцем» или «атеистом», как пробовали утверждать некоторые «советские» авторы»[16]. Слово «советские» В. Тумаш пишет в кавычках.

Далее приводится краткий очерк историографии вопроса. Более подробно идет речь об указателях литературы о жизни и деятельности Франциска Скорины. Здесь высказаны замечания и по поводу нашего указателя, опубликованного в 1978 г.[17]. На этих замечаниях мы позволим себе остановиться несколько позднее.

Основной текст справочника состоит из пяти частей. В первой из них дано библиографическое описание актовых документов о жизни и деятельности Франциска Скорины. Всего учтено 53 документа. Описания размещены в хронологическом порядке, который представляется нам наиболее предпочтительным в данном случае. К сожалению, в последней публикации этих документов, вышедшей в Минске в 1988 г., хронологическая последовательность не соблюдается.

В библиографических описаниях В. Тумаш приводит дату написания документа, дает его краткую аннотацию, сообщает сведения о современном местонахождении документа и о его публикациях. В целом такая сводка представляется нам весьма полезной. Есть, правда, в перечне и пропуски. Не приведен, например, опубликованный



*Мікалай Улашчык*

## ХРОНІКА (II)[1]

У ноч з шостага на сёмае ліпеня 1941 года паднялі адразу пасля поўначы: «Давай з рэчамі». У велічэзным вестыбюлі Вялікага дома бачна было каля сотні людзей (гэта была толькі частка з выклі́каных тады). Усім было загадана распрануцца дагала і падысці да стала, на які трэба было вы́класці свае рэчы. Выклікалі па прозвішчах, а ўладар прозвішча павінен быў выкрыкнуць сваё імя і імя па бацьку, а пасля год нараджэння. Побач са мной, распранаючыся, прыскокваў пажылы чалавек з сіваватай галавой і вусамі. Бравы сяржант з фуражкай на патыліцы штурхануў яго локцем у бок: «Хутчэй, дзед. Народу многа». Падыходзячы да стала, «дзед» адклікнуўся на прозвішча «Мальцаў», прычым аказалася, што гэта акадэмік УАСГНІЛ. У далейшым мы трапілі ў адзін вагон (цяплушку) і даведаліся, што Мальцаў спецыяліст па ядавітых раслінах і пустазеллі, што ён праціўнік Лысенкі, за што і папаў у Вялікі дом. Акрамя яго, казалі, едуць яшчэ вучоныя: Лявіцкі і Фляксбергер, а таксама артыстка Галіна Уланава (апошняе аказалася няпраўдай).

На світанку 7 ліпеня мы апынуліся недзе на пуцях, чакалі цягніка. Чалавек вопытны, я цягнуў з сабой поўны камплект зімняга адзення, нават шарсцяныя панчохі, але большасць з'явіліся абы ў чым, не кожны меў і паліто, частка была апранута ў парусінавыя туфлі і пінжачкі. З маёмасці — кавалак мыла, ручнік і яшчэ нейкая драбяза. Аднаго забралі на вуліцы, па дарозе на работу, у адной кашулі і сандалях, без фуражкі. Работнікі МДБ, калі падчас арышту ў іх пыталі, куды забіраюць, ці надоўга, адказвалі, што трэба нешта праверыць у міліцыі і што вер-

[1] Пачатак «Хронікі» надрукаваны ў першым выпуску «Скарыніча» (Мн., 1991).

нуцца дамоў праз пару дзён. Зразумела, што ў такім становішчы браць з сабой розныя рэчы не мела сэнсу. Так і паехалі.

У вагонах нары ў два паверхі, зразумела, нічым не прыкрытыя. Хто прыйшоў у пінжаку, адразу адчуў нязручнасць. Трапіў у вагон разам з Мальцавым, які па дарозе многа расказваў пра паляванне (паляваў на мядзведзя), пра вяселле ў Курскай вобласці і яшчэ пра розныя падзеі. Наогул, ён аказаўся самым гаваркім у вагоне. Магчыма, гэта быў не вынік гаварлівасці наогул, а нейкі від нервовай разрадкі. Усе вельмі нерваваліся: тут і арышт, тут і вайна, а як яна ідзе, ніхто не ведаў.

Побач са мной сядзеў Свечын. Аказаўся сынам вядомага дзеяча Свечына, пра якога я, зрэшты, нічога не ведаў. Некалькі чалавек было з Мурманску, сярод іх маленькі бойкі боцман нейкага рыбалавецкага судна, які к канцу паездкі зрабіўся ўжо начальнікам порта. (Яму казалі ў канцы паездкі, што калі б ехалі яшчэ пару сутак, то з яго напэўна ўжо атрымаўся б адмірал.) Быў лётчык Філін, па яго словах палярны лётчык, лятаў быццам у нізоўях Лены. На маё пытанне — ці шырокая там Лена — адказаў не задумваючыся: «Чатыры лётныя гадзіны». Гэта значыць 800 км, перапытаў я яшчэ раз. «Да»,— зноў без замінкі адказаў лётчык. З непрыемным худым тварам і тырчашчымі наперад зубамі, ён без перапынку бубніў, як лёгка і проста будзе разгромлена нямецкая армія, але было б значна лепш, калі б ён не сядзеў у гэтым вагоне, а быў на фронце. Ужо ён паказаў бы тым. Быў уладальнік дома ў Шувалаве, у якога застаўся дома адкормлены парсюк, пяток гусей і аўчарка. К канцу паездкі і падчас сядзення багацце гэтага чалавека непамерна павялічылася, асабліва колькасць гусей, якіх стала амаль сотня, прычым даглядала за птушкамі ўжо другая аўчарка. Наогул, выхвалянне, расказы, як многа і якія дарагія рэчы меліся ў таго ці іншага, зрабіліся амаль агульнай з'явай. Якісьці слесар наслухаўся такіх размоў і пачаў упэўніваць, што і ён адкармліваў парсюкоў на гарышчы чатырох- і пяціпавярховага дома. Яго высмейвалі, але ён вытрымаў усё і ад сваіх сцвярджэнняў не адмовіўся.

У дарозе былі 11 дзён. Вокны ў вагоне не зачыняліся, але ночы былі цёплыя, і мерзлі толькі тыя, хто быў у адных пінжаках. Куды прыехалі, дзе нас высадзілі, ніхто не ведаў, і толькі ў час пераезду даведаліся, што гэта Златавуст. На горцы, на ўскраіне горада ўзвышаюцца тры чатырох-

павярховыя будынкі турмы, якія пабудаваны рукамі зняволеных незадоўга да вайны. У адным з кутоў турэмнай прасторы, аддзеленай высокай цаглянай сцяной, захаваўся двухпавярховы будынак царскай турмы, якая мела 5—6 камер. Убоства царызму было паказана гранічна ясна.

Пачалося размеркаванне па камерах, дарэчы, уся турма да нашага прыезду была амаль пустая. Пакуль стаялі, мне паказалі маленькага чалавечка, што гэта і ёсць знакаміты знаўца пшаніцы Флаксбергер і што сярод жанчын знаходзіцца Уланава. (Жанчын было вельмі мала, усяго ж прывезлі цэлы эшалон, некалькі соцень чалавек.)

У камерах стаяла па тры жалезныя ложкі з кожнага боку, а ля вакна прымацаваны да падлогі стол. Запускалі ў камеру чалавек 8—10 (дакладна не памятаю). Хто ўваходзіў першы — займаў самы лепшы ложак бліжэй да вакна, хто пазней — рабіліся «падсуседкамі» ў тых, хто заняў ложак. Пасля, калі народу значна пабольшылася, размяшчаліся пад ложкамі. Каля дзвярэй стаяла параша — бляшаны бак з накрыўкай.

У нашу камеру першым увайшоў Рыгор Андрэевіч і заняў лепшае месца, я аказаўся ў «падсуседках». У камеру трапіў урач-венеролаг, ён сядзеў ужо чацвёрты год і быў удзельнікам групы ўрачоў, якіх абвінавачвалі ў шкодніцтве. Хутчэй за ўсё астатнія прызналі сябе віноўнымі і былі расстраляныя альбо загінулі ў лагерах, ён адзіны праявіў надзвычайную ўпартасць і застаўся ў становішчы падследнага. Месяцы праз два пасля прыезду яго выклікалі і паведамілі, што абвінавачванне знята. Урач (дацэнт Інстытута), які не раз плаваў на караблях за мяжу і, наогул, шмат пабачыў, прыйшоў у слязах і паказаў папяросу, падараваную следчым. Праз пару гадзін яго ўвялі.

Быў у камеры начальнік аднаго з цахоў нейкага вялікага завода ў Ленінградзе, ураджэнец Архангельскай вобласці. Гаварыў, што адукацыя ў яго — 3 класы сельскай школы, а пасля вучыўся ўсяму сам альбо на розных курсах. Бадай, самай галоўнай бядой нашага жыцця ён лічыў інтэлігенцыю, без якой жыць, аднак, аказалася немагчымым. Ён цураўся ўсіх, каго лічыў інтэлігентамі, цягнула яго да ўгалоўнікаў. Прасочвалася заканамернасць, калі ў паўночніка завязвалася сяброўства з кімсьці новым, то пасля высвятлялася, што гэта ўгалоўнік альбо чалавек, нячысты на руку. Спатрэбіўся цэлы год сумеснага сядзення, каб ён пачаў лічыць некаторых інтэлігентаў вартымі людзьмі. Калі ён прачытаў «Былое і думы» Гер-

цэна, паўночнік з нейкім здзіўленнем сказаў: да чаго ж не падобна на наш час.

У камеры быў свой любімец. Гэта быў Мартэнс, галоўбух аднаго з буйнейшых заводаў Ленінграда. Вельмі культурны і вельмі начытаны чалавек, да таго ж умеў добра пераказваць прачытаныя кнігі. Калі дні цягнуцца бясконца, калі ад нудоты людзі гатовы ўдавіцца альбо пасварыцца з кім пападзе, чалавек, які гадзінамі пераказвае змест апавяданняў Мапасана, Ляскова, Талстога ці дзеліцца сваімі прыродазнаўчыміназіраннямі, робіцца амаль не лепшым сябрам слухачоў.

Рыгор Андрэевіч трымаўся адасоблена, як бы ў дрымоце. Зрэдчас ён успамінаў сваю маладосць, высылку ва Францыю, паездкі там на ровары, збор вінаграду на поўдні Францыі; разважаў пра сутнасць сваіх разыходжанняў з Лысенкам. Аднойчы сказаў: нам лягчэй пераносіць няволю, у нас ёсць свой унутраны свет, а хто займаўся фізічнай працай, таму гэта гультайства непераноснае.

Мы атрымлівалі 500 гр. хлеба ў дзень. Зрэшты, колькі яго было рэальна — ніхто не ведаў, тым больш што калі пайка праляжала ў камеры хаця б суткі, то яна адчувальна меншала ў памеры. У дзень давалі 0,5 літра супу, раней з капустай, але часцей з якімі-небудзь крупамі. Пажыўнасць яго была вельмі нізкай. Вечарам выдавалі лыжку (звычайную лыжку) кашы. Калі па першым часе здзіўляліся і абураліся такім аб'ёмам, выклікалі начальніка і скардзіліся яму, той адказваў, што мы атрымліваем дакладна тое, што нам належыць. Што раней, перад вайной, пры турме быў ларок і ў каго былі грошы, мог купіць што хочаш, нават каўбасы вышэйшага гатунку (ад чаго ў некаторых морда станавілася во якая), цяпер жа ў ларку нічога акрамя папярос не засталося. Трэба жыць на тым, што даюць. Пры гэтым звычайна дабаўлялася, што нічога не здарыцца, не памрэм, але да жанчын цягнуць не будзе.

Галаданне пераносіцца вельмі індывідуальна, аднак праз год аказалася, што большасць выехаўшых з Ленінграда ўжо памерлі або знаходзяцца ў бальніцы, блізкія да смерці.

У верасні і кастрычніку 1941 г. сталі выклікаць ва ўнутраную турму (тую, якая засталася ад цара) і там прад'яўлялі абвінавачванне. Рыгор Андрэевіч вярнуўся ў добрым настроі. З ім размаўляў чэкіст гадоў 20, які закончыў (па яго ўласных словах) сямігодку. Абвінавачванне

было (літаральна) сфармулявана так: членкар. Акадэміі навук абвінавачваецца ў «Заніжэнні завышэння ўраджайнасці», інакш кажучы, ён, па меркаванню начальства, быў супраць тых высокіх тэмпаў росту ўраджайнасці, якія абяцалі партыі і ўраду Лысенка і яго прыхільнікі. За гэта і належала несці пакаранне.

У снежні 1941 г. мяне забралі з камеры на допыт, а калі я тыдні праз два вярнуўся, то Рыгора Андрэевіча ўжо не было. Мне перадалі, як усё здарылася. Хутка пасля мяне забралі ва ўнутраную і Рыгора Андрэевіча. Аднойчы на абед далі суп, увесь верх якога ў місе быў пакрыты нейкім тлушчам. Рыгор Андрэевіч сабраў яго і вечарам намазаў на хлеб. Амаль не ноччу пачалося моцнае расстройства страўніка. Не памятаю, забіралі яго ў бальніцу ці не, відаць, што не, бо інакш бы ў камеры не даведаліся так хутка пра яго смерць. Памёр праз 2—3 дні пасля пачатку захворвання, прыблізна ў другой палове снежня 1941 г.

Да таго часу мы ўжо ведалі пра тое, што вайна ідзе побач з Масквой. Да нас трапіў чалавек, якога везлі з Ленінграда і які паведаміў, што цягнік ледзьве праскочыў да Масквы і што пакуль стаялі ў Маскве, быў чутны грукат бою.

* * *

Канчаўся 1943 год. Мы — Наташа, Оля і я — жылі ў Казані, куды Наташа прыехала ў канцы 1941 г. з Ленінграда, Оля ў 1943 г. з Куйбышава і я ў маі 1943 г. з Азнакаева. Мы былі неяк уладкаваны, мелі два маленькія пакойчыкі, з агароду ў Васільеве прывезлі троха гародніны (там вырас гарбуз такіх памераў, якога ніколі ў жыцці ня бачыў — здаецца,за 20 кг), але галоўнае — Наташы з жніўня пачалі даваць добры паёк. Я быў яшчэ слабы, але ў параўнанні нават з тым, што было летам, стаў значна мацнейшым. Вайсковыя камісіі, куды выклікалі некалькі разоў, бракавалі, бо абодва лёгкія былі «дзіравыя», хаця валляк (туберкулёз залозаў пад барадою) стаў значна меншы. Я яшчэ не ведаў ці мала адчуваў, што болі ў правым локці азначаюць туберкулёз і там.

З кастрычніка пачаў працаваць выкладчыкам гісторыі ў медыцынскай школе, якая знаходзілася поруч. А тым часам Надзея Ісаеўна Міхельсон, самая блізкая з прыяцельніц Наташы, а разам нібы дамовы сакратар Леона Абгаравіча Арбелі, у той час рэальнага прэзідэнта Акадэміі

навук (прэзідэнт Камароў быў зусім стары і нават засынаў на паседжаннях), Надзея Ісаеўна пачала штурхаць мяне: «Што вы сядзіце тут. Чаго тут дачакаецеся. Трэба падавацца ў Маскву ў аспірантуру». Лёгка сказаць — у Маскву ў аспірантуру! У мяне было ўсё на тое, каб туды не трапіць, і нічога, каб трапіць. Перш за ўсё мінуў узрост, у якім прымалі ў аспірантуру — 37 гадоў. Затым, у мяне не было звычайнага пашпарту і жыў я па нейкай фіктыўнай паперы як эвакуяваны з Ленінграда (выдала міліцыя ў Азнакаеве). Затым, мяне проста маглі не пусціць у Маскву. Затым, трэба было здаць уступныя экзамены. Праўда, перад вайною я здаў аспіранцкія экзамены па мове і філасофіі пры інстытуце імя Герцэна ў Ленінградзе, але ніякіх адзнакаў гэтага ў мяне не было, а верыць так сабе, на слова ў Акадэміі не хацелі. Урэшце, быў такі слабы, і праблема — дзе буду жыць у Маскве, стаяла таксама.

Сам па сабе пераадолець усе гэтыя перашкоды я не мог ніяк, пераадолела настойлівасць Надзеі Ісаеўны. Ёй трэба было ўгаварыць загадчыцу аспірантуры (калі прынцыповая згода Арбелі была дадзена), каб не вымагаць з мяне экзамену і здабыць ад каго-небудзь з акадэмікаў ці член-кор. рэкамендацыю. Яе даў, хаця і зусім неахвотна, Пічэта, адзіны, хто мяне ведаў у Акадэміі.

Калі ўсё было ўладкавана і надыходзіла пара ехаць у Маскву, узнікла праблема пашпарту. Лейтэнант міліцыі, які ведаў пашпартным сталом Казані, настойліва вымагаў ад мяне метрыку. «Дак я ж з Мінску»,— тлумачыў я гэтаму начальніку. «Ну дак што»,— адказваў той. «Дак у Мінску зараз немцы. Як жа я магу дастаць адтуль метрыку?» — «А мая якая бяда»,— казаў лейтэнант. «У мяне ёсць дыплом»,— казаў я. «Ага. Дыплом у яго ёсць, а пашпарту няма!» — быў адказ. Пасля колькіх паходаў у міліцыю лейтэнант згадзіўся на тое, каб двое людзей, у якіх ёсць пашпарты і якія людзі непадазроныя, засведчылі, адкуль я і якога году нараджэння. Такія пасведчанні далі два ленінградскія прафесары, прыяцелі Наташы.

У самым канцы 1943 г. прыйшла папера, што я залічаны ў аспірантуру і што магу прыехаць у Маскву, але трэба даць падпіску, што не буду намагацца кватэры. Падпіску даў, але ў такім разе — дзе я буду жыць? Дамы ўсхадзіліся ізноў. Пачалі думаць, да каго можна будзе зайсці хаця б у першы дзень і перажыць першую ноч. Гэта была цяжкая праблема: міліцыя была надта прыдзірліваю, скрозь правяралі, ці няма збегаў, дэзерціраў. Усякі

баяўся пусціць да сябе хаця б на ноч непрапісанага чалавека. Трэба было ехаць, што называецца, на ўра, маючы на ўвазе, што меў добрую практыку жыцця і пад нарамі.

1944 г. сустрэлі на кватэры ў Арбелі. Галоўны пачастунак быў вінегрэт. Гэта быў вялікі прагрэс, бо на сустрэчы 1942 г. далі па печанай бульбіне, а 1943 г. сустрэлі ў Азнакаеве, дзе пад Новы год прынеслі апошні кошычак бульбы. На 1944 г. было пэўна вядома, што вайна ідзе пад канец, нават думалі, што летам 1944 г. яна скончыцца.

Выехаў з Казані 13 студзеня. Быў халодны дзень з ветрам, ветрам такім, які бывае ў Сібіры, калі здаецца, што з твару здзіраюць скуру. Я абуўся ў валенкі рознага памеру, у іх было цёпла. Звыш валенак меў лыжныя чаравікі з Ленінграда на гумавай падэшве, надта слізкай, у якіх так часта валіўся на снег.

Прыехаўшы ў Маскву, з вагона ступіў у калюгу: там была адліга, затое ўвечары гукнулі стрэлы: была прарвана блакада Ленінграда.

Вечарам пайшоў туды, куды далі адрас з лістом, просячы, каб мяне прытулілі на пару дзён. Гаспадыня прыйшла вечарам, нешта гадзін каля васьмі. Убачыўшы госця і прачытаўшы ліст, яна пачала гістэрычна выстаўляць мяне за дзверы. Аргументацыя яе была слушная: у такі час, калі штодня можна чакаць прыходу міліцыі, пускаць незнаёмага чалавека азначае набыць сабе бяду. Апрача міліцыі мелася на ўвазе і розныя казулькі, якіх з вагона занесці было надта проста. Разгневаную цётку ўгаварылі неяк з тым, што рана я знікну. Пераспаўшы, пайшоў у Акадэмію, аформіў, у першую чаргу, прадуктовыя карткі. Пасля ізноў трэба было шукаць — дзе б пераначаваць. Гэты раз давялося спаць (ці наогул начаваць) у халодным пакоі, разам з вар'яватаю старою, якая два тыдні ехала з Сібіры пад нарамі. Рана, калі стала відно, я ўбачыў, што яна абсыпана вашыма. Агледзеўшы сябе, выскачыў з гэтага дому і больш не варочаўся, але куды ж яшчэ. Быў адрас да тых, што адабралі ў Івана ў Азнакаеве пакой. Там паміж зяцем і цесцем ішлі без перапынку сваркі, прычым цесць крычаў на зяця, што «калі ты скінуў валенкі, то адтуль сыпаліся пакі грошаў, усе па пяцьдзесят рублёў». Я да гэтага аднесся скептычна, але пасля даведаўся, што ў некаторых былі цэлыя чамаданы ці рукзакі з грашыма. Калі ў кастрычніку ў паніцы ўсе кінуліся ўцякаць з Масквы, то спрытныя, ведаючы, дзе ляжаць грошы, чысцілі сейфы. У канцы 1943 г. гэтыя дабрадзеі вярнуліся ў Маскву і згадзіліся

даць мне пераспаць за хлеб, які прывёз з Казані, а пасля за той, які пачалі выдаваць па картачках у Маскве. Глухі канец калідору ў кватэры быў агароджаны, там стаяў тапчан, і там мне можна было спаць ці нават сядзець удзень. Гаспадары, відаць, былі ў добрых адносінах з міліцыяю і не баяліся нечаканага прыходу.

Разважаць, што вот да Івана яны ўлезлі сілом і ніколі не падумалі што-небудзь даць хаця б малой яго дачцэ, а ў мяне забіраюць галодную пайку, не даводзілася; аддаў бы і яшчэ што, але ж нічога не было. Урэшце, праз казанскую гаспадыню ўладзіўся (ужо з прапіскаю) на Садовай. На нармальнае жыццё, ды калі яшчэ пачаліся напружаныя заняткі, гэта не было падобна, але штодня не трэба было клапаціцца пра тое — а дзе сёння пераначаваць. Пакой быў вялікі, гаспадыня з дачкою, дачка працавала прадаўшчыцаю ў прадуктовым магазіне. Мой ложак быў за шафаю на вялікім куфры. Верх куфра быў гарбаты, і я ўночы прачынаўся і перасоўваўся на верх. Кепска было толькі, што даводзілася надта мала спаць. Да гаспадыні прыехалі з бежанства нейкія сваячкі. Покуль яны ездзілі, страцілі сваю кватэру (пакой). Цэлыя дні яны хадзілі да начальства, а прыйшоўшы дамоў, пачыналі востра пераказваць, што з імі было ўдзень, жаліцца гаспадыні. Крыўды было столькі, што яны клаліся спаць гадзіны ў дзве-тры, а не пазней як а шостай прачыналіся і пачыналі жаліцца ізноў. Троха пагрэўшы вады на электрычнай плітцы, папіўшы цёплай вады (гэта звалася пілі чай), ішлі ізноў. Пры такіх умовах спаць даводзілася гадзіны тры-чатыры, але памятаючы, як жылося ў Златавусце і як даводзіцца на фронце, асабліва жаліцца не даводзілася.

Праз некалькі дзён пайшоў да Пічэты. Ён жыў у той час у адным пакоі на Астожанцы (Метрастроеўскай). Гэты пакой быў рабочым кабінетам, бібліятэкаю (даволі вялікаю, хаця, відаць, гэта былі рэшткі збораў) і кухняй. «Кухня» знаходзілася ў закутку пакою. Гэта быў стол, на якім стаяў прымус і нейкая пасуда. Пічэта пражыў у гэтай кватэры да канца 1946-га ці пачатку 1947-га, калі атрымаў прыстойную кватэру, у якой жыць, аднак, не давялося.

Пічэты самога не было, сустрэла яго жонка, надта ветлівая Аляксандра Пятроўна. Скора прыйшоў малады, прыгожы, бойкі хлопец, які павітаўся з гаспадыняю як добры знаёмы. Мы пачалі гаварыць. Гэта быў Каралюк, аспірант, якога сам Пічэта ў далейшым рэкамендаваў мне як самага таленавітага са сваіх вучняў. Праз сустрэчу-другую Кара-

люк зварачаўся да мяне на «ты». Так ён, між іншым, зварачаўся да ўсіх, выключаючы хіба Пічэту і іншых акадэмікаў. На жаль, гэты сапраўды таленавіты чалавек, які пачаў так удала, скора пачаў піць не ў сваю моц, перастаў працаваць і адносна маладым памёр ад раку.

Гаворка з Пічэтам была кароткая. Ён сказаў, што кіраўніком маім прызначаны Беражкоў, прозвішча для мяне зусім незнаёмае, і што я павінен прыйсці ў Інстытут, каб абмеркаваць і зацвердзіць план маіх заняткаў.

Беражкоў, калі я прыйшоў да яго знаёміцца, быў збянтэжаны сваім прызначэннем. Ён проста лічыў, што кіраўніцтва аспірантам гэта яму нібы боская кара, якая звалілася ад Пічэты, якога ён наогул не любіў (піша абы-як, першымі словамі тое, што прыходзіць на памяць). Праз пару дзён у Інстытуце ў пакойчыку, у бібліятэцы ФБОН, план быў зацверджаны і я ўзяўся выконваць. Трэба было здаць чатыры экзамены, два з якіх у пісьмовай форме, а па сутнасці трэба было напісаць даследчую работу па названай тэме, два здаць па гісторыі вусна, здаць філасофію і хоць бы адну замежную мову.

Неяк ужо даводзілася ўспамінаць, што навуковая падрыхтоўка ва універсітэце была надта слабой. На першым ці другім курсах я думаў, што вось прайду ў Менску тры курсы, а пасля паеду davучвацца ў Ленінград (у Менску падвучуся на беларускія тэмы, а ў Ленінградзе трэба будзе набыць агульныя веды). Але час ішоў занадта скора. Вось першы курс, вось другі, а калі дасягнуў да трэцяга, то я так умацаваўся ў Менску, што ехаць у Ленінград перахацелася, хаця разуменне, што застаўся недавукам, засталося. Па сутнасці, наш універсітэт, прынамсі для гуманітараў, быў педагагічным інстытутам, ды і то не вышэйшай маркі. Прыехаўшы ў Маскву, гэта адчулася надта востра, асабліва калі пазнаёміўся з тымі, хто скончыў універсітэт Маскоўскі. Яны папросту маглі гаварыць аб тых дысцыплінах ці аўтарах, пра якіх я нічога не ведаў ці нават не чуў. Але гэта не азначала, што трэба кінуць усё і ехаць назад у Казань, дзе таксама нічога няма. Пра гэта не было нават і думкі.

Па плане, які скора быў зацверджаны, мне трэба было хадзіць на лекцыі па філасофіі і ў групу, дзе праходзілі нямецкую мову. Мову, якую вучыў з першага класу і нічога не вывучыў, падрыхтаваў на вячэрніх курсах у Ленінградзе. У Златавусце са мною было некалькі ленінградцаў, немцаў па паходжанню іх бацькоў (самі нарадзіліся і вы-

раслі ў Ленінградзе), а пасля з'явілася некалькі немцаў, высланых з Украіны ў Сібір у 1930 г. Я пачаў размаўляць з імі па-нямецку, каб мець практыку. Гэта былі размовы так сабе, але ж хоць што. Усё гэта прыдалося на занятках, і праз 3—4 месяцы мову я здаў. Пасля гэтага мне прыйшло ў галаў: а можа, можна здаць і польскую мову: будзе яшчэ адзін экзамен. Сказалі, можна, нават што гэта надта добра (з палякамі ў той час надта лічыліся). Тады надумаў спытацца і яшчэ: а ці можна здаць беларускую і ўкраінскую. Сказалі, можна. Такім чынам я за некалькі дзён здаў чатыры экзамены, што як сярод аспірантаў, так і адміністрацыі Інстытуту выклікала нейкае здзіўленне. Тое, на што раней ніяк не мог разлічваць, сталася нібы капіталам, на набыццё якога я не пратраціў ні аднаго дня. Дарэчы, тры славянскія мовы прыняў прафесар Бернштэйн, які пазней працаваў у Інстытуце славяназнаўства.

Здаць першы пісьмовы экзамен было непараўнана больш складана. Мой куратар, які перачытаў усе інструкцыі адносна таго, што павінен зрабіць аспірант і як павінен кіраваць ім, стараўся трымацца іх літаральна. Тэма была такая: Кобрынская эканомія пасля валочнай памеры. (Тую ж самую тэму Пічэта даў сваёй аспірантцы з Гісторыка-архіўнага інстытуту Зелянецкай.) Згодна інструкцыі я павінен быў прачытаць (не проста, а дакладна, грунтоўна) усю літаратуру аб валочнай памеры, а затым яшчэ больш грунтоўна крыніцу: апісанне эканоміі, зробленае ў сярэдзіне XVI ст. Нічога паходжага ў свой час ва універсітэце я не рабіў, не рабіў і пасля сканчэння. Гэта была першая навуковая работа. Гістарыяграфічны агляд зрабіць было адносна проста, а сама крыніца (апісанне) значна больш складана. Каб улічыць, колькі зямлі прыпадала на гаспадарку ў гарадах эканоміі (былі агародныя землі, былі маргі за горадам і яшчэ нешта), я зрабіў на кожнага гаспадара картку, а пасля пачаў зводзіць усё ў табліцу. Дастаўшы вялікі аркуш паперы, склаў зводную табліцу. Заставалася скончыць, гэта значыцца напісаць самы дослед і аддаць машыністцы, што ў той час было проста: усё напісанае машыніcткі друкавалі, як правіла. Зробленая табліца ляжала на тумбачцы ў тым пакоі, дзе я жыў, але калі стала патрэбна забраць яе ў бібліятэку, дзе я сядзеў цэлыя дні, то табліца знікла. Гэта быў жах. Я збянтэжыўся. Каб яе аднавіць, патрэбна, можа, месяц, а можа, і больш, а я абяцаў здаць усё днямі.

Перажываючы, усё чакаў гаспадыню: можа, яна куды

прыбрала. Гаспадыня прыйшла, я спытаў. «А во, я паклала нейкую вялікую паперыну на шафу»,— сказала яна. Кінуўся да шафы. Там пад старымі кнігамі ляжала мая табліца. Пазней пра падзею расказаў прафесару Лаўроўскаму. Той паспачуваў. Адзін раз, казаў ён, я склаў вялікую табліцу і кудысь паехаў за горад. Дарогаю ўспомніў, што пакінуў яе так (на такім месцы), што яе жонка магла выкінуць з розным смеццем. Тады я, казаў ён, саскочыў на хаду з цягніка і кінуўся назад. І толькі пасля прыпомніў, што было б разумней даехаць да станцыі і сесці на адваротны цягнік.

Праз некаторы час даклад, які прачытаў і прызнаў вартым куратар, быў пададзены на экзамен у камісію, дзе, па сутнасці, ўсё вырашаў Пічэта. Прызналі вартым, і я, маючы цэлых пяць экзаменаў, пачуў сябе мацней, пагроза звальнення нібы адышла. Далі адпачынак, і я паехаў у Казань, дзе к таму часу Наташа з Оляю сталі жыць заможна, ва ўсякім разе бульбы і хлеба ім ставала.

Вайна выразна ішла пад канец. Ужо быў забраны Менск, армія дайшла амаль да былой нямецкай граніцы, знаёмыя ў Казані збіраліся назад у Ленінград, і, сапраўды, позняю восенню 1944 г. усе паехалі назад. Наташа везла статак гусей, з якімі рабілі нейкія эксперыменты, а пасля па рашэнню мясцкому аддавалі каму-небудзь на абед. Спаткаў Наташу на задворках у Маскве, адкуль яна паехала ў Ленінград, а я застаўся ў Маскве. Я б мог таксама перавесціся ў Ленінград, але паколькі ў пачатку вайны мяне адтуль вывезлі, то вырашыў лепш сядзець у Маскве, не спакушаць нікога, да таго ж і ўмовы сталі лепшыя. Вярнуўшыся з адпачынку, мяне змясцілі ў гасцініцы «Якар», дзе ў той час жылі супрацоўнікі Беларускай акадэміі навук. Я ведаў, што сустракацца з мянчанамі не трэба. Самае лепшае, каб ніхто адтуль не ведаў, што я ў Маскве, іначай хто-небудзь скажа каму-небудзь і г. д. Але нічога не зробіш. Першым напаткаў Кузьму Чорнага. Я збягаў па сходах, спяшаючыся некуды, як насустрач узнімаўся Чорны. Ён быў уражаны. Гэта было дзіва не для яго аднаго. Спыніўся, хацеў нешта сказаць, але я зрабіў выгляд, што не ведаю яго, і праімчаўся далей. Затым у калідоры напаткаў на Купаліху. Тут падзявацца не было дзе. Загаварылі. Яна паклікала і пачала чытаць свае ўспаміны пра Купалу. Яшчэ праз дзень напаткаў на Алеську Александровіч. Тая пачала казаць пра сваіх хлопцаў, якія яны харошыя, выдатнікі. Усё гэта непакоіла, але дзявацца не

было куды. Сустрэчы адбываліся рэдка, бо, выходзячы з «Якару» ў палове дзевятай рана, прыходзіў каля дванаццаці ночы, калі людзі ў большасці спалі. Затым усе паехалі ў Менск, і стала спакайней.

Але сустрэчы з землякамі былі і далей. Стоячы ў бібліятэцы, чакаючы кніг, за два-тры чалавекі перад сабою ўбачыў Змітру Бобрыка. Чуў, што ён, скора пасля сканчэння універсітэта, стаўся дырэктарам Інстытуту аспірантуры пры Акадэміі ў Менску. Выгляд у яго заўсёды быў жулікаваты, тое ж засталося і далей. Мы паглядзелі адзін на другога, але не падалі выгляду, што знаёмыя. Больш яго не бачыў. Відаць, ён прыязджаў на кароткі час. Бобрык паходзіў з Віленшчыны, гэта значыць з Заходняй Беларусі. У 1937—1938 гадох такіх забіралі і стралялі. Бобрыку, значыцца, пашанцавала: ён не толькі застаўся жывы, але нават не трапіў на Калыму ці куды яшчэ.

Пазней спаткаўся з Іларыёнам Барашкам. Калісь ён вучыўся ў рэальным вучылішчы і ішоў раней за мяне на год. Пасля, яшчэ ў 1920 ці 1921 годзе, пачаў працаваць у Архіве, загадчыкам якога быў Жылуновіч. Скора вызначылася, што ён быў чалавекам надта спрытным. Часам у друку з'яўляліся дробныя нататкі за яго подпісам. Скора пасля ўзнікнення «Маладняка» ён стаў членам аб'яднання, магчымасці друкавання ўзраслі. Праз яшчэ невялікі час даведаўся, што ў Барашкі была чэкавая кніжка арганізацыі, а калі наладзілі вечар «У рожкі са старымі», то на афішы стаяла «адказны распарадчык І. Барашка», яшчэ пазней ён стаў намеснікам рэдактара «Чырвонай змены», а пасля рэдактарам нейкага выдання. Калі з 1929 г. пачалі раз за разам выяўляцца розныя ворагі, то відны ўдзел у выкрыцці прыняў Барашка. Ён пісаў ва ўсіх жанрах: вершы, апавяданні (пазней кінасцэнарыі), нарысы (у той час даводзілася, што людзям якраз патрэбны нарысы, а не нейкія там аповесці, раманы ці вершыкі). Гэта было зусім прыдатна для тых, хто лічыўся пісьменнікам, не маючы літаратурнага таленту. Пасля пайшло далей. Барашка пачаў выкрываць невуцтва прафесароў і наогул навукоўцаў. Паколькі ён, скончыўшы пяць класаў рэальнага вучылішча (здаецца, так), нідзе больш не вучыўся, то гэта якраз адпавядала стылю эпохі. Мяне надта ўразіла, як Барашка крытыкаваў артыкул Даўгялы, прысвечаны цыганом. Даўгяла напісаў, што па невядомых прычынах цыганы валочацца ўжо тысячу гадоў па розных краінах. Барашка, які, відаць, ведаў значна больш Даўгялы, ва ўсякім

разе ведаў, што пра цыганоў пісалі царскія чыны розныя плёткі, сапраўды ж цыгане — гэта працавіты і сумленны народ, напісаў, што беларускі «вучоны» Даўгяла пляце пра цыганоў во што.

Спаткаўшыся з Барашкам, як гаворыцца, нос у нос, мы «не пазналі» адзін другога. Апошні раз спаткаўся з ім у тралейбусе. На Барашку было футра з бабровым каўняром і бабровая шапка, якую калісь насілі багатыя паны. Ад Шушкевіча даведаўся, што ён у той час быў дырэктарам Мастацкага музею імя Пушкіна. Убачыўшы яго, думаў, калі загаворыць, спытаць: «Ці не ў бабровым запаведніку ты». Але ён не сказаў нічога, нічога і я. Трэба было мець вялікую адвагу, каб пайсці на пасаду дырэктара сусветна вядомага музею. Але хто ж такі яго прызначыў. Як той разумеў у мастацтве?

Тут трэба яшчэ раз вярнуцца ў Менск 20-х гадоў, каб успомніць, што я там здабыў па навуковай частцы. Перш за ўсё Пічэта. Ён умеў вучыць і любіў гэту справу. Але каго яму давялося вучыць? У параўнанні з тымі, хто разам з ім вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, мы былі, ведама, невукі. Перш за ўсё мовы. Хто раней канчаў гімназіі, той ведаў (калі не даскапала, то добра) лацінскую, грэчаскую мовы і французскую, а некаторыя яшчэ англійскую і нямецкую. У нас тых, хто скончыў гімназію, было зусім мала, ды і яны звычайна давучваліся ў гады вайны і рэвалюцыі, калі лацінская і, тым больш, грэчаская мовы былі зусім не ў пашане. Што тычыцца новых, то ў мой час самай папулярнай была нямецкая. Там, у Германіі, наспявала рэвалюцыя, не кажучы пра тое, што там была адзін час Баварская савецкая рэспубліка, менш ахвотнікаў было да французскай і яшчэ менш да англійскай. Таму, калі раней зусім проста было кіраўніку семінара даць літаратуру на замежных мовах, то для нас гэта было немагчыма. Нават польскую ведалі мала (зусім мала) хто. Зважаючы на ўсё гэта, кіраўнік і даваў заданні.

Мая асабістая практыка ў даследчай рабоце была зусім слабая, а гэта азначае — амаль такая, як і ва ўсіх. У семінары Пічэты я ўзяўся параўнаць канстытуцыі (парэвалюцыйныя, зразумела) Польшчы і Літвы. Тую ж тэму ўзяў Цмыг. Параўноўваючы, я заўважыў, што ў Польшчы ў сойме дзве палаты, а ў Літве адна. Да большага не дайшло. У Цмыга было яшчэ горш. Ён сказаў, што літоўская канстытуцыя з'яўляецца кепскаю копіяю польскай. Пічэта на гэта заўважыў, што катэгарычныя вывады рабіць не трэба,

лепш больш грунтоўна ўчытвацца і прабаваць знайсці прычыны — чаму ў адной краіне так, а ў другой інакш, што канстытуцыя адбівае той дзяржаўны і сацыяльна-эканамічны лад, які ўстанавіўся ў краіне, і г. д. Па Статуту я толькі некалькі разоў чытаў асобныя артыкулы, але спецыяльна даследчай работы не праводзіў. У семінары Даўгялы ён сам больш тлумачыў такія крыніцы, як «Руская праўда», але не памятаю, каб даваў тэмы для самастойных доследаў. У семінары Краскоўскага па летапісах Краскоўскі вызначаў мяне як самога большага на семінары знаўцу крыніц, але гэта таму, што сам ён ведаў занадта мала, перад семінарам ён проста праглядаў летапіс за той ці іншы час, і ўсё. Тома семнаццатага летапісаў ён, наколькі зараз помніцца, нам не даваў, а можа, і сам не чытаў. На ўсіх іншых семінарах давалася літаратура звычайна небагатая, кнігі ці нават артыкулы з розных часопісаў, і студэнту належала напісаць па прачытанаму канспект. Герчык, які чытаў курс «Гісторыя сацыялізму» і палітэканомію (гэта быў выдатны лектар), на семінарскіх занятках вымагаў больш, чым звычайна, але гэта таксама не было колькі-небудзь сур'ёзна.

Тыя экзамены, якія мы здавалі вусна, таксама мелі школьны характар. Сяк-так азнаёміўшыся з тою ці іншаю кнігаю, ішлі здаваць. Калі студэнт хоць што-небудзь ведаў, то прафесар браў заліковую кніжку і пісаў, што здаў, калі не было і таго, то прасілі зайсці яшчэ раз. Пры ўсіх умовах пісалася «зачтено», і ўсё. З курсу на курс пераводзілі, не зважаючы на тое — здаў ты ўсё, што належала, ці не. Можа, каго і застаўлялі, але гэта было відаць у тым выпадку, калі студэнт ужо зусім нічога не рабіў. Ва ўсякім разе Антон Рагоўскі, з якім быў разам у школе, на ўступных экзаменах, на якіх таксама амаль нічога не вымагалі (праф. Беркенгейм, да якога я трапіў па прыродазнаўству, запытаў — ці вялікая рыба кіт, на што я, спяшаючыся, адказаў, што кіт гэта жывёла, а не рыба), зарабіў тры двойкі. Яго прынялі з умоваю, што здасць у час навучання. Аднак пра гэта ніхто не ўспамінаў, і Рагоўскі пры пераходзе на другі курс не здаў большасць экзаменаў, не зважаючы на гэта, яго перавялі на трэці курс. Ён быў ва універсітэце, аж покуль гэта гульня яму не абрыдла і ён, кінуўшы навучанне, пайшоў на работу на насенную станцыю (вучыўся на прыродазнаўчым аддзяленні).

Відаць, аднак, што ў мяне справа не была такою ўжо кепскаю, бо я за мінулыя пятнаццаць гадоў шмат што

прачытаў, значна больш, чым гэтага вымагаў універсітэт. Калі ў 1935 г. мяне прызначылі настаўнікам гісторыі, то не было не толькі якіх-небудзь падручнікаў, але нават талковых праграмаў, затое было забаронена чытаць (гэта значыцца карыстацца) працамі Пакроўскага, Салаўёва, Ключэўскага (буржуазныя гісторыкі, якія могуць давесці настаўніка да шкодных вывадаў). А выкладаць, аднак, было трэба. Давялося ў бібліятэках расшукваць усякую літаратуру па тых пытаннях, якія вымагала праграма. Тое ж было і ў Ленінградзе. Той убогі падручнік па гісторыі СССР, які выйшаў у 1937 годзе і які быў абвешчаны як найвялікшае дасягненне савецкай навукі, мог сяк-так задаволіць тых, хто ўжо зусім нічога не ведаў і які прызвычаены быў свае думкі здабываць з газеты. Таму па агульных пытаннях я, можа, быў падрыхтаваны не горш, чым выпускнікі Маскоўскага універсітэту, а працуючы настаўнікам, я набыў добрую практыку выкладання, навучыўся выказваць тое, што думаў, у яснай форме. Гэта таксама прыдалося.

Прыблізна з верасня 1944 г. пачаў жыць у «Якары» і пражыў там каля трох гадоў, калі канчаткова «выставілі». Прапіску за гэтыя гады давалі толькі на два месяцы. Калі гэтыя месяцы канчаліся, маладзенькая пашпартыстка Ніна забірала пашпарты, і на іх рабіўся новы запіс «продлено». Адзін раз мяне паклікалі ў міліцыю. Ішоў туды, не спадзяваючыся на што-небудзь добрае, лепш кажучы, мог штодня чакаць высылкі. Гэта азначала не толькі страту магчымасці вучыцца, але нешта горшае: я быў яшчэ такі слабы, што была пэўная спадзяванка, што турмаў, перасылак, голаду не вытрываю, але калі клічуць, то трэба ісці. Прыйшоў, паказаў павестку, начальнік зірнуў на яе, нібы не ведаючы, нашто яна. Стаю, чакаю, начальнік маўчыць. Урэшце пытаю — нашто мяне паклікалі. Начальнік сказаў, што можна ісці. Пайшоў. Дарма такое не бывае. Едучы ў Маскву, я спадзяваўся, што зараз уладам стае тых злачынцаў, якіх забіраюць у раёнах, дзе былі немцы. Гэта было сапраўды так, таму толькі і можна было жыць у Маскве, але ж начальства такі мела на воку і тых, хто сядзеў раней. Выклікалі нездарма, але так абышлося. Другі сігнал быў неафіцыйны, але больш праціўны. Я сядзеў у чытальні Інстытуту, як да мяне падышоў мажны мужчына з томам Леніна ў руках і папрасіў растлумачыць нейкае месца, якога ён не мог адужаць. Чалавека гэтага я ведаў толькі здалёк. Гэта быў літаратуразнавец

Гутараў. Пра яго казаў дактарант Беларускага універсітэту Бараг, які жыў са мною ў адным пакоі. Ён казаў, што Гутараў надта небяспечны чалавек, і я ўразумеў, што той або служыць у «органах», або інфармуе органы аб розных людзях. Не было цяжка здагадацца, што ніякага тлумачэння ад мяне Гутараву не было патрэбна, гэта была зачэпка для размовы. Я сказаў, што зусім не знаўца тых пытанняў, якія цікавілі Гутарава, і на гэтым справа скончылася. Скарэй за ўсё гэта не была ініцыятыва самога Гутарава, як бы ні было, а за мною назіраюць. Што будзе далей? Далей, на працягу пяці гадоў, было без усякіх прыгодаў, аж пакуль не пачалі ізноў навокал шукаць ворагаў.

У пакоі ў «Якары» нас жыло чатыры чалавекі: два аспіранты і два дактаранты. Усе мы былі «ў гадох», адзін нават старэйшы за мяне. Барыс Долгіх у 1926 годзе, яшчэ студэнтам Маскоўскага універсітэту, паехаў на Таймыр перапісваць насельніцтва. Відаць, ён цікавіўся гэтым раёнам, кажучы больш дакладна, цікавіўся насельніцтвам Таймыра ў якасці этнографа. У 1930 г. яго забралі, далі добра па зубах і адаслалі ва Усходнюю Сібір на тры гады на высылку.

*Публікацыя А. Улашчыка*



*Алеся Бабарэка*

## МАМІНЫ ПЕСНІ

Мама спявае беларускія песні... Менавіта такой успамінаецца яна мне ў апошнія гады яе жыцця. Ніколі гэтых песень я больш не чула. Ніхто са знаёмых нашых беларусаў іх не ведаў, і беларускія ансамблі іх не выконваюць. Песні гэтыя запомніла мама з голасу сваёй маці Магдаліны. Памерла яе маці зусім маладой, 46-ці — 48-мі гадоў. Маці маёй у той час было ўсяго трынаццаць. Часта мама нам з сястрой расказвала пра ўсю сваю сям'ю, асабліва пра маці. Ведаю, што ўсе матчыны песні — гэта песні Магдаліны.

Родам мая мама з вёскі Шулякі Кастравіцкай воласці, Слонімскага павету, Гродзенскай губерні. Захавалася паданне, што яе прадзед служыў дзеншчыкам у Кутузава і за службу атрымаў кавалак зямлі. Сын ягоны, мамін дзед Бенядзікт, у прастамоўі Банадысь, любіў гуляць у карты, піць віно і ўшчэнт разарыў сваю гаспадарку. Мамін бацька Янка Дзянішчык, адзіны сын Банадыся, як толькі падрос, узяў гаспадарку ў свае рукі і хутка яе наладзіў. Пра жаніцьбу Янкі з Магдалінай расказвала мама. Пасвіў Янка ў лесе каня, пачуў, як цудоўна спявае дзяўчына, пайшоў на голас. Так і пазнаёміліся. Пакахаў Янка Магдаліну за песні. Меладычныя, прыгожыя, толькі большай часткай невясёлыя, сумныя.

Ясная заранучка, ясная за-а-раначка
    па залесейку ходзіць...
Па залесейку ходзіць, па залесейку хо-о-дзіць,
    хмаркай апусьціўшыся...
Хмаркай апусьціўшыся, хмаркай апу-у-сьціўшыся,
    дожджычкам абліўшыся...

Маладзенька дзеванька, маладзенька дзеванька
    па залесейку ходзіць...
Па залесейку ходзіць, па залесейку ходзіць,
    коскай апусьціўшыся...
Коскай апусьціўшыся, коскай апусьціўшыся,
    сьлёзкамі абліўшыся...

Усе песні пачынаюцца з карцінкі прыроды. Для беларускіх дзяўчынак і хлопчыкаў — герояў гэтых песень — прырода і адлюстраванне настрою, іх думак, і сведка няўдач і бед.

Ці ня быстра рэчка
вады замуціла,
Чаго плачаш, дзяўчыначка,
ці не матуля біла?
Ой біці ня біла,
сама засмуціла,
Бо ня даў мне Бог,
не судзіў мне Бог,
Каго шчыра любіла.

—

Зялёны дубочак у яр нахіліўся.
Малады малойчык, чаму зажурыўся?

—

Ці я ў лузі ні бярозка расла,
Ці я ў лузі ні зялёная была?
Узялі мяне, ды зламалі,
ды ў пучочкі павязалі.
Мусіць, трэба была, мусіць, трэба была...
Ці я ў мамкі ні дачушка была,
ці я ў мамкі ні вясёлая была?
Узялі мяне ды згубілі,
за нямілага аддалі.
Мусіць, трэба была, мусіць, трэба была...

—

Ой зыдзі, зыдзі, ясны месяцу,
як млыновае кола.
Выйдзі, дзяўчына, сэрцу ядына,
пагаворым з табою...

Кветкі, птушкі, звяры жывуць у маміных песнях. Частыя госці ў іх гусі, галубы.

Ляцелі гусанькі цераз сад,
клікнулі-гукнулі на ўвесь сад.
Клікнулі-гукнулі на ўвесь сад:
«Час табе, дзяўчыначка, на пасад».
Ляцелі гусанькі да дубу:
«Час табе, дзяўчыначка, да шлюбу».

—

Плылі гускі, плылі ціхаю вадою.
Выйдзі, выйдзі, дзяўча, размоўся са мною.

—

Прыляцелі гусі з далёкага краю,
селі ж яны, палі на ціхім Дунаі.
Ці ня з тога вы краю, скуль дзяўчынку я маю?
Раскажыце, гусі, я вас запытаю...

Гэту песню мы пяялі ўсёй сям'ёй, заканчвалі словамі:

Прылятайце, гусі, прылятайце, гусі,
весьці прынасіце з роднай Беларусі...

Такіх слоў у песні няма, відаць, гэта мой бацька сам прысачыніў.

Адна песня мне асабліва памятная, як быццам пра маму складзена; пела яе маці з вялікім пачуццём.

Пад калінаю, пад малінаю
сядзеў галубчык з галубінаю,
сядзеў галубчык з галубінаю.
Прыляцеў ахотнік з-за сіняга мора,
забіў галубочка, галубка ўдова. (2 разы)
Сыплюць пшаніцу, ставяць вадзіцу:
«Еш, галубіца, бедна ўдавіца». (2 разы)
Яна ня ела, яна ня піла,
па галубочку ўсё сьлёзы ліла: (2 разы)
«Мо-ой міленькі, чорнабрывенькі,
твар белюсенькі, сам маладзенькі,
твар белюсенькі, сам маладзенькі...»

Многа слёз праліла мама па бацьку, успамінаць пра яго без слёз не магла. Толькі ніхто нашай удавіцы нічога не прыносіў, многа працаваць ёй прыйшлося, мы яшчэ не памочніцы былі: засталіся без бацькі не такімі вялікімі, мне 9, сястры 11.

Вярнуся да мамінай сям'і Дзянішчыкаў. У дзеда майго было 9 чалавек дзяцей, двое апошніх, блізняты, памёрлі немаўлятамі. Засталіся чатыры сыны і тры дачкі, мама мая — самая малодшая. Любілі яе, песцілі як малодшую і за тое яшчэ, што вельмі спяваць любіла, усе песні маці сваёй вывучыла. Голас у мамы прыгожы, высокі, палётны. Браты часта прасілі яе: «Заспявай, Ганулька, птушачка!»

Песні нашы пяшчотныя, паэтычныя! Любімыя ў іх з зарой і кветкамі раўнаюцца: «мой ружовенькі цвету», «кветачка мая», «красачка мая», «ты сама, як на небе ясная зара...»

Ёсць песні і пра горкую долю, няшчаснае каханне, пра нежаданага суджанага, горкае замужжа.

...Любіліся, кахаліся, нас людзі ня зналі,
разышліся рассталіся, як цёмныя хмары...

---

Каб я знала, каб я ведала
сваё горка замужанятка.
Не шла б замуж, а ўсё ў мамкі б жыла...

---

Ой згубіла мяне маці, згубіла.
За п'яніцу-нядбайліцу аддала...

—

...Лепей бы мне, маці, горкі палын піці,
як нялюба друга саколікам зваці.

—

...Ці сладка, мама, рэдзька ў палыне —
так добра жыці мне на чужыне...

—

Учоры была дзяўчына мая,
сягодня з другім заручаная...

Сумная песня пра развітанне салдата з сям'ёй:

...Да бывай, бывай ты, жана малада,
ды заставайся ты навекі ўдава, (2 разы)
ды застанецца ныш сынок сірата.

Памятаю матывы многіх маміных песень і манеру выканання. Музычныя фразы ў гэтых песнях часта не закончаны, і ствараецца ўражанне, што песня перарвана раней часу і павінен быць працяг. Некаторыя песні пяюцца «з прыдыханнем». Гэта значыць, што ў асобных вершах апошні ў страфе склад не прапяваецца, прыглушаецца. Страфа заканчваецца як бы ўздыхам — шэптам.

...О, я зельле піці буду,
із губ не выпу-у- (шчу)
Тады цябе я забуду,
як вочанькі сплю-ю- (шчу)

Такое напісанне строф я сустракала ў іспанскіх вершах, прыведзеных аўтарам «Дон-Кіхота».

Если ты решила кни- (га)
путь направить к тем, кто зна- (ет)...

Верагодна, гэта напісанне таксама адлюстроўвае своеасаблівую манеру выканання вершаў народнымі бардамі.

І тэмы, і мелодыка беларускіх гродзенскіх песень (такая задушэўная, лірычная, афарбаваная лёгкім сумам) адлюстроўваюць характар нашага народа, ягонае доўгацярпенне, лірычны склад душы, рысы ахвярнасці, вернасці, самаадданасці, але побач з гэтым і некаторую інфантыльнасць, гатоўнасць скарыцца лёсу. Плача нявеста:

...Маці мая, маці, парадніца ў хаці,
парадзь жа мне, маці, як нялюба зваці...

—

—

...ня шла б замуж, а ўсё ў мамкі б жыла.
Ела б, піла ўсё й гатовенькае
а насіла б ўсё й бялёвенькае...—

гаворыць маладая, нешчаслівая ў замужжы жанчына. Другая — у адказ на загубленую долю:

...Мусіць, трэба была...

Самаадданa пяе маці сыночку:

...Ой і люлі-люлі, мой малы сыночку,
дзеля цябе ж скіну пасьледню сарочку...

Дзяўчына — каханаму:

...Тады цябе я забуду, як вочанькі сплюшчу...

Гучыць бажба:

...Скарай мяне, Божа, на душы, на целі,
калі я замысьлю аб іншай дзяўчыні.
Скарай мяне, Божа, на каню,
калі я замысьлю аб каму.

Матывы помсты, пратэсту рэдка сустрэнеш у нашых спевах, але бывае і так:

Два галуба ваду пілі, а два купаліся,
бадай тыя паўміралі, што з нас сьмяяліся.
Два галуба ваду пілі, а два калацілі,
бадай тыя паўміралі, што нас разлучылі.
О, ніхто нас не разлучыў, як той сусед блізкі,
бадай жа ён марна прапаў, як той Камяніцкі.

Няма ў гродзенскіх песнях ні хвацкага гікання, ні вісклівых ускрыкванняў, якія можна пачуць пры сучасным выкананні беларускіх песень. Хутчэй за ўсё гэта хвацкасць пазычана ад манеры выканання некаторых рускіх песень. У маміных песнях рускага ўплыву не адчувалася. Па афарбоўцы мелодый і манеры выканання яны цалкам самабытныя. Суседства з Украінай адчуваецца, але не ў самой манеры выканання, а па ўпамінанню нашых паўднёвых суседзяў.

...Пушчу каня я на Украіну,
а сам пайду ды на чужбіну...

—

...Няхай гаворацць, няхай гаворацць,
ды хоць бы на Украіну,
я цябе любіў, любіці буду,
ніколі не пакіну...

—

Ой на сінім моры тры казака йграюць,
ой, на сінім моры дзяўча патапае...

І казакі, і мора, і Дунай у беларускіх песнях таксама, відаць, ад нашых паўднёвых суседзяў.

Пела мама і жартаўлівыя песні:

Мне казалі, сват наш вельмі харош,
а ў свата доўгі буслаў нос...

—

Выйшаў стары за варота,
кінуў штаны ў балота...
Ідзі, жана, штаны знайдзі,
як ня знойдзеш, у хату ня йдзі.
Латуці, латуці, латуцінькі, латуці...

—

У месяцы верасьні выпала пароша.
Дзед бабу палюбіў, што баба хароша.
І крывая, і глухая, яшчэ к таму злая...

У мамінай сям'і ўсе любілі пяяць, але і працаваць умелі добра. Дзед Янка валодаў 15 дзесяцінамі зямлі, багата было і жывёлы: тры кані, пяць-шэсць кароў, столькі трымалі дзеля гною, авечкі, свінні, так што дзецям з малых гадоў даводзілася дапамагаць па гаспадарцы, а летам працавалі ўсе: і самыя малыя, і старыя. Зімой старэйшыя ад'язджалі вучыцца. Дзед толькі аднаго малодшага сына не вучыў пасля заканчэння школы. Усе астатнія дзеці пасля сельскай школы працягвалі вучыцца: сыны заканчвалі настаўніцкую семінарыю, а дзяўчаты вучыліся ў гімназіі. Не хацеў дзед дзяліць участак на ўсіх сыноў, а думаў пакінуць гаспадарку аднаму (малодшаму) сыну. Справа ў тым, што ў Гродзенскай губерні не было абшчыннага карыстання зямлёй і перадзелаў зямлі «па едаках», такім чынам, калі сыны падрасталі, то бацька дзяліў паміж імі свой участак. Многія ў вёсцы страшна збяднелі, асабліва ў сем'ях, дзе было многа сыноў. Зямлі ім даставалася вельмі мала. Мама ўспамінала, што была ў іх вёсцы сям'я па прозвішчы Кнігі, дык палоска зямлі ў іх — рукі раскінеш, вось і ўся шырыня гэтай палоскі. Дзеці Кнігі хадзілі ў школу, але вучыліся кепска. Бацькі іх папракалі: «Глядзіце, як Янкавы вучацца добра», на што дзеці адказвалі бацькам: «Янкавы хлеб з салам ядуць, а ў нас і пустога хлеба няма».

Вось тут і ўспамінаецца жаласная песня, як брат ад сястры хлеб хаваў.

Хавай, жана, хлеб-соль з стала.
Хавай, жана, хлеб-соль з стала.
Едзе ў госьці сястра мала.
Сястра тое як пачула, (2 разы)
назад коні павярнула:
«Ціха, братка, не пужайся, (2 разы)
з сваім хлебам не хавайся.
Бо ёсьць у мяне свой хлеб у возе, (2 разы)
будзе абед пры дарозе.
А вадзіца ў каляіне, (2 разы)
будзе абед на чужбіне...»

Старэйшы мамін брат Астап на бацькавы грошы вучыўся, а другія браты і сёстры вучыліся ўжо з дапамогай старэйшага, так адзін за адным і вывучыліся. Бацьку мамінага вельмі паважалі ў вёсцы менавіта за тое, што дзяцей вучыць, што сам да кнігі цягнецца. Аднавяскоўцы жартавалі: «Яначкаў бог — Тоўсты (Талстой)». Хадзілі да яго часта за парадай у справах. А справы былі такія — патравы панскіх палёў, у панскім лесе парубкі. Як казаў мой дзед: «Хто ў лесе не злодзей — у хаце не гаспадар». Паскардзіцца пан на самаўпраўства сялян, прыйдуць у вёску жандары. А ўжо хто-небудзь з сялян папярэдзіць. Назбіраюць камянёў поўныя кішэні і ў балота. Жандары на конях пад'едуць да балота, далей ходу няма, а сяляне іх каменнем сустракаюць. Пакруцяцца, пакруцяцца коні, і павернуць коннікі назад. А пасля ў суд сялян выклікаюць. Вось тут і ідуць яны за парадай да дзеда, а то і з просьбай, каб быў на судзе за адваката. Калі Янка абаронцам — больш шанцаў працэс выйграць. Трапляў пад суд і Янка, уставала пытанне: у «халоднай» тыдзень адседзець альбо штраф плаціць, калі суд не ў яго карысць вырашыць. Дзед жартаваў: «Сто рублёў не грошы, мужык не брат». Пра аднавяскоўцаў мама ўспамінала, што хоць і голадна многія жылі, але вельмі баявыя былі, адно слова — каршуны (вёска Шулякі — тое, што і Каршуны, так нам мама тлумачыла). І сама малая Ганна гарэзлівая была. Раз выдумала, гадоў шэсць ёй было, на свінні паездзіць. Во ўжо віску было! Папала ёй за здзек над кныром. Добра, што сама цэлая засталася. А наогул усе з пяшчотай ставіліся да жывёл. Зімой карова целіцца, авечкі коцяцца — маладняк у хату нясуць. Любіла мама ягнятак і цялятак у «пычкі» цалаваць. Вось і ў песнях пра жывёл заўсёды з пяшчотай гаворыцца: «конік», «кароўка», «валы палавенькія».

Вучылася мама ў вышэйшым пачатковым вучылішчы

ў г. Слоніме. Калі пачалася вайна 14-га года, маміны браты былі прызваныя ў дзеючую армію, а бацькі і тры дачкі на сваіх конях і падводах выехалі ў эвакуацыю ў Расію. Па дарозе захварэла Магдаліна, як спыніліся ў Менску, памерла. У Мядынь (Калужскай губерні) прыехалі сіротамі. Мама мая стала хадзіць у гімназію, старэйшыя яе сёстры хутка павыходзілі замуж. Дзеці і ўнукі маёй цёткі Любы жывуць у Маскве і Менску, дзеці і ўнукі цёткі Ірыны — на цаліне.

Успамінала мама пра сваё першае ўражанне ад мядынскіх гімназістак. Абкружылі яе, церабілі за сукенку: «Ты хто? Адкуль? Бежанка?» Усё гэта ўзбуджана, нервозна, як маме падалося. У Слоніме вучаніцы больш спакойна і паважліва адна да адной ставіліся. Пасля звыклася мама і сябровак сярод аднакласніц завяла. Ёсць фатаграфія мядынская, дзе мама з дзвюма сяброўкамі знята. Усе трое ў строгай форме. У мамы сур'ёзны, самапаглыблены, крыху адчужаны выраз твару.

У 19—20-х гадах частка мамінай сям'і вярнулася на Беларусь: бацька — на сваю зямлю, мама паехала настаўнічаць у раён, дзе да таго часу пасяліўся яе брат Макар. Цікавага лёсу гэты чалавек, хаця многае з яго жыцця мне невядома. У перыяд станаўлення БНР быў ён прыметным дзеячам, здаецца, састаяў у партыі эсэраў. Увайшоў ва ўрад БНР у якасці міністра сельскай гаспадаркі ці ў якасці таварыша міністра. Калі на Беларусі ўстанавілася савецкая ўлада, ён атрымаў месца кіраўніка вялікай узорнай савецкай гаспадаркі, якую арганізавалі ў буйным маёнтку. Жылі брат з мамай у памешчыцкім доме. З партыі Макар выйшаў, але працягваў жыць пад сваёй партыйнай мянушкай. Прозвішча не памятаю, а вось імя — Міхалка. Усяго гэтага мы з сястрой у дзяцінстве не ведалі і вельмі здзіўляліся, што наша мама свайго брата то Макарам, то Міхалкам называе.

Жаніўся Міхалка, і стала дзвюм гаспадыням у вялікім доме цесна. Наведаў маму яе стрыечны брат Янка Бялькевіч, пабачыў яе незайздроснае становішча ў доме і параіў ехаць у Менск вучыцца, паступаць у БДУ. Так мама ў Менску апынулася. Матэрыяльнай падтрымкі ёй ніадкуль не было. Трэба было самой трымацца. Паступіла працаваць у школу рабочай моладзі і вучыцца на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. З паступленнем на працу звязаны абставіны яе знаёмства з маім бацькам Адамам Бабарэкам. Мама так пра гэта ўспамінала. Заходзіць яна ў

РАНА і ў дзвярах-вяртушцы сутыкаецца з маладым чалавекам: ён цягне дзверы на сябе, яна — на сябе. Рассмяяліся і разышліся кожны ў свой бок. Атрымала ў той жа дзень назначэнне на работу ў вячэрнюю школу, прыходзіць туды, сустракае яе загадчык навучальнай часткі, той самы малады чалавек. Вось так і пазнаёміліся. І ва універсітэце ў адной групе апынуліся. Гады вучобы ва універсітэце і наступныя гады жыцця ў Менску ўспамінала мама як самыя шчаслівыя ў сваім жыцці. Пажаніліся Ганна і Адам, нарадзілася дачка-першынец у 25-м годзе, Элеанорай назвалі. Закончыла мама універсітэт, тут і другая дачка нарадзілася — Алеся. Мама сябе адчувала шчаслівай, толькі адзінае прыгнятала, што не выпала ёй па заканчэнні універсітэта працаваць. Прывыкла працаваць з дзяцінства: нялёгкая сялянская работа ў бацькоўскім доме, з семнаццаці гадоў — работа ў школе, а цяпер дома сядзі. Бацька мой яе суцяшаў: «Сядзі з дзецьмі, Аня, яшчэ напрацуешся». Прадугадаў, колькі маці працаваць прыйшлося пасля арышту бацькі і пасля яго гібелі. Памятаю, стаміўшыся, засынала яна над стосамі вучнёўскіх сшыткаў, што дамоў насіла выпраўляць.

Падраслі мы з сястрой, сталі маці дапамагаць, правяралі сшыткі яе вучняў: дыктоўкі, сачыненні, дамашнія заданні. Сястра мая, усё сваё жыццё чытаючы кнігі, газеты, перш за ўсё памылкі заўважала — з дзяцінства звычка выпрацавалася памылкі ў тэксце фіксіраваць.

Вярнуся да менскага перыяду мамінага жыцця. Бацька быў вельмі заняты работай: ва універсітэце на кафедры прафесара Піятуховіча, у часопісах літаратурных аб'яднанняў, ля вытокаў якіх ён стаяў («Маладняк», «Узвышша»). Аб'яднанне «Узвышша» было арганізавана ім супольна з групай маладых пісьменнікаў і паэтаў, якія выйшлі з «Маладняка». Чытаў лекцыі па беларускай мове і літаратуры ў Менскім камуністычным універсітэце, пісаў крытычныя артыкулы, апавяданні. Мама была ў курсе ўсіх яго пачынанняў, добрай разумнай субяседніцай і дарадчыцай. Калі ў 30-м годзе пачаліся ваколлітаратурныя «дыскусіі» з абвінавачваннем пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва ў нацдэмаўскіх грахах, яна першай адчула небяспечнасць сітуацыі, стрымлівала рэзкія адказы бацькі і яго таварышаў на правакацыйныя выпады супраць членаў «Узвышша». А ведала яна ўсіх узвышэнцаў добра, часта яны ў нас дома збіраліся, таму што гаспадыня гасцінная альбо што кватэра вялікая. Звычка да вялікага застолля

была ў мамы з дзяцінства: сям'я вялікая, меней чым 10 чалавек за стол не садзіліся, і Аня стала рана сваёй маці дапамагаць усіх накарміць, так што гасцей прымаць за працу не лічыла, любіла гасцей у хаце. Амаль кожны дзень заходзіў К. Крапіва, а яго жонка Лена з сынам Барысам яго ўжо ў нас чакала. Прыходзілі У. Жылка, Кузьма Чорны, З. Бядуля, Антось Адамовіч, Язэп Пушча з жонкай Стасяй і дачкой. Прыязджаў з Масквы Уладзімір Дубоўка адзін ці з жонкай Марыляй. Летам дачы здымалі кампаніяй у Карловішчах. А пасля арышту Адама летам 30-га года апынулася мама без увагі і дапамогі сяброў, тых, што засталіся на волі. Усё жыццё ўспаміналa, што не заглянулі больш у дом ні Адамаў сябар, ні ягоная жонка.

Вазілі бацьку на допыты з менскай турмы ў маскоўскія Бутыркі. Хацелі грандыёзны працэс арганізаваць. Толькі ніхто з арыштаваных узвышэнцаў не падпісаў напісаных следчымі паклёпаў на іх. І адправілі ўсіх, хто праходзіў па гэтай справе, у ссылку большай часткай у Вяцкую вобласць, Чувашыю, Марыйскую АССР. Бацька трапіў у г. Слабадскі за 30 км ад Вяткі; абодва гарады на рацэ Вятцы стаяць. Летам 31-га года ўся наша сям'я сабралася ў Слабадскім. Мама ў школу пайшла працаваць, бацька — бухгалтарам, а мы, малыя дзеці трох і пяці гадоў, дома адны заставаліся. Цяжкі быў час, галодны. На ўвесь дзень пакідалі нам па шклянцы малака і кавалку чорнага хлеба. На ўсё жыццё запомнілася, як дробна крышылі хлеб у малако і лыжачкай елі такую «кашку». Смачна вельмі было! А гулялі так: горку посуду накрывалі ручніком — гэта «палаты», а людзі, якія ў іх жылі,— алоўкі. На алоўкі надзявалі выразаныя з паперы «сукенкі». Мама нам нажніцы давярала. Сястра мая Лора такая разумная была, што пяцігадовую яе за няньку са мной пакідалі. Лета і пачатак восені адны дома праседзелі, а пасля маці мяне ў дзіцячы садок аддала, а сястру маю за некалькі дзён да яе шасцігоддзя ў школу — двух месцаў у дзіцячым садку для нас не знайшлося. Аддалі сястру адразу ў другі клас, так што школу яна скончыла ў 15 гадоў і ў інстытут без пашпарту паступала. Разам з сястрой чытаць і я вывучылася. Памятаю, бацька мяне чатырох год у дзіцячую бібліятэку запісвацца павёў. Стала я кніжкі выбіраць, адну з тэкстам і карцінкамі ўзяла, а другую — з вялікімі параходамі — карцінкамі і без тэксту зусім. Бацька ўгаворваў другую выбраць, што ў гэтай чытаць няма чаго. Але я так і панесла яе дамоў.

Любілі мы вечарамі, святла не запальваючы, беларускія песні спяваць усёй сям'ёй. Гродзенскія песні мама пяяла адна, а мы слухалі. Разам жа пяялі зусім іншыя песні, многія з іх на словы беларускіх паэтаў Багдановіча, Купалы: «Зорка Венера ўзышла над зямлёю», «Не кувай ты, шэрая зязюля», «У бубны дахаў вецер б'е»; вядомыя беларускія песні: «Купалінка», «У полі вярба», «Чаму ж мне ня пець», «Лявоніха».

У Слабадскім, акрамя нашай сям'і, жылі ссыльныя беларусы муж і жонка Аніхоўскія, Багдановічы, Маркевічы. Наведвалі адзін аднаго. Акрамя бацькі, узвышэнцаў тут не было. З імі зрэдку перапісваліся, падавалі адзін аднаму весткі пра сябе. Першая сумная вестка прыйшла ад гаспадыні дома, у якой пасяліўся Жылка. Пісала гаспадыня, што памёр ён ад сухотаў, прасіла парады, як паведаміць родным, што рабіць з яго рэчамі. З усіх ссыльных узвышэнцаў, з якімі былі ў нашай сям'і кантакты, толькі Жылка без сям'і аказаўся: не паехала да яго жонка, а дачку маці Жылкі аддала. Вельмі цёпла пра Жылку ў нашай сям'і гаварылі, успаміналі яго незвычайную далікатнасць, сарамлівасць. Яшчэ ў Менску, калі бываў ён у нас, любілі мужчыны з яго сарамлівасці пажартаваць, асабліва Дубоўка, па матчыных расказах; Жылка бянтэжыўся, чырванеў. Цяпер шкадавалі яго за тое, што апошнія яго гады прайшлі ў адзіноце на чужыне.

У канцы 34-га — пачатку 35-га года пачалі збіраць ссыльных беларусаў у горадзе Вятцы (Кіраве). Для многіх гэта быў год заканчэння ссылкі, але амаль нікога не адпусцілі, а падоўжылі тэрмін ссылкі яшчэ на два гады. З Кірава з'ехала сям'я Максіма Гарэцкага, і мы пасяліліся ў іх кватэры. Пераехалі ў Кіраў з Слабадскога Багдановічы, з Глазава — Антось Адамовіч. З ссыльных беларусаў у Кіраве памятаю яшчэ сем'і Дунько, Пушкіных, Азбукіна. Усе гэтыя сем'і зрэдку наведвалі адна адну. Пазней у Кіраве паявілася пара Іваньковічаў. З імі пазбягалі мець зносіны, падазравалі, што асаблівую службу гэтыя людзі нясуць. Сярод ссыльных Слабадскога і Кірава былі настаўнікі беларускіх школ, выкладчыкі тэхнікумаў. Трапілі яны ў ссылку таксама ў 30—31-я гг. Па задуме цэнтра беларускую нацыянальную інтэлігенцыю «прарэджвалі».

Часцей за ўсіх наведваў нас Антось Адамовіч. Сям'і ён не займеў ні да ссылкі, ні падчас яе. Працаваў ён у школе, дзе мы з сястрой вучыліся, выкладаў нямецкую мову. Жыў у другім канцы горада, па дарозе дадому ён і заходзіў да

нас. Мы, дзеці, сустракалі яго радаснымі крыкамі: «Цётка на шчотцы едзе» — такое прозвішча мы далі яму за тое, што называў нас хлопцамі.

Прыйшоў 37-мы год. У дзень заканчэння новага тэрміну ссылкі арыштавалі бацьку. У гэты ж прыкладна час былі арыштаваныя і іншыя ссыльныя беларусы як у Кіраве, так і па другіх гарадах. Прыйшла вестка ад Марыі Дубоўкі пра арышт мужа. Яна з сынам пераехала ў Маскву да яго сястры, пасля ў Падмаскоўе паехала працаваць у лясніцтва. Там і вайна яе дагнала, загінуў сын Дубоўкаў, падарваўся на бомбе (падлеткі-хлопчыкі знайшлі ў лесе бомбу, захацелі паглядзець, як узарвецца, кінулі ў вогнішча, і Алік Дубоўка з імі быў, шмат каго параніла, а яго адразу насмерць). Арыштавалі Гарэцкага ў горадзе Пясочнае (г. Кіраў Калужскай вобласці), не на доўга волю яму даравалі. Жонка Гарэцкага Леаніла Чарняўская з дачкой Галяй вярнулася ў Кіраў (Кіраўскай вобласці). Жылі мы разам з імі ў адным вялікім пакоі амаль да апошніх дзён вайны. Сына Лёню адправілі да Гаўрылы Гарэцкага ў сям'ю. Там ён скончыў школу. Перад самай вайной за год, за два паехалі Галя і Лёня вучыцца ў Ленінград. Пачалася вайна, Лёню адправілі на фронт пад Ціхвін, дзе ён і загінуў. Галя зноў у Кіраў вярнулася і толькі ў канцы вайны паехала ў Ленінград, пазней і маці забрала да сябе.

У адрозненне ад пачатку трыццатых гадоў у 37-м ніякага працэсу для прысуду не спатрэбілася. Падрыхтавалі «паперу» аб антысавецкай ці контррэвалюцыйнай дзейнасці, выклікалі суседзяў па дому ці супрацоўнікаў, папрасілі падпісаць, вось і ўвесь «працэс» для большасці так і абстаўлен быў. Калі мая маці ў 1958 годзе звярнулася ў НКУС г. Кірава наконт рэабілітацыі А. Бабарэкі, следчы паказаў ёй справу бацькі, сказаў, што для рэабілітацыі патрэбна, каб двое сведак адмовіліся ад сваіх паказанняў. Гэта былі суседзі па дому. Адзін з іх, Пётра Касціцын, назаляў жыхарам дома як дэбашыр і п'яніца. Ніколі мой бацька з ім і двух слоў не вымавіў. Але ад Касціцына нічога ўжо даведацца было нельга — ён загінуў на фронце. Другая сведка Ганна Шыляева. Ад яе маці даведалася пра тэхніку «сведкавых паказанняў». Выклікалі ў НКУС спачатку мужа Шыляевай, Сяргея. Служыў ён некалі на караблі, быў не з баязлівых, падпісаць «паперу» адмовіўся. Тады выклікалі яго жонку і сказалі ёй, што арыштуюць мужа, калі не падпіша тое, што просяць. Яна і падпісала. Была заведзена справа і на маму, але ў ход яна не пайшла,

«сведкаў», відаць, не паспелі сабраць, ды і кампанія да таго часу трохі заціхаць стала. Тая ж суседка адмовілася на маму «паказанні» падпісаць, дзяцей, мусіць, пашкадавала. Было на той час мне 9, а сястры 11. Даволі часта мы даглядалі пяцігадовага сына Ганны Шыляевай, калі яны з мужам хадзілі ў кіно ці ў госці. Пасля арышту майго бацькі гэта сям'я хутка пераехала з нашага дома. У далейшым цяжкі лёс гэтай жанчыне выпаў: муж яе загінуў на вайне, малалетні сын трапіў у кампанію да крымінальнікаў, быў асуджаны і загінуў у турме.

Засталася мама адна з намі. Як вядома, дзецям асуджаных бацькоў ніякай дапамогі (пенсіі) ад дзяржавы не паложана было. Вось калі маці наша напрацавалася, нялёгкая настаўніцкая праца ў дзве змены: загадчык навучальнай часткі ды і ўласныя ўрокі з поўнай нагрузкай. Спачувалі ёй і супрацоўнікі, і кіраўніцтва школы. Неяк выклікалі маці ў РАНА і прапанавалі акрамя работы весці яшчэ курсы павышэння пісьменнасці для работнікаў кіраўскай міліцыі. Урокі аплочвалі ў некалькі разоў вышэй, чым у школе. Праўда, і работа таго каштавала, навучыць пісьменна гаварыць і пісаць кіраўскую міліцыю.

Летам 38-га года бацьку з партыяй зняволеных этапіравалі на 3-ці паўднёвы ўчастак 41-га лагпункта будаўніцтва чыгункі ў раёне Княж-Пагоста (Комі АССР). Месца гэта з такой змрочнай назвай стала апошнім прыстанкам бацькі. Памёр ён у лагернай бальніцы 10 кастрычніка 38-га года, пяці дзён не дажыўшы да свайго 39-годдзя. Праз некаторы час наведаў нас чалавек, які вызваліўся з гэтага лагера і бачыў бацькаву канчыну. Памёр бацька ад знясілення і галоднай вадзянкі. У гэты час пасылкі з прадуктамі, якія пасылала маці бацьку, вярталіся да нас. Цяжка ўявіць, як маці перажывала ўсё гэта і пры гэтым хадзіла на працу, клапацілася пра дзяцей. Забіўшы чалавека, дзяржава маскіравала свае дзеянні: у кіраўскім загсе маці выдалі даведку, што памёр А. Бабарэка ў Сыктыўкары ад запалення лёгкіх (потым гэтую даведку замянілі, пасля рэабілітацыі, на пасведчанне аб смерці ў г. Кіраве з прочыркам у графе аб прычыне смерці). Гэтая крывадушнасць з боку дзяржавы суправаджалася, як мы ведаем па многіх сем'ях ссыльных, ганеннямі на дзяцей і жонак за «няшчырасць» вестак пра лёс бацькі, мужа пры ўладкаванні на работу, вучобу.

Змоўклі маміны песні. Страх за лёс дзяцей скаваў яе. Успамінаю такі выпадак. Ужо пасля арышту бацькі пяяла

я на школьным ранішніку песню, што адрэпеціраваў са мной наш школьны настаўнік спеваў Ліпегаў. Спусцілася са сцэны (школа наша была ў будынку былой гімназіі і мела добрую актавую залу), падзывае мяне госць ранішніка, ваенны: шэфам нашай школы быў аддзел НКУС горада. Пасадзіў побач, распытвае, хто бацька, хто маці. Я і адказала: «Бацька мой зняволены, мама — настаўніца». Расказала пра гэтую размову дома. Маці вельмі хвалявалася, і, як даведаліся праз многія гады, не дарэмна. І на яе справа заведзена была: літаратуру і мову ў школе лічылі ідэалагічнай сферай, а тут жонка зняволенага такі прадмет выкладае.

Вайна. На другі яе год сталі школьнікаў пасылаць на ўсё лета ў калгасы працаваць. Для нашай сям'і гэта была магчымасць зарабіць хлеб і забяспечыць сабе нейкае існаванне. Школьнікам плацілі за работу натурай, хаця не ва ўсіх калгасах аплочвалі работу калгаснікаў. Добрую службу саслужыла ўсім нам маміна сялянская загартоўка. Узяла маці брыгаду школьніц, нас з сястрой, і паплылі мы па рацэ Вятцы на параходзе ў Лябяжскі раён. Большасці дзяцей было па 13—14 год. Мама нас усім сялянскім работам вучыла: палоць, жаць сярпамі, лён церабіць і сцяліць і іншым работам. Падчас уборачнай працаваць выходзілі нават ноччу: удзень сярпамі жалі на няўдобіцах, а ноччу за жаткай ішлі снапы вязаць альбо за камбайнам салому ўбіраць.

У вёсцы пачула я рускія народныя песні. У Кіраўскай вобласці ўсё больш частушкі съяваюць, напорныя, задзірыстыя. Пасля работы, як сцямнее, выходзяць хлопцы з гармонікам, ідуць па вёсцы і спяваюць, паўтараюць шмат разоў, вар'іруюць матыў:

Если хочет кто подраться,
налетайте на меня;

часцяць:

Если-хочет-кто-подраться.
нале-тай-те-на-ме-ня!

Дзяўчаты спяваюць больш разнастайна, у асноўным пра няўдалых кавалераў, пра каварных разлучніц. У беларускіх песнях гаруе дзяўчына, што не выпадае ёй з мілым быць: «мне не быць за табою», «разышліся, расталіся, як цёмныя хмары». Кіраўскія дзяўчаты ставяцца да любоўных няўдач з іроніяй, суперніцы «воздают по заслугам»:

Изменил, так изменяй,
печатку мыла получай,
свою черную цыганочку
до бела отмывай...

Але гэта зусім маладзенькія дзяўчаты пяюць. Старэйшыя дзяўчыны і маладыя жанчыны пяюць напеўныя песні, мелодыі якіх ліюцца шырока і раздольна. Мелодыя вар'іруецца менш, чым у беларускай песні, пераліваў і раптоўных пераходаў у ёй менш. Але гучыць яна даволі часта больш урачыста, шырока, спяваюць яе іншы раз з удаласцю, зрэдку з надрывам; вось кантатнай пабудовы мелодыя:

Какая ночь, какие звезды, какая на небе луна!
Какая долгая разлука в такие наши юные года...

А вось гэта пяецца з надрывам:

На муромской дорожке стояли три сосны.
Прощался со мной милый до будущей весны...

А гэта — з размахам:

Когда б имел я златые горы и реки, полные вина,
все отдал бы за ласку взоров, чтоб ты владела мной одна...

Маме падабаліся песні ў выкананні Кавалёвай; пра гэту спявачку мала цяпер успамінаюць. У яе выкананні рускія песні гучалі вельмі лірычна, маму кранала як манера выканання, так і змест песень, яе настрою сугучны.

Разлилась Волга широко.
Милый мой теперь далеко.
Люди добрые, поверьте,
мне расставание — хуже смерти...
...Мы обещания не забыли,
злые люди нас разлучили...

Маці часта прасіла мяне выканаць гэту песню, сама не спявала, а слухаць любіла.

Набліжаўся канец вайны, паехала сястра вучыцца ў Ленінград, у год заканчэння вайны і я з дому з'ехала ў Маскву ва універсітэт. Абедзвюм нам мама дапамагала з сваёй невялікай настаўніцкай зарплаты. Адна яна ў Кіраве засталася. Толькі ў 1958 годзе да мяне ў Маскву пераехала.

Успомніла маці свае песні. Зноў спявала і беларускія песні, і рускія рамансы, якім у юнацтве ў Мядыні навучылася. Да музыкі мама заўсёды была вельмі ўспрымальная. Студэнткай у хоры ўдзельнічала. На адным праслу-

хоўванні яе заўважылі, запрашалі ў кансерваторыю паступаць, расказвала яна нам. Многа песень у юнацтве яна на слых вывучыла. Рускія рамансы, якія забылі на многія гады, не шанавалі пасля рэвалюцыі, ведала і добра спявала яна. Рамансы на словы Фета, Кузьміна, Надсана з рэпертуару Вярцінскага, Панінай, Вяльцавай, Лявіцкай.

Сияла ночь, луной был полон сад...

---

Дитя, не тянися весною за розой...

---

Отцвели уж давно хризантемы в саду...

---

Черные розы — эмблема печали...

---

Не уходи, побудь со мной...

---

Ваши пальцы пахнут ладаном...

---

Гей да тройка, снег пушистый...

У апошні час многія з гэтых рамансаў зноў сталі выконваць, мелодыі іх знаёмыя мне з мамінага выканання, і пачуць іх прыемна. Але, вядома, усяго даражэй успамінаць гродзенскія песні, як водгук усяго матчынага жыцця.



*Ганна Рыжкоўская*

# КАБ ДЗЕТКІ ПАДРАСТАЛІ БЕЛАРУСАМІ

Дзе сасна ні стаіць,
а ўсё свайму бору шуміць.
З народнага

Багатая гісторыя наша, багатая. Не даспадобы яна была імперыям усялякім, сталіністам былым і цяперашнім, якім скіўіцы зводзіла ад назвы «Маці-Беларусь».

Цяжка, цяжка абуджаюцца беларусы. Задыхаецца ад цемры і забітасці вёска. Да сённяшняга дня яна марнее пад страхам мінулага, глядзіць у рот любому ўраду. Барані Бог сказаць у вёсцы нешта ў падтрымку дэмакратычных сіл або выказаць незадавальненне існуючым ладам. Ды яны лепш адмовяцца ад маці сваёй, чым прызнаюць патрыятычныя намеры беларускай інтэлігенцыі. Толькі на Беларусі магло ўзнікнуць пытанне аб шматгадовым пераходзе на родную мову, толькі на Беларусі ўлады забараняюць нацыянальную сімволіку, што вякамі ўслаўляла народ.

Вядома, ніяк нельга параўнаць перабудоўчы працэс на Беларусі і ў Маскве. Змяніліся часы, і адразу ж ажыла шматнацыянальная Масква. Актыўна ўзяліся за адраджэнне сваёй культуры і мовы татары, яўрэі, украінцы, грузіны, армяне. Маскоўскія ўлады не пярэчылі, наадварот, адкрылі на нацыянальных мовах факультатывы і класы пры школах, гурткі і групы пры Дамах піянераў і дзіцячых садках. Перада мною разгорнутая схема факультатываў па вывучэнні моваў народаў СССР у Маскве на 25 жніўня 1990 года. Татарскую мову вывучаюць у 15-ці раёнах, армянскую — у 6-ці раёнах. Пры Прадстаўніцтвах сваіх рэспублік маюць нядзельныя школкі казахі і прыбалтыйцы. У грузінаў ёсць школка пры культурным цэнтры «Мзіуры», факультатывы пры школах і група ў дзіцячым садку.

І толькі беларусы ледзь-ледзь агоралі нядзельную

школку пры Маскоўскім таварыстве беларускай культуры імя Ф. Скарыны, у якую напачатку запісалася 19 дзетак ад 5 да 11 гадкоў. Праўда, у хуткім часе некаторым бабулям і дзядам прыйшлося забраць сваіх унукаў, бо бацькі паўсталі супроць. Маўляў, дзеці пачалі блытаць мову, вымаўляць па-беларуску рускія словы. Што ж, вінаватыя самі — пажынаем, што пасеялі. А «сеялі» праз гады ў галоўкі беларускія з маленства вядома што: абыякавасць, пагарду да мовы мацярынскае, да гісторыі свайго народа. Заўсёды з удзячнасцю ўспамінаю маці Максіма Багдановіча. Каб не яна, Марыя Апанасаўна, ці мела б беларуская літаратура такога цудоўнага паэта. У народзе кажуць: «Тады дзяцей вучаць, як каля лаўкі ходзяць. Бо калі тонкага дрэва не сагнеш, то тоўстага не адужаеш». Позна дарослых ушчуваць ды і крыўдзіцца няма на каго. Колькі сябе памятаю, знаходзіліся «беларусы», што і «павучалі», і «каралі» мяне толькі за тое, што не магла дыхаць без роднага слоўца. Увайшло яно ў мяне з матчынымі песнямі, казкамі, з крынічнай вадой. І няма нічога смачнейшага за тую вадзіцу, як няма нічога раднейшага для чалавека за яго родную мову. Таму і мой сын замірае, калі чуе беларускую мелодыю, і няма канца яго радасці, калі ён збіраецца на Беларусь. Як жа шчасліва свецяцца маміны вочы, калі яна гамоніць з сваім маскоўскім унучкам па-беларуску. Цешыцца ўся радня, калі маленькі масквіч «перакладае» свайму бацьку (рускаму) беларускія словы або з гонарам заяўляе, што ён — беларус. Калі вечна жылі сваёй радзімай В. М. Шчадрына, А. Я. Сярова, то і дочкі, і ўнукі іх кожную нядзельку былі ў школцы. Ніколі не забудуць бацькоўскай зямлі дзеці В. В. Голуба, Р. Р. Чырвонцава, В. М. Чайчыца, С. А. Папова, Г. В. Прыбыткі — вучні гэтае ж школкі.

Адкрыццё нашай школкі — гэта ініцыятыва, клопат і старанне актыву Таварыства «Скарынічаў». Памятаю, як на адной з сустрэч у Таварыстве горача гаварылася пра неабходнасць навучання роднаму слову, што годзе плачу ды настальгічных уздыхаў. Чым наракаць на цемру, лепей запаліць хоць адну свечачку — няхай прасвятляцца сэрцы дзетак нашых. Чым беларусы горшыя за другіх? Вунь Арменія пасля страшэннага землятрусу знайшла сродкі, каб дапамагчы сваім суродзічам у Маскве. Пастаяннае Прадстаўніцтва рэспублікі аплочвае камандзіроўкі настаўнікам, якія прыязджаюць з Ерэвана ў Маскву, клапоціцца аб іх кватараванні і матэрыяльна падтрымоўвае факультатывы ў школах.

Нашых суродзічаў у Маскве за 60 тысяч, але толькі нейкая соценька згуртавалася ў Таварыстве, у школцы ж — лічаныя адзінкі.

Колькі было вечарын, сустрэч з беларускімі дэпутатамі, з артыстамі, пісьменнікамі. А хто прыйшоў, акрамя сяброў Таварыства? Успамінаецца вечар у Палацы моладзі. У маленькай зале канцэрт спевака, амерыканскага беларуса Данчыка. Яму дапамагалі ўсім вядомыя Лявон Барткевіч і Сяржук Сокалаў-Воюш. А побач, у вялікай зале, канцэрт таксама спевака, амерыканскага яўрэя. У «беларускай» маленькай зале шмат пустых месцаў, хоць, здавалася, і спевакі нашы нічым не горшыя, а ў зале, дзе спяваў яўрэй — аншлаг! Скажаце, вінаватыя арганізатары. О, не! Яўрэі таксама не хадзілі па кватэрах і не арганізоўвалі гледачоў. Сыграла яўрэйская нацыянальная свядомасць. Яны ішлі пацікавіцца, пазнаёміцца, паслухаць, нарэшце, пакланіцца спеваку за яго вернасць яўрэйскай песні. І не варта параўноўваць настрой спевакоў пасля іх сустрэчы з суродзічамі. Прыкра і балюча думаць, а ці варты мы называцца нацыяй, калі так лёгка адмаўляемся ад радні.

Колькі мясцін у Маскве звязана з беларусамі — віднымі дзеячамі навукі, культуры, палітыкі. Але ж ніводная мясціна — вуліца, будынак не ўвечнены імем каторага з іх. Нават на франтоне будынка былых курсаў Шаняўскага (Міуская плошча), дзе ў 1915 годзе вучыўся Янка Купала, беларусы дасюль не дамагліся мемарыяльнай дошкі. А кожная ж мясціна Купалава — святое для нас месца.

Аднак вернемся ў наш самадзейны беларускі клас.

Мэта нашых заняткаў — каб як найхутчэй дзеткі навучыліся разумець і гаварыць па-беларуску. На ўроку мы чытаем і пераказваем казкі, вершы, развучваем песні, складаем апавяданні па малюнках і, вядома ж, вучым словы. Зноў жа праз гульню. Я стараюся ўрок складаць так, каб дзецям не было калі пазяхаць. Таму і ўзнікла цэлая серыя гульняў накшталт «Лато на замежных мовах». Пасля я называю словы па-руску, а адказ павінен быць па-беларуску. Дзеці ў нас рознага ўзросту. А калі ўлічыць яшчэ бабуль ды бацькоў, якія прысутнічаюць на ўроках, і ім вядомае слова карціць тут жа выгукнуць.

БЕЛКУ на ВАВЁРКУ пераклалі хутка.

МЕЛ на КРЭЙДУ — з патугай.

НОСКИ? — Напружаная цішыня. Пасля дарослыя раяцца між сабою, называюць словы, абмяркоўваюць, пагаджаюцца, нехта пярэчыць... За імі можна назіраць

бясконца, але дзеткі доўга чакаць не могуць. Я называю, вучні паўтараюць. Пакуль дарослыя ўспамінаюць, як гаварылі ў іх мясцовасцях, дзеткі гуляюць у казку «Зайчык і Лісічка». Па пакойчыку разбегліся зайчыкі, лісічкі, пеўнікі, мядзведзі, ваўкі, дрэўцы, кветачкі. Такая гульня падабаецца, бо кожны вывучыў усе ролі і хочацца ўсё паспрабаваць. Пасля казкі пачынаюцца гульні: «У слепу бабулечку», «У Дзеда Панаса», «У золата» і інш. У гульні гуляюць і дарослыя.

Вельмі складана ажыццявіць усе задумы, жаданні, не маючы ўласнага прытулку. Памятаю, як нам хацелася наладзіць для дзетак свята на Каляды. Кінуліся туды-сюды званіць, упрошваць па розных установах... Не надта кідаюцца начальнікі за «так», за «дзякуй» дазволіць якую залу. Магло б дапамагчы беларускае Прадстаўніцтва ў Маскве, калі б яно, кіраўнікі яго пачуваліся беларусамі,— далёкія яны і, здаецца, зусім абыякавыя да Слова беларускага, да клопатаў нашых. Каляды нам прыйшлося адкласці.

Аднак бацькі, некаторыя сябры Рады, бачачы, як кожная сустрэча збліжае дзетак, вырашылі правесці невялічкае навагодняе святцейка. Сабраліся ў невялікай залцы музея М. І. Калініна. Раптам на парозе з'явіўся Віктар Чайчыц з ёлкай — сапраўдны Дзед Мароз! Усе ажывіліся, зашамацелі кайстры, з'явіліся цацкі — ёлка была ўпрыгожана. Загучалі беларускія мелодыі.

І дзеткі, і дарослыя закружыліся вакол ёлкі ў карагодзе. Было нейк па-хатняму ўтульна. Малеча спявала песні, распавядала казкі, дэкламавала вершы,— хто як умеў: па-руску і па-беларуску. Саша Чайчыц прачытаў верш нават на нямецкай мове. А Іначка Голуб напісала сама музыку на верш Якуба Коласа «Дзед-госць». Валя Паўлава і Змітрок Чырвонцаў падрыхтавалі падборку вершаў пра Беларусь. Алесь Багулін саліраваў у «Беларускай польцы»... Пасля дзіцячых выступленняў Генадзь Прыбытка правёў віктарыну сярод дзяцей і дарослых. Дзеткі прадэманстравалі свае веды па беларускай літаратуры і геаграфіі, а дарослыя — па гісторыі Бацькаўшчыны. У гульні «У яшчура» ў маіх сціплых землякоў выявілася шмат здольнасцей, якія вельмі натуральна выліліся ў канцэрт-экспромт. Я была прыемна ўражана, што Віктар Чайчыц — цудоўны чытальнік, Ігар Аляксандравіч Паўлоўскі — піша вершы. А Валянціна Міканораўна Шчадрына валодае прыгожым голасам. Былі тут і падарункі.

Паэт Іван Бурсаў перадаў вельмі прыгожыя дзіцячыя кніжкі, госця з Менску, мастачка Н. Шчасная, тут жа з паперы зрабіла кожнаму дзіцяці крылатага коніка...— год жа Каня пачынаўся. Былі беларускія вырабы, прысмакі... Кожнаму хацелася хоць маленькай дробачкай упрыгожыць гэтае свята. Свята адбылося, мы радаваліся, што ў дзетак нашых была свая, беларуская «Ёлка», зусім непадобная на агульнагарадскія. На нашай «ёлцы» кожны быў гаспадаром, а не госцем. Добра было і тое, што мы крыху больш пазналі і пацягнуліся адзін да аднаго.

Неяк украінская нядзельная школа запрасіла нас на злёт украінскіх школ і факультатываў. Іх сабралася вельмі многа. Амаль усе ў нацыянальных строях. У фае гучала ўкраінская музыка, а дзяўчаткі прадавалі кніжкі, народныя вырабы і (што мяне асабліва здзівіла) розныя пернікі, выпечаныя сваімі рукамі. Грошы, выручаныя на «кірмашы», пайшлі на рахунак школкі. А на сцэне, як з цудадзейнага рога, сыплюцца народныя песні, жарты, скокі!.. Ёсць чаму пазайздросціць. Нам якраз і не хапае прадпрымальнасці, згуртаванасці ўкраінцаў. Было чамусьці горкае адчуванне на сэрцы за нашую бездапаможнасць. Тады ў украінцаў, прызнаюся шчыра, захацелася вырвацца з гэтай залы і гукнуць на ўсю Маскву: «Дзе вы ёсць, мае браточкі-беларусы? Ідзіце гляньце, як людзі жывуць! Можа, прачнецца і ваш гонар беларускі, можа, успомніце, якога вы роду і чыёй зямлі дзеці?!»

Ёсць у нас свая школьная бібліятэчка, толькі карыстацца дзеткам ёй амаль немагчыма. Пакуль наша школка туляецца па чужых кутках, кніжкі раскіданы па кватэрах. Раздалі «Буквары» Анатоля Клышкі, прысланыя Беларускім фондам культуры. Кніжкі дзіцячых пісьменнікаў з аўтографамі аўтараў, падараваныя рэдакцыяй часопіса «Вясёлка», дзеткі толькі патрымалі ў руках. Праўда, я бяру іх на ўрокі. Не забыўся пра нас і міністр адукацыі Беларусі М. І. Дзямчук. Сам прыслаў школьныя падручнікі і паклапаціўся, каб і Рэспубліканская навукова-педагагічная бібліятэка не засталася ўбаку ад нашых праблем. Паэт Сяржук Сокалаў-Воюш даслаў неабходныя настаўнікам дапаможнікі, метадычную літаратуру. На Беларусі падтрымліваюць нараджэнне нашай школкі, і мы шчыра ўдзячныя ім за гэта.

У Алесі Адамаўны Бабарэка засталіся апошнія кніжкі У. Дубоўкі «Жоўтая акацыя» і «Залатыя зярняты» — па некалькі асобнікаў. Кніжкі засталіся ў Алесі Адамаўны

пасля смерці Уладзіміра Мікалаевіча. Доўга яна іх берагла, не ведаючы, куды дзець. Каму яны патрэбны былі тут? На Беларусі таксама ніхто не схопіць. Кніжкі на беларускай мове там не папулярныя, і нават бясцэнныя самыя можна бачыць уцэненымі ў Цэнтральнай кнігарні на Ленінскім праспекце ў Менску. А прарочыя словы некалі сасланага з Беларусі паэта нібы нанова загучалі — трывожна і вячыста:

О, Беларусь! Мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет.
У дзікім ветры не загінеш,
Чарнобылем не зарасцеш!

Яшчэ год назад Алеся Адамаўна не думала, што гэтыя кніжкі будуць неабходныя і прынясуць столькі радасці сваім маленькім гаспадарам. Як бы радаваўся У. Дубоўка, што яго кніжкі чытаюць дзеткі маскоўскіх беларусаў. Пэўна, быў бы рады, што ў Маскве паўстала беларуская школка! Не перавяліся сярод нашага люду беларусы, а значыць, жыве Беларусь!

Пятнаццаць дзетак скончылі падрыхтоўчы клас у нядзельнай школцы. За гэты год яны навучыліся разумець беларускую мову, далучыліся да чароўнага свету народнай творчасці, казак, легендаў, міфаў, гульняў, песень. Ведаюць, што беларускія паэты — Багушэвіч, Багдановіч, Гарун і ніяк не Вазнясенскі; сталіца Беларусі — Менск, а не Цюмень; рэчкі — Сож, Нёман, Бярэзіна, Свіслач, а не Волга і Лена... І вельмі шкада, што ніхто яшчэ не падумаў распрацаваць праграму для ўсіх школак, якія знаходзяцца за межамі Беларусі. За многія дзесяткі гадоў беларусы звыклі слухаць Маскву, то, відаць, нам трэба і ўзяцца за гэта. Вядома, без дапамогі Міністэрства асветы БССР, кафедры беларускай мовы і літаратуры БДУ, ТБМ імя Ф. Скарыны нам не абысціся.

Такі свечачка наша зацяплілася. Дык няхай жа яна бліскане маланкай, будзячы ад здранцвення і дрымоты. Надыходзіць наша пара: нараджацца, падрастаць і жыццё пражыць беларусамі.



# ЯДНАННЕ БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ: МАСКВА — ГУДЗЕВІЧЫ

*Раздзел гэты падказаны творчай лучнасьцю, усталяванай паміж беларусамі-масквічамі і краязнаўцамі з Гудзевіч. Настаўнік Алесь Белакоз, вядомы сваёй нястомнасцю руплўца беларушчыны, ласкава адгукнуўся на прапанову рэдакцыі «Скарыніча» і даслаў падборку лістоў з архіва Гудзеўскага школьнага музея, перад тым змешчаных у вучнёўскім часопісе «Праменьчык». Падаем іх да друку разам з пісьмамі Алеся Мікалаевіча, запрашаючы чытача да роздуму над родным, пакутным, святым: жыцьме Беларусь, а беларус нямечыцца (нямецьь) не будзе.*

*Шчыры дзякуй за падрыхтоўку матэрыялаў спадару настаўніку Белакозу, ягоным выхаванцам Марыне Чвярток, Веры Навіцкай, Кацярыне Ланцэвіч, Кацярыне Ралейнік, Юрасю Новіку, Генадзю Пацэнку.*

### АЛЕСЬ БЕЛАКОЗ

25 лютага 1990 г.

Дарагі сябра Каўка!

Даруйце, што так доўга не пісаў. Арганізацыя ТБМ, выбары забіраюць шмат часу.

У канцы 1965 года я канчаткова пераканаўся, што гэтак званы беларускі ўрад робіць усё дзеля паніжэньня беларускай мовы, а значыць, і беларускага народу. Вымушаны быў супрацівіцца гэтай антынароднай задуме. Пачаў з вучнямі ствараць кабінэт беларускай мовы і літаратуры. Гэта адразу выклікала крытыку з боку «Настаўніцкай газэты». Не спадабалася ім наша дзейнасьць.

Пісалі мы тады беларускім патрыётам у Гародню, Менск, Вільню, Маскву, Варшаву, Кіеў і некаторыя іншыя гарады.

Асабліва нас уцешыў ліст ад Канстанцыі Буйлы, пісаны

ў Маскве 24.I.1966 г. Наш клас ці, партыйнай мовай кажучы, піянерскі атрад, насіў імя палымянага барацьбіта за беларускі народ Іваноўскага Хведара, якога расстралялі немцы, а атрадная песьня ў нас была «Люблю наш край» на словы Канстанцыі Буйлы. Крыва на гэта глядзела дырэкцыя, аднак ні да Іваноўскага, ні да Буйлы адпаведныя органы прычапіцца не маглі.

І вось вучаніца адзінаццатага класа Палавеня Лёдзя прыносіць у школу ліст ад нашай роднай мілай цёткі Канстанцыі. Давялося ліст прачытаць усяму класу, потым кожны прасіў патрымаць яго, пачытаць. Лёдзя, разумнае і працавітае дзяўчо з беднай калгаснай сям'і, адчувала сябе на сёмым небе. Больш цешылася, як тады, калі ейны першы верш надрукавалі ў газэце. Лёдзя з таго часу нават за межамі Савецкага Саюза захоўвае копію гэтага ліста. Арыгінал экспануецца ў другой залі Гудзеўскага літаратурнакраязнаўчага музею.

Выказваньне аб мове Канстанцыі Буйлы завучвалі на памяць, дэкламавалі, пераказвалі адзін аднаму, перапісвалі, пасылалі сябрам і іншым школам: у той час галасна казаць пра значэньне роднай мовы — было мала не палітычным злачынствам. Усюды рэнегаты, саксупры (сакрэтныя супрацоўнікі КДБ), розныя прыблуды, зладзеі ды п'янюгі сьлюнявілі пра злачыннасьць пашаны да роднай мовы, да роднага краю.

У гэтых умовах патрыятычныя выказваньні пра слова матчына Канстанцыі Буйлы, Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа, Аляксея Пяткевіча, Ніла Гілевіча, Арсена Ліса, Ларысы Геніюш, Максіма Танка і многіх іншых ажыўлялі нас, давалі сілу, клікалі да змаганьня з пякельнай машынай духоўнага зьнявечаньня. Кожная вестка ад нашай, цяпер далёкай зямлячкі была доказам, што нават у Маскве людзі даражаць беларускай мовай, ганарацца ёю.

Па вядомых для ўсіх прычынах Уладзімір Дубоўка пісаў больш асьцярожна, аднак кожны ягоны ліст таксама вучыў нас паважаць свой край, бацькоў, вынікі чалавечай працы, даражыць не толькі мовай, але нават кожнай роднай расьлінкай, родным куточкам.

Вучні ведалі трагічную біяграфію патрыёта Дубоўкі і разумелі яго з паўслова. Аднойчы мы запыталіся ў яго, ці ёсьць у Маскве вуліца Кастуся Каліноўскага. Пісьменнік пра гэта нават не ўспомніў у адказе, але паведаміў, што высылае кнігу з назвамі ўсіх вуліцаў Масквы. Там вуліцы Кастуся Каліноўскага не было. Вось як даводзілася ад-

казваць на пытаньні ў той змрочны час. Само тое, што Уладзімір Дубоўка нават праз 26 гадоў сталінскіх лагероў пранёс закаханасьць у родны край, у свой народ, рабіла кожны ягоны сказ больш важкім і значным. Вось як людзі могуць: паўжыцьця ў зняволеньні, а яго не зламалі, ён не адмовіўся ад бацькоўскага слова, ад роднай зямелькі.

Лісты Міколы Улашчыка нам даказалі, што не толькі пісьменьнікі, але таксама гісторык, вучоны лічыць родную мову сьвятой, распавядае нам у сваіх лістах, як яшчэ ў шаснаццатым стагодзьдзі канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега любіў беларускую мову, як ганарыўся, што на роднай мове «правы спісаныя маем», што беларуская мова дзяржаўная на тэрыторыі ўсяго Вялікага княства Літоўскага, велізарнай дзяржавы, землі якой абмываліся Балтыйскім і Чорным марамі.

Надзвычай абнадзейваючымі былі для нас лісты Каўкі Аляксея, бо ў іх заўсёды мы знаходзілі глыбокую веру ў патрэбнасьць беларускай мовы, перакананасьць у слушнасьці таго шляху, па якім пайшлі гудзеўскія дзеткі, нам прыемна было даведацца, што знаёмыя аўтара ліста з Вільні і з Масквы ведаюць пра Гудзевічы, цікавяцца намі, жывуць нашымі знаходкамі, дбаюць пра нашы клопаты.

Дзеткам важна, што навуковец з Масквы дасылае нам краязнаўчыя матэрыялы, свае знаходкі, рупіцца пра родную беларускую мову не менш за пісьменьнікаў ці сумленных гісторыкаў, якіх у Беларусі так яшчэ мала. Значыць, беларуская мова не прымха пісьменьнікаў, а клопат і самых разумных гісторыкаў, і эканамістаў, і біяхімікаў, і фізыкаў, і калгасьнікаў, і рабочых, і мэдыкаў, і мастакоў — усяго беларускага народу.

Радаснай падзеяй для нашых вучняў быў ліст ад Голуба Кастуся Алесевіча, сына Голуба Алеся Навумавіча, што калісьці разам з Якубам Коласам сядзеў у турме. У трылогіі «На ростанях» ён паказаны ў вобразе Галубовіча.

Нас натхніў тон ліста, клопат пра памяць аб бацьку і нашым класіку. Аднак на ўсе іншыя нашы лісты былі бясконцыя заказы. Калі мы ўрэшце зразумелі, што Кастусь Голуб не хоча пісаць нам пра бацьку, то папрасілі, каб напісаў нам хоць, дзе і калі нарадзіўся Алесь Навумавіч.

У адказ на гэты ліст Голуб паскардзіўся дырэктару Гудзеўскай школы, які і так шмат паскудства рабіў нашаму музэю, што мы нацыяналісты, бо не пішам яму па-руску, а па-беларуску.

Вядома ж, пасьля гэтага мы перапіску з Кастусём Голубам спынілі.

Высылаю Вам некаторыя лісты беларусаў-масквічоў. Як штосьці падбярэце, то выкарыстоўвайце, як палічыце патрэбным.

Настаўнік Гудзеўскай СШ Алесь Белакоз

**КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛА**

**Ліст да Палавені Лёдзі, 11-га кл.**

Масква. 24.01.1966 г.

Дарагія мае Таварышы, вучні Гудзевіцкай сярэдняй школы!

Ліст Ваш атрымала і пастараюся здзейсніць усе Вашы пажаданні. Фота высылаю якое ёсць. Верш «Люблю наш край» пасылаю таксама, а Вас прашу прыслаць мне гэты верш у Вашым перакладзе з рускай, так як ёсць, не праўце яго толькі, калі ласка.

Мне вельмі прыемна, што вершы мае Вам хочацца мець на беларускай мове. Нездарма, значыцца, мы яшчэ ў нашаніўскія часы імкнуліся тварыць сваю беларускую літаратуру — а тады гэта было і трудна і небяспечна.

А родная мова для кожнага народа — яго самае вялікае і самае дарагое багацце. Гэта невычэрпная крыніца фарбаў для адлюстравання дум, мар, пачуццяў і настрояў чалавека. Гэта дзверы, якія раскрываюць усё багацце душы народа. І колькі б языкоў чалавек ні вывучыў, самае запаветнае ў яго душы — выльецца рэльефна, паўнагучна толькі на яго роднай мове.

Я даўно жыву ў Маскве. Так склаліся абставіны. Але вершы ў мяне пішуцца толькі па-беларуску. Таму мне хочацца сказаць Вам, дарагія Таварышы, беражыце родную мову, шануйце яе і нясіце яе праз сваё жыццё як найдаражэйшы дар Бацькаўшчыны.

Кніжкі мае трэба шукаць у бібліятэках. У продаж паступіць на днях толькі што выйшаўшая ў Мінску мая новая кніга «Май». Праз год выйдзе мой двухтомнік, які ўжо зданы ў «Белгіз». Пасылаю Вам адну з маіх кніг «На адноўленай зямлі». Другіх у мяне няма.

Бывайце здаровы.

Канстанцыя Буйла.

Масква, 20 снежня 1971 г.

Дарагая Марыначка![1]

Атрымала Ваша пісьмо, але адразу не магла адказаць, хварэла. Яно, пісьмо, спадабалася сваёй шчырасцю, любоўю да беларускага народа, яго літаратуры, яго мовы.

Мова народа — гэта душа народа. Без сваёй мовы няма народа, ёсць спалучэнне людзей розных нацый, якія могуць існаваць побач, працаваць супольна, але паэзія, песня, літаратура расцвітае толькі на глебе народнай мовы, якая ўзбагачаецца людзьмі, набірае новых фарбаў, гучанняў з ростам людской культуры і патрэбна ў выражэнні дум і пачуццяў. І гэтая мова часам запазычвае словы ад другіх нацыянальнасцяў, ператварае іх у сабе, перарабляе стасоўна да фанетычнага гучання свайго і робіць іх сваімі.

Маё жыццё складалася ў розныя гады па-рознаму.

У маладосці, будучы вучыцельніцай у беларускай школе, я вучыла па-беларуску і гаварыла таксама. Потым у памешчыка Дзеўчапольскага, каля Баранавіч, падгатаўляла яго сына ў гімназію — гаварыла з усімі ў памешчыцкім доме па-польску, а вучыла па-руску.

Цяпер, з 1917 года, я жыву ў Маскве. Мой муж рускі — дома бытуе руская мова, але я пішу толькі па-беларуску, на той роднай мове, якую я пазнала змалку на маёй Радзіме — Беларусі. Прабавала пісаць і па-польску (язык я гэты добра ведаю, як і рускі), аднак душа не пяе на чужой мове, вершы атрымліваюцца зробленымі можа і добра, а сэрца не кранаюць ні майго, ні чытачоў.

І вось, адарваная абставінамі ад Радзімы, я навек душой звязана з ёю і пішу толькі на роднай мове. Не ведаю, ці траплялiся Вам мае кнігі. Пасылаю зборнік «Выбранае» на памяць аб першым выкананні маёй песні «Люблю наш край» па радыё, маладой спявачцы Марыне Белакоз.

Любіце свой народ, любіце сваю Радзіму! Любіце родную мову, якая можа адлюстраваць самыя складаныя пачуцці і вобразы. Ніколі чужая мова не дасць Вам той паўнаты выражэння Вашых душ — як родная, матчына мова. Гэта лепш ведаем мы, якія жывём за рубяжамі і снім сны аб Беларусі, любімай горача і назаўсёды.

З цёплым прывітаннем Канстанцыя Буйло.

Масква, А-55, Цiхвінскі завулак, д. 11, кв. 20.

Канстанцыі Антонаўне Буйло.

[1] З Канстанцыяй Буйла перапісвалася вучаніца 5 «А» класа Гудзеўскай сярэдняй школы Белакоз Марына, цяпер выкладчыца бела-

**рускай мовы і літаратуры Цыдовіцкай сярэдняй школы Гродзенскага р-на Камінская Марына Аляксееўна.**

Дарагія мае, юныя сябры[1], якія сваімі рукамі стварылі Музей літаратурнага краязнаўства і этнаграфіі.

Я не магу Вам выказаць усю маю глыбокую, сардэчную ўдзячнасць за гэтую натхнёную працу. Вы просіце напісаць Вам мае думкі аб мове роднай, аб патрыятызме. Вось наглядны прыклад: Ваша праца для Радзімы, Роднага Вашага краю. Вось турбота аб яго мове, без якой ні адзін народ не можа існаваць, бо мова народа — гэта душа народа, гэта яго ўмысловая сутнасць, гэта спосаб выразіць сябе. Я добра ведаю рускую і польскую мовы, а пішу і друкуюся толькі па-беларуску, бо гэта мая родная мова, мова маёй Радзімы і яе народа. А Радзіму-Беларусь і яе народ я люблю ўсім сэрцам, і, жывучы ў Маскве, душой я на Беларусі.

Пасылаю Вам мой двухтомнік і невялічкі партрэт. Можа, знайду што-небудзь з чарнавікоў, праўда, друкаваных твораў. Чарнавікі, напісаныя ад рукі, я знішчыла. Вельмі спадабалася беларуская хатка на канверце... Гэта зусім такая, якія я бачыла ў дзяцінстве, у вёсках, і яна напомніла мне не толькі любімую Радзіму, і мае юныя гады. Дарагія мае! Не спыняйце Вашай высакароднай працы над адлюстраваннем усіх з'яў прошласці, над выяўленнем вялікіх людзей навукі і культуры Беларусі, каб моладзь і наступных часоў знала, ведала аб іх працы для Беларусі і шанавала памяць аб дзядах і прадзедах. Вучоныя і літаратары працуюць цяпер над выяўленнем творчасці Скарыны, Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, Цёткі, Купалы, Коласа і іншых, збіраюць матэрыялы, пішуць кнігі для Вас, каб Вы любілі і шанавалі сваё мінулае.

А Вы і самі далучыліся да гэтай работы і робіце яе на выдатна! Дзякуй Вам сардэчна ад імя продкаў і ад імя прошлага, якое Вы помніце, любіце, шануеце. Ведаю, Вы ўяўляеце, што трэба адлюстраваць і сягонняшняе,— а прадбачыць і будучыню, якую Вам прыйдзецца так жа натхнёна тварыць ужо ўласнымі рукамі ў нядаўнасці. Будзьце гатовы да гэтай работы. Рыхтуйце розум і рукі да яе. Мы Вам здадзім у верныя Вашы рукі сэрцы і розум, усё тое, што зрабілі і чаго зрабіць не паспелі.

Знайшла тры вершы, напісаныя ад рукі. Яны не друкаваліся нідзе. Пасылаю іх Вам. Вы пытаецеся, як па-мойму будзе: слабы́ ці сла́бы. Калі я пішу ці гавару са спагадай:

да працы — ён слабы. Вось так я разумею гэтыя словы.

Зычу, ад сэрца, Вам вялікага поспеху ў Вашай працы.

Усёй душой з Вамі!

Канстанцыя Буйло.

9.04.1985 г. Масква.

[1] Перапісвалася вучаніца 9-га класа Гудзеўскай сярэдняй школы Касіла Ганна.

## КАНСТАНЦІН ГОЛУБ

**Ліст да Кібік Люды,
вучаніцы 9-га класа Гудзеўскай сярэдняй школы.**

Москва. 20.II.1969 г.

Милая Люда!

Получил твое письмо. Так как я не знаю белорусского языка, пишу по-русски.

Я должен тебе сообщить горькую весть: Голубь Александр Наумович умер в апреле 1969 года и поэтому не может тебе ответить и рассказать то, о чем ты просила его в письме.

Посылаю тебе фотокарточку Александра Наумовича Голубь — члена нашей Коммунистической партии с 1905 года, сидевшего в одной тюремной камере с Якубом Коласом в царское время.

Мне очень дорого, что Вы помните Якуба Коласа и моего отца. Милая Люда, я желаю тебе хорошего здоровья и больших успехов в учебе. Желаю тебе и всем твоим товарищам быть достойными преемниками идей нашего старшего поколения — старейших большевиков — Якуба Коласа и моего отца, достойно проживших свою жизнь, отдавших свои силы народу как верные и преданные сыны нашей Коммунистической партии.

Уверен, что Вы — комсомольцы, будете верны идеям коммунизма, будете верными и твердыми борцами за дело, которому посвятили жизнь наши отцы.

Дорогая Люда, если тебе не трудно, напиши мне, получила ли ты это письмо, напиши о себе, своей школе, о комсомольцах, о вашей жизни. Если сможешь, пришли фотографию.

Низкий поклон всем вам в школе, помнящим Якуба Коласа и моего отца, низкий поклон вашим учителям.

С дружеским приветом сын А. Н. Голубь.

Голубь Константин Александрович.

П. С. Люда, как Вы узнали мой адрес?

## УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

**Да вучняў 4 «А» класа Гудзеўскай сярэдняй школы.**

6 кастрычніка 1970 г. г. Масква

Дарагія мае юныя таварышы!

Ваша сяброўка Марына Белакоз напісала ад вас усіх ліст, у якім дала некалькі пытанняў. Пастараюся адказаць на гэтыя пытанні.

Адкуль я бяру тэмы для сваіх казак? За сваё жыццё я многа дзе быў, многа чаго бачыў. І не менш чаго чуў і чытаў. Вось з усяго таго перажытага, перачутага, прачытанага ў маёй памяці застаюцца больш каштоўныя ўспаміны, у тым ліку і казкі. Тады, калі мне трэба адзначыць нейкі важны, на мой погляд, момант з сучаснага жыцця, мая памяць і падае мне адпаведную тэму. Дам такі прыклад. Калі я быў маленькім хлопчыкам, бацькі мае прывучылі нас, малых, шанаваць хлеб, з пашанай ставіцца да яго, не раскідаць дзе папала, не глуміцца з яго, бо ён дастаецца цяжкай працай і патрэбны нам для ўзмацавання нашых жыццёвых сіл.

Напэўна, і вам цяпер вашыя настаўнікі і бацькі кажуць пра тое самае, навучаюць шанаваць хлеб.

А тым часам мне давялося бачыць у вялікім горадзе, што некаторыя дзеці глумяць хлеб, раскідваюць яго скібамі альбо кавалкамі. Скажу шчыра, што такія здарэнні абурылі мяне і я надумаў напісаць пра гэта казку. І вось мая памяць у гэты самы момант падала мне казку, тэму для казкі, якая надрукавана ў маім зборніку казак на стар. 130 пад назваю «Крошачка хлеба». Гэтую казку я чуў гадоў трыццаць таму назад на Далёкім Усходзе, за возерам Байкалам. Яна ляжала гэтыя трыццаць гадоў у маёй памяці, як у нейкім маленькім свірне. Праўда, я ўзяў з яе толькі аснову, а ўток — даў свой. Калі хто з вас бачыў, як ткуць кросны, той добра зразумее, што такое ўток — ён дае самы малюнак тканіны.

Пра фатаграфію Марына напісала, што ў вашай школе

ёсць аж тры мае фатаграфіі. Можна было б не пасылаць вам новую, бо, як палякі кажуць, «што задужо, то не здрово». Але якраз трапіла на вочы фатаграфія, знятая ў 1967 годзе. На гэтай картачцы разам са мной сфатаграфаваны рускі дзіцячы пісьменнік — Сяргей Аляксеевіч Баруздзін. На адвароце ягоны аўтограф і мой. А знятыя мы ў пісьменніцкім доме творчасці «Малееўка».

Разам з гэтым пасылаю Вам усім, вашым настаўнікам і бацькам сваё шчырае прывітанне. Зычу Вам усім выдатнага здароўя і выдатных поспехаў у школьных навуках.

З пашанай да Вас усіх Уладзімір Дубоўка.

---

4.09.1973 г. Масква.

Дарагая Марына!

Атрымаў твой цудоўны падарунак — гальштук[1]. У мяне яшчэ ёсць твой падарунак — закладка для кніг. Я іх параўнаў — які прагрэс! Ад шчырай душы жадаю табе і тваім сябрам найвялікшага прагрэсу ва ўсіх Вашых справах: рукадзельна-мастацкіх, у навуках.

Чакаю, што праз дзень-два мне дактары дазволяць выйсці з кватэры.

Тады адразу прышлю на тваё імя матэрыял для музея — рукапіс казкі «Кветка шчасця». Адначасова пастараюся прыслаць для цябе асабіста якую памятку ад мяне.

Пакуль што абмяжоўваюся гэтым кароткім паведамленнем.

Усяго табе самага найлепшага!

Сардэчнае прывітанне тваім родным і сябрам.

З пашанаю

Ул. Дубоўка.

Віншую Вас усіх з пачаткам Новага навучальнага года!

[1] Вучаніца 7-га класа Белакоз Марына выткала і паслала Уладзіміру Дубоўку гальштук з дарчым надпісам, вытканым на адваротным баку: «Ул. Дубоўку, 1973 г. ГСШ» (Гудзеўская СШ).

Пісьменнік у адказ прыслаў ліст.

---

**Гудзевічы. Гродзенскай вобласці. Школа.**
**Белакоз Марыне.**

Мая дарагая зямлячка Марына!

Мабыць, гады тры таму назад ты пыталася ў мяне, як ствараю вершаваныя казкі. Помніцца мне, што тады напісаў табе пра тое, як мне давялося стварыць казку «Крошачка хлеба». Працягваючы тую гутарку далей, раскажу ця-

пер пра з'яўленне ў свет казкі «Кветка шчасця», разам з гэтым пасылаю на тваё імя для музея Вашай школы і рукапісы.

Даўным-даўно, прыблізна 1928—1929 гг., я чытаў зборнік матэрыялаў Яна Чачота. У тым зборніку быў цікавы адменнік беларускае легенды пра Кветку Шчасця. Было ў ім некалькі радкоў прыблізна такога зместу.

Беларускі вясковы хлопец у Купальскую ноч пайшоў у пушчу шукаць Кветку Шчасця. У самую поўнач там з'явіліся лесавікі, русалкі, чэрці, вадзянікі і г. д. Напалохаўшыся, хлопец пачаў уцякаць. У тую ж хвіліну расцвіла і кветка папараці. Уцякаючы, хлопец наступіў на яе, яна адламалася і ўвалілася ў ягоны лапаць. Не ведаючы аб тым, хлопец ад тае часіны стаў усяведным, проста мудрацом. Ён пачаў даваць парады, пачаў бачыць скарбы, схаваныя ў зямлі, і да т. п.

Дачуўшыся пра тое, паны адразу здагадаліся, што ў сялянскага сына ёсць Кветка Шчасця. Яны паклікалі яго да сябе, абшукалі яго, знайшлі кветку і забралі сабе. Ад тае пары і верхаводзілі яны над простым народам...

Прачытаўшы запіс, я меўся напісаць на гэтую тэму нейкі свой твор: паэму ці вершаваную казку.

Але здарылася так, што ў далейшым мне давялося займацца іншымі справамі. Усё ж я не забываўся на народную легенду, а час ад часу згадваў Кветку Шчасця, адабраную ад нас панамі.

Прайшло нямала гадоў — аж 38. Увосень 1966 г. (верасень — кастрычнік) я канчаў сваю аповесць «Жоўтая акацыя», і вось, у перапынку паміж апошнімі раздзеламі гэтай аповесці, я ўзяў ды напісаў «адным махам» вершаваную казку «Кветка Шчасця». Адбылося гэта 2 кастрычніка 1966 г. Пасля таго я неаднойчы падпраўляў паасобныя радкі і страфы свайго твора, а затым даў яго ў часопіс «Бярозка», дзе ён і быў надрукаваны крыху скарочаным (№ 9 за 1967 г.).

Поўнасцю гэты твор надрукаваны ў маёй кнізе «Казкі», якая выдадзена ў «Школьнай серыі» выдавецтва «Народная асвета» (Мінск, 1968 г.).

Вось гэта больш поўны адказ на тваё даўняе запытанне, а разам з тым і маленькая заўвага да тых рукапісаў, якія я пасылаю ў Ваш музей.

Жадаю ўсяго самага добрага, самага светлага табе, тваім сяброўкам і сябрам.

Перадай найлепшыя пажаданні сваім настаўнікам і бацькам.

З пашанай да Вас усіх Ул. Дубоўка.
5 верасня 1973 г. Масква.

---

25.05.1974 г.

Дарагая Марына!

Твой ліст атрымаў. Сёння пасылаю на тваё імя тры маленькія мае новыя кніжачкі «Як Алік у тайзе заблудзіўся», яны падпісаныя: адна табе асабіста, другая — Каці Бобрык, а трэцяя — у вашу бібліятэку ці ў музей, як схочаце. Прывітанне Вам усім, тваёй маме і тату.

Усяго самага найлепшага.

З пашанай Ул. Дубоўка.

---

Мілая Каця![1]

У газеце «Літ і маст.»[2] ёсць фатограф, якога завуць Уладзімір Крук. Гэта ён, галоўным чынам, дае газеце фатаздымкі паасобных людзей. Ты яму напішы асабіста і папрасі, каб ён прыслаў для Вас копію свайго фота. А самы партрэт стварыла мастачка Нэла Шчасная, якая жыве ў Маскве, у яе (наколькі мне вядома) ніякіх копій няма. Гальштук на мне сапраўды работы Марыны Белакоз. Між іншым — а дзе яна? Як яна маецца? Сардэчнае прывітанне Вам усім — вучням, бацькам, настаўнікам — з нагоды надыходзячага свята Першага мая.

Усім Вам самага найлепшага.

З пашанаю Ул. Дубоўка.

20.04.1974 г. г. Масква.

[1] Ліст да вучаніцы 5-га класа Гудзеўскай сярэдняй школы Бобрык Каці.

[2] Партрэт Уладзіміра Дубоўкі змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» ад 15.02.1974 г.

## МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК

Дарагія землякі!

Бацькі мае паходзілі з Наваградчыны, і таму я Ваш зямляк.

Найперш вітаю з адрамантаваннем музея. Музейная справа занядбаная галіна культурнай дзейнасці ў Беларусі. Цікава, хто з вучняў Вашай школы стане музейным працаўніком не толькі афіцыйным, але і сапраўдным.

Пасылаю Вам карэктуру з невялікімі недахопамі, тэму апісаў, т. 35 летапісаў і зборнік, выдадзены ў сувязі са

100-годдзем нараджэння Грэкава. Зараз трымаюся такога, калі выходзіць кніга, то я адсылаю машынапіс, перш карэктуру, чыстыя аркушы і гатовую кнігу ў Аддзел друку рэдкай кнігі Бібліятэкі Акадэміі навук, каб кніга захавалася ва ўсіх этапах. Мне ўжо занадта шмат гадоў, і трэба дбаць пра спадчыну, а дома можа здарыцца ўсяк.

Дасылаю таксама машынапіс артыкулу пра Сяргея Шутава. Скарочаны варыянт быў змешчаны ў «Помніках», затым свой экслібрыс (зрабіў мастак М. Купава) і партрэт Глябовіча (партрэт змешчаны ў мемуарах Віцебскага ваяводы Яна Храпавіцкага, нядаўна выдадзеных у Польшчы). Думаю, што лепш за ўсё адносна пашаны да сваёй мовы і культуры ў старасветчыну выказаў Леў Сапега.

З яго прадмовы да «Статуту» 1588 г.: «А еслі которому народу встыд прав своіх не уметі, то поготовю нам, которые не обчым якім языком, але своім власным права спісаныя маем» (Литовский Статут 1588 г. Т. II. Тэкст стар. 17). Вельмі хараша пра ўсё гэта сказаў значна раней Ф. Скарына. Прышліце мне фота Музею і школы, а таксама вучняў і настаўнікаў, а Марына[1] няхай прышле сваё фота асобна.

10.11.1983 г. М. Улашчык.

[1] Перапісвалася вуч. 9-га «А» кл. Гудзеўскай СШ Чвярток Марына.

---

Дарагая Марына!

Выслаў два пакі з кнігамі на Гудзевічы, на музей, а Вам пішу асобна, працую зараз мала, бо мала сілы. Добра, што ў свой час пабыў у Наваградку і Любчы, хаця да Шчорсаў, адкуль мая маці, не даехаў. У Гародні бываў часта, адзін раз нават чытаў лекцыі ў Педагагічным інстытуце, у Вашых мясцох ня быў, а зараз ужо позна. Пра Вашу школу, пра Вашага настаўніка калісь казала мне Бібіла (зараз яе ўжо няма), родам яна з Поразава.

Жадаю ўсім поспехаў. Прасіў у агульным лісце, каб Вы прыслалі сваё фота.

10.11.1983 г.

Мікола Улашчык.

---

Дарагія дзяўчаткі!

Вялікае дзякуй за памяць[1]. На жаль, прыехаць не магу, хаця было б цікава пабачыць і школу, і музей, і наогул пабыць у Вас. Ад'ездзіўся ўжо я.

Перадайце прывітанне ўсім настаўнікам школы, вучням, усім, хто стварыў музей ці хаця б што-небудзь зрабіў для яго.

Дасылаю два нумары «Голасу Радзімы», дзе змешчаны мае запісы пра школьныя гады. Рэдакцыя трохі змяніла назву вёскі (яна завецца Віцькаўшчына) і «дадала прэмію» за дэкламацыю «Гораду і вёскі». У той час пра гэта ніхто не чуў.

Дасылаю і сваю фатаграфію 1928 г. Для Вас гэта таксама гісторыя ды яшчэ і даўняя.

З пажаданнем усяго найлепшага.

12.05.1984 г. М. Улашчык.

[1] Перапісвалася вучаніца Гудзеўскай сярэдняй школы Гарачка Аленка.

---

Дарагая Каця![1]

Усю вясну я хварэў, дамоў вярнуўся некалькі дзён назад. Троха адрамантавалі, але ж троха. Сяджу дома, пішу адказы на лісты, што прыходзілі ў гэты час, зараз вось пішу Вам. Бандэроль з пянькою атрымаў. Дзякуй. Дзівіць мяне — як скора забываецца нядаўняе мінулае, забыліся і пра пугі. Раней, калі ў кожнай гаспадарцы былі коні і каровы, пугу меў і самы занядбаны гультай, без яе нельга было ні выгнаць на пашу карову, ні выехаць з двара. Віць пугі ўмелі ўсе хлопцы (і, ведама, мужчыны) гадоў з 8—9, калі яны рабіліся пастухамі (толькі шчаслівыя пазбягалі гэтага). Кожны пастух ішоў з пугаю, звычайна звітаю ім самім. Малыя хлапчукі вілі вяровачку, даўжынёю метр ці троха больш, той, чыя пуга ляскала, калі ёю білі аб зямлю, быў шчаслівы. Такая пуга не мела асобнай назвы і звалася проста «пуга». Больш складаным было звіць пугу «павіванку». Вілася вяровачка даўжынёю метры паўтара, прычым важна было, каб вяровачка было звітая як мага крута, пад канец яна танела, і канец быў зусім тонкі. Павіванкаю яна звалася таму, што, звіўшы вяровачку ў дзве столкі, трэцяю «павівалі», дадаючы трэцюю столку ў першапачатковыя. Самаю адмысловаю лічылася пуга кручкаваная ці дратаваная. Віліся тры вяровачкі, паступова «спускаючы» (робячы танейшымі), прычым адна была павінна быць даўжэйшаю за іншыя. Каб звіць «кручкаванку», трэба было мець два кручкі, адзін канец якіх быў разы ў два-тры даўжэйшы, чым іншы. Зачапіўшы канец вяровачкі на кароткі канец, наматвалі яе на кручкі да самага канца. Затым з дапамогаю гэтых кручкоў скручвалі вяровачкі як мага крута і вілі з іх адну. Звіўшы так, дабралі трэцюю, а кручок, скручвалі яе як мага і вілі так, каб яна трапляла паміж

дзвюма ранейшымі. Прыблізна за паўметра да канца пачыналі «саджаць бабкі» — рабіць просты вузел, на той выпадак, калі канец пугі схвошчацца, каб яна далей не развівалася. Саджалі бабкі прыблізна праз кожныя 4—5 см. Былі яшчэ пугі «куплёнкі», якія прадаваліся ў мястэчках па 1—3 капейкі. «Куплёнкі» былі даўжынёю см на 80, рознага колеру: чырвоныя, зялёныя, жоўтыя, але ў пастуха ў большасці не было сваёй і адной капейкі, таму «куплёнка» была рэдкаю. Пугаўё лічылася лепшае з вішні, даўжынёю 120—130 см, добрымі лічыліся і ядлоўцавыя; былі яшчэ гнуткія стусіновыя, але гэта хіба ў паноў. Каб пуга мела сілу, гэта значыцца, каб было ёю хвасцянуць з найбольшаю сілаю (у каровы праз усю спіну ўсхватваўся пухір), пугу мачылі ў вадзе ці проста ў лужыне, тады яе тоўсты канец стаяў, як дрот.

Апрача пугаў, з пянькі ці лёну (лепш пянькі) плялі бізуны. Просты бізун плёўся ў чатыры столкі, складаны, добры, у восем столак. Гэта значыць вілі адпаведную колькасць вяровачак, з якіх плялі бізун. Звычайна, калі вілі вяровачкі, то тры рабілі значна даўжэйшымі за астатнія. З іх, скончыўшы плесці бізун, вілі яшчэ пугу. Такі бізун-пуга быў толькі ў дарослых хлопцаў, гадоў па пятнаццаць-шаснаццаць, хлопцаў-зухаў. У адной з казак Сержпутоўскага гаворыцца, што панскі хурман «паліў з біча». Значыцца, там бічом звалася пуга (пэўна, фабрычнай работы) на доўгім стусіновым пугаўі (см 180). «Біч» з таго, што быў пры мне, зваўся «затычок», даўжынёю 110—120 см з маладога дуба, высечанага пад самы корань. З такімі «бічамі» хлопцы хадзілі на вячоркі ці ў карчму, спадзеючыся, што ён недзе спатрэбіцца. Нашы пісьменнікі, не ведаючы мовы, пішуць звычайна, што нехта меў у руках «дубіну».

Бізуны віліся (калі гаспадар быў заможны), прыбіваўся да кароткага тронка (35—40 см). Шыкам было, калі бізун плялі праз мядзянае колца, якое прыбівалася да тронка. У такім бізуне звычайна быў кутас (кавалак сырамяці даўжынёю см на 15), большая частка якога была парэзана на вузкія палоскі. Кутас прыбіваўся на самым версе тронка. Гэта быў зусім шык.

Пугу пастараюся звіць, калі троха прыду ў норму.

30.05.1986 г.

М. Улашчык.

[1] Перапісвалася вучаніца 9-га класа Гудзеўскай сярэдняй школы Ланцэвіч Каця.

## АЛЯКСЕЙ КАЎКА

Шаноўны Алесь Мікалаевіч!
Добры дзень Вам!

Падчас нядаўніх адведаў Зоські Верас давялося пачуць мне шмат цікавага, узрушальнага пра краязнаўцаў з Гудзевічаў, што каля Гродні. Пані Людвіка паказала мне нават некалькі старонак з «Нашых лекавых раслін», напісаных для Вашага музея, зазначыўшы: «Цяпер там хату вялікую, стогадовую набылі. Этнаграфічныя вечары праводзяць. Адным словам, працу не абы-якую разгарнулі». Пра ўсё пачутае ў хатцы лясной пад Вільняй пачаў было апавядаць блізкаму мне чалавеку. Але Мікалай Мікалаевіч, бо аб ім, Улашчыку, гаворка,— перапытаў ці не на першым сказе: «Пачакайце, нешта зараз Вам пакажу». Праз якую хвіліну, вярнуўшыся з суседняга (бібліятэка) пакойчыка, гаспадар працягнуў мне, затоена ўсміхаючыся, лісток з вучнёўскага сшытка. Так я даведаўся пра пятнаццацігадовы плён Гудзеўскіх культурнікаў, ці яшчэ лепш асветнікаў-патрыётаў, пра запросіны на ўрачыстасць аднаго з выдатнейшых, калі не адзінага з сучасных гісторыкаў беларускіх. Ажыўлены, па-маладому паружавелы твар немаладога ўжо чалавека, пад ладных восемдзесят год, узрушаны голас яго сведчыў, наколькі яму, Летапісцу мінуўшчыны й вечнасці нашае, да сэрца прыйшлося і запрашэнне і наогул падзвіжніцтва духоўнае настаўнікаў і вучняў Гудзеўскай школы.

Вяртаўся я ад свайго настаўніка (здараецца ж, што натрапіш на такога ўжо не ў вучнёўскіх гадох) трошкі ўзбуджаным, калі не сказаць — акрыленым. Нічога ж асаблівага не надарылася, а вось пахарашэла, адчуваю, на душы. Каб там ніякіх баталій, ні здабытых з бою гарадоў, адно штодзённыя скупыя звесткі: «На фронте без перемен. Шли бои местного значения». Было ж і такое. Гэта цяпер нам зразумела, што на тых самых «баях мясцовага значэння» трымаўся фронт, нагортваліся сілы для генеральнага наступу, наталялася сокамі, дужэла Перамога. І надта ж захацелася адсюль, з далёкага тылу, да «невядомых салдатаў» на перадавой адгукнуцца прывітальным словам слыннае гудзевічанкі Ларысы Геніюш:

Адзінай мэты не зракуся,
І сэрца мне не задрыжыць.
Як жыць — дык жыць для Беларусі,
А без яе — зусім не жыць...

Май 1984 г. Каўка.

**АЛЕСЬ БЕЛАКОЗ**

Дарагі сябра Каўко!

Шчыра дзякуй за патрыятычны ліст.

Вельмі прашу наведаць Канстанцыю Буйла і даведацца ў яе, ці ў ейным прозьвішчы націск падае на першы склад Бýйла ці на другі — Буйлó. Мы пра гэта напісалі ёй каля 10 лістоў, але яна чамусьці піша пра розныя справы, а на пытаньні не адказвае.

У нас многія і сёньня яе называюць Буйла, а іншыя — Буйло.

Вы, калі ласка, не кажыце, што гэта наша просьба, а проста пацікаўцеся, як вымаўляць яе прозьвішча. Яна чамусьці гадоў дваццаць назад захацела, каб усюды пісалі Буйло, бо ў пачатку XX стагоддзя пісалі Буйло. Але ж тады пісалі і жыто, і добро, і хутко і інш. Гэта не значыць, што сёньня мы павінны пісаць і вымаўляць жыто, хутко і інш. Баюся, што няправільнае гучаньне яе прозьвішча замацуецца ў стагоддзях.

У нас сёння прозьвішчы тыпу Саўка, Галоўка, Думка, Рабінка, Бяроза мяняюць на Саўко, Галаўко, Думко, Рабінко, Бяразо і г. д.

Правядзіце, калі ласка, гэтую работу далікатна і дыпламатычна. Парайцеся, калі ласка, пра гэта зь Мікалаем Мікалаевічам Улашчыкам. Канстанцыя Буйла — гэта кветка шчасця купалаўскага часу. І за ейнае прозьвішча трэба змагацца.

Са шчырай пашанай і ўдзячнасьцю Белакоз.

Ліпень, 1984.

Даражэнькі Алесь Мікалаевіч, добры дзень.

Як і вінаваціцца перад Вамі, не ведаю. Двойка мне за паводзіны — гэта разумею, бо заслужыў. Вучань з мяне не найлепшы, але небезнадзейны — паспрабую такі выправіцца. У доказ свае стараннасці дасылаю артыкул майго сябра — беларуса з Варшавы. Праблема, узнятая Туронкам, напэўна ж, Вам не абыякавая, а мо на свой лад і перажытая Вамі.

Цяпер адносна прозвішча Канстанцыі Антонаўны. Наша пані «Костка» ўпарта трымаецца канчатка «о», і ніякія довады яе не пераконваюць.

— Бацька мой быў Буйло, і я не хачу мяняць свайго бацькавага прозвішча на нейкае расплюшчанае «Буйла».

Гэта Глебка-нябожчык спрабаваў мяне перайначыць на «а», за што мы з ім былі пасварыліся.

— Канстанцыя Антонаўна, уявіце сабе, калі б Купала, не дай Бог, абярнуўся на Купало?

— Ну, гэта Вы залішне — Купала ёсць Купала! А вось самі чамусьці Каўко завецеся?

— Памылкова! Бацькі граматай беларускай не надта валодалі, а зрусіфікаваная «канцылярыя» яе не прызнавала. У вёсцы дзеда майго і мяне скрозь звалі: Каўка, Каўкаў. Малым я чамусьці саромеўся свайго прозвішча (мо таму, што хлопцы дражнілі: «Каўка-лямка» або: «Чый ты? — Каўкаў». Пазней затое, прачытаўшы ў Купалы «Закаўкалі каўкі на ўзвышшах...», супакоіўся). А цяпер дык з вялікай ахвотай згадзіўся б на першаснае гучанне ўласнага прозвішча, але не вялікая бяда, як мяне завуць. Прозвішча ж Буйлы — сцяганоснае, агульнанародны скарб і г. д. «Можа, Ваша рацыя. Але пакуль жыву, пакіньце маё прозвішча такім, якім яно дасталося ад бацькоў. Памру — тады хай сабе будзе Буйла». Такі быў адказ.

Прывёў, амаль стэнаграфічна, кавалак дыялогу ў закранутай Вамі тэме. Вынік, як бачыце, несуцяшальны. Вунь і «Буйлянка» ў прозе падрастае нам — Лялько. Янка Скрыган далікатна гэтак спрабаваў нахіліць дзяўчыну да «беларускага ладу». І прыхільнікі яе таленту ўшчувалі, кажуць,— не паддаецца! Не хоча слыць «Лялькай», як ні просяць. Але я загаварыўся, мабыць. Яшчэ раз дзякуй вялікі за водгукі «Скарынавыя». Гатовы да паслуг.

Удзячны Аляксей Каўка.

Ці існуе «путеводитель» па Гудзевіцкаму музею? Наогул, што можна прачытаць пра дзейнасць гудзевіцкіх краязнаўцаў?

28.10.1984 г.

*Публікацыя А. Каўкі*

*Тры прозвішчы-постаці: Іван Луцкевіч (1881—1919), Аркадзь Смоліч (1891—1943), Янка Станкевіч (1891—1976). Розныя людзі, розныя жыццяпісы і аднолькавы зыход — смерць на чужыне, забыццё на Бацькаўшчыне. Лёс амаль што тыповы для кожнага з адраджэнцаў нашых, хто жыў і сканаў дзеля аднае-адзінае справы: каб Беларусь была Беларуссю, яе насельніцтва — н а р о д а м. Каб у вольным Беларускім Доме ніколі ніякі імперскі хам не таптаў беларускае слова, не глуміўся над беларускай годнасцю. Каб кожны беларус, выбаўлены з палітычна-духоўнага жабрацтва, пачуўся ўрэшце грамадзянінам свае незалежнае Краіны. Здольным ведаць яе, шанаваць, бараніць.*

*Раздзел «Вяртанне» прымеркаваны на чародныя ўгодкі сыноў-руплівцаў Беларусі. Усе трое — таксама «людзі з мінулага», ад якога яшчэ саўсім нядаўна шаманы-изобличители не прыставалі загаворваць нас, засцерагаць. А між тым яно, мінулае, дасюль страляе па сучаснасці й будучыні нашай, па нявольніцтву беларускаму...*

*Вырывайма палын забыцця, адчыняйма закратаваную браму Беларускае спадчыны — неўміручасці. Шырокаму чытачу — шырокае поле пазнання. Каб, Скарыну наследуючы, па кожным чытанні нечаму новаму навучыўся.*

*А. К.*



## *Іван Луцкевіч*

# АЙ-КІТАБ — КІЦЁП

**Пасьмяротная стацьця**
**вядомага беларускага археолага Івана Луцкевіча**[1]

Літоўскія татары-магаметане, якія дагэтуль жывуць на Беларусі, у Меншчыне і Віленшчыне, пасяліліся ў нашым краі на пачатку XV стагодзьдзя. Яны былі вызваны як дапамагаючы корпус войска проці крыжакаў вялікім князем Вітаўтам. Пасьля вайны яны асталіся ў нашым краю, атрымалі права ажаніцца з дачкамі тутэйшых баяр-шляхты і прынялі ад іх фаміліі-прозьвішчы, звычаі і беларускую мову, і толькі вера засталася магаметанскай. Вось для духоўнай патрэбы татараў муллы (мална) арабскімі літарамі ператтумачылі на беларускую мову сьвятую кнігу «Ай-Кітаб», якую зьбеларушчылі ў слова «Кіцёп». Гэта кніга сьвятая ёсьць тлумачэньнем Корану, яго важнейшых прыповесьцяў. Знаньне арабскай мовы хутка загінула, засталося толькі знаўства пісаць арабскімі літарамі і чытаць яе... Вучыліся татары доўгі час чытаць арабскімі літарамі з памянёнай вышэй беларускай кніжкі Кіцёпа. (Пазьней, пад уплывам паланізацыі, «беларускі» Коран і Ай-Кітаб выходзяць з ужытку, паколькі друкуецца лацінкай цэлы «Ай-Кітаб».) Аўтар знайшоў «беларускі» выпуск (пасьля доўгіх росшукаў!) у татарскага мулы Сьцяпана Палтаркевіча ў ваколіцы Сорак-Татары пад Вільняй. Кіцёп гэты складаецца з колькі сот старонак рукапісу, пісаны ў канцы XVI або пачатку XVII веку (няма пачатку і канца).

Дагэтуль удалося часьць яго расчытаць, перапісваючы арабскія літары на лацінскія літара ў літару. Атрымаўся чыста беларускі тэкст, які ніжэй падаю гражданкаю.

---

[1] Яе даў нябожчык у 1918 годзе Язэпу Варонцы для часопіса «Варта». Але, на жаль, «Варта» не выйшла з друку. (— *Рэд.*) Першы і адзіны нумар «Варты» такі выйшаў у свет, захоўваецца ў Дзяржаўным Архіве-Музеі Літаратуры і Мастацтва БССР. (— *Уклад.*)

Старонка 1-я. «На прод Божэ іме ўспамінайма, міласьць унутры сваіх уфундуем, першый і остатній он ест векоістый, да кожнай рэчы моцны, ніхто ему непадобны ест, есьлі нічога не было, тварыў сьвет». Стар[онка] 2-я. «Цемна было, очы сьветласьці не відзелі. Куры не пелі, сабакі не брэхалі, дошч ішоў, цемна было, вецер веяў. Разумеў, што судны дзень настаў».

Дзьве характэрныя асобнасьці зварочваюць на сябе ўвагу ў старым беларускім правапісе, пісаным арабістыкай (якіх у кірылічным тэксьце старых беларускіх памятнікаў ніколі не спатыкаем): 1) гэта ясны гук «дз» (у арабскай транскрыпцыі для яго існуе асобнае начартаньне літары «д» — яна перачоркнута), 2) гук «ць» (у кірылічнай транскрыпцыі было б: темно, сьветласти, міласть). Словам, арабістыка зафіксіравала тагачасную беларускую мову. Гэта ёсьць незбураны доказ, што жывая беларуская мова мае два характэрныя гукі ад найдаўнейшых часоў і што новая беларуская транскрыпцыя грамадзяніцай і лацініцай зусім правільная, а ўсе хітрыкі масквафілаў, якія не прызнавалі «дзе» і «це», фундуючыся на ўбогасьці і беднасьці кірылічнага правапісу, у недахваце знакаў для перадачы памянёных жывых гукаў беларускай мовы, не маюць пад сабой ніякай навуковай падставы, апрача русіфікатарскай тэндэнцыі, якая пры адкрыцьці такога важнага памятніка беларускага пісьменства, як «Кіцёп» арабістыкай па-беларуску, сама сабой адпадае.

Менск, 1918 год.
Беларускае жыцьцё, 1920, № 6(28)

## АБ БЕЛАРУСКІМ МАСТАЦТВЕ

**(Думкі з прычыны выстаўкі ў Менску)**

З прычыны Краёвай Выстаўкі Старажытнасьцяў у Менску лічу патрэбным падзяліцца думкамі аб беларускім мастацтве наогул.

Як і ўсюды ў нас, мастацтва прышло да беларусаў разам з хрысьціянствам з Усходу. У першых часох хрысьціянства яно было скрозь у нас бізантыйскае, але наплывы з поўначы праз знамянітую тарговую дарогу «з варагаў у грэкі» прынесьлі вялікі дадатак культуры паўночнаскандынаўскай, што выяўляецца ва ўзорах сярэдне-векавога мастацтва.

Каб схематычна пазнаёміцца з мясцовым стылем, трэ было б апісаць гісторыю краёвых цэхаў, каторыя выраблялі ня толькі рэчы першае патрэбы, але і збыткоўныя кунштоўныя вырабы. Найбольш характэрна для беларускага мастацтва праца малярскага цэху, каторыя разам з цэхам пазалотніцкім з давён-даўна, бо ўжо пры жыцьці сьвятой княгіні Еўфрасіньні Полацкай, вырабляў артыстычныя рэчы — глядзі Крыж сьв. Еўфрасіньні, зроблены ў Полацку. Спачатку мастацкі цэх у Полацку, Смаленску і іншых культурных цэнтрах Беларусі працаваў, узіраючыся на бізантыйскія арыгіналы, але пазьней, перайшоўшы да Вільні, завязаў зносіны з Поўначчу і Заходам праз крыжакаў, праз Рыгу і Каралевец (работы віленскіх маляроў, датаваныя XV сталецьцем, бачым у Ягелонскай капліцы ў Кракаве). Гэтыя зносіны з Заходам даюць ужо ў XV і XVI веку знамяніты рэзультат: беларускае малярства, злучаючы старабізантыйскія ўплывы з заходнім мастацтвам, уліло да гэтага мясцовыя матывы ў аздобах, рэчах, апратках і асаблівыя рысы беларускага народу. Гэтак вытварыліся знамянітыя прымернікі прымітыўнай беларускай малярскай школы, «рытай па золату», як ясна пішуць і называюць яе старыя інвентары цэркваў і манастыроў (напрыклад, слуцкіх). Гэты «куншт малярскі, па золату рыты» дзержыцца ў беларускім цэхавым малярстве праз увесь XVII і XVIII век: у прымерніках слуцкіх абразоў з XVI і XVII вякоў і нават у XVIII веку ў вельмі пекных абразах з Магілеўшчыны, багата прадстаўленых у сабраньні царкоўных старажытнасьцяў Магілева.

У арнаментах на рызах і сярэбраных рэчах, а таксама на вырабах золататкацкага цэху, ганчарных (кераміка) і графічных бачым улюбёныя беларускія кветкі. Пазьней гэта ж самае сустракаем у ткацтве (хаця б слуцкім — паясы), арнаментах, роспісах царкоўных, у мініатурах старых эвангелій, у фрэсках старасьвецкіх замкаў (успамяну толькі Троцкі замак).

Усё гэта дае багаты матэрыял для гісторыі беларускага мастацтва. Маладыя беларускія мастакі-артысты павінны ў гэтым — таксама, як у архітэктуры-будаўніцтве цэркваў і званічак — шукаць прымернікаў дзеля новага творства; нашы маляры павінны браць усё, што ёсьць добрае і арыгінальнае ў малярскім куншце старых беларускіх «па золату рытых» абразоў, у творстве нашай старой Бацькаўшчыны.

Гоман (Homan), 1918, № 70



*Кветка Вітан*

## «НАША НІВА» І ІВАН ЛУЦКЕВІЧ

Колькі я памятаю, на зьяўленьне ў продажы газэты «Нашай Нівы» вілянчукі мала ўзялі ўвагі. Шмат зь іх казалі з пагардай: «Ot, chłopska gazeta». Але з часам яна, хоць і «хлопска», знайшла зацікаўленьне сярод інтэлігенцыі як польскай, так і расейскай. Некаторыя з Палякоў глядзелі на гэта як на «хлопоманство» і выяўленьне краёвага патрыятызму ды казалі, што прыпамінала гэта Яна Чачота зь ягонай працай «Piosęki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny». Але бальшыня віленскіх Палякоў-шавіністых глядзела на зьяўленьне беларускай прэсы варожа, бо гэта падрывала палянізацыю беларускага сялянства. А Расейцы пабачылі ў беларускай прэсе праявы сепаратызму, што перашкаджала русыфікацыі гэтага краю.

Такія пагляды я чула сярод знаёмых, калі, пачынаючы ад 1907 году, прыяжджала зь Пецярбурга, з Вышэйшых Жаночых Курсаў, да хаты на сьвяты й вакацыі. Мы часта спрачаліся на гэту тэму, бо, як студэнтка філялёгіі, я трымалася таго пагляду, што народ выяўляе свае здольнасці й творыць найлепш у сваёй роднай мове. А што цяпер яшчэ мова гэтая мае адзнакі мовы «мужыцкай», дык гэта зьява часовая, калі над мовай гэтай папрацаваць, яна станецца такой жа «панскай», як і іншыя мовы. Гэтым я злавала польскіх і расейскіх шавіністых, бо наагул не прызнавала неталеранцыі што да іншай веры ці нацыянальнасьці. Гэтак я прызнавала беларускаму адраджэнскаму руху raison d'être, але бліжэйшага сутыку зь ягонымі прадстаўнікамі яшчэ ня мела. «Цётка», якую я знала зь гімназіі, вярнулася ў Вільню, калі я была на курсах, дзеля гэтага мы й не спаткаліся. У часе вакацыяў я была занятая хатнімі справамі нашай вялікай сям'і, а ў Пецярбурзе знала толькі сваю навуку.

Калі я на пачатку лета 1915 году (быў другі год вайны) пазнаёмілася зь Іванам Луцкевічам, дык зацікавілася ім ня толькі як чалавекам, але й ягонымі ідэаламі й працай, у якой я пасьля ўзяла жывы ўдзел. «Наша Ніва» тады яшчэ выходзіла, але я ў ейнай рэдакцыі ня бывала, ды шмат каго зь ейных калішніх працаўнікоў там ня было ўжо, яны былі пакліканы ў армію або выехалі зь Вільні дзеля ваенных падзеяў і пагрозы нямецкай акупацыі.

Актыўны ўдзел у працы «Беларускага камітэту дапамогі ўцярпелым» я пачала толькі пасьля прыходу ў Вільню нямецкага войска й таму магла пазнаёміцца толькі з тымі супрацоўнікамі «Нашай Нівы», што засталіся ў Вільні: братамі Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім ды зноў спаткалася зь «Цёткай». З Аляксандрам Уласавым, мастаком Язэпам Драздовічам і праф. Вацлавам Іваноўскім я пазнаёмілася ў 1919 г., калі яны вярнуліся ў Вільню.

Аб газэце «Нашай Ніве», ейнай ідэалёгіі й фінансавых справах апавядаў мне Іван Луцкевіч. Утрыманьне газэты ляжала вылучна на ягоных плячох. (Падаю тут тое, што апавядаў мне сам Іван Луцкевіч.) Па заканчэньні сваіх археалягічных студыяў у Вене Іван Луцкевіч варочаецца ў Пецярбург, дзе студыюе правa. Але, калі па рэвалюцыі 1905 году была скасаваная забарона беларускага друку ды паўсталі магчымасьці пашырэньня беларускае працы ў краі, Іван Луцкевіч, як і ягоны брат Антон, перапыняюць сваю навуку й настала перабіраюцца ў Вільню. (Антон Луцкевіч быў студэнтам універсітэту ў Дорпаце — цяпер Тарту ў Эстоніі, студыяваў прыродаведу.) Па сьмерці бацькі, калі браты Луцкевічы канчалі гімназію, на іхнюю долю прыпала невялікая спадчына па бацьку, што дала ім магчымасьць вучыцца далей, але, яшчэ будучы студэнтамі, яны часта давалі грошы на беларускую справу. Калі ж яны перабраліся ў Вільню, дык арганізацыя беларускай працы, асабліва ж друку, неўзабаве праглынула рэшту іхнае спадчыны, і каб не дапусьціць да заняпаду гэтае працы, трэба было шукаць новых сяродкаў. Параўнальна невялікая група Беларусаў, што становіла фактычны актыў беларускага руху ў Вільні, была бедная й грошай на справу даць не магла. Апрача братоў Луцкевічаў, што былі фактычнымі рэдактарамі «Нашае Нівы», да гэтае групы належылі: Аляксандр Уласаў — афіцыйны рэдактар «Нашае Нівы», Янка Купала, Ядвігін Ш., Вацлаў Ластоўскі, А. Чыж, Сяргей Палуян (памёр у 1910 годзе), мастак Язэп Драздовіч ды яшчэ некалькі асобаў. Гэта былі

маладыя ідэялістыя, поўныя запалу й энэргіі ў працы на адраджэньне Беларусі. Грошай яны ня мелі. Мусілі ня толькі дарма працаваць у газэце ці на іншых дзялянках беларускага руху, але й часам выціскаць із сваіх мізэрных заработкаў для гэтага руху. Адзін А. Уласаў быў заможнейшы, бо меў хвальварк Мігаўку пад Радашкавічамі, але з гэтага хвальварку ён мусіў жыць сам, бо іншых прыбыткаў ня меў. Аднак, працуючы ў газэце разам з братамі Луцкевічамі, ён памагаў аплачваць кватэру для ўсяго штабу «Нашае Нівы». Мы бачылі, як грамадзтва Вільні, фактычна чужое, ставілася да «Нашае Нівы», дык ясна, што хоць і заможнае, але падтрымаць гэтую газэту яно не хацела. Выняткам быў Зыгмунт Нагродзкі (собсьнік складу ралейных машынаў — сябра Францішка Багушэвіча), які часамі даваў хоць невялікае падтрыманьне. Бальшыня ж віляначукоў глядзела на беларускі рух, як на нешта варожае або недарэчнае. Гэтак нашаніўцы мусілі лічыць толькі на свае собскія сілы.

«Наша Ніва» — асабліва спачатку — мела мала платных падпішчыкаў, на вёску высылалася пераважна дарма, а ў самой Вільні разыходзілася мала. З гледзішча гаспадарскага гэта было моцна дэфіцытнае прадпрыёмства, і, каб утрымаць яго, трэба было шукаць нейкіх пабочных крыніцаў. І вось гэтае заданьне ўзяў на сябе Іван Луцкевіч. Ён ня мог пайсьці на службу або заняцца нейкай сталай заработкавай працай, бо ўвесь час і энэргію сваю мусіў аддаваць маладому беларускаму руху, будучы галоўным маторам і кіраўніком яго. Проста дзіву даешся, як успомніш, як гэты чалавек, заараны штодзённай грамадзкай працай, знаходзіў часу і спосабаў здабываньня грошай на ўсю беларускую справу. Ён кідаўся на ўсе бакі, пры гэтым ніколі не дбаў аб свае асабістыя патрэбы: што здабыў, тое йшло ў грамадзкі кацёл. Ён бярэ прадстаўніцтва ад розных фірмаў, пасярэднічае ў транзакцыях з замежжам, мае шмат знаёмых сярод Жыдоў і ў сваіх частых разьездах выконвае розныя гандлёвыя даручэньні, за што дастае пэўны працэнт. Але з усіх гэтых нясталых прыбыткаў ён ня мог бы пакрываць выдаткаў на газэту й іншыя грамадзкія справы. Больш пэўны прыбытак прыносіла перапродаж антыкварных рэчаў. Іван Луцкевіч быў найлепшы знавец старасьвеччыны й мастацтва на ўвесь край. Усюды, дзе толькі ён ня бываў, ягоныя вочы шукалі старасьвецкіх і мастацкіх рэчаў: старой або народнай старасьвецкай разьбы, мастацкіх абразоў сьвецкіх і царкоў-

ных, старых рукапісаў і друкаў ды іншых падобных рэчаў. Ён меў нейкі спецыяльны нюх ці здольнасці, каб вынаходзіць гэтыя рэчы там, дзе, здавалася б, зусім ня месца ім. Ён знаходзіць іх на кірмашох, на падстрэшшах старых двароў, у букіністых, перакупнікаў і рызьнікаў або й ледзь што не на сьметніках. Набываў ён іх пераважна як бязвартасныя рэчы, за грашы. Тады ён ведаў, як гэтыя рэчы адрэстаўраваць, і калі яны мелі беларускую характарыстыку — пакідаў іх у сваіх музэйных зборах, калі ж яны гэтай характарыстыкі ня мелі — прадаваў за належную ім цану й гэтак здабываў сяродкі на беларускую нацыянальную справу. Дзякуючы ягонай стараннасьці, беларуская справа расла і дужэла, разам з тым расьлі зборы беларускай старасьвеччыны, зь якіх пасьля склаўся музэй — адзін з найбагацейшых у Вільні — музэй пад ягоным імём. Больш вартасныя рэчы не беларускага значаньня ён прадаваў у Пецярбургу, у Варшаве або й замежамі — у Кракаве ці Львове, дзе меў сталую сувязь з большымі антыкварыятамі. За некаторыя рэчы ён даставаў па колькісот рублёў (раз навет за абраз якогась старога французскага маляра дастаў больш як тысячу рублёў). Такія большыя транзакцыі былі для яго сьвятамі. Прыехаўшы ў Вільню, ён перш за ўсё плаціў даўгі за газэту — за паперу й друк, і іншыя старыя даўгі; плаціў задаўненую пэнсію хатняй наймічцы, купляў даўна нагледжаныя экспанаты для свайго музэю і канечна патрэбныя рэчы для сябе. Калі боты былі ўжо да немагчымасьці дзіравыя або вопратка занадта заношаная, дык купляў сабе ці брату Антону, Але неўзабаве зноў браў напавер паперу й рабіў іншыя даўгі, пакуль зноў здабываў грошы перапродажай. Гэтак Іван Луцкевіч, жывучы вельмі сьціпла із сваім братам Антонам, фінансаваў газэту «Наша Ніва» ды бадай усю беларускую працу ў Вільні ў часе ад 1906 да 1919 г. (У гадох 1913—1915 Іван Луцкевіч выкладаў у прыватнай школе рысункаў Рыбакова мастацтваведу, але зарабляў там вельмі мала.) Ад іншых супрацоўнікаў «Нашае Нівы» нельга было вымагаць грашовага падтрыманьня на газэту. Досыць таго было, што яны ў ёй задарма працавалі ды так ці інакш самі сябе ўтрымвалі.

Апошнімі гадамі свайго існаваньня «Наша Ніва» мела ўжо ладна платных падпішчыкаў. З году ў год матарыяльны стан газэты папраўляўся. Тады пачалася й выдавецкая праца. Было заложанае Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні. Тады ж паўстала й Беларуская Кнігарня

ў Вільні, якую вёў Вацлаў Ластоўскі, як ейны собсьнік — аж да 1918 г. Ён і жыў пры кнігарні із жонкай і дзьвюма дачкамі ды там жа складаў зборы старасьвеччыны (зьбіраць іх навучыўся ў Івана Луцкевіча).

У Пецярбурзе Вацлаў Іваноўскі арганізуе й спачатку фінансуе выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца...». Там выдаюцца галоўна літаратурныя творы й папулярныя брашуры для сялянства. Зь цягам часу гэтае выдавецтва пакрывала свае выдаткі й яно добра разраслося б, як мне апавядаў пасьля праф. Вацлаў Іваноўскі, калі б ня выбухла вайна. Зразумела, што й Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні трэба было спачатку паставіць на ногі й фінансаваць яго. І тут ізноў без грашовай дапамогі Івана Луцкевіча не адбылося.

Калі ў 1914 годзе выбухла вайна й Вільня адчула блізіню фронту, магчымасьці здабываньня грошай Іванам Луцкевічам звузіліся. Сувязі з замежжам былі перапыненыя, пошукі антыкварных рэчаў на правінцыі спыніліся дзеля блізіні фронту. Трэба было абмежавацца да малых купоўляў і продажаў у самой Вільні. Асабліва цяжкі быў 1915 год, калі фронт падышоў пад самую Вільню. Шмат беларусаў было мабілізавана ў армію, а сярод іх і супрацоўнікі «Нашай Нівы». Шмат падпішчыкаў было адрэзана фронтам. Дзеля ўсяго гэтага давялося спыніць далейшае выдаваньне «Нашае Нівы».

Аб сваіх удалых антыкварных транзакцыях апавядаў мне Іван Луцкевіч у часе нямецкай акупацыі, калі наракаў, што мусіць абмежыцца да дробных транзакцыяў. Нямецкія вайсковыя ахвоча куплялі антыкі, але Іван Луцкевіч мала што мог прадаць, калі беларускія экспанаты пакідаў для беларускага музэю. Я й так дзіўлюся, як ён мог пакрываць хатнія выдаткі праз увесь час нямецкай акупацыі, утрымваючы сябе й брата, ды яшчэ падтрымваючы матар'яльна беларускую справу. Праўда, браты Луцкевічы жылі вельмі ж сьціпла. (Пра гэта гл. Кветка Вітан: «Мае ўспаміны».)

Конадні, 1963, кн. 7



*Аркадзь Смоліч*

# ЛІСТЫ

## ДА БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА

28 лютага 1914. Пулавы.

Браток ты мой!

Вельмі мяне ўцешыла, што і ты нарэшце да мяне напісаў. А то я быў саўсім блізка страціў цябе з відавоку, бо толькі хіба Клаўдысь (Душэўскі) калі што пра цябе напіша, але ж ён пісаў наогул рэдка, дык я ад Пецярбургу быў саўсім блізка адрэзаны. Каб ужо больш не варочацца да гэтай справы, напішу, чаму я ласьне да цябе не пісаў. Упярод я пісаў, каб менш заходу было, адразу да вас абодвых, адпісываў жа мне адзін толькі Клаўдысь — дык я і зачаў да яго пісаць. От. Але мне пэўне ж у два разы прыемней гаварыць з вамі абодвымі без пасрэдка.

Даруй, што крыху прыпазьніўся з атпісам. Гэта затым, што я кожын ліст мушу перагравіць упярод, на што патрэбен неякі час, а другая рэч, што я наогул такі моцна цяпер заняты, дык пакуль час прыбярэш.

З таго, што ты пішыш, мне трудна дайсьці акуратнага прадстаўленьня аб тваіх перажываньнях, можна праўда табе спачуваць, але спачуцьце гэтае пэўне ж ня можа быць ні глыбокім, ні доўгім, затым, што вочы мае ні бачаць прычынаў, спавадзіўшых пачатковыя — у цябе — учуцця. Затым магу дражніць душу прэдстаўленьнем мучаніка, якому з кожнай хвілінай усё далей і далей уразаюцца ў цела неміласэрные... [слова нечытэльнае], але разам з'яўляецца і думка супраціўная — можа гэта толькі схема, выпуклы абраз.

Ня лёгкай было б задачай прыраўнаваць тваё цяперашняе жыццё і маё. Абставіны розныя ў мяне, мусіць, выглядаюць шмат шарэй — заўсёдная старызна. Уражэньняў — ніякіх, апроч хваёвага лесу і заходзячага сонейка.

Праўда, я іх люблю і шмат пекных гадзінаў, усё-ткі, яны мне далі, але ці можа гэта хоць крыху раўнавацца з Пецярбургам? Бядней за ўсё гэта на людзі і тое хараство, што імі вытвараецца. Ні новай думкі, ні свежага пачуцця. У цябе якраз гэтага годзі, аж надта. Праўда, доля і на мяне крыху ласкавей глянула, дала мне хоць маленькі гурток **сваіх** людзей, а гэта ўжо вялікі прыбытак, калі чалавек пачувае, што ўсё ж ні саўсім адзінокі. Нядобра толькі, што гурток гэты ні накорміць, ні напоіць мяне стравай духоўнай, бо сам вельмі мала мае. Ці можа гэта раўнавацца да таго як у вас? Гэтымі днямі зацьвердзілі нам уставу «кружка для изучения белорусско-литовского края», будзем меці ўласную пячатку і ўсякіе такіе рэчы, а галоўнае — лягчэй будзе зьбіраць беларусоў.

Ліст Клаўдыся вельмі мяне ўцешыў весткай аб спаўненьні нашай даўнай думкі — я кажу пра журнал. Мне вельмі падабаецца вашая раптоўнасьць і цьвёрдасьць, я нават (трэба прызнацца) ні спадзяваўся, што вы гэткіе спрытные. Цікава было б мне даведацца аб дэталях вашага намыслу. Я ўжо пішу для вас адзін артыкулік — ні ведаю, як выйдзе толькі. Буду пісаць і больш, пасколькі часу хваціць. Названьне журнала мне трохі не падабаецца, ласьне не падабаецца мне слова **«Студэнцкіе** думкі», бо вельмі мала яно гаворэ і вельмі нас звязуе, а глаўнае — нейкае нясмачнае слова «студэнцкіе». Я б стаў за якое іншае слова — ну там: «вольныя», ці «простыя», ці «родныя думкі», абы не «студэнцкіе». А ўнізе можна напісаць — «орган беларускіх студэнтаў». Тады б журнал мог развіцца ў сур'ёзны ідэёвы месячнік і быць такім, якога нам летась жадалася, г[эта] зн[ачыць] развіваць розные пытаньні чыста інтэлектуальнага характару, асьвечаць дарогу нашай інтэлігенцыі, выраблять свой уласны сьветапогляд. Ну — годзі аб гэтым. Незадоўга пісаць буду Клаўдысю, тады прышлю што якое ў журнал і песьняў яшчэ і можа яшчэ што. Паглядзім. Сёньні пасылаю дзьве валачобных. Браток дарагі, пісаў бы з ахвотаю больш, ды няхай ужо хіба на другі раз, і так часам даплачаць табе прыдзецца. Бывай здароў. Цалуй Клаўдыся і атпісуй мне ні марудзячы. Аркадзь.

Бачыў «Лучынку»? — Праўда, добра напісана? Мне вельмі падабаіцца. Ёсьць тамака і Арцём Жывіца — твой даўны знаёмы, а хто — адгадай. Цяпер я і таварышы мае пулаўскія манімся яшчэ таго-сяго туды напісаць з прыродазнаўства. Гэта і нам карысна, бо разьвівае папулярны

стыль, які нам канечне падабаіцца і «Лучынцэ» можа не зашкодзіць. Адным словам, робімся мы саўсім пісакамі; добра гэта ці дрэнна — Бог яго сьвяты ведае.

---

12.V.1914.

Мой ты браток!

Ці я ж бы з табой ні паехаў ці ні пайшоў па старане роднай, таемнай і вабючай? Ці я ні хацеў бы ўпіцца харaством паэзіі народу нашага — ажыўчым і недасягненым? Толькі ж мусіць ня выйдзе гэтак: сам сабе наставіў чалавек сілаў, абрысаваў кругом дарогі свае і — выходзіць — нявольнік абставінаў. Ну от гэтак і я. Прэдставілася мне праца — дужа цікавая, праўда, важная для мяне і карысная. Зблазьніўся і ўзяўся, што ж ты зробіш, чалавечнасьць! Значыць, я табе ні таварыш у хадуны. Не меней скажым гэтак: няпэўны і невыгодны таварыш. Пабачым, якіх тыдні са два можа б я часу выкруціў з якога 15—20 ліпеня да 1—5 жніўня — залежна ад таго, калі сажну сваё жыта (пэўне ж не мэтазроданае). Ну дык от. Калі б табе на той час я ні быў лішні — дак бы далучыўся з ахвотаю. Мне думаецца, што будзеш жа езьдзіць можа месяц ці больш — ну дак знайдзі сабе сталага і пэўнага кампанёна, а я, калі можна будзе, калі ўдасца,— далучуся і толькі ў пэўным агранічаным часе. Між іншым, была тут і між нас пулавякаў — каб пайсьці ў хадуны. Меркавалі ўсе — каб Усходнюю Магілеўшчыну і Чэрнігаўшчыну, галінкай — Смаленшчыну. Ну але гэтая справа развалілася з двох прычынаў: Рышковіч лічыць, што ён можа ніспадзявана захварэць у дарозі і наогул ня пэвен у сваім здароўі, з другога боку я магу пайсьці толькі на кароткі час і то яшчэ пэўна невядома. Трэйці — Галкоўскі то можа б і пайшоў — ён дужа сымпатычны хлапец, мае час; з Беларусяю ён вельмі слаба азнаёмлены (жыве ў Чарнігаве), але пазнаёміцца шчыра хоча. Калі б табе канечне патрэбен быў кампанён, мог бы я з ім пагаварыць. Напішы паскарэй, як і што: калі маніцеся ехаць і куды маніцеся ехаць, гэта цікава і патрэбна.

Што да маёй драмы ці... [слова нечытэльнае] да тваёй крытыкі, дык скажу от што. Пішыш — драма **ёсьць** і ёсьць яшчэ — праўдзівасьць. О, каб гэтулькі было! — То для мяне ды і не толькі для мяне гэтага было б годзі і годзі. Ласьне калі ёсьць гэтыя дзьве рэчы, дык сцэнічнасьць павінная быць як атрыбут непазбытны. Але ты не дагаварыў, прагаварыўшыся. Я даю асобае значэньне, у розуме ха-

рактарыстыкі, самым першым тваім словам: «Ні скажу табе — памры, Аркась, ці больш ні пішы». Але пасьля ты пішыш ня тое, што можна было б спадзявацца [пасьля] першых словаў. Адным словам, я чакаў крытыкі пашырнейшай і больш апрадзеленай. Ну але гэта к слову. Што мяне больш непакоіць — гэта няспрытнасьць, як пішаш, 4 акту. Непакоіць — дзеля таго, што гэта нэрв п'есы і бадай ці ні ў яго ўлажыў я найбольш душы. Праўду табе сказаць — з яго і п'есу пачаў пісаць (я гэтак неяк заўсёды з-сярэдзіны пачынаю). Рэшту актаў я ўжо дарабляў. Калі ўся вада толькі ў сцэнічнасьці — гэта ўсе добра, бо я ж і адразу пісаў: гэта драма да чытаньня, а не да прэдстаўленьня. Ну але спадзяюся, ты мне яшчэ напішыш — як вальнейшым часам — і пашырней. І перад усім — шчырасьць: што думаеш, тое і кажы, бо трэба мне нарэшце ведаць, хто я — пісар ці пісьменнік. От яшчэ цікава — бачыш ты сымболіку ў драме ці не? Калі бачыш — як яе разумееш? Напішы і пра гэта.

Трэба было б мне пазлавацца на вас. Гэтак ужо спэўнялася, што 18/11 будзе журнал, што я яшчэ перад 18 [-м] пачаў яго чакаць, а ўжо пасьля — то няма што і казаць. А тут — ні журнала, а ні якой весткі. Я ўжо думаў, што вы ў якія там «Кресты», ці куды трапілі — што ж ані духа іхняга. Напісаў да цябе. Ты крыху замарудзіў (хоць мала, праўда), дык я ўжо пэўны, што з вамі дрэнь, пішу пачтоўку да Клаўдыся на суполку, а на другі дзень — твой ліст. Ну а «Раніцу» чакаю і цяпер з дня на дзень. Чаму вы мне аб ёй рашытэльна нічога не пісалі, ні пішыце? Ну, але што з вамі зробіш? Вясна — аргумент зразумелы!

Бывай здароў! Глядзі ж, пішы, не забывайся.

Аркадзь.

Пасылаю вам з Клаўдысям па фатаграфіі — надовеч атрымаў з Мінску. Рэч гэта нішкодная — добра б і вы абое зрабілі, каб прыслалі свае. А то — доўга не бачыўшыся і забудзешся.

Пішы ў Пулавы, і будзе гэта ўвесь час аж да сярэдзіны ліпня.

ЦДАМЛІМ Беларусі, ф. 3, воп. 1, арк. 131—135 адв.

## ДА ЛЮДВІКІ СІВІЦКАЙ[1]

1914, 9/III. Пулавы.

Паважаная пані!

З немалою ўцехаю вычыталі мы ў прысланым праз Вас лісьце, што пачынае і ў Варшаве рабіцца справа беларуская. Калі бачыш, як кідаюцца зярняты ў чорную, як чакаючую сяўбы зямліцу і наперад дамысьліваешся аб багатым ураджаі. Вялікую карысьць зробіце для Бацькаўшчыны, калі папрацуеце добра ў Варшаве, бо ўдасца Вам выкарыстаць шмат-шмат сьпячых сілаў. Вітаем Вас шчыра і зычым удачы.

Што належыць да нашай помачы ў выдаваньні аднаднёўкі, мусім растлумачыць ось што: сьведамых беларусоў у Пулавах вельмі мала і ніхто з іх апрача карэспандэнцый да навукова-папулярных артыкулаў нічога не пісаў. Не выракаемся таго, што мала б хто з нас і здольны што якое напісаць «з паэзіі», але толькі не цяпер. Гэта за тым, што ў красавіку і траўні ў нас экзамены, а праз цэлы сакавік тыя, хто мог бы што пісаць, заняты падгатоўкай матэрыялаў да «Лучынкі» і да маючага выйсьці ў Пецярбургу ў пачатку красавіка студэнцкага часопісу «Вольныя Думкі». Калі Вы аб гэтым часопісе йшчэ ня чулі, скажу Вам, што мае ён быць ідэёвым кіраўніком беларускай інтэлігенцкай маладзёжы і пастараецца ў прозе і паэзіі адбіць найпаўней яе жыццё.

Мы не ведаем мэтаў і праграмы вашай аднаднёўкі, якую маніцеся выдаваць, але калі б яны былі падобны да мэтаў і праграмы ўспомненага пецярбургскага часопіса, дык можа найлепей было б, не разьбіваючы і так небагатых нашых духоўных і матэрыяльных сілаў, накіраваць супольныя высілкі ў адзін бок і памагчы тым часам пецярбургскаму часопісу, каторы тамака можа прынесьці больш карысьці [...], бо там вельмі багата інтэлігенцыі беларускай і значная яе частка нацыянальна сьвядомая. Мы пэўна ведаем, што не маем ніякага права даваць парады, але спадзяюся, што гэта будзе нам даравана, бо ад чыстага сэрца.

Калі каму з нас давядзецца быць у Варшаве — будзем лічыць сваёй павіннасьцю знайсьці каго з Вашага гуртка і як мае быць аб усім пагаманіць. Можа б і мы калі што памаглі. Тым жа часам былі б вельмі ўдзячны, калі б хто

---

[1] Спадарыні Людвіцы Сівіцкай (Зосьцы Верас) выказваю ласкавы дзякуй за мажлівасць азнаямлення з лістамі і іх публікацыі. *(А. Каўка.)*

нас час ад часу паведамляў, што як робіцца ў Варшаўскіх беларусаў, гэта зрабіла б нейкі кантакт між Пулавамі і Варшаваю, абеім старанам, як здаецца, карысна. Вітаем А. Смоліч. В. Рышкевіч.

---

20.V.1914 г. Пулавы.

Паважаная Паненачка!

[...] Ласьне я вельмі рад, што стрэў у Паненцы саўсім сьвядомую беларуску і прытым такую, здаецца, якою яна быць павінна. У нашы часы гэта ўсё рэдка і ўжо дзеля таго дарага і цікава. Дарага затым, што вы — кабеты прынясіцё жывую душу адраджэньня, а цікава затым, што характар гэтай душы, яе асноўныя рысы ўжо выяўляюцца і могуць быць угледжаны ў першых яе тварэньнях. Гэтак для кожнага беларуса.

Для мяне ж гэта ўсё мае асаблівае значэньне, ужо дзеля таго, што мне соладка кожная думка сьвежая і новае слова беларускае, а ў Пулавах гэтак рэдка іх пачуеш. Можа і ніколі. Дзеля гэтага ўсяго радасна вітаў бы Вашыя лісты, асабліва каб яны былі даўжэйшыя; от, між іншым, цікава, як Вы глядзіцё на справу палітычнага адраджэньня Беларусі, як яе прадстаўляеце ў бліжэйшай і далейшай будучыні? У суседзяў-украінцаў справа гэтая ўжо даўно ўсплыла перад агульную сьведамасьць з-пад стагадовага забыцьця... Патроху становіцца яна на чарод і ў нас, бо да гэтага змушае жыцьцё, хуткі развой справы нашай.

[...] Шкадую Вас, што марнуецеся ў Варшаве гэткімі часамі. Затое, праўда, маеце вялікую пацеху — тэатр, і цяперака спамінаю часта і з прыемнасьцю «Балладыну». Аб гэтай рэчы меў я тады саўсім поўнае ўражанне, поўную ілюзію. Не кідаю быць удзячным і Вам за таварыства мілае і цікавае. Пэўна неяк надумаемся мы з Рышкевічам да ізноў паедзем у Варшаву, спецыяльна ў тэатр.

[...] А можа ў Пулавы як выберэцеся?

Бывайце здаровы! —

Аркась Смоліч.

P.S. Рышкевіч кланяецца.

Студэнцкі журнал («Раніца» — так ахрысьцілі. Добра?) яшчэ не прышоў, але ўжо друкуецца. Гэтак пісалі з Пецярбургу. Як атрымаю — прышлю і ў Варшаву ўсім ці хоць Вам прынамсі. Напішыце тады, як Вам што ўпадабаецца. Наогул, адпішыце хутка, і я ўжо буду старацца, каб не пазьней як на другі дзень па атрыманьні.

А. С.

---

22/VII.1914 г. Пулавы.

Паважаная Таварышка!

Вельмі дзякую за ліст, што не забыліся і хутка напісалі. [...] Аднаму мы скажам: «бараніце роднай мовы і звычаяў», другім будзем гаварыць аб нацыянальным абліччы, трэцім растлумачым, якое значэньне мае развіцьцё творчых сілаў народу, а перад некаторымі паставім праблему нацыянальнай індывідуальнасці як нейкай вартасьці, што жыве ў сьвеце і кіруе ім, не гледзячы на час і прастору, як адвечнай касьмічнай сілы. Але кожны, канечне, павінен даводзіць свае мэты да таго пункту, дзе пачынаецца вера, затым, што розум бясьсільны. Гэтая вера і зьвязаная з ёю жыцьцёвая моц ахоплівае тады сабою ўсю сістэму праканананьняў-мэтаў і спаўняе праваджэньне іх у жыцьцё.

[...] Можа быць, што нямала знойдзецца такіх людзей, якія саўсім задаволяцца гэтымі дробнымі мэтамі, прымуць іх ужо на веру. Але большая частка інтэлігенцыі захоча дальшых перспектываў, і калі ёй іх не даць, назаве кіраўнікоў руху сьляпымі і працаваць пры такіх варунках не захоча. Ды праўда і Вы з гэтым мусіце згадзіцца.

А што належыць да працы для людзей «малой веры» — залатыя гэта Вашыя словы, і я іх суцэльна прыймаю, дадаўшы толькі, што такая праца з наглядными рэзультатамі, пацяшаючымі і падмацоўваючымі, яна патрэбна і для людзей «з большай вераю».

[...] Бо ёсць два найгалоўнейшыя тыпы людзей! Людзі розума і людзі сэрца, ці, як па-вучонаму кажуць, людзі інтуіцыі. Гэты падзел характэрызуе часам цэлыя народы, не толькі асобных людзей. Старажытныя грэкі належылі да першага тыпу: для іх матэматычнасць, логіка ў рэчах і з’явах — гэта ўсё, за ўдалым красамоўствам — яны хоць на край света.

[...] Дэмасфен пастанавіў сам зрабіцца аратарам — моцна хацеў гэтага і зрабіўся, і пекнаце яго прамоваў яшчэ праз тысячу гадоў дзівіцца сьвет. Гэта, між іншым, довад таго, што чалавек можа, абы толькі хацеў [...] Мы, беларусы, належым, здаецца, барджэй што да другога тыпу, хоць можа і не так выразна гэта выяўляецца, у іншых славян — шмат выразней. Затым жа да беларусоў можна ісьці з праведзяй ні «гаворанай», а толькі перачутай, «бяз словаў, але жывою». Можна паказаць праўду чынам, жыцьцём сваім, можна выславіць яе адным якім выразам найзвычайнейшым, абы толькі ў гэтым выразе вылілася як найбольш перачутага, сьвятога. Натуры чыста інтуітыўныя —

яны логікі не патрабуюць, яны пераймаюцца ідэяй, запаляюцца ёй, як агонь ад агня — часта праз адзін узгляд, праз нейкае натхненьне. Каб павучаць такіх, павінна толькі мець веру і агонь, — энэргію ў сэрцы.

[...] І я ад усяго сэрца хацеў бы, хачу, нават стараюся аб тым, каб была згода ў беларускай сямейцы. Але я згоду разумею крыху іначай, чым як Вы пішыце; гэтай згоды аднэй дарогі быць ня можа. Перад усім кожны чалавек, калі ён мае індывідуальнасць, ідзе толькі сваім уласным шляхам. Можна смела сказаць, што ўва ўсякай грамадзе гэтулькі ёсць шляхоў, колькі ёсць выразна адзначаных індывідуальнасцяў. Тыя, хто хоча згоды, павінен дбаць толькі аб супольнасьці як найбольшае лічбы чыноў, каб як можна часцей людзі рабілі разам, супольна. Але і гэтага нялёгка дабіцца...

З усёй сваёй спагадаю Аркадзь Смоліч.

---

22 жніўня 1914 г.

Саломерычы Сёмкава-Гарадзецкай воласьці Мінскага уезду.

Вельмішаноўная Таварышка!

Крэпка вінаватым пачуваюся перад Вамі. Даўно ўжо атрымаў Ваш ліст; ведаю добра, сярод якога непакою і няпэўнасьці жывяцё, думаю, што і аб маёй яшчэ «долі гаротнай» клапоціцеся, бо жаночае чулае сэрца маеце, а яно ні шчасьлівым удачнікам спагадае, але тым, ад каго Доля адвярнулася.— От жа гэта здаецца мне нядобрым: Вы мяне шкадуеце, а мяне і шкадаваць якраз няма за што.

Бо з войска мяне пусьцілі — такі там указ выйшаў, каб студэнтаў не браць, і сяджу я цяперака — рашытэльна нічога не робячы — у бацькоў.

Ня тое дрэнна, што ў хаце сяджу, але тое дрэнна, што нічога не раблю дый рабіць ня хачу. Шмат чым гэта тлумачыцца, бо трэба ж чалавеку як апраўдацца. Тутака і нядагодныя варункі часу і мейсца, дзе знаходжуся, і тое, што параспадаліся такія цэнтры, як «Лучынка» (Уласава забралі ў салдаты, дык рэдакцыя ў асобе аднаго-ядынага экспедытара перарабілася ў нейкі хлеў), а каторыя і жывуць яшчэ, дык сядзяць ціхенька. А да ўсяго яшчэ тое, што саўсім я тут адзін-адным, ніхто нават пісаць ня хоча, хоць сабе і з Вільні. Дый самому мне здаецца, што ня такі цяперака час, каб пачынаці сур'ёзную адпавядзяльную працу. Праўда нешта можна было б і цяпер зрабіць дзеля

беларускае працы. От сабе такі Уласаў і яшчэ некаторыя пастараліся, і цяперака па ўсім Мінску вісіць абвестка вялікімі літарамі... надрукаваная па-беларуску. Першы раз. (У Мінску — дагэтуль і тэатральныя абвесткі на беларускія спектаклі пісаліся па-расейску.) Пачынаюць рабіцца і іншыя не меней сур'ёзныя і важныя справы — маняцца канцэрт зрабіць беларускі на карысць запасных, робіцца беларуская старонка(?) для дзяцей салдацкіх, нават аб школе беларускай гутаркі ідуць. Усё гэта яшчэ не ёсьць рухам беларускім, бо не вытвараецца народам і нават ніякай грамадзкай арганізацыяй, а толькі прыватнымі асобамі, нават прыватнай асобай і да таго вельмі ж няпэўнай пад узглядам сталасці сваіх намераў. Уся нашая задача — толькі выкарыстаць момант.

[...] Бачу, што нічога вартага Вам сёньня не напісаў. Шкада мне. Жыцьцё маё выкалеілася і ня хоча, як упярод, каціцца роўнай сцежкай, па вядомай пуціне. Дык затым і ліст гэткі. Ужо прабачайце да наступнага лісту. Адпісуйце хуценька, як у Вас і што. І бывайце здаровы.

З усёй пашанаю Аркадзь Смоліч.

Адрас: Сёмкава-Гарадзецкая воласць Мінскага у[езду], Саломерычы, Аркадзю Смолічу.

---

12—X—914. Саломерычы.

Мая даражэнькая сястрычка!

«Сколькі можа адзін усяго праменьчык сонейка зрабіць з душою людскаю!» — пісаў некаліcь гэтак Дастаеўскі, а цяперака я споўна прымаю і паўтараю гэтые словы. А гэтым праменьчыкам для мяне цяперака быў Ваш ліст — дзякуй Вам за яго шчырае. Усякі цуд ёсьць — толькі імпульс волі — людзкай ці надлюдзкай — і больш нічога. І ўваскрасеньне ёсьць першай аб'яваю ізноў знойдзеных сілаў. Пацешу Вас — можыце рабіць цуды — можа нівялікіе, далёка нячутные, але цуды. Гэта значыць, што да тых належыце, каторые часьцей атдаюць іншым сваю волю-энэргію, а не да тых, які часьцей карыстаюць с чужой. За гэты ліст я ўжо Вас вельмі расхваліў аднаму ягамосьцю, які праўда Вас мала саўсім знае (і то ад людзей), а Вы яго ішчэ менш. Але я напісаў яму, што ёсціка ў краю нашым чалавек, ад якога ў труднейшые мінуты можна пазычыць веры і ахвотнасьці — і мне здаецца, ён калі-небудзь па іх да Вас зьверніцца.

Да мяне Ваш ліст вярнуў энэргію. Стала сорамна за маладушнасьць і бязчыннасьць. Выхад адзін — да чыну

жывога. Дзе? — Пэўнеж у Мінску. І перад гэтым несколькі разоў прабаваў я, каб хоць крыху ўмацавацца ў Мінску, і ўсё надарэмне — ня мог знайсьці тамака працы сабе і значыцца ня мог пражыць і мусіў вертацца да бацькоў. Гэтые неўдачы вельмі мяне засмучалі і атбіралі ахвоту рабіць новые высілкі. Ну але Ваш ліст і йшчэ нікаторые з ім адночасные і аднохарактэрные давялі мяне да таго, што я рашыў — зрабіць апошні і як мага большы высілак, каб утрымацца ў Мінску. Цэльны тыдзень сядзеў тамака ў досыць нягодных варунках і таксама бэзрэзультатна. Дый трудна якога рэзультату спадзевацца, праўду кажучы, бо магу я разлічаць цяперака толькі на працу прыватную, а дзеж яе возьміш, калі ўсё сьціснулася, скароцілася, насколькі было можна. Ізноў вярнуўся дамоў і бяруся за навуку Інстытуцкую. Але ёсьць розьніца ў паваротах гэтым і папярэдніх. Тады — прыціснуты неўдачай, пазбаўлены ахвоты і ініцыятывы. Цяперака — толькі крыху ніздаволены — і то складам абставінаў. Цяперака чую, што нешта буду рабіць.

Пытаіціся, ці люблю навуку сваю. Ня ўсю, але люблю. Люблю ў тэй частцэ, дзе яна сумысле і спэцыяльна служыць чалавеку самому, а ні яго толькі цікавасьці. Люблю пачуваць у руках сваіх новае знарадзьдзе, сымболь панаваньня над жыцьцем. Пры нікаторых паваротах кола фартуны магу нават быць добрым агрономам. Цяперака — у гэтым часе — мае думкі можа нават і занадта пакіраваны ў гэты бок; але ні супраціўляюся, бо, як Вы добра казалі, энэргія нашая (асабліве — мая) як тая хваля морская.— Дзеля гэтай прычыны ні хочу і лісту даўгога сяньні пісаць, бо ніцікавы быў бы.

Чытаю па крысе казкі Раманава (з Магілеўшчыны). Трэба знаць усю сваю Бацькоўшчыну, а не адзін куток які. Апроч таго нейкай таемніцаю прыцягае мяне край той, нязьведаны і нівыкарыстаны. Нікаторые кажуць, што тамака захованы вялікіе магчымасьці, і прарочаць справе нашай у ём яскравую будучыну. А і ў казках шмат цікавага можна аткапаць. Хоць крыху ясьней робіцца загадка сфінкса-народа.

Настрой да мяне патроху варачаіцца. Веру ў карыснасьць будучых чынаў і буду гатавацца да іх, масьціць сьцежкі. І спадзяюся, што стрэнімся некаліс з Вамі пры адным варштаце. Гэта будзе ў яснай будучыне. Сумнай жа цяпершчынай хай ні сьціхая цяжкая, чорная праца! Я і ў ёй знайду асалоду, асабліве калі чуць буду часамі Ваш

падбадзёруючы голас. Пішыце, ні забывайціся і шмат. Вітаю Вас. Аркадзь Смоліч

з усёй сваёй пашанаю.

P.S. Прабачайце за нечытэльнасьць — гэткі ўжо характэр мой мусіць. Але калі трудна чытаць — напішыце.

— У Вільні навінаў нічутно, ці мне ні пішуць. Раніцу чыталі? Ці падабаіцца? Ёсьць там адзін грэх; цяперака такому Гмыраку хоць на вочы ні паказуйся. У Мінску Ўласаў ізноў атчыніў рэдакцыю. «Саха» напэўна выходзіць будзе, а Лучынка — німаведама. Вайна шмат напсавала.

Рышкевіч здаецца служыць аграномам у Лідзкім павеці. Але ўжо больш месяца ні пішэ.

---

г. Харьков, Почтовый переулок
д. № 7, кв. 1

16 лістапада 1914.

Вельміпаважаная Таварышка!

Пішу да Вас здалёку, с чужыны, аж с самага Харкава. Затым крыху і спазьніўся атпісаць — усё час такі быў — то зьбіраўся ехаць, то пераежджаў, а то пакуль у Харкаві разгледзіўся. Ну тут, ведаіце, шмат спакайней, чым у Мінску нават; каб газэтчыкі ні гукалі аб усякіх ведамасьцях з вайны (іх крыкам увесь горад повен), дык бы можа і забыўся, што недзе сьвет гіне ў полымі ды крыві. А такі спакой у нашые часы шмат каштуе. От проста магу сказаць, што тые тры месяцы, якіе прыйшлося так ці іначэй с прычыны вайны праседзіць у хаці, што гэты час так змарнаваўся, як бы яго й ні было. Нават горэй. Сляды яго ў душы надоўга йшчэ застануцца, бо пад гром гарматаў шмат, шмат чаго пабурылася і німаведама, ці створыцца нанова.

Хацелася мне пачуць шчырага чалавека і пры тым шчырага ідэолёга вайны. Як раз гэтак трапілася. Чытаў тут адзін сэрб, консул нейкі ці што, лекцыю аб вайне і яе скутках. Лектар, трэба сказаць, праўдзівы і шчыры патріот сваёй Бацькоўшчыны і ўсяе Славяншчыны. Ён казаў, ні толькі казаў, а нават заклікаў, каб даць кожнаму народу разьвівацца, як ён хоча. Польшча (этнографічная) павінна быць досыць нізалежнай, под протэкторатам Расеі, ня мець свайго войска — але гэта толькі датуль, покуль яна не здэмократызуецца (пакуль ні атойдзе ўлада ат шляхты). Украінцам трэба даць прынамсі гэтулькі, як яны мелі ў Аўстрыі, бо гэтага, кажэ, патрабуюць інтарэсы Славяншчыны.

Успомніў і пра Беларусь — кажучы, што і ёй патрэбна даць волю разьвівацца, як яна хоча. Успомніў прытым і аб адным факце, пра каторы Вы можа і ні ведаіце. Было ў Маскве нейкае «Славянскае» сабраньне, і от адзін паляк Курнатоўскі — чытаючы лекцыю аб граніцах будучай Польшчы, гэтак запрапанаваў — каб беларусоў («они, знаете, некультурный народъ», як гэты сэрб мой пераказваў яго словы), дык каб беларусоў падзяліць на дзьве часткі — каталікоў атдаць палякам, а праваслаўных запісаць у рускіе. Аднак сабраньне стрэла гэты проэкт саўсім ніпрыхільна, і Мілюкоў, каторы оппоноваў лектару, вельмі добра яго раскрытыкаваў, так што той і ні адазваўся. У гэтым я бачу вельмі добры для нас знак. Можна, значыць, спадзевацца, што і пасьля вайны неяк жыць можна будзе. А то ведаеце, што тут з украінцамі парабілі, дык страх. Усе часопісі — якіе толькі былі ў Расеі ды Галічыне — пазачыняны, усякіе грамадкі, таварыствы — таксама, так што можна было б думаць, што ўрад рашыў саўсім заціснуць справу ўкраінскую. Страх робіцца, як глянеш на гэтае самавольства.

Гаварыў ешчэ мой сэрб, што пасьля вайны будзе славянская фэдэрацыя з вечам — накшталт цяперашняе Гэрманскае Імпэріі з яе рэйхстагам. Хто ж яго ведае, моб гэта і добра. Але якая цана? Вунь ужо, пішуць, два міліёны людзей папсавана. А ці можна за самы найлепшы палітычны ідэал забіць ніпавіннага чалавека, хоць аднаго толькі? Я б ні згадзіўся, ніколі.

У Полацку атчынена кнігарня, і бяруцца тамака за працу з вялікай ахвотаю. Аж міла чуць, даль-бо. Э, ешчэ нам ні так кепска жывецца, калі ня меньшаем, а расьцём, ешчэ тым часам ня цісьне нас доля — болей, чым ціснула ўперад. Дый працаваць з большага можна. Пішыце, як там у Вас што. Я прыехаў быў у Харкаў экзаміны здаваць, а цяпер зьбіраюся ехаць на работу (такую, як улетку меўся рабіць). Трэба будзе аб'езьдзіць увесь Поўдзень Расеі.

Пішыце, не забывайціся. Бывайце здаровы.

Шчыра спрыяючы Аркась Смоліч.

---

1—I—915. Харкаў.

А на зямлі німа спакою... Ня спыніліся і на хвіліну забойчые рукі, і на хвіліну розум вышні ні асьветліў думак іхніх, нінасытна жадаючых крыві і сьмерці. Пэўнеж — ня доўга чакаць ужо таго часу, калі шмат хто пасьпее

крытычна глянуць на шмат якія з'явы жыцця і суд на сябе вырачэ строгі за тое, што дапамагаў ці хоць спагадаў страшнаму, кайнаўскаму чыну. А можа і за тое, што пассыўна да яго адносіўся. Толькі па гэтым — малая ўцеха. Кожны месяц — гэта мільён загаснуўшых жыцьцяў і можа йшчэ больш — душаў, атручаных забойствам. Якіе б ні былі важные, сусьветна карысные рэзультаты вайны, каб нават у іх хаваліся нашые найдаражэйшые лятуценьні, мы ўсё ж павінны адно загадаць новаму году — каб як можа барджэй даў ён замірэньне і спакой свету, якіе б рэзультаты ня йшлі за імі ўсьлед — усё роўна. Гэтага павінны мы пажадаць ад яго — і больш нічога.

Усёткі віншую Вас з Новым Годам. Які б ён паганы ні быў. А ўжо мусіць горшым ад гэтага, што мінуў, ня будзе. Бо усё ўжо пабурана, што можна было бурыць, і павінна пачацца будаванне. І хоць трудна ў нашые часы верыць у што-небудзь альбо ў каго-небудзь, аднак жыцьцё, сама прырода патрабуе веры і канечне ў нешта лепшае. У тое сонца, што засіяе над руінамі, будзючы да жыцьця пасснуўшые сілы, у здаровы інстынкт захаваньня, які не раз ужо выводзіў грамадзянства з дарогаў гібелі. Хай жа ні зьвядуць!

Толькі што прыехаў у Харкаў. А то быў цягаўся па Палтаўшчыні, зьбіраў жа ўсё тую статыстыку, хай ёй усячына. Вам цікава, што гэта за работа? — Паганая наагул кажучы штука. Каб гэта йшчэ было на Бацькаўшчыне, сярод свайго народу — ну то німа што казаць — цікава. Хоць можа і цяжка і ні паплатна — але ведаіш, што шмат чаго дасьць табе самая работа. Езьдзім мы ўдвох з таварышам; мэта нашая — гэтак апісаць селянскую гаспадарку, каб пасьля, на аснове такога апісаньня, можна было б улажыць глаўную кнігу падвойнай бухгальтэрыі. Значыць трэба мэнчыць гаспадара аж пакуль ён акуратне ні раскажэ — дзе ён узяў ці атдаў якую капейку, альбо сколькі гадзінаў страціў тады і тады на які там догляд скаціны ці на падмазку хаты. А той жа ішчэ будзе старацца, каб што якое там затаіць ці падменшыць — на ўсякі выпадак — а нусь з гэтага які падатак выідзе. Ну але доўга пісаць пра ўсе дагоднасьці статыстычнай працы. Падарожа наша вельмі падобна да Чычыкаўскай (з «Мёртвыя Душы») — і каб мы ў характары мелі больш гэтага чычыкаўскага аплёмбу — можа б яно і ніштο было. Абідна, што з селянамі прыходзіцца трымацца тактыкі волостнога пісара, а нічога ні зробіш. Іначэй загінеш — «як швэд пад Палтавай».

Толькі тое добра, што гэткім парадкам шмат можна практыкі набрацца — і гаспадарскай і жыццёвай. Асабліва апошней. За які месяц — на 10 год пастарэіш.

Цяперака ўзяўся ўзноў за экзаміны. Аднога здаў, а ешчэ два. Тады — гэта будзе пасьля 15—16 студня — далей у падарожу.

Саўсім німа ў Харкаве беларусоў сьвядомых ды добрых — хто з'ехаў, хто ні прыежджаў. Так і давялося мне ўчора аднаму новы год спатыкаць. Нейк нідобра, што нічога ў сваёй справі ні варушысься. Чым гэта тлумачыць — ні ведаю — ці часу бракавала (яно такі і бракавала), ці энэргія аслабла, ці грунту такога тут німа, але нічагутка я тут у Харкаве для справы беларускай ні зрабіў. Толькі пытаньне — ці мог бы зрабіць. Ну ніхай, можа прыедзе Рышкевіч, тады хіба што і пачанем.

І бывайце здаровінькі. Пішэце шмат — пра сябе і пра тое, што ў краі робіцца. Мяне вельмі гэта ўцешыць.

Аркадзь Смоліч.

Весела гуляць сьвятамі!

Як маецца гродзенская газэта і што Вы наагул параблеяце?

---

17 ліпня 1915.

Ігумен.

Як доўга ні пабачысься, кажуць,— ні дабярэш якіе словы гаварыць, як доўга ні папішаш — ніякага парадку ў лісьце. Трэба расказаць хоць свае навіны Вам, а с чаго пачаць?

Маці мая паздаравела і кажэ, што гэто я яе выхадзіў (бачыце, які мэдыкус), а бацька дык напраўду кажэ, каб на мэдыцыну ехаў вучыцца, як аграномію скончу. Але я ніпаслухмяны, ой які ніпаслухмяны. Што ешчэ? — Аткрыў я атдзел у Мінску, назьбіраў нейкіх мяхоў, ці яны што будуць рабіць, ці можа прасьпяць сабе спакойнінька аж... ня ведаю да чаго. На добры парадак трэба былоб мне ў Мінску заставацца і працаваць, але зрабіў я адну такую штуку, што няведаю: калі ўдасца, дык можа яно і добра будзе, ну як ні ўдасца, дык цэлы скандал. Пайшоў я аграномам служыць у земства, а як ведаіце навукі яшчэ ні скончыў і шмат-шмат чаго ні ведаю. Праўда, што ў іх больш падхадзячага кандыдата ні было, і гэта трохі ачышчае мне совісьць. Далі мне Бярэзінскі вучастак Ігуменьскага павету — г[эта] ё[сьць] уся ўсходняя палавіна гэта-

га павету — даўжынёю вёрст на 150, а шырынёю — можа на 70—80 якіх. І от ужо больш тыдня, як нашуся я па гэтых абшарах, па лесавым дарогам і сярод палёў прыбраных грэчкай і жоўцінькім жытам (а васілёў гэтых, васілёў — саўсім аб'ядуць людцоў), хаваючыся ўвесь час у густых воблаках пылу. Ня ведаю, як далей будзе, але цяпер гэтыя падарожы даюць мне самыя прыятныя перажываньня. Няйначэй затым, што, як заедзеш у гэты Ігумен (таксама горад — газэты купіць нельга), дык такая нуда, што ні дай ты Божа — ведама, нікога ні знаю, бліска што слова німа да каго атазвацца. Дый наагул, ведаю наперад, што труднавата мне тут прыдзецца. Прывык жыць з людзьмі роўнымі сабе — і глаўнае падобнымі да сябе, а тут дзе такіх знойдзеш? Пакуль чалавек ні выбіўся ў «людзі», а застаецца простым чалавекам, дык ён далей кавалка хлеба ні бачыць, а як выйшаў у людзі — дык перастаў быць чалавекам. У першым ёсьць (і шмат) хараство аб'ектыўнае — як няжывой рэчы, у другога — ніякага німа, а людзей с суб'ектыўным хараством німа, ні відно на паверхні.

Усё ўвокал прасякнута этнічным беларускім характэрам. У самым Ігумені $^{3}/_{4}$ жыдоў гаворыць толькі па-беларуску, а яны добры на гэта тэрмомэтр. Асталася і жаноцкая вопратка — вельмі хараша выглядае, асабліва як прыбяруцца жаць. Толькі песьняў саўсім ні чутно па зразумелай прычыне. Прошлые гады саўсім іначэй было — гэта селяне падкрэсьлююць, цяпер, кажуць, жалоба, пець нельга.

Газэты сюды слаба даходзяць, і я саўсім страціў з відаваку палітыку. А там у Вас, мусіць, аб ёй ні на мінуту забыцца нельга. Пэўне гэта вельмі нядобра дзействуя на нэрвы. От, ведаіце што, калі знойдзіце кавалак часу і ахвоты, прыежджайце сюды ў Ігуменшчыну, зробіце вельмі цікавую экскурзію (я Вам у гэтым шмат магу памагчы цяперака) у Усходнюю (хаця гэта цэнтрум) Беларусь, адсьвежыце душу, нэрвы зробяцца як вяроўкі — і мне зробіце вялікую прыемнасьць Вас бачыць. Толькі ўперад паведаміце.

Дзякуй за ліст і шчырае спачуваньне. Гэтак заўсёды трэба адно аднаго падтрымоўваць.

Вітаю Вас А. Смоліч.

Адрас — Березино, Игумен. у.
Агроному А. См... .
А калі пільна што — дык ешчэ і гэтак ня шкодзіць —

Игумен, гостиница Рубинштейна,
для березинского агронома А. См...
Пішыце, не забывайцеся.

---

13—XI—915

Дні два назад прыйшоў урэшці да мяне ліст Ваш, адрэсаваны на Ігумень. Мне вельмі шчасна, але крыху і совісна ведаць, што мой настрой, выражэньне падсьвядомых рухаў душы, некага абыходзіць, прымушае думаць аб сабе і пісаць. І то тады, калі я сам аб ім ні думаю, ні ўважаю на яго, як бы мяне ён саўсім ні абыходзіў. Мне нават трудно было ўспомніць, чым я мог быць тады засмучаны ці знепакояны, і толькі дзякуючы нікаторым запісам удалося мне аднавіць у думцы тагдышнія перажываньня. Успомніў, як мы хадзілі на тую гару, успомніў высяленцаў (яны с такой надзеяй — і нечым ешчэ лепшым на Вас тады пазіралі, што аж сьмех нейкі), успомніў, як ехалі на концэ і развіталіся. І вывеў гэткі вывад — што Вы мяне саўсім ні знаіце і маіце аба мне вельмі мыльные прэдстаўленьні. Я пэўне ж ні бяруся пісаць сваёй псыхалёгіі (гэта было б нудна), але ні спадзяюся, каб мне хоць чый сьмех (ды ешчэ такі бяскрыўдны) мог папсаваць настрой. Калі зь мяне добрые людзі сьмяюцца — і я ім памагу, а як благіе — дык гэта вызаве ў мне альбо абурэньне, альбо неувагу. Сьмех ёсьць — сьмех, паказацель нормальнага бега жыцьця ў арганізме. Што належыць да тога настрою, нібыто вельмі чорнага, дык на гэта мне самому трудна сабе атказаць. Адно толькі напэўна я ведаю, што настрой такі ні тады прыйшоў, ні ў той дзень. Гэта звычайны мой настрой апошніх часаў, нагэтулькі нормальны, што я да яго прызвычаіўся і ні ўважаю. Ён саўсім ні такі сумны, як здаецца, а проста шэры. Чым яго растлумачыць — ні ведаю. Вялікіх прыкрасьцей я ні меў, гэтак сама ні было і вялікай радасьці, а дробных прыкрасьцей ведама хватая. Поле жыцьця майго ні чорнае, не, але цемнава-шэрае; а мой настрой — крыху сьвятлейшы ад яго.

Я вельмі люблю прыроду і асабліва заходні чэрвень. Даўные гады ён заўсёды заспакаяў самыя гострые болькі душы, бо ў ім гэтулькі надзеі, веры — у гэтым чэрвені заходнім. А вось ужо больш году, як ён мяне (калі яго бачу, цяпер ні стараюся глядзець на яго) толькі нэрвуе, толькі мучыць. Ён зрабіўся такім грозным, такім зловещим (Прабачайце расейшчыну). У ім відны водсьветы Нёмна, кры-

вёй плывучага, і палаючых вёсак. Можа быць, што гэтые водсьветы і ляглі на душу чорнай плямай. А можа мне так толькі здаецца! Ці я ведаю.

Жыло нас некаліcь разам трое людзей. Мы былі толькі таварышамі між сабою, але называлі адзін аднаго — братамі; і нам здавалася, што гэта праўда. Пасьля сьцежкі нашыя разыйшліся, пачалі мы рожным жыцьцём жыць. Упярод пісалі адзін да аднаго — я ім акуратна, яны — так сабе — цераз два разы на трэцяе. Урэшці саўсім змоўклі, і цяпер ні ведаю нават — дзе яны і што з імі. Гэта было даўно, але мне і дагэтуль сумна.

Было і ешчэ... Але можа годзі гэтак займацца і людзей займаць сваёй асобаю. Знудзіў я Вас, панна Людвіка; але, я ведаю, Вы міласэрная Самарітянка. Толькі ні кажыце мне, што я хворы, а то і ўзапраўду захварэю. Мае раны зарасьлі, якіе былі, я ні хочу ведаць пра іх. Я здаровы і буду здаровым аж да самай сьмертухны.

От ешчэ ўспомніў. Між іншым, у часе маіх пабытаў у Мінску мне было вельмі ніпрыемна, што я ні магу (ні нагэтулькі хочу, каб мог) працаваць гэтак, як Вы ўсе працуіце — у такім часе, калі праца мая была б карысна, і ёсьць тое, чаго даўно шукаў і пэўная праца — з боку сваіх рэзультатаў, шырокае поле для ініцыатывы.

Але ўсё гэта глупства. Калі надойдзе Уваскрасеньне, дык пакінуць усе спевы хаўтурные, і я пакіну. Вельмі цешыць мяне Вашая і наагул Мінская праца і энэргія. Дай Бог ёй удачу.

Калі б у чым мая праца прыпатрэбілася, дык проста давайце. Толькі ня ведаю, ці патраплю з гэтым календарам самым. Між іншым, можна было б злучыць разам — гэтую Мінскую аднаднёўку (сягоньні і я ў яе матэр'ял паслаў) с календаром; але гэта ў тым толькі разе, калі б аднаднёўка спазьнілася выйсьці. На конта грошай нічога ні магу парадзіць, бо іх вельмі багата трэба.

Гэтаму лісту давялося быць лістам «аба мне». Ешчэ адно ўспомніў і ні магу ні разсказаць Вам. С тыдзень можа назад адна стацьця з расейскага журнала падняла мой настрой на рэдкую вышыню. Цэлы дзень аб ёй толькі і думаў і гаварыў кожнаму стэчнаму-папярэчнаму. У ёй апаведалася, якіе мучэньня зьнёс народ наш у 40-х гадох XIX веку, баронючы старой веры. Гэтулькі тады аб'явілася цьвёрдасьці і гэроізму, што (у народзе — без няякага правадыра), што мая даўнейшая вера ў народ удвоілася, калі не больш. Народ у орэоле мучэльніка, хіба гэто ні

найвышэйшая надзея. І толькі адно вельмі сумна, што німа каму разсказаць сьвету аб гэтым вялічу духа селянскага і беларускага. Але пэўны я, што калі і забудуцца аб гэтай найбольшай з'яве гісторыі нашай — дык толькі да часу.

Журнал, аб якім я пісаў,— Голос Мінуўшаго X.

Бывайце здаровы, пішыце.

Аркадзь Смоліч.

---

7—XII—915

Я Ваш ліст, дарагенькая сястронка, атрымаў ужо подаўна, але ні мог прымеркавацца ніяк атпісаць, бо занялі мяне экзаміны і іншые справы. Ведаіце, цяпер пра мяне саўсім ні можна сказаць, што маю хоць троху сумны ці прыгнечаны настрой. Нашуся, лётаю за самым глупствам, аж маіх маладзейшых таварышоў дзіва бярэць. Як на яго ўзьсела, што, сказала б мая маці, каб бачыла, але яна пакінула мяне тады ішчэ, як я быў «пад хмарай». Троху мы тут раскапалі беларусоў, нішто хлапцы, але шмат працы йшчэ будзе з йімі. Часамі зьбіраімся, на гэтым нашая чыннасьць і стае. Ешчэ ведаеце кепска, што я толкам ні ведаю, ці варочацца мне пасьля каляд на пасаду сваю, ці ў Харкаве застацца. А ад гэтага залежыў бы ўвесь плян мой. Але гэта само залежыць шмат ад якіх прычынаў — нават — horribile dictu[1] — ат сусьветных. «Падумаеш?!» —

Гэтымі днямі, мусіць, выеду ў Петраград на тыдзень які ці мо і больш. Крыху справункаў ё, крыху «нуду разьвеяць», што ў нашые часы ніколі ня шкодзіць. Гэта праўда, і ні маё гэткае зданьне, а ўсяго грамадзянства большых гарадоў. Ведаіце, гэты год так гуляюць, як старые людзі ні ўспомнюць, каб калі гэтак гулялі. Тлумачыцца проста — прычынамі экономічнымі, але міма волі ўспамінаеш пра «першы Рым» у часах яго агоніі. Напрашуецца аналёгія с «трэйцім Рымам».

Вы пішыце — «справа» — ядыная вартасьць жыцьця. Гэта ніпраўда, а калі б праўдай было, дык дужа сумнай. Бо справа толькі дарога, спосаб, мэты ж хаваюцца далей, дзе абстрактныя выжшыны думкі асьветлююцца і ацепляюцца агнём дыханьня вечнага Сэрца, якога называюць Богам. Хай яно згарыць с такою справай, каторая ат каго б ні было — вымагала павесіцца. Смела можыце ад такой

---

[1] Страшна сказаць *(лац.)*.

адыйсці, бо яна мана няшчырых людзей. Бог жывых, а ні нябошчыкаў, нават болей чым жывых, Бог аджыўшых, створаючы з нічога і ўваскрасаючы з гнільля — от гэта наш Бог. Яму жыццё патрэбна, і творчасьць, і сонейка, і зяляніна, і радасные блыскі ў вачох нашых.

«Але...» кажыце Вы — і я саўсім Вас разумею. Мне страшна шкода чалавека, які гэтае «але...» кажэ, бо ён можа быць праўдзіве-нішчасным, і ні праз што другое, але праз сьлепату вочаў сваіх духоўных. Ён ні бачыць хараства, Божага сьвету — і глаўнаго ўпекненьня яго душы, суцэльнай, здаровай і свядомай сябе. Бо каб бачыў, залячыліся б яго раны, нівядомы чараўнік прынёс бы яму зельля здароўя, пэрспэктыву вечнасьці. І быў бы здаровым і шчасным. Можа і нявінен ён у сьлепаце сваёй, можа... але тады ўздаравеньня да яго найбліжэй.

Шкода, што з аднаднёўкай замарудзілі. Ужо гэтак даўно ні чыталі мы сьвежага, новага слова беларускага. Нам прыкра, а тым, што паразсеваны па глухіх вёсках ды засьценках ешчэ мусіць горэй. Калі ўрэшці думаіце выпускаць яе? Чытаў я нідаўна «Бог з намі». Ведаіце, гэта ні Пачопка перакладаў, бо работа вельмі пекная і прытым паказуючая досыць высокі пазём навуковы. Наагул кніжачка гэтая мне вельмі падабаецца, цікава, ці добра яна расходзіцца.

Пішыце аб плянах і надзеях сваіх асабістых і мінскіх беларусоў. Там жа цяпер — значная грамадка. І наагул — аб усім.

Вітаю

*А. Смоліч.*

### ДА АЛАІЗЫ ПАШКЕВІЧ

8 сакавіка 915. Харков «На прадвесьні» — гэта добрая характэрыстыка для ўсяго нашага часу.

Даражэнькая Цётачка!

Вы ў апошнім лісьце падняді дужа важная, як на наш час, пытаньне аб популярных кніжках. Ня першы раз прыходзіцца мне чуць скаргі, што гэткае літэратуры ў нас страшэнна бракуе і што на яе вялікае запатрэбаваньне, якое нельга насыціць. Але далей скаргаў справа ня йдзець вось ужо сёмы год, ці што. Даўней у Пецярбурзе (у 912 годзе) нікаторые асобные людзі браліся за працу і ні здалелі давесьці да канца. Прабавалі разьвіць такі аддзел у

Лучынцэ — і з гэтага мала неяк карысьці выйшла. От Вы пішыце, што трэба выдаваць аддзельнымі кніжачкамі, і я з Вамі саўсім згаджаюся, што гэтак найлепей. Але толькі ніхай бы хто гэткіе кніжачкі пісаў, а то ж ні піша. Мая думка такая — раз ёсьць вялікая патрэба — пастараімся яе задаволіць. І от як. Пісаць популярные кніжачкі — шмат хто можа — на гэтае вялікага таленту і натхненьня ня трэба. Можна нават прыгатаваць іх фабрычным спосабам, гэтак і найлягчэй, толькі трэба, каб хто за гэта ўзяўся — арганізаваць самую фабрыку. От, думаецца мне, як Вам, Цётачка, цяпер часу мусіць годзі, ахвота ў Вас такая быць павінна, дык і вазьмецеся Вы за арганізаваньне такое «фабрыкі». Я б зрабіў гэтак: змешчаю ў НН абвестку, што от гурток людзей, зацікаўленых разьвіццём нашай папул[ярнай] літэратуры, просіць усіх, хто можа, дапамагчы сваёю працаю і капіталамі і першым дзелам — каб прыслалі свае адрасы і зданьня. Спадзяюся, што гэткіх людзей знойдзецца крыху — ну хоць з дзесятак. Тады трэба выясніць, якіе ласьне кніжкі патрэбны — і аб гэтым найлепей раскажуць нашые кнігарні. Яны павінны зрабіць спісак тэматаў з добрым тлумачэнням, якога характару павінна прыдбаць кожнаму ўтвору; у гэтым трэба, каб ім памагла і нейкая спэцыяльная коміссія (рэдакцыйная), а таксама і тые людзі, каторые згодзяцца дапамагаць працаю. Спісак тэматаў разашлецца ўсім, хто захоча працаваць, і кожын абярэ сабе тые тэматы, якія найбольш упадабае, а калі захоча — дык і сам прыдумая тэмат і напіша. Такім парадкам мець будзім матэрыял, а тады можна будзе і аб грошы пастарацца. Я думаю, што вы за гэтую справу возьміціся і шмат чаго паможыце. І калі пастараіціся — удасца як ні трэба лепей. Для Вас ешчэ і тое добра, што крыху запоўніце справаю гэтай тую пустыню, што ўвакол Вас робіць вайна.

Наагул трэба Вам мусіць шмат да чаго гатавацца. Бо калі ўсяму сьвету — і нашай Бацькоўшчыне пасьля вайны трэба спадзявацца нечага новага, дык Вашай старонцэ асабліва. Памятайце, што Вы каля самых межаў нашых і можа прыдзецца Вам працаваць і жыць у саўсім іншых варунках, чым рэшці беларусоў. Пэрспэктывы могуць быць вельмі шырокія.

Аб газэці на Усходзе ня трэба кідаць думкі. Бо німа прычыны. Тое што Б. В. Т.[1] засохла, ні пасьпеўны за-

[1] Беларускае выдавецкае таварыства.

красавацъ, як раз гэтае даводзіць. Мы ведаім, якіе рэсурсы былі ў БВТ, і бачым, што яно зрабіла. І мусім сказаць — зроблена вельмі мала. Чаму? А от чаму. Кіравалі ім людзі, каторые вельмі пэўные сябе. Было іх вельмі мала. Гэта ласьне ні «таварыство» было, а «фірма». А выйшла гэтак дзякуючы гэтай Віленскай атмосфэры. Атмосфэру трэба зьмяніць. Новая праца — новые людзі, новая мейсца. Бо знашуюцца рэчы, знашуюцца і людзі, і па крысе прыходзіцца іх заменяць. Як нітку вуглёвую ў электрычнай лямпе — доўга яна сьвеціць — 1000 гадзінаў ці дзе, а пасьля перагарыць.

Аб Беларусе нічога ні магу сказаць, бо даўна яго ні бачыў. Думаю, аднак, што пабожным ды нявінным сэрцам чытанне яго робіць нейкую прыемнасьць. І тое, што ён робіцца біскупім часопісам, мае нейкую добрую старану — можа тамака тады здальнейшые людзі пісаць будуць, ды і наагул гэтая оффіцыальнасьць нейкае будзе рабіць уражэнне. От толькі тое дрэнна можа быць, калі яны проці беларушчыны ж вайну падоймуць па-беларуску. А гэтага ад іх можна чакаць. От беда нашая, што такога ня знойдзіцца чалавека, каб ён беларусам свядомым быў з аднога боку — і каб яны яму верылі.

Мяне вельмі пацешае, што Вас і ў такіе цяжкіе мінуты ня кідае бадзёрасьць і спакой духа. Сучаснасьць вялікаю будзе школаю для Вас, калі ні паддасьцёся, і карыснасьць яе адчуваць будзіце ўва ўсём сваім будучым жыцці і чыннасьці. А гэта так можа быць патрэбна для Вас і для справы. Бо цераз дым палаючых вёсак, па акіяну сьлёзаў жаночых — плывець вялікі судздзя веку — Гісторыя. Багата ні прысудзіць яна нам, бо і ня робім жа мы высілкаў ніякіх, ні маім адвакатаў і сілы ўласнай. Але можа нейкіе пакрышні і на нашую долю перападуць. Наагул, шмат чаго можа быць.

Мая цяганіна падходзіць да канца. Цяперака атпачынаю ў Харкаве, каб са сьвежымі сіламі скончыць, што астаецца. Да Вялікадня скончу мусіць, можа і дамоў тады паеду на несколькі дзён, бо ўжо даўнавата ня быў і можа гэтак выйсьці, што ні скора ізноў паеду. У Харкаве крыху пачынае працаваць Рышкевіч і другі хлапец, каторага ён знайшоў. Можа што і зробяць. Буду і я ім памагаць, бо люблю справу організацыйную. З беларусоў мала мне хто піша, і я нічога ня ведаю, як у іх стаяць справы.

Буду чакаць Вашага лісту ў Харкаве. Не забаўцеся. Гэтую справу с популярнай літэратурай канечне трэба па-

чаць. Напішыце, як Вы глядзіцё на мой праэкт. Бывайце здаровы. Жычу Вам спакою і працы. І каб ні кідала Вас яснасць духа.

Аркадзь Смоліч.

## ДА АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА

13.01.1919 г. Кіеў.

Улада на Украіне ў Дырэкторыі, здаецца, [з] 19.XII. Дырэкторыя ўрачыста ўвайшла ў Кіеў на чале 40-тысячнага войска рэгулярнага. Сіла ў іх пакуль што ёсьць...

Аб Менску. 9.01. прыехаў з Менску ў Кіеў першы пасланец. Прывёз невялічкую запіску ад В. Тройцы і Бр[аніслава] Т[арашкевіча]. Вось яе зьмест: «2.01.1919. Даражэнькія! Жывем тут, і ніхто нас не чапае. Культурныя справы весьці можна, адно — і няма проста ні рубля за што рукі зачапіць. Трэба грошы выдаць лекцыі прадметаў, што чытаюцца па-беларуску. Трэба было б на гэта з 500 рублёў (плюс некаторая помач з беларускага грамадства). Вось таму прышліце, калі магчыма. Найменшая сума і тая прыгадзіцца, бо дасьць магчымасьць хоць нейкі час не спыняць работы. Да гэтага найшло ў Грынблята 800 рублёў доўгу, вось чаму цяпер аб крэдыце няма і гутаркі. Ваш Тройца *(прыпіска)*. Усе нашы здаровы. Як маецеся, даражэнькі дзядзька? Сяджу ў Менску і чытаю тут лекцыі па беларусіцы ў вучыцельскім інстытуце. Хачу выдаць тут гісторыю беларускай літаратуры. Каб хоць крыху грошай. Справы нашыя тут добра ідуць. Кланяюся вам і да хутчэйшага пабачэньня ў лепшых часох. Чакаю. Ваш Б. Тарашкевіч».

Аддаўца лісту — студэнт [прозьвішча нечытэльна.— *А. К.*] мала цікавіцца палітыкай і не ведае самых простых рэчаў — як, напрыклад, называецца цяперашні ўрад Беларусі. Ён казаў вось што. На Новы Год выдан быў Маніфест Совнаркома, надта доўгі маніфест, у якім гаворыцца аб Беларусі, Літве і Латвіі і інш. Выходзіць з яго слоў, што мы усе апавешчаны нізалежнымі сацыялістычнымі савецкімі рэспублікамі. Пасьля ж гаворыцца, прынамсі аб Беларусі, што яна далучана да Расійскай Савецкай Сацыялістычнай Федэратыўнае Рэспублікі як самастойная рэспубліка. Хто цяпер нашым прэзідэнтам, ён не ведае. Здаецца, ці не Рэйнгольд. Смаленская Комуна ўся пераезджае ў Менск і робіцца «беларускаю». З другога боку, з Масквы прыехала беларуская сэкцыя партыі комуністаў. Яна зьмяшча-

ецца ў былым шляхоцкім домі — проці тэатру. Нашых нікога не чапаюць пакуль што. У той самы дзень, як быў выдан прыказ аб арэшце ўсіх радных, Ігнатоўскі гаварыў самалічна з тым, хто гэты прыказ выдаў і астаўся цэлы.

[...] Годна ўвагі тое, што найбольш на рэпрэсіях проці беларусаў настойвае «беларуская секцыя». Хто там у ей ёсьць, ён не ведае. Яна ўсё палохае,— прыдуць з Пецярбургу матросы і з усімі расправяцца. Пануе, ведама, самая сьвірэпая дыктатура, але гэтага і трэба было спадзявацца.

Аб палітычных справах і настроях нічога не даведаўся. Лёсік і Серада цэлы, спацыруюць па вуліцах. Вось усё, што я даведаўся ад пасланца. У кіеўскіх газетах зьмешчаны дзьве тэлеграмы з Масквы. 1. З Масквы ў Менск пераехаў рад беларускіх савецкіх культурных устаноў. 2. Из Москвы мандатом Советского правительства провозглашается независимость Белорусской Советской Социалистической Республики. Буржуазная Рада окупационная, польские и украинские советы объявляются врагами трудящихся. Далей ідзе нацыяналізацыя лясоў, зямлі і г. д., 8-гадзінны рабочы дзень, адным словам, цэлая канстытуцыя.

З гэтага ўсяго мы мусім зрабіць вывады. Мой вывад гэтакі. Мы маем магчымасьць «зачыніць краму», перахоўваючы ўрачысты, задаволены від. Ласьне ж мы не дабіліся свайго? І вось толькі ўсе запытайце: ці маем мы права гэта зрабіць і галоўнае — ці ёсьць у тым патрэба? А на гэта адказую так: калі дасталі пару грошы, дык зачыняць нельга. А вось як не дасталі, тады падумаем. Хаця я лічу, што ад большэвізму для краю больш шкоды, чым карысьці, хаця ён моцна прывязуе нас да Масквы, чым гэта хацелася б, але калі ён дасьць магчымасьць шырокай культурнай працы і бароніць пакуль нашае дзяржаўнасьці і **галоўнае,** калі ён давядзе яе да яе натуральных рубяжоў — створыць Беларусь аб’яднаную, якая хоць некалькі месяцаў пражыве супольным жыцьцём Беларусі з Вільняй, Беластокам, Бранскам і Гомелем, дык мы мусім ухваціцца за гэтую ідэю, прызнаць яе нацыянальным заданьнем часу і проста стаць у рады абаронцаў гэтага парадку і ваяваць у гэтых радах хоць бы з усім сьветам. Наўрад ці хутка нам зьявіцца такая перспектыва. Праўда, гэта крыху рызыкоўна. Але калі згіне савецкая Беларусь, дык не згіне ў нашым народзе гэтая ідэя максімалізму, разам сацыяльнага і нацыянальнага. Народ пра яе не забудзецца праз не-

калькі пакаленьняў. А пра «Буржуазную Раду» забудуцца, прынамсі гэта больш магчыма.

А прышлае палажэньне бальшэвікоў здаецца моцнае (пазіцыя Вільсона!) і хто знае, можа ім суджана перамагчы сьвет ці хоць прынамсі ператрываць шлях даўгі час, патроху спакайнеючы і ператвараючыся ў крыху іншыя формы.

Наша пазіцыя — дрэнь. Грошай няма. Ніхто нам не спачувае, нават свае. Я проста баюся, што далейшае наша становішча ў ролі ўраду будзе ўсё больш і больш пахнуць авантураю і містыфікацыяй. Ёсьць некалькі выхадаў. Іншыя прапануюць нам проста зьмяніць назву на «рэвалюцыйны камітэт». Я ж думаю, што для кожнае назвы патрэбны зьмест адпаведны. А з нас, мусім прызнацца, рэвалюцыянеры дрэнь. Дый пад якім флагам рэвалюцыя?

Я б лічыў, што мы «краму закрыць» павінны іншым спосабам. Трэба выпусьціць дэклярацыю аб тым, што нашыя нацыянальна-палітычныя мэты дасягнуты, а ў справах сацыяльных мы змагацца з бальшавікамі не будзем. Дзеля чаго мы складаем паўнамоцтвы; што мы нават будзем дапамагаць таму савецкаму беларускаму ўраду, які аб'яднае Беларусь і разаўець культурную працу і г. д. Уперад, ведама, не шкодзіла б і з бальшавікамі пагаварыць і, галоўнае, даведацца, як там па праўдзі справа стаіць у Менску. Гэтакі выхад дасьць магчымасьць сьмялей выступаць і працаваць нашым людзям у межах (бальшавізму) у Менску, Вільні і г. д. Пры пэўным спрыце можа б мы яшчэ што вытаргавалі.

Але я бачу і негатыўны бок справы. Пакуль мы ёсьць, бальшавікі мусяць у справах нацыянальных усьлед за наміісьці для канкурэнцыі. Ну а як будзе, калі беларускі ўрад згіне, то гэта немаведама. Адным словам, зачыняць «крамку» можа і прыдзецца, але перад гэтым трэба зрабіць апошні высілак. Мы тут у Кіеве з Цьвікевічам што зробім, здаецца, калі Цьвікевіч не зьменіць слова. То ён абяцаў сягоньня, што мяне падтрымае. Можа б не шкодзіла, каб і п. Антон да нас сюды прыехаў, можа ён бы што дзе выступіў. Гэта ўжо разважайце самі.

У кожным разе на працягу гэтага тыдня мы пастараемся справу з пазычкай у Дырэкторыі (просім 2 мільёны) так ці іначай развязаць. Як толькі будзе ўдача, я прыеду ў Горадню. Жджыце мяне да 25-га. Як і тады не будзе, будзем лічыць справу прайгранай. І агаворымся, як і што — ці будзем «зачыняць крамку». Ну, можа дасьць Бог да гэтага не дойдзе.

Яшчэ дзьве весткі: 1. 16.1 пашлем Іваноўскаму ў Менск 5 ці 10 тыс., бо ў іх надта дрэннае палажэньне. 2. Бальшавіцкім камісарам і інспектарам «чрэзвычайкі» [слова нечытэльнае] Мануільскі. Вось з кім каб пагаварыць. Ды можа гэта як і зробім. Ну вось і ўсё.

Навуковая бібліятэка АН Літвы, ф. 21—287, арк. 16,22—23 адв.

*Публікацыя А. Каўкі*



*Вячаслаў Станкевіч*

# БАЦЬКАВА АДЫСЕЯ

## МАЛАДОСЬЦЬ У АШМЯНШЧЫНЕ

Янка Станкевіч нарадзіўся 26-га лістапада 1891-га году ў Арлянятах, Крэўскае воласьці, Ашмянскага павету, на Віленшчыне ў сялянскай сям'і Яна Станкевіча й Ганны з Прыгоцкіх. Арляняты, або, як іх раней называлі — Вурляняты, старавечнае сяло, якое сярод сваіх пачаткаў, паводле расказаў мясцовых людзей, было ўездам татарскай рыцарскай дружыны, пакліканай сюды Вялікімі Князямі Літоўскімі для абароны гаспадарства. Гэтыя татарскія рыцары тут у Віленшчыне й Меншчыне асяліліся, пажаніліся зь беларускамі, перанялі беларускую мову й шмат якія зь іх — хрысьціянскую веру тутэйшага жыхарства. Гэтак, паводле расказаў, калі ім можна поўнасьцю верыць, пачаўся род Станкевічаў у Арлянятах. Праўда, пэўныя рысы твару Станкевічаў і рысы характару на думку некаторых згаджаюцца з гэтай тэорыяй. А Станкевічаў у Арлянятах было шмат, гэтулькі, што, каб іх адрозьніць, называлі мянушкамі. Напрыклад сям'ю Янкі, што жыла за выганам, называлі Завыганскімі. Бацька Янкі быў селянінам ня бедным, бо бацька ягоны дакупіў кусок зямлі й пры працавітай гаспадарцы, усе стараліся аб асьвеце дзяцей.

Першыя гады навукі адбываюцца ў саматужнай школе ў сяле Чатырках — зарганізаванай і аплачванай бацькамі сялянскіх дзяцей. У 1909-м годзе Янка канчае Ашмянскае гарадзкое вучылішча. Ужо ў той час малады Янка лічыцца сьведамым Беларусам і як 16-ці гадовы юнак займаецца кальпартажам, а пазьней карэспандэнцыяй «Нашай Нівы» на Ашмяншчыне. Быў ён ведамы тады як Янучонак або Станкеўчык. Некаторы час працуе «дарэктарам» у Войштавічах у сям'і Вінцэнта Сухалета, здольнага самавукабудаўнічага.

## З НАШАНІЎЦАМІ Ў ВІЛЬНІ

Пазьней прыяжджае ў Вільню, дзе пачынае вышэйшую асьвету ў каталіцкай духоўнай сэмінарыі,— адным зь нямногіх шляхоў да асьветы беларускага сялянства. Але не надоўга, бо ў першым годзе яго выключаюць за агрэсыўную беларускасьць. У той жа час знаёміцца з актыўнымі адраджэнцамі, працаўнікамі «Нашай Нівы»: Вацлавам Ластоўскім, братамі Луцкевічамі, пазьней з Максімам Гарэцкім, Янкам Купалам, жонкай якога была Станкевічанка,— далёкая сваячка, і з шмат іншымі. Перад выбухам Першай сусьветнай вайны ў 1914-м годзе працуе сем месяцаў сталым сябрам рэдакцыі «Нашай Нівы», аж да мабілізацыі яго ў расейскае войска, дзе служыць спачатку жаўнерам, а пазьней афіцэрам. Вайсковая служба дае магчымасьць, асабліва ў хаатычныя рэвалюцыйныя часы, агітаваць беларускасьць і адведваць іншыя асяродкі беларускай дзейнасьці, як Менск і Пецярбург, дзе знаёміцца з прафэсарам Эпімахам-Шыпілам і беларускай унівэрсытэцкай моладзьдзю. У 1917-м годзе, будучы на Румынскім фроньце, дзе й была бальшыня беларускіх частак расейскага войска, трапляе ў аўстрыйскі палон, адкуль незадоўга звольнены захадамі беларускіх дзейнікаў у Вільні, акупаванай у той час немцамі. Варочаецца ў Вільню й адразу ўліваецца ў грамадзкую й палітычную працу. Юліяна Мэнкэ, пазьней Дубейкаўская, із старой віленскай сям'і нямецкага паходжаньня, блізкая прыяцелька Івана Луцкевіча й удзельніца беларускага адраджэнскага руху, гэтак піша ў сваіх успамінах: «Прыехаў з войска Янка Станкевіч, малады, дзельны й заціяты Беларус. Мы ўсе называлі яго Янучок, а я зь Іванам казалі, што гэта наш Саванарола, дзеля ягонай фанатычнай адданасьці беларускай справе.

— Ён трохі аднабаковы й нудны сваім фанатызмам,— казала я іншым разам Івану.

— Нічога,— адказаў ён,— і гэткія фанатыкі беларускае справы мусяць быць, з часам вырабяцца, на іх лічыць можна, яны не пахіснуцца і ў працы сябе апраўдаюць.

І як аказалася пазьней, гэта былі прарочыя словы Івана Луцкевіча.

Янка Станкевіч актыўны ў Беларускай Віленскай Радзе, бярэ ўдзел у заснаваньні Беларускага Навуковага Таварыства ў пачатку 1918-га году, супрацоўнічае з Максімам Гарэцкім над «Маленькім беларуска-расейскім слоўнікам», які выходзіць пазьней друкам у Менску. У сакаві-

ку 1918-га году перабіраецца разам зь сябрамі Віленскай Беларускай Рады ў Менск, дзе бярэ ўдзел у гістарычных паседжаньнях Рады БНР, што кульмінуюцца абвешчаньнем незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі — 25-га сакавіка 1918-га году.

Пасьля нямецка-савецкага замірэньня ў канцы 1918-га году, Менск пападае пад савецкую ўладу, а Віленшчына перадаецца новапаўсталаму Летувіскаму гаспадарству. Віленскае насельніцтва бачыць магчымасьць супрацы або магчыма канфэдэрацыі на гістарычных падставах Вялікага княства Літоўскага. У гэткім духу, Беларуская Віленская Рада ў дамоўленасьці з прэзыдэнтам Летувіскай Рады выбірае чэцьверць Летувіскай Тарыбы (Рады). Уваходзяць: В. Ластоўскі, І. Луцкевіч, кс. В. Талочка, Фалькевіч, Семашка й 26-ці гадовы Янка Станкевіч. Язэп Варонка выбіраецца міністрам беларускіх справаў. Але нажаль ваенныя падзеі й пазьнейшы летувіскі шавінізм не дазволілі далейшаму разьвіцьцю гэтай ідэі, хоць абмежаванае беларускае прадстаўніцтва існавала ў летувіскай сталіцы Коўні яшчэ некалькі гадоў.

У наступных гадох, хоць вайна фармальна закончылася ў сярэдняй Эўропе, Беларусь далей цярпела ад чарговых афэнзываў і водступаў розных войскаў — нямецкіх, летувіскіх, польскіх і бальшавіцкіх. У тую пару, асабліва ў часе польска-савецкіх войнаў 1919-га й 20-га гадоў, беларускі актыў выкарыстоўваў благія адносіны між імі дзеля арганізацыі беларускіх пачаткавых школаў. У вясну 1920-га году, пасьля вучэньня на беларускіх настаўніцкіх курсах у Слуцку, дзе брала ўдзел каля 300 вучняў, Янка накіраваўся назад на Ашмяншчыну, дзе ўсякімі спосабамі арганізоўваў беларускія пачатковыя школы. Як ён расказвае на захаванай істужцы, ён хадзіў пехатой па сёлах і пераводзіў з дапамогай сьведамых сялянаў існуючыя польскія й расейскія школы на беларускія. У гэты час ён таксама адчуў на сабе польскі ды расейска-бальшавіцкі шавінізм ды іх жаданьні для беларускага насельніцтва. Гэтая навука засталася яму ў памяці, калі пазьней некаторыя беларускія групы трагічна фліртавалі з камунізмам.

Восеньню 1920-га году польскія войскі з дапамогай заходніх аліянтаў, асабліва Францыі, адапхнулі чырвоную армію аж пад Менск, дзе паўстала перамірэньне, якое й спрычыніла падзел Беларусі, аформлены канчальна Рыскім трактатам у 1921-годзе. Пры гэтай апошняй поль-

скай афэнзыве, вайсковыя часткі генэрала Жэлігоўскага сілком займаюць Вільню з ваколіцамі ў супярэчнасьць мірнаму Версайльскаму дагавору. Палякі арганізуюць так званую Сярэднюю Літву, фікцыйную тэрытарыяльную адзінку, з мэтай эвэнтуальнага далучэньня да Польшчы. Вялікая частка віленскіх беларусаў яе байкатуе, але некаторыя, пад уплывам праф. Вацлава Іваноўскага, які стаецца міністрам нутраных справаў, уважаюць, што трэба карыстаць усякія магчымасьці для беларускага агульнага дабра. Мовавед, а пазьнейшы пасол у польскі сойм, Браніслаў Тарашкевіч кіруе беларускім аддзелам пры міністэрсьцьве асьветы, а Янка Станкевіч, як школьны рэфэрэнт, высылаецца арганізаваць беларускія школы па мясцовасьцях. Гэтым разам ёсьць некаторая фінансавая падтрымка пры актыўным удзеле бухгальтара-беларуса Дабрыдзеня Жаўняровіча й дапамозе некаторых спалянізаваных віленчукоў, прыхільнікаў ідэі аднаўленьня гістарычнай Літвы. Вясной 1921-га году, ходзячы пехатой, езьдзячы фурманкай зь мяхамі кнігаў, Янку ды іншым удаецца адчыніць больш 200 беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў у наступных паветах: Ашмянскім, Маладэчанскім, Валожынскім, Вялейскім і Лідзкім. (Пры фармальным далучэньні Віленшчыны да Польшчы, бальшыня іх была зачынена або пераведзеная на польскія.)

Ягоныя мэнтары, як Антон Луцкевіч і Максім Гарэцкі, радзяць маладому актывісту працягваць фармальную й вышэйшую асьвету. Дзеля гэтага трэба перш здабыць гімназіяльную матуру. Хоць і цяжка 29-ці гадоваму дзяцюку сядзець на школьнай лаве й рыхтавацца да эгзаменаў, але Янка здабывае атэстат сьпеласьці ў Беларускай Гімназіі ў Вільні, 14-га ліпеня 1921-га году. Ведамая паэтка Натальля Арсеньнева некалі ўспамінала, што яна, як 16-ці гадовая студэнтка, памагала Янку ў падрыхтоўцы да эгзаменаў. У міжчасе, у Чэхаславаччыне, урад гэтае новае славянскае рэспублікі дае спэцыяльныя стыпэндыі для былых грамадзянаў Расейскай імпэрыі, зь якіх карыстаюць расейцы, беларусы ды асабліва ўкраінцы. Былы пасол БНР у Чэхаславаччыне Ігнат Дварчанін моцна заклікае беларусаў на студыі ў Прагу.

У Вільні пэрыяд «Сярэдняй Літвы» прыходзіць да канца. Каб паказаць сьвету быццам праўнасьць свайго захопу Вільні, палякі арганізуюць адмысловы сойм, заданьнем якога — зацьвердзіць фармальнае прылучэньне Вільні да Польшчы. Правіламі плебісцыту, праз выбары

пэўных сабе людзей у сойм польскія ўлады здабываюць жаданы сабе рэзультат. Насельніцтва ня мае ніякае магчымасьці дэмакратычна выказаць сваю волю, й увесь беларускі актыў «плебісцыт» байкатуе; шматлікія пад пагрозай арышту. Янка ў лютым 1922-га году ў час выбараў, нелегальна й пехатой пераходзіць летувіска-польскую мяжу й за два дні трапляе ў Коўню, дзе ад прадстаўніцтва БНР, ачольванага В. Ластоўскім, атрымоўвае пашпарт і накіроўваецца праз Нямеччыну ў Прагу на студыі.

## МОВАВЕДА, ВЫДАВЕЦТВА Й ПАЛІТЫКА Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

У Празе, маючы ўжо трыццаць гадоў, Янка Станкевіч адзержвае дзьве найгалаўнейшыя здабычы свайго жыцьця, а наймя: — дактарат славянскай мовазнаўства й гісторыі ды сяброўку рэшты свайго сямейнага й грамадзкага жыцьця — жонку Марылю.

Ягоны дактарат, адзержаны з Карлавага унівэрсытэту ў 1926-м годзе, базаваўся на вялікай арыгінальнай працы разшыфраваньня й транслітарацыі Аль-Кітабу, сьвятой кнігі беларускіх мусульманаў з 17-га стагодзьдзя, пісанай беларускай мовай, але арабскім пісьмом. Аль-Кітаб гэты быў знойдзены Іванам Луцкевічам, архэолёгам-навукоўцам, і перададзены ў Віленскі Беларускі Музэй, а пазьней пасланы да разьведаньня студэнту-моваведу ў Празе. Мова Аль-Кітабу паказала рысы й прыклады мовы чыста беларускай перад уплывамі на яе, праз акупацыю стагодзьдзяў, польскай і расейскай моваў. Праца гэтая й пазьнейшыя карыстаюцца вялікай пашанай сярод навукоўцаў-славяназнаўцаў. Але водгукі гэтай працы прыпомнілі маладому навукоўцу праўдзівы твар расейскага шавінізму. Ягоныя навуковыя артыкулы былі надрукаваныя ў Менску Беларускай Акадэміяй Навук і хоць гэта было ў 1925-м годзе, калі яшчэ шматлікія беларусы верылі, што ў БССР «будуецца беларускі дом», віцэ-старшыня й сакратар Акадэміі былі звольненыя із сваіх становішчаў за гэткі «праступак»,— як праяўленьне ўвагі да беларускай гістарычнамоўнай спадчыны.

На зьезьдзе славянскіх студэнтаў, які адбыўся ў Празе ў 1923-м годзе, Янка пазнаёміўся з чэскай студэнткай Марыяй Новак, якая прадаўжала сваю вышэйшую асьвету, вярнуўшыся ў 1922-м годзе з Амэрыкі, дзе яна скончыла Васарскі каледж у штаце Нью Ёрк. Гэтая ейная веда амэ-

рыканскага жыцьця, дасканальнае валоданьне ангельскай мовай і здольнасьці наагул да моваў, як і арганізацыйная спрытнасьць і асабістая незалежнасьць, якасьці, якія яна прынесла ў 50-ці гадовае сумеснае жыцьцё з Янкам Станкевічам, былі вялікай маральнай і матэрыяльнай дапамогай ягонаму далейшаму навуковаму й грамадзкаму жыцьцю. У 1926-м годзе яна выяжджае за Янкам на Беларусь, краіну, дзе паводле ейных чэскіх прыяцеляў, «ваўкі дабранач выюць». Маладая пара бярэ шлюб у віленскім касьцеле сьв. Мікалая, адзіным у Вільні, дзе чыталіся казані па-беларуску. Шлюб даў 30-га кастрычніка 1926-га году ксёндз Адам Станкевіч, ведамы віленскі беларускі дзеяч і сваяк Янкі з родных Арлянятаў.

Пачаткі маладога жанімства былі цяжкія ў чужым для Марыі краі. Вызначэньне, што ў іхным далейшым жыцьці было найважнейшым, а што другарадным, хіба найлепш адлюстроўвае кароткі ўспамін Марыі зь першых дзён у Вільні: «Калі па розных цяжкасьцях я прыехала ў Вільню, спаткаў мяне Янка й завёў на кватэру ў інтэрнаце, закладзеным ксяндзом Адамам Станкевічам. Раз мы пайшлі з М. Шутавічанкай купіць трохі мэбляў. Янка ўважаў, што з мэбляў не вялікая карысьць, толькі стаяць, лепш ужыць грошы на выданьне календароў і падобнага. (Мне прыпамінаецца, што нават пазьней, у багатай Амэрыцы, іхная мэбля была таннае якасьці й няведамага паходжаньня.— *В. С.*) Калі вярнуліся, мае грошы, якія я прывезла як дзедзіцтва ад бацькі, былі прапаўшы. Клікалі паліцыю. Аказалася, што прыходзіла жанчына прыбіраць кватэру Янкі й грошы прапалі. Але ніхто яе не злавіў, ня можна было давесьці. Янка мне абяцаў, што будзе пісаць артыкулы й грошы мне верне... Пазьней перанесьліся на Крывое Кола, у кватэру без вады й выгадаў».

Новы навуковец кідаецца ў беларускую выдавецкую й пэдагагічную дзейнасьць у Вільні. Выкладае беларускую мову ў Віленскай Беларускай Гімназіі, у Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі і ў Віленскім Унівэрсытэце Стафана Баторага. Прадаўжае дзейны ўдзел у Беларускім Навуковым Таварысьцьве ды ўліваецца ў грамадзка-палітычнае жыцьцё Заходняй Беларусі. Гэта быў час, калі Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада — арганізацыя, якая ў працягу аднаго кароткага году здабыла больш як сто тысяч сяброў сярод беларускага сялянства, якое жадала паказаць свой супраціў польскай эксплёатацыйнай зямельнай палітыцы, пачала, аднак, дзякуючы камуністычнай правака-

русскоязычная культура, а качественно более высокая культура, чем русскоязычная. Это значит, что нам нужны не просто белорусскоязычные школы, а принципиально новые школы, дающие более высокий уровень образования и воспитания наших детей. Это значит, что нам нужны не просто белорусские газеты, а газеты, обладающие качественно более высоким уровнем информативности, аналитичности, чем русскоязычные. Это значит, что нам нужна не просто белорусская наука, а наука качественно более высокая, чем русскоязычная, и т. д. В условиях нынешней национальной катастрофы только так мы реально возродим свою культуру. Это потом уже, когда вырастет 2—3 новых поколения, лет через 30—50, мы безболезненно сможем выдвигать лозунги самоценности национальной культуры, сейчас же нам надо ассимилировать свой народ в Белорусов, и раз мы отказываемся изначально делать это силой, значит, надо его купить, а купить его можно, только предложив вместо нынешней русскоязычной культуры более высокую белорусскоязычную и разбудив в нём желание обладать более высокой культурой. Выдвинув в качестве базы для объединения историческое самосознание в вышеизложенной интерпретации, при разумном привилегированном финансировании развития национальной культуры мы получим интересный процесс: белорусами будут осознавать себя и русскоязычные, и белорусскоязычные белорусы, они же будут сообща создавать новое белорусское общество, дающее блага всем, в нём живущим.

Россия и Украина, в силу большого количества проблем, лежащих перед ними, будут ещё долго находиться в состоянии политического брожения, не говоря уж о Средней Азии и Закавказье; белорусы же, сосредоточившись на перестройке, в силу своей относительной малочисленности, а также относительной благополучности ситуации в республике, могут быстрее перейти к стабильному новому обществу. Так разве построив такое общество — белорусское,— русскоязычные белорусы будут препятствовать своим детям стать белорусскоязычными, разве их дети будут испытывать комплекс культурной неполноценности, как наши теперешние дети? Нет! Вот тогда мы и осуществим окончательное возрождение нации.

Кроме того, мы можем ускорить своё национальное возрождение и экономический прогресс. Выдвижение в качестве идейной основы национального самосознания толерантности, демократичности, открытости и инициативы

на какое-то время, лет на 30—50, пока мы проведём у себя полное возрождение национальной культуры, превращает нас в своего рода Европейскую Америку. В такую страну с радостью поедут из охваченных национальными бурями районов СССР русскоязычные люди. Те, кто настроен шовинистически, уедут хоть в Калугу, но в Россию. Однако Россия всех по-человечески принять вряд ли сможет: её саму раздирают нерешённые проблемы. Космополитично же настроенному русскоязычному населению будет сравнительно просто прижиться в такой Белоруссии и ассимилироваться там. Мы могли бы пригласить к себе лучших учёных, врачей, квалифицированных рабочих из числа этих людей. Тысяч 300 таких беженцев демографическую обстановку у нас серьёзно бы не изменили, а вот поднять экономику и особенно науку, образование, медицину очень бы нам помогли, и это бы работало на наше национальное возрождение.

*Публікацыя І. Бурсава, А. Каўкі*



*Яўген Маланюк*

## МАЛАРАСІЙСТВА

***Мы змяшчаем эсэ вядомага ўкраінскага пісьменніка-эмігранта Яўгена Маланюка (1897—1968) «Маларасійства», якое было напісана яшчэ ў 1959 годзе і надрукавана ў выданні Украінскага Народнага Універсітэта (Нью-Йорк). Несумненна, многія палажэнні гэтага эсэ, сама праблема маланароднасці (малаўкраінскасці, малабеларускасці) актуальныя і для сучаснага беларускага грамадства, заражанага вірусамі касмапалітызму і «тутэйшавізму» (ад назвы п'есы Янкі Купалы «Тутэйшыя»). Да таго ж ці так ужо шмат (у адрозненне ад мастацкай літаратуры) мы перакладаем твораў публіцыстычных нашых братоў-украінцаў, каб не скарыстаць такую нагоду?..***

***А нагода сталася дзякуючы газеце «Літаратурна Украïна», якая перадрукавала эсэ Я. Маланюка ў сваім нумары за 13 верасня 1990 г.***

### I

Паняцце маларасійства ў тым сэнсе, у якім яно тут ужыта, не павінна было б абмяжоўвацца толькі ўкраінскім светам.

Кожная шматнацыянальная дзяржава, не выключаючы нават найбольш нацыянальна ўладкаваных імперый, у працэсе свайго гістарычнага існавання выпрацоўвала своеасаблівы сярэдні тып імперскага чалавека. Згадаем яшчэ да нядаўняга часу памятны нам тып, напрыклад, аўстрыйца, які без асаблівых складанасцяў мог быць адначасова чэхам ці харватам, палякам ці русінам-украінцам. Палітычная мудрасць Старажытнага Рыму, які ўзначальваў сусветную імперыю, але ніколі не «раманізаваў» свае калоніі, яшчэ быццам датлявала ў ладзе венскай імперыі Габсбургаў. Праўда, на працягу XIX ст. у былой Аўстра-

Венгрыі прарываліся тэндэнцыі да адміністрацыйнага калі не анямечвання, то, прынамсі, ужываючы злавесную назву нядаўняга мінулага, гляйхшальтавання. Але такія намаганні былі выпадковыя і ніколі не насілі характару нечага запланаванага. Тып «аўстрыйца», дакладней — між-ці наднацыянальны тып грамадзяніна і жыхара наддунайскай манархіі — фармаваўся аўтаматычна, хоць і вельмі вонкава, зразумела. Больш складаныя, але ўсё ж падобныя працэсы лучыліся з узнікненнем тыпу брытанца або каланіяльнага (а раней і метрапольнага) француза. Досыць своеасаблівы характар мелі аналагічныя з'явы на абшары германскім, асабліва — германа-прускім, г. зн. ужо ўсходнееўрапейскім. Але зусім інакшы малюнак бачым на сапраўдным усходзе Еўропы.

На абшарах, што цянер афіцыйна называюцца СССР, а звычайна проста «Расіяй», працэсы не так стварэння, як *выврабу* агульнаімперскага тыпу — мелі напрамак радыкальна-своеасаблівы ўжо хаця б таму, што дзяржаўны лад маскоўскай, потым пецярбургскай, а ад сарака гадоў зноўку маскоўскай імперыі — не ведаў, не ведае і ведаць не хоча *ніводнае* асаблівасці: ні асабістай, ні грамадскай, ні нацыянальнай, ні нават рэгіянальнай ці класавай. Таму працэс фармавання ў Расіі тыпу імперскага чалавека — «расіяніна» не быў ні працэсам гістарычным, ні працэсам наогул[1]. Гэта быў гвалтоўны, масава-механічны *выраб*, які выконваўся тэрарыстычна-паліцэйскай машынаю татальна-цэнтралізаванай дзяржавы. І, уласна, таму, што гэта быў механістычны выраб, акцыя вырывання з захопленых і абезуладненых нацый асобных іх частак,— імперскі тып «расіяніна» (хоць і не арганічны, але сацыялагічна мажлівы) не ўзнік. Ва ўмовах характэрнага змешвання паняццяў «нацыя — этнас» і «дзяржава — імперыя» дзяржаўная машына на практыцы механічна нагінала нацыянальныя арганізмы да ўзроўню этнічнай маскоўскай масы з той мэтаю, каб тварыць адзінанепадзельны народ — рускі, расійскі ці савецкі, дакладней, «народ» — у спецыфічна рускім разуменні гэтага слова.

Вынікам такой настырнай і планавай дзейнасці дзяржаўнай машыны было з'яўленне не расіяніна, а толькі: малароса, малапаляка, малагрузіна, нават маласібірака.

Дарэчы, каб гэта не гучала парадаксальна, спашлюся на нядаўняе мінулае грамадства польскага, у якім тып польскага малароса быў несумненным сацыяльным фак-

там. Духоўным выразнікам і як бы сублімацыяй гэтага факта быў, напрыклад, Раман Дмоўскі як палітык ды ідэолаг і ўся дмаўшчызна г. зв. нацыянальнай дэмакратыі, што менавіта сваім маларасійствам атруціла ў зародку новую Польскую Дзяржаву і ў львінай долі спрычынілася да яе заняпаду[2].

Што ж такое маларос?

Гэта — тып нацыянальна-дэфектны, скалечаны псіхічна, духоўна, а — у выніку часам — і расава.

На нашай Бацькаўшчыне, галоўным гістарычным радовішчы гэтага чалавечага тыпу, ён займеў асабліва паталагічны і зусім не такі просты характар, як на першы погляд здавалася б.

Дзякуючы такой, а не іншай плыні гістарычнага працэсу на нашай зямлі, тып малароса станавіўся (прынамсі, па мястэчках і гарадах) масавым і, што найгорш, традыцыйным. І трэба думаць, што спосабы, калі можна так сказаць, маларасійскага вырабу ўжо ў Маскве распрацоўваліся цягам не аднаго стагоддзя, а сістэма гэтай прадукцыі не ад сёння мае пад сабою салідную «навуковую» базу. Сучасныя савецкія спецы, хоць і выдатна ўзброеныя тэрорам і мадэрнымі здабыткамі навукі а ля Паўлаў, безумоўна, вельмі ўважліва перагортваюць і ўчытваюцца ў гістарычныя дакументы багатых архіваў Пасольскага (і Катавальнага) Прыказу XVI—XVII стст., Маларасійскай Калегіі XVIII ст., III Аддзялення ды Ахранкі XIX ст.

У нас фатальна ўкаранілася амаль перакананне, што маларос — гэта, маўляў, неадукаваны, прымітыўны, недаразвіты украінец без нацыянальнай свядомасці, словам, як кажуць, цёмная маса. Хопіць, маўляў, яго пры дапамозе «Просвіти» адукаваць, пераканаць, прышчапіць яму свядомасць — і справе канец. Але кожны, хто вымушаны быў спыняцца на гэтай праблеме, ведае, наколькі вышэйсказанае далёкае ад сапраўднасці.

Маларасійства, хоць з'ява частая і шматколькасная, найменш закранула асноўную нашу нацыянальную масу — сялянства (што нас не павінна асабліва цешыць, бо не маса творыць гісторыю). У нас маларасійства было заўсёды хваробаю не толькі паўінтэлігенцкаю, але — і найперш — інтэлігенцкаю, яно паралізавала той слой грамадства, што павінен быў выконваць ролю мазгавога цэнтра нацыі.

І ў гэтым — *сутнасць* праблемы.

І тут адразу трэба выключыць той тып простых людзей, якія любіў паўтараць «мая хата з краю» або пры польскіх

канскрыпцыях называў сябе палешукамі ці тутэйшымі, як пры савецкіх перапісах запісвае сваю нацыянальнасць: «рускі». Гэта толькі мімікрыя і самаабарона, за якімі цягнуцца вякі горкага вопыту.

Скажам коратка і забягаючы наперад: праблема ўкраінскага маларасійства ёсць адна з найважнейшых, калі не цэнтральных праблем, непасрэдна звязаных з нашай асноўнай праблемай — праблемай Дзяржаўнасці. Больш таго: гэта тая праблема, якая першаю ўстане перад дзяржаўнымі мужамі ўжо Дзяржаўнай Украіны. І яшчэ доўга, у час станаўлення і стабілізацыі дзяржаўнасці, гэта праблема будзе стаяць першапланавай задачай, а для самой дзяржаўнасці — грозным мементо.

Маларасійства — наша гістарычная хвароба (В. Ліпінскі называў яе хваробаю бездзяржаўнасці), хвароба шматвяковая, таму хранічная. Ні ча́савыя лекі, ні нават хірургія — тут не дапамогуць. Яе трэба будзе доўгія-доўгія дзесяцігоддзі — *выжываць*.

## II

Намагаючыся выкласці гэтую тэму сцісла, нават акадэмічна, усё ж адчуваеш цяжкасці пры фармулёўцы думак, хочацца, каб яны былі лёгкаўспрымальныя, даступныя. Вынікае гэта з самае вызначанае тэмы. Таму звернемся да ілюстрацый, узятых ці з гісторыі, ці з літаратуры.

Не станем сягаць ажно ў прагісторыю. Адзначым толькі, што маларасійству, несумненна, здаўна спрыялі прыродныя багацці і шчодры клімат нашай адзінай на свеце Бацькаўшчыны. Плямы будучага маларасійства, прыкметныя ўжо ў нашым сярэднявеччы («люд татарскі»), высвечваюцца ў часе Літоўскім і Казацкім. Пры гетмане Выгоўскім і ў наступнай Руіне — украінскае маларасійства становіцца ўжо палітычным чыннікам і выходзіць на арэну гісторыі.

Пераяслаў 1654 года той чыннік нібы злегалізаваў, і ён, напачатку чыста пачуццёвы і псіхалагічны недахоп, аб'ектыўна прывёў пазней да відавочнага паралічу нацыянальна-дзяржаўнай волі, да агентуры і пятай калоны Масквы. Брухавецкі — з аднаго боку, Цяцера — з другога: вось два аблічча маларасійства ў часе Руіны. Але яшчэ Марцін Пушкар, палтаўскі палкоўнік, становіцца злавесным сімвалам маларасійства пасля Хмяльніччыны, сімвалам знішчэння перамогі пад Канатопам, сімвалам, які вядзе ход

нашай гісторыі аж да палтаўскай катастрофы, бо Качубееўшчына — гэта плод доўгіх дзесяцігоддзяў.

Калі з'явіцца некалі гісторыя Украінскага Маларасійства, то аўтар яе менавіта Марціна Пушкара назаве бацькам маларасійства. Бо, паўтараю, насуперак папулярнай у нас думцы, маларасійства — гэта не масквафільства ці нейкае там «фільства». Гэта — немач, хвароба, калецтва ўнутрынацыянальнае. Гэта — нацыянальнае *паражэнства.* Гэта, кажучы маскоўскаю ўрадаваю мовою XVII стагоддзя,— *шатость черкасская,* а гаворачы моваю такога эксперта, як Кацярына Другая, гэта — *отверженность малороссийская.* Такім чынам, гэта лагічная градацыя: няўстойлівасць, прадажнасць, здрада і агентурнасць. Аж да часоў наступных і да нас найбліжэйшых.

Масквафільства ці іншае «фільства» (іх было некалькі ў нашай гісторыі) — гэта *мажлівы* напрамак нашай *нацыянальнай* палітыкі. І ў гэтым сэнсе быў «пераяслаўскі» момант масквафільства ў палітыцы Багдана Вялікага, гэтаксама як масквафільскімі былі цэлыя дзесяцігоддзі нацыянальнае палітыкі Івана Мазепы. Як туркафільства Пятра Дарашэнкі. Як вымушанае паланафільства Выгоўскага ці — на нашых вачах — Пятлюры. Усе гэтыя прыклады — прыклады палітыкі або тактыкі.

Але маларасійства — гэта не палітыка і нават не тактыка, толькі заўсёды апрыёрная і татальная *капітуляцыя.*

Капітуляцыя яшчэ *перад боем.*

Масквафільства (як усялякае іншае «фільства») прадугледжвае ўласную, кантраляваную волю, такім чынам, тэарэтычна кажучы, можа змяшчацца ў межах нацыянальнай ці, тым больш, дзяржаўнай палітыкі. У той жа час маларасійства як яскравае праяўленне паралічу палітычнае волі і думкі заўжды знаходзіцца па-за межамі любой рацыянальнай палітыкі.

Дзеячы Цэнтральнай Рады маларосамі не былі. Яны былі ў асноўным тымі, каго называюць свядомымі ўкраінцамі» (у 1918 г. досыць двухсэнсоўна казалі — «пераканаsuccessfully ўкраінец»). Але будучы гісторык не зможа палітыку Цэнтральнай Рады вытлумачыць інакш, як наяўнасцю ў ёй палітычнага маларасійства, чым былі атручаны людзі таго пакалення. Брак найэлементарнейшага нацыянальнага інстынкту і параліч палітычнай волі былі тады ў наяўнасці.

З кароткіх успамінаў генерала Урангеля, які ў імпер-

скай гвардыі быў падначаленым Скарападскага, відаць, што гетман разважаў нават над гістарыясофіяй Украіны[3]. Але гэтыя разважанні адбываліся ўлетку 1918 года,— таму былі і запозненыя, і абстрактныя: гісторыю трэба было тады ўжо тварыць, уладу, якою б абмежаванаю яна тады ні была,— *ажыццяўляць штохвіліны,* бо часу не ставала. Гетман Паўло Скарападскі па многіх якасцях стаяў непараўнана вышэй за большасць лідэраў Цэнтральнае Рады, але і ён быў і сынам свайго часу, і сучаснікам пакалення. Калі не комплекс маларасійства, то напэўна «комплекс Гогаля» быў уласцівы і яму. Паўло Скарападскі пакінуў нам класічны прыклад украінскага палітычнага гамлетызму, які, дарэчы, цесна звязаны з традыцыйным маларасіянствам. І ў гэтым была трагедыя і Бацькаўшчыны, і яе няшчаснага сына, які на чужыне застаўся верны ёй ажно да самае смерці.

## III

У нармальнай, не змаларасійшчанай псіхіцы кожнага сына свайго народу існуюць своеасаблівыя «ўмоўныя рэфлексы» нацыянальнага інстынкту: чорнае — белае, добрае — злое, вернае — нявернае, чыстае — нячыстае, боскае — д'ябальскае.

У маларасійстве гэтыя рэфлексы прыгасаюць і слабнуць, падчас аж да поўнага іх знікнення. У такім стане адна толькі праца інтэлекту не памагае, бо будзе заўжды *запозненаю.* Нават распрацаваная, зафіксаваная і па архівах (звычайна нячытанаю) захаваная нацыянальна-палітычная думка не можа кампенсаваць таго інстынктыўнага розуму, які мы называем падчас натуральным, падчас мужыцкім і які цесна звязаны з воляю і характарам. Гэтага «прыроджанага» розуму не можа замяніць ніводная школа, ніводзін тытул ці дыплом. Гістарычнае маларасійства той розум або рэдуцыравала да памераў «мужыцкае арыфметыкі», або наркатызавала яго рознымі міфамі (агульная вера, агульны цар, агульны сацыялізм, адсутнасць геаграфічных граніц), або проста выядала, як мікроб выядае жывую тканку арганізма.

Што ж такое маларасійства? Гэта таксама зацямненне, аслабленне і — з часам — знікненне *гістарычнае памяці.* Таму і колішні Пецярбург, і цяперашняя Масква, кіруючы цэнтралізаванаю асветаю, такую вялікую ўвагу надавалі і

надаюць навуцы *Гісторыі*, якая, у спалучэнні з адпаведна падабранаю літаратураю (а т. зв. расійская літаратура з'яўляецца першакласным сродкам дэмаралізацыі, пра што папярэджваў, але беспаспяхова, яшчэ Уладзімір Антановіч),— забівае гістарычную памяць украінскага дзіцяці, пачынаючы з першага дня яго школьнага навучання.

Паглядзім, што робіцца ў сучаснай савецкай гістарыяграфіі! Якая да драбніц прадуманая праграма дэфармаванай і дэнатуралізаванай гісторыі там распрацавана! Бо там — найважнейшы аддзел лабараторыі маларасійства.

Маларасійства, як паказвае практыка, жывіцца таксама сістэматычным упырскваннем комплексу меншае вартасці («ніколі не мелі дзяржавы», «цёмнае сялянства», «дурны хахол» і г. д.), насмешлівых адносін да нацыянальных вартасцей і святынь. Гэта — сістэматычнае высмейванне, анекдатызаванне і здзек са звычаяў, абрадаў, нацыянальнай этыкі, мовы, літаратуры, з прыкметаў нацыянальнага *стылю*, рэалізацыі якога ставяцца сістэматычныя, спланаваныя і тэрорам падмацаваныя перашкоды. А калі песню ці танец высмеяць не ўдаецца, тады яны вульгарызуюцца і прымітывізуюцца («песні народаў СССР») так, каб гапак непрыкметна пераходзіў у камарынскую, а бандура — праз розныя «капэлы» — у балалайку ці гармонік. Калі ж у галіне навукі ці мастацтва з'яўляецца твор украінскага нацыянальнага духу вартасці безумоўнай і самаперакананьнай, тады наступае проста рэквізіцыя або «сацыялізацыя», і твор аб'яўляецца «нашим», «русским» ці — цяпер — «советским».

Для сучаснікаў Шаўчэнкі нацыянальнасць нашага вялікага матэматыка Міхайла Астраградскага была відавочнай. Сёння гэта «русский ученый» — ужо для ўсяго свету. Мы ведаем, што адзін з фундатараў навукі пра супраціўленне матэрыялаў і будаўнічай механікі Сцяпан Тымашэнка — сын нашага народу і старэйшы член Навуковага Таварыства Шаўчэнкі, але для ўсяго свету ён сёння нават не амерыканец, а проста «русский», і яго нават перакладныя падручнікі ў СССР даўно ўжо «нацыяналізаваны» для генія «советского народа».

Вось свежы прыклад. Выдатны наш мастак Аляксандр Даўжэнка, які ва ўмовах уласнае дзяржавы дарос бы да сусветнага генія, сачыў ажно да самай смерці, каб у канцы кожнага яго, Масквою сацыялізаванага, твора стаяла: пераклад з украінскай. Але не паспеў ён назаўсёды заплюшчыць вочы, як яго тастаментную «Зачарованую

Дзясну» выдалі ў Маскве велізарным тыражом па-руску, а адначасова — англійскі пераклад, адзначыўшы, што ён «советский», такім чынам — для англамоўных народаў — «рускі» пісьменнік.

Уявім сабе, што д'ябал будзе памагаць таксама далей — і тады за 20—30 гадоў Даўжэнка будзе гэткім жа рускім, як Тымашэнка і Багамолец, як Бартнянскі, Баравікоўскі, Гогаль, Мечнікаў, Куінджы, Самакіш ці (дарэчы, з львавян) Айвазоўскі...

Кіеўскую Усеўкраінскую Акадэмію Навук ператварылі ў правінцыйны філіял маскоўскай з публікацыямі «на общепонятном». Славутая Кіеўская Акадэмія Мастацтваў стала правінцыйным «мастацкім» Інстытутам, а яе фундатар — геніяльны графік Юрый Нарбут — проста выкраслены з гісторыі: яго памяць ліквідавана нават ва «ўсесаюзным» маштабе. «Нет, не было и быть не может»... Тое самае з музыкаю, операй. Адзін з авангардных тэатраў XX ст.— тэатр Курбаса — Куліша знішчаны дарэшты, і на яго месцы паўстаў бытавы, фактычна маларасійскі тэатр, які, аднак, нельга параўнаць з класічным нашым бытавым тэатрам Крапіўніцкага — Карпенкі-Карага. Тэатр «на украинском языке» ў УССР апынуўся на ўзроўні — абяссмерчанага яшчэ Віннічэнкам — Гаркуна Задунайскага.

Вельмі паказальны нядаўні выпадак з паэткаю Лінай Кастэнка. Па выданні толькі дзвюх кніжачак вершаў яна апынулася з кляпам у роце. Не з-за тэматыкі (пра каханне і салаўёў нейкая В. Ткачэнка трэнькае без перашкод). Л. Кастэнка мела неасцярожнасць пісаць пра... мора, забыўшыся, што тэма мора для ўкраінцаў была забаронена яшчэ ў канцы 20-х гадоў («низзя»). Не, справа была не ў тэматыцы, а ў залішне ўпэўненым тоне, у занадта суверэннай інтанацыі і занадта выразнай літаратурнай культуры, якая — рэтраспектыўна — паказвала ўзровень 20-х гадоў, неакласікаў, Плужніка дый... Яноўскага, словам — здраджвала бесперапыннаму працэсу. А на бяду — паэтка сапраўдная, дый яшчэ з уласным стылем. Гэта і вырашыла яе лёс. Яна фактычна ўжо задушана, не паспеўшы расквітнець.

Выпадак з Лінай Кастэнка, можа, найяскравей паказвае сапраўдную сатанінскую *чуйнасць* савецкага апарату маларасізацыі.

Бегла адзначаныя з'явы паказваюць ступень сучаснай савецкай маларасізацыі нашае культуры і выяўляюць аб-

сяг прадукцыі ўсеахопнага маларасійства на нашай Бацькаўшчыне, дзе, дарэчы, ужо афіцыйна не фігуруе народ украінскі, а толькі — на працягу двух дзесяткаў гадоў — «народ Украіны», г. зн. не нацыя, а насельніцтва, жыхары, people, або, як цяпер кажуць, жыхары гэтай «рэспубліканскай» калоніі «советского государства».

## IV

Толькі на фоне імгліста-хісткага, здрадліва-бясформеннага, узаемна невыразнага і, падчас, проста юдавага маларасійства можна адчуць і зразумець, чаму менавіта імя гетмана Мазепы пранізвае ворага, як пякучая страла, чаму гэтае імя прымушае трэсціся яго, як тую евангельскую асіну, на якой Юда павесіўся, чаму сама згадка пра Мазепу кідае ворага ў халодны пот.

Гісторыя наша згадвае пра рэкі крыві ў зруйнаваным, згвалтаваным і зганьбленым у 1709 годзе Батурыне. Гісторыя апавядае нам, як маскоўскім канчуком зганялі нашых епіскапаў у глухаўскі сабор, каб там пабялелымі ад смяротэльнага страху ўкраінскімі вуснамі прамовіць «Івашку Мазепу» — фундатару храмаў! — блюзнерскую і страшэнную, сапраўды д'ябальскую «анафему». Гэта быў прылюдны гвалт наезніка-варвара перш за ўсё над найбольшымі святынямі нацыі — нашаю Царквою, нашаю Вераю Добрапрыстойнаю... І з часу каранаванага ката-Пятра, якога лепшая частка ўласнага народу на чале з сынам-прастоланаследнікам лічыла антыхрыстам,— на працягу двух з паловаю стагоддзяў ідзе рознымі спосабамі і з розных бакоў аббрэхванне, аплюгаўліванне, ганьбаванне, выкарчоўванне і выкараненне найменшага следу Мазепы, мазепінскае эпохі. Мы дагэтуль не можам адшукаць нават больш-менш дакладнага партрэта таго, хто, несумненна, пры сваім жыцці меў дзесяткі партрэтаў. О, пакуль Расія Расіяй і Масква Масквою, нават гістарыяграфічнай «рэабілітацыі» Мазепы ніколі не наступіць, хаця б здарылася яшчэ колькі кастрычніцкіх і лютаўскіх рэвалюцый! Вораг, нацыянальны інстынкт якога — пры ўсім варварстве і дзікунстве — быў, ёсць і будзе найбольш жывучы і беспамылковы, вораг, які ні на адно маларасійства на працягу стагоддзяў сваёй гісторыі *ніколі* не хварэў,— наконт Мазепы і мазепінства татальна-непрымірымы.

І мае слушнасць. Бо мазепінства і з'яўляецца выразнай супрацьлегласцю, яскравым запярэчаннем, няшчадным дэ-

маскаваннем і найрадыкальнейшым лякарствам маларасійства. Бо што ж такое мазепінства, як не высокая свядомасць Нацыі і інстынктыўна звязанае з той свядомасцю палітычнае і ваеннае *жаданне* Нацый *быць*? Нават цаною Батурына ці Палтавы.

У капітальнай аповесці Б. Антоненкі-Давідовіча «Смерць» (у ёй чамусьці цяпер пачалі шукаць парнаграфію, а не праблему маларасійства, якой яна цалкам прысвечана) ёсць яскравая сцэна. Акупацыйны камісар — палітычна свядомы ўкраінец, таму вымушаны іграць ролю самаахвярнага маларосa; пры праверцы вясковай школы ён трапляе на партрэт Мазепы, замаскіраваны суседствам партрэта Драгаманава. Бура пачуццяў, выкліканая вобразам гетмана, павінна быць прытушана, асабліва ў прысутнасці настаўніка школы, тыповага «прасвіцяніна» і «шчырага ўкраінца», але палітычнага слепака, таму — па сваёй існасці — натуральнага маларосa. Сцэна, зразумела, канчаецца гучным загадам: у савецкай школе не месца адкрытай контррэвалюцыі!

А колькі ж гэта папацеў тэрарызаваны III Аддзелам віртуоз верша Аляксандр Пушкін, каб на працягу лічаных месяцаў выканаць заказаную царом «Палтаву», ды так, каб у ёй героя байранаўскай паэмы, паводле ўсіх канонаў сацыялістычнага рэалізму, паказаць зладзеем, пра якога —

Немногим, может быть, известно,
Что он не ведает святыни,
Что он не знает благостыни,
Что он не любит ничего,
Что кровь готов он лить, как воду,
Что презирает он свободу,
Что нет отчизны для него.

А прыгадваецца, як гэтыя блюзнерска-страшныя і сатанінска-ілжывыя радкі, згодна з спецыяльнай інструкцыяй міністэрства асветы, вучні сярэдніх школ царскай Расіі павінны былі абавязкова завучваць на памяць ды яшчэ напаўдзіцячымі вуснамі прамаўляць уголас. Як, дадамо, тыя самыя радкі павінна вывучаць і прамаўляць наша моладзь сёння ў школах т. зв. савецкай Украіны. А напісаны ж радкі тыя былі не абы-якім Сурковым ці Эрэнбургам, а выдатным класікам і, можна сказаць, Моцартам рускай, ім жа створанай і распрацаванай, літаратурнай мовы. Адно апісанне Палтаўскай бітвы ў паэме Пушкіна вартае дзесяцікратнай сталінскай прэміі!

Так працавала Машына Маларасійства пры царах, на

корані знішчаючы і атручваючы ўкраінскую душу. І працуе, можа, больш прымітыўна, але і больш нахабна, цяпер — з перспектываю «асваення цаліны» ў Азіі, з ценем нагана на сцяне.

## V

Падобна таму, як адзіным радыкальным лекам ад хваробы маларасійства з'яўляецца Дзяржаўнасць, гэтак падзенне Дзяржаўнасці, згасанне дзяржаўніцкай ідэі і кожная «руіна», пачынаючы ад Руіны XVII ст., былі і ёсць тым груантам, на якім маларасійства вырастала, квітнела і давала плён.

Сучасную Руіну, як грунт пад маларасійства, выкарыстоўвае вораг планава, безаглядна і спешна, бо «время горячее». І было б недаравальнай, злачыннай наіўнасцю недаацэньваць гэты факт або, што яшчэ горш, збываць яго псеўдапатрыятычнай фразай ці гультайскай верай у аўтаматызм т. зв. гістарычнага прагрэсу.

Тут не месца даваць нейкую танную рэцэптуру. Тым больш што тая рэцэптура сыходзіць звычайна да таго традыцыйнага, спрошчанага «прасвіцянства», з якім змагаліся нешматлікія прадстаўнікі палітычнай думкі, людзі суверэннага нацыянальнага розуму ці жывога нацыянальнага інстынкту — тыя, што спрамагліся не зважаць на дырыжорскую палачку збоку, а «дзярзаць», як пісаў некалі Хвылявы, у той галіне самастойна. Напружанае тварэнне Духоўнае Суверэннасці — вось рэцэпт, што быў, ёсць і будзе найбольш цяжкі, але і найбольш істотны і ўсеабдымны. Гэты рэцэпт, дарэчы, выключае імітацыю, дэкламацыю, патрыятычную позу, барокавае «здавацца, а не быць», як і ўсялякае «ківанне пальцам у боце».

Калі мы спынімся на нацыянальным інстынкце, то, улічваючы ўсе здабыткі навукі (з Паўлавым уключна), павінны прызнаць, што выхаванне таго інстынкту — гэта пытанне двух вельмі каштоўных чыннікаў: часу і абставін. Гэта — сям'я, рамкі нацыянальнага (не этнаграфічнага!) стылю, магія нацыянальнага абраду, атмасфера нацыянальнай этыкі і нацыянальнай эстэтыкі. А ў першую чаргу — нацыянальнае развіццё і справаванне, бо ў галіне пачуцця — вера без справы мёртвая ёсць, як кажа св. Пісанне.

Калі ж мы спынімся на нацыянальным інтэлекце, то аўтаматычна прыходзім да *ведаў,* г. зн. вопыту, вучобы,

вывадаў і фармулёвак. Бо нашы веды не павінны быць абстрактнымі, а павінны накіроўвацца на атрыманне *знацця* — таго, уласна, прымаўкавага знацця, якога так часта не ставала землякам, калі, чухаючы патыліцу, яны па часе наракалі: «Вось каб ды знаццё!..»

Якраз гэтае знаццё і ёсць тым месцам псіхікі, дзе нацыянальнае пачуццё — у ідэале — гарманічна спалучаецца з нацыянальным розумам у іх сінтэтычны вынік: нацыянальную волю. Гаворым: у ідэале. У сапраўднасці, як вучыць нас гістарычны вопыт, гэтыя дзве псіхалагічныя катэгорыі ў выніку маларасійскага паралічу (і маларасійскага разлажэння) давалі ў галіне пачуцця — атаманшчыну (і махноўшчыну), а ў галіне розуму — мёртвы, таму заўсёды запознены фармалізм, ялавую «прынцыповасць» (а не творчую грунтоўнасць) і тыя ці іншыя «дыскусіі» ў шкале ад «высокага ўзроўню» ажно да Гогалевай аповесці пра тое, як пасварыўся Іван Іванавіч з Іванам Нічыпаравічам...

Менавіта самаўсведамленне комплексу маларасійства было б ужо значным крокам наперад, гэтаксама як пастаўлены дыягназ з'яўляецца пачаткам лячэння.

У сваёй велічэзнай мастацкай і інтэлектуальнай творчасці якраз Мікола Гогаль, цяпер кананізаваны «русский писатель» і як бы сцяг палітычнага маларасійства, даў непераўзыдзены дасюль матэрыял для аналізу разлажэння нацыянальнай псіхікі і пераходу яе ў стан маларасійскага гніцця. Жыццёвы шлях Гогаля і яго псіхіка — украінца на зломе эпох — зрабілі тое, што ён, які ў сутычцы з Пецярбургам успыхнуў быў ледзь не рэвалюцыйным нацыяналізмам (лісты да М. Максімовіча) і ў 1836 годзе фактычна эміграваў,— у выніку псіхічнай траўмы ды данайскай «дапамогі» і недвухсэнсоўнай «апекі» ўрада пачаў «прапагандысцка» блытаць Русь з Расіяй. А ў ч. 1 «Мёртвых душ» неспадзявана пасадзіў нашу, гістарычную Русь на маскоўскую «тройку» з маскалём-«ямщиком».

Так Гогаль фатальна (і, пэўна, неспадзявана для сябе) стаўся фундатарам міфа Расіі-Русі і — палітычна — падвёў пад маларасійства своеасаблівую, хоць і вельмі двухсэнсоўную «ідэалогію». Ды тут не месца для развіцця гэтай важнай для праблемы маларасійства, але ўзбочнай тэмы.

Гогаль, сын свайго часу і свайго душэўна ўжо паў-

мёртвага грамадства, паказаў яго жахлівую (у «Мёртвых душах») панараму — смеючыся, хоць «смеючыся скрозь слёзы». У яго яшчэ спачувальная, зацікаўленая паблажлівасць да позніх нашчадкаў гераічнай Хмяльніччыны, хаця, адначасова, ён, усё жыццё працуючы над «Тарасам Бульбаю», намагаецца паставіць перад мёртвымі душамі сучаснікаў постаці і дзеі Казацкай Іліяды, у якой прымаў удзел яго продак — Астап Гогаль, палкоўнік брацлаўскі, слаўны хмельнічанін і адзін з непахіснейшых мужоў эпохі Руіны.

Але ўжо не нашмат маладзейшы сучаснік Гогаля, аўтар вымоўнага паслання «М. Гогалю» («ты смяешся, а я плачу») Шаўчэнка той паблажлівасці не мае. Гнеў, пагарда, знявага, пякучы сарказм: «славних прадідів великих правнуки погані», «раби з кокардою на лобі, лакеї в золотій оздобі», «не заріже батько сина... викохає та й продасть в різницю — москалеві» — гэта ўжо закончаных маларосаў партрэты, створаныя ў XIX ст.

Шаўчэнка першы ўжыў гэтае слова, у ягоныя часы зусім не абразлівае (яшчэ ў 70—80 гг. яго пісалі з вялікай літары: «Маларасіяне»), менавіта як слова ганьбы і пагарды. «А на Україну не поїду, цурї, там сама Маларосія»,— пісаў ён у адным з лістоў. Так Шаўчэнка паставіў дыягназ і вызначыў нацыянальнае калецтва, якому пазней Іван Франко даў максімальна сканцэнтраваную і, фактычна, характэрную формулу ў «На рэках вавілонскіх»:

І хоч душу маніть часом долі приваб,
Але кров моя — раб! Але мозок мой — раб!

Гэтая формула — трэба падкрэсліць: усеўкраінская і «саборная» — дадзена была Франко на самым пачатку нашага стагоддзя. Але гэта не перашкодзіла вякамі культываванаму рутэна-маларасійству адыграць сваю фатальную ролю ў вырашальным трохгоддзі 1917, 1918 і 1920 гадоў, а галоўнае, у балюча-змарнаваных месяцах вясны 1917 года.

* * *

Наколькі Франко ніколі не быў агульнадаступны і лёгкі, падатлівы для вульгарызацыі, настолькі Шаўчэнка, вельмі хутка «трапіўшы пад стрэхі» (запаветнае жаданне Міцкевіча), быў заўсёды прадметам асаблівых

захадаў і клопатаў Расіі, не менш, чым Мазепа. Ад «левых», накшталт В. Бялінскага, і ажно да генералаў тайнай паліцыі — і «грамадскасць», і ўрад рабілі ўсё, каб яго спачатку высмеяць, а калі гэта не ўдалося, то выхаласціць і пры дапамозе цэнзуры знізіць да «крестьянского поэта» песняра «сялянскай нядолі» і г. д. У гэтых захадах сваю ролю адыграла таксама роднае маларасійства. Бо маларасійства было ў той акцыі — маларасізацыі Шаўчэнкі — зацікаўлена непасрэдна.

Як ужо згадвалася, комплекс маларасійства — складаны і заблытаны. Ён — у сваёй зменлівасці — мае шмат воблікаў і бакоў. Ён часта замаскіраваны, асабліва ў апошнія дзесяцігоддзі, калі, будучы зброяй у чужых руках, ён звычайна маскіруецца гапакашараварніцтвам, адпаведна спрошчанаю моваю («подделуєця под мужицький разговор», як кажа адзін з персанажаў Віннічэнкі), хаваецца за ілжэпатрыятычнаю вершаграфіяю і этнаграфічнаю патрыётыкаю ўвогуле. Цягам доўгіх дзесяцігоддзяў маларасійства пры дапамозе чужой паліцыі «прыстасоўвала» Шаўчэнку. І не без поспеху. Лідэр ваяўнічага кіеўскага маларасійства, сумнавядомы Васілій Вітальевіч Шульгін не без гонару сцвярджаў яшчэ перад 1917 годам, што існуюць, маўляў, два Шаўчэнкі: «наш», як ён казаў,— «багданаўскі», і «іхні» — «мазепінскі». Тэрміналогія, як бачым, даволі адвольная, але, тым больш, характарыстычная.

Так. Пры царах маларосы прэпарыравалі («закабзароўвалі») Шаўчэнку даволі актыўна, але і даволі «кустарна», у параўнанні з тым індустрыялізаваным прэпарыраваннем, якое ажыццяўляецца на працягу сарака гадоў у УССР. Абясцэнілася ў чытача сама шаўчэнкаўская эмоцыя, сам інстынкт шаўчэнкаўства, каб — у належны момант — выразаць Шаўчэнку з нацыянальнай псіхікі ледзь не хірургічным спосабам. А калі і не, то зрабіць з Шаўчэнкі правансальскага Ф. Містраля або шатландскага Р. Бёрнса[4].

Наколькі нельга легкаважна адносіцца да маларасізацыі Шаўчэнкі, сведчыць адзін эпізод з параўнальна нядаўняга мінулага.

Нябожчык Максім Славінскі, прыяцель Лесі Украінкі, шматгадовы сарэдактар празаходняга пецярбургскага штомесячніка «Вестник Европы» і наш дыпламат у часы Дзяржаўнасці, недзе ў сярэдзіне 20-х гг. шчыра прызнаўся ў размове, што страшнае прароцтва Шаўчэнкі —

Та не однаково мені,
Як Україну злії люде
Присплять, лукаві, і в огні
Її, окраденую, збудять,—

было для яго доўгі час незразумелым. Што гэта значыць «присплять»? І чаму «збудять в огні»? І чаму «окраденую»? Як гэта можна «окрасти» цэлую краіну, увесь народ? Славінскі ўспамінаў, як ён (дый не ён адзін) тую «няясную» шаўчэнкаўскую страфу адносіў на лік «слабой апрацоўкі верша», «малой адукацыі», маўляў, «самавука» і іншых інтэлігенцкіх забабонаў здрагамінізаванага і звіннічэнкізаванага пакалення. І, як ён казаў, толькі вось цяпер, пасля ўсяго, што здарылася на працягу 1917—1920 гг., ён зразумеў, якое прароцтва і якая засцярога змяшчалася ў той «няяснай» і «неапрацаванай» страфе. Гэты эпізод прыгадаўся, каб дадаць яшчэ адно азначэнне маларасійства:

яно з'яўляецца эквівалентам нашае *абкрадзенасці.*
У сорак першую гадавіну абвяшчэння Дзяржаўнасці.

[1] Гэтае гістарычна запозненае слова цяпер усё часцей пускаюць у абыходак кіраўнікі т. зв. рускай эміграцыі, як бы апераджаючы пакуль што замаскіраваныя савецкай тэрміналогіяй выказванні кіраўнікоў савецкай імперыі. Гістарычна — гэтае слова мела свой сэнс пры зараджэнні імперыі, у часы Пятра І і Кацярыны ІІ, і ў тым сэнсе — імперска-дзяржаўным, а не нацыянальным — ужывалася на працягу XVIII ст. І толькі ў XIX стагоддзі ўрадавыя чыноўнікі беспаспяхова намагаюцца надаць яму сэнс этнічна-нацыянальны, з часам канчаткова перайшоўшы да яўнага фальсіфікату: «рускі».

[2] Забойства першага прэзідэнта адноўленай Польшчы Габрыэля Нарутовіча (інжынера-гідраўліка і славутага швейцарскага прафесара) толькі цяпер частка польскага грамадства пачынае належна асэнсоўваць. Забойца — Элігіюш Невядомскі, чалавек рэлігійны, мастак, слухач, дарэчы, Пецярбургскай Акадэміі Мастацтваў — зрабіў гэта па матывах *патрыятычных* як партыйны эндэк.

Пілсудскі, з характэрнай яму інтуіцыяй, тады ж даволі дакладна вызначыў, што гэта была «куля з усходу».

[3] Пераказваю, на жаль, па памяці такі дыялог:

Урангель: Ці Украіна — гэта сур'ёзна?

Гетман: Безумоўна. Я вось толькі думаю, з кім ёй быць: з Усходам ці з Захадам.

Гэты эпізод, пададзены чалавекам гонару і шведскім баронам па паходжанню, дарэчы, абвяргае вядомае «сведчанне» генерала Дзянікіна, што гетман, маўляў, «своечасова паклаў бы Украіну да ног цара» і да т. п. «падлізніцкія» інсінуацыі.

[4] Выразным пацверджаннем гэтага з'яўляецца апошняя «савецкая» публікацыя пад назваю «Тарас Грыгоравіч (так!) Шаўчэнка — літаратурны партрэт» двух аўтараў: А. Білецкага і А. Дэйча. Вывад з гэтай нібы акадэмічна напісанай кніжачкі такі: Шаўчэнка быў,

праўда, даволі высокага (але, зразумела, ніжэйшага за Пушкіна ды Лермантава) узроўню, але ён яскрава «общерусский», паколькі пісаў на дзвюх мовах і бязмежна любіў агульнае «отечество», Пушкіна і «вялікую рускую літаратуру і культуру (так!) як родную».

Трэба паспачуваць А. Білецкаму, які даў сваё аўтарытэтнае імя гэтаму ледзь не жандарскаму (а ля каліся Шчогалеў) элабарату. Аднак нельга недаацэньваць магчымага ўплыву кніжачкі на папярэдне скамсамалізаванага чытача.

*З украінскай мовы пераклаў В. Рагойша*



ЗМЕСТ

## Прарок на бацькаўшчыне



## Цяпло роднага слова



## Вяртанне



## Хто мы такія?

**Скарыніч:** Літ.-навук. гадавік. Вып. 2
С 42 /Рэдкал.: А. Каўка (уклад.) і інш.— Мн.: Маст. літ., 1993.— 238 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-00854-1.

У чарговым «Скарынічы» змешчаны матэрыялы пра Ф. Скарыну, Ганну і Адама Бабарэкаў, Я. Станкевіча, з рукапіснае або малавядомае спадчыны М. Улашчыка, А. Смоліча, Я. Лёсіка, І. Луцкевіча, з дыскусій на ўгодкі Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г., Ф. Багушэвіча, палемічныя артыкулы аб нацыянальнай свядомасці, адраджэнні народаў Беларусі, Украіны.

Выданне зацікавіць кожнага чытача, дапытлівага нескажоных старонак мінулага Бацькаўшчыны, яе надзённых вызваленчых памкненняў.

С $\frac{4603020102-008}{М 302(03)-93}$ 77—93 **ББК 83.3Бел**



*Літаратурна-мастацкае выданне*

**СКАРЫНІЧ**

Літаратурна-навуковы гадавік

Выпуск 2

*Укладальнік*
*Каўка Аляксей Канстанцінавіч*

*Рэдактары С. А. Шупа, Я. Р. Лецка*
*Мастак І. І. Бокій*
*Мастацкі рэдактар А. І. Цароў*
*Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч*
*Карэктар Л. Т. Калюжная*

ІБ № 3630

Здадзена ў набор 03.03.92. Падп. да друку 12.01.93. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 13,44+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 14,70. Ул.-выд. арк. 14,06. Тыраж 2200 экз. Зак. 2011. Цана 30 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.